# СКАРЫНІЧ

Літаратурна-навуковы гадавік

*Выпуск 4*



Мінск
"Беларускі кнігазбор"
1999

УДК 882.6.09
ББК 83.3 (4 Беи)
С 42

*Рэдакцыйная рада:*
*Ганна Запартыка, Аляксей Каўка, Віталь Скалабан*

*Укладальнік Аляксей Каўка*

Падрыхтавана пры фінансавай падтрымцы
Міхала Міхайлавіча Шкялёнка

С 42 Скарыніч: Літ.-навук. гадавік. Вып.4 / Уклад. А. Каўка. — Мн.: "Беларускі кнігазбор", 1999. — 240 с.

ISBN 985-6318-66-1.

Чацвёрты выпуск гадавіка прысвечаны спадчыне пісьменнікаў-узвышэнцаў Адама Бабарэкі (пад 100-я ўгодкі), Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Кузьмы Чорнага, Антона Адамовіча, Максіма Лужаніна, творчасці гісторыка Юркі Туронка. Змешчаны таксама малавядомыя тэксты Язэпа Варонкі, Язэпа Дылы, Мікалая Улашчыка і інш.

УДК 882.6.09
ББК 83.3 (4 Беи)

ISBN 985-6318-66-1.

# *Жывая Вада Беларусі*

*Вельмі трапна скарыстаў Уладзімір Конан біблейскую міфалагему Жывой Вады ў сваім канцэптуальным асэнсаванні паэтыкі, мастацкае скіраванасці літаратурнага "Узвышша". Невычэрпны вобраз-сімвал падаўся прынадным у прэзентацыі чытачам чароднага "Скарыніча" — жанрава, стылістычна неаднароднай, аднак, паводле задумы, адзінае, дастаткова цэльнае кнігі. Кнігі пра тыя глыбінныя, гаючыя вытокі і сокі — жыццялюбства, красы і мужнасці, — якімі спакон вякоў наталяецца наша любая Краіна-плачка і змагарка. Трывучая, скрозь крыжаваная далакопамі, але незнішчальная.*

*Гадавік пераважна прадстаўлены матэрыяламі пра вядомае творчае згуртаванне 20-х гадоў і прытаранаваны да 100-х угодкаў аднаго з вядучых узвышэнцаў Адама Бабарэкі — светлай і трагічнай постаці ў беларускай культуры. Але і ўсе іншыя тэксты ў зборніку, даўнейшыя і сучасныя, — ад Язэпа Варонкі, Язэпа Дылы да Анатоля Вярцінскага, Юркі Туронка, Мікалая Улашчыка, Алеся Марачкіна — так ці іначай працятыя, як можа заўважыць чытач, высокім і балесным духам нашага* ***Узвышэнства****. Разумеючы пад ім сталую дамінанту беларускага культуратворчага працэсу і нацыянальнага супраціву — за нашае самастойнае, непадуладнае чужацкаму гвалту развіццё, за нашую Нацыянальную Вышыню.*

# “КАБ УЗЬНЯЩЦА ІЗНОЎ І ВЫШАЙ...”

Да 100-х угодкаў Адама Бабарэкі
(1899 – 1938)

# Ля вытокаў

### *Архіўныя дакументы з гісторыі ўтварэння літаратурнага аб'яднання "Узвышша"*

1926 год у літаратурным жыцці Беларусі адметны пачаткам шэрагу расколаў ва Усебеларускім аб'яднанні паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк". Толькі што, у лістападзе 1925 г., адбыўся яго першы з'езд, і ён, здавалася б, прадэманстраваў адзінства і мэтанакіраванасць арганізацыі, якая завяршала перыяд свайго станаўлення як масавага выхаваўча-творчага аб'яднання. І ў прамовах дэлегатаў з'езда, і ў прынятай рэзалюцыі падкрэслівалася, што маладнякоўцы разумеюць сваю працу не толькі разам, поруч з Камуністычнай партыяй, але і пад яе кіраўніцтвам. Шлях партыі — гэта шлях "Маладняка", і інтэлігенцыя павінна зразумець, што ніякім хістанням і месца не павінна быць — такі лейтматыў праходзіў праз многія выступленні. Тым не менш раскол адбыўся. Выявіўся ён у выхадзе з аб'яднання некалькіх груп літаратараў са сваімі эстэтычна-мастацкімі платформамі і стварэнні на іх грунце новых творчых суполак.

Першай у маі 1926 г. заявіла аб самавызначэнні як "узвышэнскай мастацкай школы беларускай пралетарскай паэзіі" (выказванне крытыка і літаратуразнаўцы Адама Бабарэкі) група паэтаў, назваўшая сваё аб'яднанне "Узвышшам". У яго ўвайшлі А. Бабарэка, З. Бядуля, П. Глебка, У. Дубоўка, С. Дарожны, М. Лужанін, Я. Пушча і інш. У адпаведнасці з патрабаваннямі таго часу выходзячыя з "Маладняка" паэты 26 мая 1926г. накіравалі ў бюро ЦК КП(б)Б афіцыйную заяву, у якой абгрунтоўвалі прычыны выхаду і прасілі даць дазвол на заснаванне асобнай арганізацыі. У хуткім часе ў ЦК КП(б)Б быў прадстаўлен шэраг асноўных дакументаў новага аб'яднання (на пасяджэнні літаратурнай камісіі разглядаліся ў жніўні 1926г.): "Тэзісы пытання аб утварэнні "Узвышша", "Статут

Беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша", праект праграмы часопіса і інш. Установцамі называліся А.Бабарэка, З.Бядуля і К.Чорны. У якасці кіраўнікоў прапаноўваліся: старшыня прэзідыума і галоўны рэдактар К.Чорны, намеснік старшыні — К.Крапіва, ён жа скарбнік, сакратар — А. Бабарэка; старшыня рэвізійнай камісіі — З. Бядуля, намеснік — Я. Пушча, сакратар — П. Глебка; членамі рэдакцыйнай калегіі, акрамя К. Чорнага, — А. Бабарэка і У. Дубоўка. Прадстаўленыя дакументы ад імя групы падпісалі А. Бабарэка і К. Чорны (НАРБ. Ф. 4.Воп. 21. Спр. 72. Л. 1-23).

У "Тэзісах..." (апублікаваны з некаторымі зменяннямі ў першым нумары часопіса "Узвышша"), якія З. Жылуновіч у артыкуле "Ці сапраўды "Узвышша" ёсць узвышша?" у газеце "Савецкая Беларусь" ад 13 мая 1927г. назваў "нешта накшталт дэкларацыі", аналізаваліся некаторыя пытанні гісторыі беларускай мастацкай літаратуры і яе тагачасны стан. Пры гэтым высока ацэньвалася стварэнне "Маладняка" і ў той жа час пералічваліся недахопы, што выявіліся ў працэссе яго працы як масавай арганізацыі, паказваліся прычыны, якія прывялі да стварэння "Узвышша", яго галоўнае прызначэнне. "Не оды і гімны складаць праз узвышша, — заяўлялі складальнікі "Тэзісаў...", — а тварыць узвышша ўласнымі сіламі — вось тая свядомасць, што становіць сабою "трэшчынку" між маладымі пісьменнікамі і выклікае да жыцця "Узвышша".

Далей паказваліся накірункі, праз якія меркавалася "тварыць узвышша беларускай мастацкай літаратуры": культура беларускай мовы, жыццёвая сімволіка мастацкага твора, яго канцэнтраваная вобразнасць, дынамічнасць кампазіцыі, беларуская жанравасць, адзінства творча-мастацкай ідэі, разнастайнасць фармальных рэальнасцей і актывізм як імклівасць, якою прасякаецца мастацкі твор у сваім ідэале і ажыўляе патрачаную на змаганне з прыгнётам пануючых класаў і нацый энергію працоўных на творчасць вялікага і прыгожага жыцця. "Тэзісы..." заканчваліся словамі: "Узвышша беларускай мастацкай літаратуры творыцца не колькасцю паэтаў і пісьменнікаў, якія б асмеліліся абвясціць сябе "каманднымі высотамі", а якасцю той літаратурна-мастацкай прадукцыі, якая прыносіцца ў скарбніцу беларускай мастацкай літаратуры з глыбінь сучаснасці, узброенай ведамі, воляю, шчырым жаданнем і энтузіязмам вялікай творчасці".

Следам за “Узвышшам” з‘яўляецца пралетарска-сялянская беларуская літаратурная суполка пад назвай “Пробліск”. Самастойнае арганізацыйнае афармленне яна абгрунтоўвала нязгодай, з аднаго боку, з метадамі працы “Маладняка” — яны не адпавядалі яго прызначэнню як літаратурна-мастацкай арганізацыі, з дзяленнем членаў аб‘яднання на “камандзіраў” і “радавых”, з “празябаннем” апошніх, з другога, — з “чыста фармальным мастацкім ухіленнем “Узвышша”,тэндэнцыяй развіцця гэтай арганізацыі да “вузка акадэмічнай замкнёнасці”. Заснавальнікамі “Пробліску” сталі пісьменнікі Я. Бобрык, А. Звонак, А. Гурло, Т. Кляшторны, С. Плаўнік, Я. Туміловіч, М. Хведаровіч, Н. Чарнушэвіч, якія 29 красавіка 1927 г. звярнуліся ў ЦК КП(б)Б за дазволам на вылучэнне з “Маладняка” “ў самастойную арганізацыю з уласным друкаваным органам”. Дазвол на арганізацыйнае афармленне быў атрыманы. Але паколькі “Пробліск”, як можна прачытаць у архіўных звестках, “ні з фармальнага, ні з ідэалагічнага боку сябе не выявіў”, у студзені 1928 г. ён заявіў пра далучэнне да “Маладняка”, а ў лістападзе таго ж года ўвайшоў у Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў і паэтаў.

Чарговым творчым аб‘яднаннем стала “Літаратурна-мастацкая камуна”, створаная ў верасні 1927 г. па ініцыятыве групы маладых пісьменнікаў, якія выйшлі з “Маладняка” (П. Шукайла, П. Броўка, Я. Відук-Скрыган, У. Варава і інш. ). Арганізацыя мела свой друкаваны орган пад назваю “Росквіт”. У 1928 г. самаліквідавалася, а яе члены вярнуліся ў “Маладняк”.

Пісьменнікі старэйшага пакалення ў канцы 1927 г. згуртаваліся вакол Я. Купалы і Я. Коласа ў літаратурную арганізацыю “Полымя”. У яе ўвайшлі таксама М. Грамыка, У. Галубок, А. Гурло, М. Піятуховіч, Я. Нёманскі, а 16 снежня 1927 г. афіцыйнай заявай у ЦК КП(б)Б паведамілі аб выхадзе з “Маладняка” і далучэнні да “Полымя” М. Чарот, М. Зарэцкі, А. Дудар, А. Александровіч. Галоўнымі задачамі аб‘яднанне называла “развіццё беларускай мастацкай літаратуры шляхам ўзмацнення творчай працы сваіх сяброў і ў шчыльнай сувязі з вымаганнямі сацыялістычнага будаўніцтва”, “афармленне і замацаванне ў беларускай мастацкай літаратуры пралетарскай ідэалогіі, звязваючы гэта развіццём і ўдасканаленнем нацыянальнай формы” (НАРБ. Ф.4.Воп. 16. Спр. 58. Л. 91).Згадзіўшыся з арганізацыяй літаратурнай групы “Полымя”, бюро ЦК КП(б)Б рашэннем “Аб літаратурных групіроўках” ад 29 снежня 1927г.

прызнала часопіс "Полымя" асноўным у рэспубліцы беларускім літаратурна-крытычным часопісам. Яго рэдакцыя была абавязана прыцягваць да ўдзелу ў часопісе лепшыя беларускія літаратурныя сілы без уліку іх "групавой належнасці" (НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 22. Л. 60).

Тагачасная вульгарна-сацыялагізаваная крытыка, у тым ліку і з улоння "Маладняка", адметная ультрарэвалюцыйнай палітызаванасцю, растлумачыла расколы; што адбыліся, сацыяльна-класавай дыферэнцыяцыяй беларускага грамадства, якая ва ўмовах нэпу пачала паглыбляцца, выхадам са складу Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў тых, хто падпаў пад уплыў кулацтва і нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі. Аб наяўнасці ў грамадстве часткі беларускай інтэлігенцыі, якая распаўсюджвае нацыянал-дэмакратычныя, а часам антысавецкія настроі і робіць гэта як вусна сярод сялян, так і шляхам друкаванага слова, гаварылася яшчэ на першым маладнякоўскім з'ездзе. У рэзалюцыі было запісана аб неабходнасці барацьбы супраць імкненняў павесці працоўныя масы Беларусі па нацыянальна-дэмакратычным шляху і што "Маладняк" заўсёды будзе стаяць на варце заваёў Кастрычніка. У выдзяленні маладых паэтаў у асобную групу са сваімі мастацка-эстэтычнымі поглядамі сацыялагізаваныя крытыкі ўгледзелі адыход пад уплывам нацыянал-дэмакратызму ад вызначанага пралетарскага шляху.

Узвышэнцы адказалі "Камунікатам беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша". Ён з'явіўся ў "Савецкай Беларусі" 12 снежня 1926 г. і павінен быў дапоўніць матэрыяля дэкларацыйнага характару з першага нумара часопіса групы. "Камунікат — значыць паведамленне, — такімі словамі пачынаўся гэты дакумент. — Іншага сэнсу гэтаму слову мы не даём. А тлумачым яго з тае прычыны, што вядомая група "крытыкаў" пачала дашуквацца нейкіх патаемных думак нават у чханні нашым". Далей ішла фраза, якая паказвала ідэйнае крэда новага торчага аб'яднання: "Мы ў сваёй літаратурнай дзейнасці напорна ішлі і ідзём па пралетарскаму шляху развіцця беларускай літаратуры і з гэтага шляху ніякія злыдні нас не саб'юць. Іншага шляху мы не ведалі, не ведаем і не мыслім".

У адрозненне ад вульгарна-сацыялагізаванай крытыкі больш стрыманымі на пачатковым этапе былі ацэнкі ў адкрытых партыйных дакументах. Так, у справаздачы ЦК КП(б)Б X з'езду

(3 — 10 студзеня 1927 г. ) адзначалася, што бюро ЦК на просьбу літаратараў аб выхадзе з "Маладняка" адказала станоўча, бо адмова павяла б да павялічвання ўнутраных супярэчнасцей у аб'яднанні і перашкодзіла б яго далейшаму росту. Адносна "Узвышша" гаварылася: "Група "Узвышша" каштоўная і значная не таму, што яна займае ў беларускай літаратуры вялікае месца. Гэта пачынаючыя таварышы, сярод іх ёсць каштоўныя літаратары і паэты". Неабходнасць большай увагі да гэтай плыні тлумачылася наступным чынам: яна "адлюстроўвае пэўнае нарастанне ідэалогіі, якая адпавядае росту дробнабуржуазных элементаў у БССР, што не ідуць у поўнай меры пад кіраўніцтвам пралетарыяту". (X съезд Коммунистической партии (большевиков) Белоруссии. 3-10 января 1927 г. Стенографический отчет. Мн. , 1927. С. 23-24).

Аднак на мяжы 20-30-х гадоў, калі беларускі нацыянал-дэмакратызм быў абвешчаны галоўнай небяспекай у грамадстве і для партыі, а агітацыйна-прапагандысцкія сродкі ідэйнай барацьбы з ім заменены мерамі "па лініі ДПУ", пастулаты вульгарна-сацыялагізаванай крытыкі сталі афіцыйнай палітычнай лініяй. Напрыклад, адзін з яе "егермайстраў" (словы Антона Луцкевіча) Арэст Канакоцін у вялікім артыкуле пад назвай "Абвастрэнне класавай барацьбы ў беларускай літаратуры ў перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі" пісаў, маючы на ўвазе членаў "Узвышша": "На літаратурным фронце контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм выступаў праз сваіх агентаў, якіх ён завербаваў з меней устойлівых у класавых адносінах прадстаўнікоў беларускай культуры ці проста пасылаў сваіх агентаў у шэрагі беларускіх літаратурных аб'яднанняў". З абвастрэннем класавай барацьбы, паводле Канакоціна, такія агенты перайшлі ад "скрытых замаскіраваных вылазак" да "адкрытага наступлення супраць пралетарскай дыктатуры", стаўшы на антысавецкія пазіцыі ("Бальшавік Беларусі". 1930. №8-9. С. 32).

Пункт погляду на тое, што ўзвышэнцы быццам бы ўяўлялі сабой прыхаваную антысавецкую апазіцыю, выказаў пазней, на эміграцыі ў сваіх публікацыях і былы актыўны член аб'яднання Антон Адамовіч. Пры гэтым ігнаравалася тая акалічнасць, што пэўная апазіцыйнасць, якая сапраўды мела месца ў дачыненні да нарастання ідэолага-палітычнага дыктату, развівалася ў рэчышчы "рэвалюцыйна-рамантычнага накірунку" пралетарскай, па вызначэнні тых часоў, літаратуры.

Толькі з 60-х гадоў, памеры таго як адкрываліся сакрэтныя архіўныя сховішчы і бібліятэчныя спецхраны, малюнак літаратурнага жыцця другой палавіны 20-х гадоў пачаў праясняцца і набываць больш рэальныя абрысы. У гэтай сувязі цікаўнасць уяўляюць матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (фонды былых структур Кампартыі Беларусі), якія звязаны з утварэннем літаратурна-творчага аб'яднання "Узвышша" і яго мастацка-эстэтычнай платформай.

Далей друкуецца частка гэтых дакументаў. Па думцы аўтара публікацыі, яны з'яўляюцца важнымі для лепшага разумення эвалюцыі поглядаў і пазіцый як творчага аб'яднання "Узвышша" ў цэлым, так і ўвайшоўшых у яго паэтаў і пісьменнікаў. Дакументы падаюцца з захаваннем іх моўных і стылёвых асаблівасцей.

Дакумент 1

## Ліст Ул. Дубоўкі ў Цэнтральнае бюро Усебеларускага аб'яднаньня поэтаў і пісьменьнікаў "Маладняк" з пратэстам супраць вульгарна-сацыялагізаваных ацэнак зборніка яго вершаў "Credo"

*1. У газэце "Савецкая Беларусь" за 6 студзеня 1926 г. №4 (1599) была зьмешчана хронікёрская заметка "У "Маладняку". Разгляд сборніку Ул. Дубоўкі "Крэдо". Як агульна вядома, заметка гэта перадавала зьмест выступленьняў вядомых "крытыкаў-марксыстых" Л. Каплана, А. Александровіча, Барашкі, Дудара, старанна апусьціўшы погляды другой часткі выступаўшых на разборы зборніку і асноўных дакладчыкаў. Дзеля таго, што ў ёй знаходзіліся нематывіраваныя закіды і абвінавачваньні мяне і майго сборніку бадай ня ў контррэвалюцыйнасьці, я зьвярнуўся быў да рэдакцыі "Савецкай Беларусі" з короткім лістом, у якім просіў выступаўшых з гэткімі абвінавачваньнямі сказаць на старонках той-жа газэты конкрэтна, у чым выражаецца мая "ідэолёгічная хваравітнасьць" і г. д.*

*Паважаны рэдактар "Савецкай Беларусі" М. Чарот-Кудзелька гэтага майго ліста не зьмясьціў, дзеля яму аднаму вядомай прычыны. Аднačасна нічым не рэагавала на гэны хронікёрскі цемрашал і Цэнтральнае Бюро.*

*Гэтым самым памянёныя грамадзяне фактычна і зусім сьвядома зачынілі мне доступ у друк.*

*2. У № 11 часопісі ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ, якая, як адзначана на тытульнай старонцы, выходзіць пад рэдакцыяй Александровіча, Адзінца і Гэсена, зьмешчана заметка нейкага Я. Ч. (на стар. 170-173) пад назвай " Форма і ідэолёгія. Уладзімір Дубоўка. "Крэдо". Вершы". Аўтар гэтай заметкі, якому сорамна нават самога сябе, схаваўся за дзьве літары і ... за абвешчаных на тытульнай старонцы рэдактароў. Паколькі пад заметкай няма заўвагі ад рэдакцыі, прыходзіцца разглядаць яе як выражэньне поглядаў названых рэдактароў таксама, двое з якіх зьяўляюцца членамі Цэнтральнага Бюро "Маладняка".*

*Я ня буду спыняцца на тым, што заметка на ўсе часы будзе зьяўляцца на Беларусі прыкладам халуйства, падхалімства і дэмагогіі. Гэта пэўна адчувалі самі паважаныя рэдактары, калі давалі яе ў друк без жаднай ўвагі ад рэдакцыі.*

*Я спынюся толькі на асноўных "палажэньнях" гэтай заметкі.*

*а) "Праз увесь зборнік чырвонаю ніткай праходзіць млявасьць, поўнае роўнадушша да лёсу свайго і лёсу грамады і кісьленькая інтэлігенцкае хныканьне".*

*Прыводзіцца і прыклад да гэтага — цэлы верш, з якога аўтар заметкі чамусь выкінуў пачатак. А пачатак такі: "Часіна ды з сокам рабіны качаеш мяне ў чорнабыльлі".*

*Гэтыя мае радкі, крыху зьіначаныя, ужыты А. Дударам у яго вершы (зьмешчаны на стар. 24). "Дня залаты Прасьвет пухне рабінавым сокам"... Калі ўжо ў маіх вершах гэткая асуджаная "горкасьць", дык навошта рэдакцыя зьмяшчае вершы, падобныя памянёнаму, А. Дудара і патурае адначасна плагіяту гэткіх поэтаў?*

*б) "Вельмі многа гаворыць Дубоўка пра "мэту", да якой ён ідзе. Што гэта за мэта — Дубоўка ня кажа і толькі ў адным вершы прагаварваецца:*

*Наша мэта, наша думка вось:*
*будаваць краіну Працы і Змаганьня,*
*каб нагонях, занядбаных скрозь,*
*красавала шчасьце, красавала вечна раньне.*

*І вось гэта мая мэта рэзка асуждаецца аўтарам заметкі і рэдактарамі часопісі "Маладняк", бо "гэта лёзунг не для сёнешняга дня. Гэта задача на бліжайшыя гады".*

*Адчыняю ізноў ідэолёгічна вытраманыя вершы А. Дудара (на стар. 25) і чытаю:*

*Плюнь на розум цьвярозы,*
*розум жыцьця не асьвеціць...*

*Ці ня гэткай "поэзіяй" шаноўныя рэдактары "Маладняка" думаюць лячыць "ідэолёгічна хворых"? Ці ня гэткая поэзія павінна быць мэтай для ўсіх маладых пісьменьнікаў, у тым ліку і для мяне? Не, шчыра дзякаваць рэдактарам.*

*в) "Выразна выступае ў Дубоўкі і незадаволеньне сучасным жыцьцём..."*

*Тут у прыклад прыводзіцца "Калінішчына" і верш "Далёкае мы любім надта... "*

*Што датычыцца "Калінішчыны", дык павінен адзначыць, што аўтар заметкі скарыстаў дэмагагічным шляхам толькі ўступ да яе. Дзеля гэтага я ня буду і спыняцца на ёй.*

*Што датычыцца вершу "Далёкае мы любім надта", дык павінен адзначыць, што ён разабраны такім шляхам, што аўтар заметкі падлягае ўвазе судзебных органаў у адпаведнасьці з артыкуламі 175 і 179 Крымінальнага Кодэксу РСФСР ці адпаведнымі артыкуламі Крымінальнага Кодэксу БССР.*

*Сапрвўды, верш, як аб гэтым сведчыць і тлумачэньне ў канцы зборніку і самы зьмест яго, гаворыць пра беларускага паўстанца Янку Глушку, расстралянага польскімі панамі. Верш зьяўляецца вострым протэстам супроць культурна-нацыянальнага і соцыяльнага ўціску, які адбываецца ў Заходняй Беларусі. Верш накіраваны супроць польскіх паноў. Верш быў надрукаваны ў "Савецкай Беларусі", перадрукованы ў "Маладым Аратым" і "Чырвонай Зьмене".*

*І вось аўтар заметкі, зміласьцівага патураньня трох рэдактароў, даводзіць, што Дубоўка ў гэтым вершы выступае супроць рабочых і сялян. Гэта ўжо не дэмагогія, а выразны крымінальны ўчынак — "заведома ложный донос" па юрыдычнай тэрмінолёгіі (арт. 179).*

*3. Што казаць далей? Зразумела, што гэткія літаратурныя бандыты, якім у моц зазначанага мной пад літарай "в" зьяўляецца аўтар заметкі, не саромяцца сказаць, што Дубоўка чуць не кулацкі поэт і г. д. Я ня думаю разводзіць дыскусыю з безадказнымі асобамі, якія саромяцца выступіць у друку пад*

*сваім іменем, а проста зьвяртаюся да Цэнтральнага Бюро "Маладняка" з наступным запытаньнем:*

*Навошта гэта сыстэматычна праводзіцца цкаваньне мяне і маёй творчасьці, чым гэта выклікаецца?*

*І ці зьбіраецца Цэнтральнае Бюро неадкладна даць у друку належнае аправяржэньне гэтай злоснай клеветы і даносу, якія ўзьведзены на мяне?*

*Калі Цэнтральнае Бюро таксама солідарызуецца з памянёнымі поглядамі памянёных членаў Цэнтральнага Бюро, прашу тады быць паступовымі да канца і прыняць пад увагу маю просьбу аб выхадзе са складу і організацыі і з ліку супрацоўнікоў часопісі.*

*Спадзяюся атрымаць адказ на працягу дзесяцёх дзён.*

*26 красавіка 1926 г. Уладзімір Дубоўка*

*Москва, Малая Грузинская*
*д. 34, кв. 13*

*НАРБ. Ф. 4. Воп. 16. Спр. 58. Л. 1-2.*

Дакумент 2

## Зварот групы паэтаў-маладняковцаў у бюро ЦК КП(б)Б з просьбай дазволіць стварэнне самастойнага літаратурна-мастацкага аб'яднання

*Дарагія таварышы!*

*Мы, ніжэйпадпісаныя, лічым неабходна патрэбным зьвярнуць Вашу ўвагу на наступныя факты з літаратурнага жыцьця Савецкай краіны.*

*1.*

*У 1922-1923 г.г., калі большасьць маладых рэволюцыйных пісьменьнікаў пачынала сваю працу, на камандных высотах літаратурных знаходзіліся пісьменьнікі старэйшага пакаленьня, т.зв. здраджэнцы. Не ставячыся варожа да*

*рэвалюцыйнай моладзі і яе ідэалаў, яны ў той жа час ня мелі да яе і вялікай прыхільнасьці.*

*Дзеля мэты: а)загартаваньня маладых пісьменьнікаў у пролетарскай ідэолёгіі; б) выяўленьня новых мастацкіх сіл; в) правядзеньня належнае агітацыі ў масе чытачоў — была ўтворана літаратурная група, якая, пачынаючы ад 1924 г. атрымала назву "Усебеларускае аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў "Маладняк".*

*На працягу 1924-25 г.г. "Маладняк" правёў значную працу ў памянёным кірунку: па усіх акруговых гародах былі створаны філі "Маладняк" а ў некаторых і раённыя гурткі. Лік сяброў узрос ад 5-10 да 100-200 асоб. Філіі і гурткі праз свае выступленьні і даклады, а таварышы Менскае філіі сваімі творамі, праз дапамогу часопісяй і выездамі на перыферыю, раскалыхалі масы чытачоў, асабліва рабоча-селянскую моладзь і працоўную інтэлігенцыю.*

*Погляды чытача значна зьмяніліся: апрача формы, ён пачаў вымагаць ад мастацкага твору і зьместу, які-б грунтаваўся на матэрыялістычным сьветапоглядзе.*

*У адносінах да ўплыву на пісьменьнікаў старэйшага пакаленьня можна за гэты кругабег адзначыць вось што:*

*а) старыя пісьменьнікі змушаны былі пераглядзець некаторыя падставы свае творчасьці;*

*б) выявіць у больш-менш яскравой форме свае адносіны да сваіх пасьлядоўцаў (з большага-пасьлядоўцаў у хронолёгічным сэнсе).*

*Найбольш шчыра адгукнуўся пры гэтым народны поэта Рэспублікі Янка Купала, асабліва ў вершы "Арляняты".*

*Якуб Колас, які мог лічыць сябе пакрыўджаным маладнякоўцамі, асабліва ў часе сьвяткаваньня юбілею Янкі Купалы, зусім зразумела, адгукнуўся на гэта больш сьціпла: прысьвяціў моладзі сваю поэму "Сымон Музыка".*

*Калі дадаць да ўсяго гэтага сталую лінію, якую праводзіў праз увесь час у галіне літаратурнай Цэнтральны Камітэт Комуністычнае Партыі (б) Беларусі, дык можна сказаць, што задачы, пастаўленыя ў 1922-23 г.г. былі, з большага, зьдзейсьнены.*

*2.*

*У часе маладнякоўскага зьезду (25-29/XI-1925г.) былі зроблены тыя ці іншыя падагуленьні ня толькі працы "Маладняка", але і літаратурнага жыцьця наогул.*

*Члены Бюро Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае партыі (б) Беларусі т.т. Крыніцкі, Чарвякоў, Ігнатоўскі далі ў сваіх прамовах:*

*а) ацэнку праробленай працы;*

*б) выяўленьне нёдахопаў;*

*в) дырэктывы на наступны час.*

*Пагадзіўшы іх высока-аўтарытэтныя прамовы і парады з матар'яламі літаратурнай дыскісыі пры ЦК РКП(б) і рэзалюцыямі ЦК РКП(б) у справах літаратуры, мы зрабілі для сябе і сваёй далейшай працы адпаведныя вывады, а менавіта:*

*а)умацаваньне савецкіх рэспублік, канчатковае выяўленьне сымпатый працоўнай інталігенцыі дазваляе літаратурным арганізацыям спыніць агітацыю за пралетарскую літаратуру, а перайсьці да прапаганды;*

*б) прапаганда вымагае ад кожнага паасобнага таварыша належнае падрыхтоўкі і сталай працы над сваёй творчасьцю, над якасьцю мастацкай прадукцыі;*

*в) наладжанасьць працы палітычна-асьветных установаў пазбаўляе літаратурныя арганізацыі неабходнасьці займацца палітыка-асьветнай справай;*

*г) у зьвязку з гэтым адпадае курс на масавыя літаратурныя організацыі, а паўстае патрэба ў працы сталых літаратурных арганізацый, у працы якіх удзел павінны трымаць сапраўды таленавітыя адзінкі;*

*д) у зьвязку-ж з усім сказаным, маладыя пісьменьнікі павінны зьвярнуць усю сваю ўвагу на адукацыю марксыцкую, літаратурную і тэорытычную.*

*Адначасна павінны быць зьмененымі і мэтады працы ў адносінах да старэйшых пісьменьнікаў: уважлівыя адносіны, дапамога ў максымальным скарыстаньні іх Камуністычнай партыяй.*

*Думалася, што да гэтага ўсяго можна будзе прыйсьці паступова, паступова-ж мяняючы мэтоды працы.*

*А што датычыцца концэнтрацыі мастакоў па формальна-мастацкіх кірунках (пры адзінай пролетарскай ідэолёгіі) лічылася мэтазгодным прыступіць да яе не раней, чым у 1927г. (гл.артыкул т. Дубоўкі "Маладнякоўскія шляхі", "Савецкая Беларусь" за 16 сьнежня 1925г.).*

*3.*

*Жыцьцё давяло, што новае кіраўніцтва "Маладняка", вылучанае са свайго складу новым Цэнтральным Бюро, а менавіта, т.т. М. Чарот, А. Дайлідовіч-Дудар, А. Александровіч, А. Вольны і М. Зарэцкі пералічаных вышэй задач ня зьдзейсьнілі. Нават наадворот, дапусьцілі на працягу 6 месяцаў цэлы шэраг памылак.*

*Гэтыя памылкі мы клясыфікуем наступным чынам:*

*1. Дырэктывы нашых правадыроў — членаў Бюро Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі (б) Беларусі на І-м маладнякоўскім зьезьдзе, накіраваная да стварэньня сапраўднай беларускай пролетарскай літаратуры, не выконваліся і не выконваюцца.*

*2. Праводзіцца цкаваньне, нейкі тэрор паасобных таварышоў, бясспрэчна здольных, бяспрэчна адданых ідэям Камуністычнай партыі, аб чым яны даводзяць сваёй творчасьцью.*

*Пры зьдзейсьненьні гэтага тэрору названыя "правадыры" "Маладняка", як панцырам, прыкрываюцца аўторытэтам партыі.*

*3. Беларуская пролетарская літаратура вядзецца не да росквіту, а да заняпаду.*

*Да сказанага мы дадаем некалькі тыповых фактаў:*

*1. Кіраўніцтва "Маладняка"на чале з М. Чаротам не адышло ад агітацыі да прапаганды ідэй пролетарскае літаратуры. Ізноў і ізноў паўтараюцца траскучыя фразы наконт "командных высот" і г.д. і г.д. Падобная, прымітыўная ў даны момант, тактыка нічога конкрэтнэ не дае, а толькі даводзіць, што выканаўцы яе не зьяляюцца дыялектыкамі. Гэная тактыка нясе ў сваім ажыцьцяўленьні суцагальную шкоду для нашае агульнае справы. "Маладняк" пачынае хутка траціць набыты ў процэсе цяжкай працы аўторытэт.*

*2. Якасьць мастацкай продукцыі большасьці маладнякоўцаў ("пропаганда фактамі зьяўленьня мастацкіх твораў") ані чуць не паляпшаецца. Патураньне самім сабе і сабе падобным выклікае зьяўленьне можна сказаць, не мастацкіх, а самагонных твораў.*

*3. Мы не бачылі, наколькі выконваюцца сучасным кіраўніцтвам "Маладняка" дырэктывы адносна зьмены*

*адносін да старэйшых пісьменьнікаў, але бачым, што на падставе нейкай для нас незразумелай прычыны знаходзяць сабе мейсца варожыя адносіны сучаснага кіраўніцтва “Маладняка” да членаў сваёй жа арганізацыі.*

*Так, ад літаратурнай старонкі “Савецкай Беларусі” зусім здагнаны маладыя і выдатныя поэты, якія знаходзілі мейсца для сваіх твораў у ёй раней (Серада, Глебка, Лужанін і г.д.)*

*Паасобныя таварышы з кіраўнічай групы праводзяць форменнае цкаваньне тых выдатных маладых пісьменьнікаў, якія маюць “сьмеласьць” не згаджацца з іх поглядамі на мастацтва і г.д. Зарэцкі, напрыклад, на сходах і выступленьнях вінаваціць усіх нязгодных з яго “поглядамі” ў ідэолёгічных вывіхах.*

*А. Александровіч ідзе яшчэ далей: нязгодных з яго поглядамі ён ня толькі вінаваціць у контр-рэвалюцыі, але палохае фразамі: “Мы вас зьнішчым” (конкрэтна-выпадак меў месца ў адносінах да Я.Пушчы на публічным сходзе).*

*А. Дудар спэцыялізаваўся ў выступленьнях супроць т. Дубоўкі. Выконваючы дырэктывы сваіх “правадыроў” і сам разыгрываючы”правадыра”, ён заняўся лячэньнем “ідэолёгічна хворых”.*

*Лячэньне заключаецца ў тым, што ён (гл. “Савецкая Беларусь” за 6 студзеня 1926 г. і “Маладняк” № 11) бярэць цытаты з вершаў рэвалюцыйных, накіраваных супроць буржуазнай Польшчы, і за тым даводзіць, што Дубоўка ў гэтым вершы выступае... супроць рабочых і сялян.*

*Гэткі крымінальны учынак спатыкае прыхільныя адносіны з боку членаў сучаснай кіраўнічай групы “Маладняка” на чале з М. Чаротам (якія не маглі ня ведаць аб зьмяшчэньні гэнай паскуднай заметкі без жаднай увагі ад рэдакцыі, на старонках часопісі ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ).*

*4.*

*Як зусім нармальны і зразумелы вынік з усяго сконставанага, ніжэйпадпісаныя таварышы лічаць сваю далейшую працу ў складзе “Маладняка” не мэтазгоднай. Зьмена кіраўніцтва, на якую мы маглі-б прэтэндаваць і якую маглі бы мотывіраваць, вялікага зьмякчэньня не прынясе. Будзе паўтарацца старая народная прыказка пра двух катоў, якіх пасадзілі ў адзін мяшок: на версе то той, то другі...*

*Адзіны выхад са становішча мы бачым у стварэньні самастойнай літаратурна-мастацкай групы, у далейшым — літаратурнага кірунку.*

5.

*Як ужо зазначалася, стварэньне літаратурна-мастацкіх кірункаў мелася на ўвазе праз год-два. Немагчымасьць супольнай працы з сучасным кіраўніцтвам "Маладняка" да якой (супольнай працы) мы праз увесь час імкнуліся, прымушае нас форсіраваць падзеі.*

*Праэктуемая намі група ўтвараецца на грунце адзінай пролетарской ідэолёгіі. Не абцяжарная філіямі, гурткамі і г.д. у складзе ўсяго 8-10 сяброў яна будзе лепш забясьпечана партыйным кіраўніцтвам і дасьць больш сталыя выніні, чымся пры сучасным становішчы, і нэрвовых абставінах, у цкаваньні...*

6.

*Выходзячы з паданага на Вашу ўвагу, мы зьвяртаемся да Вас з просьбаю.*

*1. Дазволіць нам, ніжэйпадпісаным, утварэньне новай літаратурна-мастацкай групы.*

*2. Дазволіць нам выданьне 2-х месячнай ці 3-х месячнай часопісі (тэорыя літаратуры і крытыкі).*

*Спадзяёмся, што папярэдняя наша праца зьяўляецца выстарчаючым залогам таго, што і далейшая праца будзе плённай і карыснай для мэтыўтварэньня сапраўднай беларускай пролетарской літаратуры.*

*З таварыскім прывітаньнем да Вас*

Арыгінал падпісалі:

***Ул. Дубоўка*** *(падаў заяву аб выходзе з "Маладняка" 26/IV-26 г. )*

***Я. Пушча*** *(Плашчынскі),*

***К. Чорны*** *(М. Раманоўскі),*

***А. Бабарэка,***

***З. Бядуля*** *(Далучаюся да п. 6),*

***Крапіва*** *(Атраховіч).*

*26 траўня 1926 г.*
*г. Менск*

*НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 72. Л. 7-12.*

Дакумент 3

## Ліст старшыні Цэнтральнага бюро аб'яднання "Маладняк" М.Чарота першаму сакратару ЦК КП(б)Б А. Крыніцкаму аб прычынах расколу ў аб'яднанні і ўтварэнні "Узвышша"

*Дарагі таварыш Крыніцкі*

*Выбачайце, што так доўга не адказваў на Ваш ліст. Мне хацелася як сьлед высьвятліць прычыну гэтак званага "адколу" групы таварышоў-маладнякоўцаў. На вялікі жаль, грунтоўнай прычыны гэтай "сэцэсіі" так і не знайшоў. Я Вам дасылаю іх ліст, пасланы ў ЦК, а таксама і адказны ліст ЦБ "Маладняка". Другіх прычын, апрача тых, што ў лісце, яны не выстаўляюць. На агульным паседжаньні (разам з падаўшымі таварышамі аб выхадзе) мы так ні да чаго і не дагаварыліся.*

*Па мойму, прычына расколу — асабістыя крыўды некаторых таварышоў з выйшаўшых. Затым, як гэта зазначана і ў іх лісце, таксама яны падкрэсьлівалі і на сходах, гэта — адмаўленьне ад масавай арганізацыі, супроць палітасьветнай працы, супроць увязкі працы літаратурнай з працай грамадзкай. Яны за арганізацыю 8-10 чалавек "таленавітых адзінак". Безумоўна, ЦБ "Маладняка" ў тым складзе, якое зараз маецца, ніколі на гэта ня згодзіцца, мы аб гэтым гаварылі з тав. Галадзедам, Ігнатоўскім і іншымі нашымі партыйнымі таварышамі. Мы нічога ня маем супроць іх выдзяленьня, як гэта сказана і ў нашым лісьце, але бяром моцна курс на тое, каб іх зноў вярнуць у "Маладняк", хоць бы частку выйшаўшых таварышоў, больш здаровую. Што тычыцца ідэолёгічнага разыходжаньня — мы яго ня бачым і аб гэтым нават не заікаемся. Чытаючы творы маладнякоўцаў, Вы аб гэтым самі зможаце судзіць.*

*Па згодзе з тт. Галадзедам, Ігнатоўскім, Чарвяковым, я і Зарэцкі выехалі на філіі. Пабывалі ў Віцебску, Оршы — Горкі і Магілёве. Філіі здаровыя. Праца ішла добра. Былі і зараз маюцца толькі арганізацыйныя неўвязкі. Усе асуджаюць выйшаўшых таварышоў і трымаюцца таго ж пагляду, што і ЦБ — "Маладняк" павінен і надалей застацца масавай*

*літаратурнай арганізацыяй і праца літаратурная павінна ўвязвацца з працай грамадзкай. Такі самы погляд і адпаведных таварышоў на мяйсцох.*

*Пытаньне аб дазволу ўтварыць новую групу і выдаваць сваю часопісь на ЦК, наколькі мне вядома, не разглядалася. Адложана да прыезду ўсіх таварышоў. Зараз жа выдзелены тры таварышы, якія мусяць дэталёва азнаёміцца з гісторыяй і працай "Маладняка", а таксама "адшукаць" больш глыбейшую прычыну непаразуменьняў, якія прывялі да адколу гэтай групы.*

*Дасылаю Вам бібліятэчку маладнякоўцаў, а таксама лісты, пасланыя ў ЦК і бюлетэнь 1-га маладнякоўскага зьезду. Калі яшчэ будуць якія-небудзь матэр'ялы — вышлю зараз жа. У Менску нічога новага больш-менш цікавага німа.*

*Жадаю ўсяго найлепшага*

*Са шчырым таварыскім прывітаньнем* *М.Чарот*
*19.VI.26г.*

*НАРБ. Ф.4 Воп.21. Спр.71. Л.16-16адв. Аўтограф.*

Дакумент 4

**Ліст ЦБ "Маладняка" ў бюро ЦК КП(б)Б аб выніках разгляду звароту групы маладнякоўцаў ад 26мая 1926г. аб выхадзе з аб'яднання і стварэнні асобнай арганізацыі**

*Цэнтральным Бюро "Маладняка" атрымана копія ліста ў Бюро Цэнтральнага Камітэту КПБ, падпісанага шасьцю таварышамі, з якіх большасьць зьяўляецца сябрамі аб'яднаньня "Маладняк". Разгледзеўшы гэты ліст, Цэнтральнае Бюро "Маладняка" паставіла выказаць свой погляд як на паасобныя пункты ліста, так і на выказную памянёнымі таварышамі прапазыцыю аб утварэньні новай літаратурнай групы.*

*У разьдзеле 2-м ліста, дзе гаварыцца аб задачах, пасталеных першым Зьездам "Маладняка", дапушчана відавочнае перайначаньне сутнасьці пастаноў зьезду, а менавіта:*

*а) У лісьце (1."в") сказана:*

*"Наладжанасьць працы палітычна-асьветных установ пазбаўляе літаратурныя арганізацыі неабходнасьці займацца палітыка-асьветнай справай".*

*Далей (п. "г") гаварыцца:*

*"У зьвязку з гэтым адпадае курс на масавыя літаратурныя арганізацыі, паўстае патрэба ў працы сталых літаратурных арганізацый, у працы якіх удзел павінны прымаць спраўды таленавітыя адзінкі".*

*У рэвалюцыі першага зьезду "Маладняка" па дакладу "Творчы шлях "Маладняка" (п.4) мы чытаем: "Другім выяўленьнем новага літаратурна-грамадзкага кірунку зьяўляецца нітаваньне сродкаў мастацкіх са сродкамі грамадзкімі ў справе разьвіцьця беларускай літаратуры: зьбіраньне мастацкіх сіл, калектыўнае іх афармленьне, змаганьне за ўладаньне мастацтвам, як зброяй клясавага змаганьня".*

*Такім парадкам, у гэтым ЦБ "Маладняка" бачыць сьвядомую падмену аснаўной лініі "Маладняка", як літаратурна-грамадзкай арганізацыі, з тэндэнцыяй да арыстакратычна-аранжарнага разьвіцьця" спраўды таленавітых адзінак" і паход супроць "Маладняка", як масава-літаратурнай арганізацыі. Аб гэтым-жа даводзіць і высунутая таварышамі вельмі туманая фармуліроўка аб замене агітацыі прапагандай.*

*Як разумеюць таварышы гэту замену, відаць з п. "в", у якім гэта замена фармуліруецца, як поўная ізаляцыя літаратурнай арганізацыі ад палітыка-асьветнай справы. Гэта азначае замыканьне ў вузка-цехавыя, габінетныя рамкі".*

*б) У разьдзеле 3-м з пачатку да канца ЦБ бачыць клевету і злосную хлусню на ЦБ "Маладняка", у якое ўваходзіла і частка таварышоў, падпісаўшых ліст. Ня спыняючыся на траскучых і бязгрунтоўных фразах аб тым, што ня выконваліся дырэктывы нашых правадыроў, накіраваныя да стварэньня сапраўднай беларускай пралетарскай літаратуры, аб тым, што беларуская пралетарская літаратура вядзецца не да росквіту, а да заняпаду, аб тым, што нібыта "правадары Маладняка", як панцырам, прыкрываюцца аўтарытэтам партыі, ЦБ спыняецца на некаторых фактах, прыведзеных у лісьце, якія, бязумоўна, не адпавядаюць запраўднасьці:*

*1. Цэнтральнае Бюро "Маладняка" займалася не "траскучымі фразамі" адносна "камандных высот", але*

*кіравала філіямі ў галіне вывучэньня пытаньняў літаратуры і мастацтва, у галіне паглыбеньня фармальна-мастацкіх дасягненьняў, у галіне развіцьця важнейшых выхаваўчых сродкаў — вучобы і граматнай марксыцкай крытыкі. У зьвязку з гэтым і якасьць мастацкай прадукцыі маладнякоўцаў не стаіць на адным месцы, як зазначана ў лісьце, а бязупынна паляпшаецца як з боку ідэолёгічнага, так і з боку фармальна мастацкага, што відаць з усіх рэцэнзый і крытычных нарысаў, якія зьявіліся за апошнія поўгода. "Маладняк" (за выключэньнем некаторых таварышоў з групы падпісаўшых заяву) ня толькі ня траціць свайго аўтарытэту, як заяўляе ліст, а наадварот, набывае ўсё большы і большы аўтарытэт: аб гэтым сьведчыць і шэраг выступленьняў як вусных, так і ў прэсе нашых адказных таварышоў і прафэсароў — выдатных знаўцаў літаратуры і мастацтва.*

*2. У лісьце многа гаварыцца аб нейкім тэроры і цкаваньні, якія нібыта цярпелі некаторыя таварышы з боку Цэнтральнага Бюро і паасобных членаў яго. У гэтым мы бачым штучнае інтрыганцкае раздуваньне асобістых крыўд у груповыя спрэчкі і нездаволеньне. Рэцэнзія на зборнік Дубоўкі "Credo", зьмешчаная ў № 11 часопісі "Маладняк", зьявілася адзінай прычынай гэтых спрэчак і нездаволеньня. Пакрыўджаны гэтай рэцэнзіяй Уладзімір Дубоўка, пачаў абураць проціў большасьці членаў Цэнтральнага Бюро некаторых маладнякоўцаў, выдаючы гэту рэцэнзію за вышэйазначаны тэрор і цкаваньне і стараючыся зрабіць з гэтага міжнародны скандал (лісты на Украіну).*

*Не ўдаючыся ў разбор гэтай рэцэнзіі, аб якой члены ЦБ даведаліся толькі пасьля яе надрукаваньня, Цэнтральнае Бюро лічыць патрэбным адзначыць, што роўнаважныя рэцэнзіі зьмяшчаліся і аб зборніках другіх маладнякоўцаў як Крапіва, Зарэцкі, Аляксандровіч і інш. , прычым, Цэнтральнае Бюро ні разу не протэставала супроць гэтага, углядаючы ў такіх жорсткіх крытычных выступленьнях прадпасылкі для далейшага разьвіцьця і выхаваньня даннага пісьменьніка.*

*Што датычыць паасобных выступленьняў членаў ЦБ на сходах філіі, то яны мелі зусім ня той характар, які стараюцца прыдаць ім аўтары ліста.*

*Трэба дадаць, што Цэнтральнае Бюро ніколі не перашкаджала разьвіцьцю тэарэтычных спрэчак унутры "Маладняка".*

*Цяпер яшчэ некалькі слоў аб лініі Цэнтральнага Бюро "Маладняка" ў адносінах да старых беларускіх пісьменьнікаў. На пастаўленае пытаньне ў лісьце, ці зьменена лінія Цэнтральнага Бюро "Маладняка" ў адносінах да старых пісьменьнікаў, зазначаем, што лінія ЦБ "Маладняка" як да зьезду, так і пасьля зьезду была аднолькавай і выяўлялася ў уважлівых адносінах і прыцягваньні да агульнага супрацоўніцтва.*

*Былі паасобныя выпады супроць Якуба Коласа і Цішкі Гартнага толькі з боку тав. Дубоўкі, а менавіта: у брашуры "Маладняк" Янку Купалу" на стар. 15 мы чытаем:*

*"Сыканьне і гойканьне распачалі супроць "Маладняка" некаторыя старыя пісьменьнікі і культурнікі, спагадаючыя ім. Адзін паэта, які прэтэндуе на нейкае надзвычайнае значэньне ў Беларусі, напісаўшы тысячы радкоў, зьвязаных прымітыўнымі, дзіцячамі дзяслоўнымі рыфмамі, стаў (вольна ці ня вольна) начале гэтых с ы к у н о ў.*

*Пішучы фэльетоны на "Маладняк", ён разносіць іх па Менскім, а можа ўжо і па-за Менскім сямёхгодкам, дзе зачытвае нашай зьмене-моладзі, каб як-небудзь адарваць яе ад "Маладняка".*

*Але дарма! Сьмехам і жартам праводзяць цяпер гэткіх "дзеячоў".*

*То-же самае ў № 1 "Аршанскі Маладняк", і выступленьне яго на першым зьездзе "Маладняка", дзе ён у сваім заключным слове сказаў:*

*"Асноўнае сучаснай прозы, што старыя монотонныя формы аджылі свой век. "Сокі цаліны" зьяўляюцца паказальнікам, якой проза не павінна быць".*

*Гэтыя выпады мелі выключна асабісты характар і н выяўлялі поглядаў ні Цэнтральнага Бюро і ні аб'яднаньня ў цэлым. Аб узаемаадносінах "Маладняка" са старымі пісьменьнікамі лепш усяго сьведчыць уступленьні ў шэрагі "Маладняка" старых пісьменьнікаў — Алеся Гурло, Уладыслава Галубка і Янука Журбы.*

*Ня спыняючыся на рэшце дробных і аднолькава бязгрунтоўных выпадаў групы таварышоў супроць ЦБ "Маладняка", лічым патрэбным выказаць свой погляд на выхад таварышоў з "Маладняка" і ўтварэньне новай літаратурнае групы:*

*1. Выхад з "Маладняка" таварышоў, падпісаўшых ліст, бязумоўна колькасна аслабіць нашу арганізацыю.*

*2. З другога боку, гэты выхад дапаможа аднаўленьню таварыскай дзелавітай атмасферы, якая раней была ў абяднаньні, якая павінна быць і на далей.*

*3. Існаваньне новай літаратурнай групіроўкі не перашкодзіць далейшаму існаваньню і росквіту "Маладняка", яго нармальнай літаратурна-грамадзкай працы, пад непасрэдным кіраўніцтвам Камуністычнае партыі.*

*4. Што датычыць самой новай групіроўкі, якая ў сваіх шэрагах хоча мець ня болей як 8-10 "таленавітых адзінак", Цэнтральнае Бюро "Маладняка" лічыць, што самая установка гэтае групы на чыста аранжарэйную працу, на адарванасьць ад працоўных мас ня можа забясьпечыць яе ад ідэолёгічных блуканьняў і замыканьняў у рамкі гэтак званага чыстага мастацтва.*

*6.* Самае тое бязглуздае бравіраваньне ўра-рэвалюцыйнымі, голымі фразамі: "сапраўднае пралятарская беларуская літаратура", "адзіная пралятарская ідэолёгія", якімі прыкрываецца адзначаная група, яскрава паказвае яе павярхоўны падыход да сур'езнае і ўпартае працы па разьвіцьцю і пашырэньню пралятарскай культуры ў такой пераважна сялянскай краіне, якой зьяўляецца Беларусь.*

*6. Што датычыць адносін да новае літаратурнае групіроўкі, Цэнтральнае Бюро лічыць, што задачай "Маладняка" павінна будзе зьяўляцца: уцягненьне яе ў супрацоўніцтва на гэтым адзіным для нас, фронце культуры і дапамога гэтай групе ў яе рабоце, як і іншым рэвалюцыйным літаратурным групіроўкам, існуючым на Беларусі. Аднак, у барацьбе з буржуазнымі і дробна-буржуазнымі ўхіламі ў літаратуры, "Маладняк" заўсёды будзе стаяць на ранейшай сваёй пазыцыі, якая грунтуецца на пастановах і дырэктывах Камуністычнае партыі ў галіне мастацкае літаратуры.*

*Старшыня ЦБ "Маладняка". М. Чарот*
*Літ. СЭКРАТАР. Ал. Дудар*

*НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 72. Л. 2-6. Машынапіс. арыгінал.*

*Так у арыгінале. Трэба 5.

Дакумент 5

**Протакол № 41**
**закрытага пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б**
**ад 25 чэрвеня 1926г.**

***<u>Слушали:</u>***

*2. Заявление группы быв[ших] молодняковцев о выходе их из состава "Молодняка" и разрешении им организовать новую организацию.*

***<u>Постановили:</u>***

*2. Рассмотрение по существу этого вопроса перенести на одно из заседаний бюро ЦК во время или после пленума ЦК при более полном составе бюро, подтвердив прежнее решение бюро от ... о поручении отдельным товарищам (тт. ... и ЦБ "Молодняка") вести работу по вовлечению вышедшей группы обратно в работу "Молодняка"*

*А.Криницкий*

*НАРБ. Ф.4. Воп.. 3. Спр. 17. Л. 203.*

Дазволу на стварэнне самастойнай літаратурнай групы, назваўшай сябе "Узвышшам", папярэднічаў шэраг закрытых пасяджэнняў бюро ЦК КП(б)Б. 30 ліпеня 1926 г. па дакладу першага сакратара ЦК А.І.Крыніцкага "Аб "Маладняку" было вырашана перанесці абмеркаванне на наступнае пасяджэнне, даручыўшы ўсе матэрыялы, што паступілі ў ЦК, папярэдне разгледзець у літаратурнай камісіі. У гэтай сувязі адклалі і публікацыю ў друку заявы былых маладнякоўцаў — "да агульнага вырашэння пытання аб "Маладняку" (НАРБ. Ф.4. Воп.3. Спр.18. Л.59).

На пасяджэнні бюро ЦК КП (б)Б 30 ліпеня быў зацверджаны новы склад літаратурнай камісіі. Яе ўзначаліў старшыня Інбелкульта, член бюро ЦК У.М.Ігнатоўскі, намеснікам стаў загадчык аддзела друку Цэнтральнага Камітэта А.Ф.Адамовіч.

У камісію ўвайшлі: Б. М. Аршанскі, Б. А.Вансоўскі, З.Х. Жылуновіч, М. Чарот (Кудзелька М. С. ), М. А. Акулік, М. П. Абрамчук, М. Зарэцкі (Касянкоў М. Я.), А. В. Баліцкі, В. А. Сярбента. (Там жа).

Канчатковае рашэнне было прынята 13 жніўня 1926 г. па дакладу М. Зарэцкага "Аб становішчы ў "Маладняку" і некаторых задачах у адносінах да яго ў сувязі з агульнай палітыкай партыі ў пытаннях

мастацкай літаратуры". Рэдагаванне рэзалюцыі пасля заўваг членаў бюро ЦК КП(б)Б па яго даручэнні правялі А. Александровіч, М. Чарот і С. Гесен. Рэзалюцыю было вырашана не друкаваць. Кола работнікаў, якім дазвалялася азнаёміцца з рэзалюцыяй, вызначыў сакратарыят ЦК (НАРБ. Ф. 4. Воп. 3. Спр. 18. Л. 91). Другога верасня 15 экзэмпляраў рэзалюцыі паслалі ў акруговыя камітэты партыі. З ёю знаёмілі членаў і кандыдатаў у члены ЦК КП(б)Б, ЦКК КП(б)Б, членаў бюро акруговых камітэтаў партыі і камсамола. Яшчэ 5 экзэмпляраў было перададзена М. Чароту для азнаямлення членаў ЦБ "Маладняка" (НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 44. Л. 287).

Напярэдадні прыняцця рэзалюцыі А. Крыніцкі паведаміў аднаму з устаноўцаў "Узвышша" А. Бабарэку, што гэты дакумент будзе адказам на ліст групы паэтаў і пісьменнікаў у бюро ЦК КП(б)Б ад 26 мая 1926 г.

Ніжэй адказ А. Крыніцкага А. Бабарэку і тэкст рэзалюцыі, прыняты бюро ЦК КП(б)Б 13 жніўня 1926 г.

Дакумент 6

**Адказ першага сакратара ЦК КП(б)Б А. Крыніцкага на зварот групы маладнякоўцаў у бюро ЦК КП(б)Б ад 26 мая 1926 г.**

*Менск. 10 жніўня 1926 г.*
*Тав. А. Бабарэку*

*Дарагі таварыш!*

*На ліст групы паэтаў і пісьменнікаў у Бюро ЦК ад 26 траўня 1926 г. паведамляем, што ўход Вашай групы мажлівы на падставе прынцыпаў, аб якіх дамовіцеся з аддзелам ДВЦ ЦК КПБ.*

*Адказам па сутнасці Вашай заявы будзе рэзалюцыя Бюро ЦК, з якою Вы можаце азнаёміцца ў ЦК КПБ.*

*Просім паведаміць рэшту таварышаў, падпісаўшых заяву.*

*З камуністычным прывітаннем*
*Сакратар ЦК КП(б)Б А. Крыніцкі*

*НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 44. Л. 275.*

Дакумент 7

## Рэзалюцыя бюро ЦК КП(б)Б ад 13 жніўня 1926г. аб становішчы ва Усебеларускім аб'яднанні паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк"

Сов. секретно

*О положении в "Молодняке" и некоторых задачах в отношении его в связи с общей политикой партии в вопросах художественной литературы*

*1. Всебелорусское объединение поэтов и писателей "Молодняк", выросшее и окрепшее за три года своего существования, провело большую работу по организации и сплочению белорусских революционных писателей из рабочих и крестьян, а также их идеологическому и художественному воспитанию. Развернув свою деятельность в виде широкой литературной организации, тесно связанной со всей общей работой комсомола и партии, "Молодняк" сумел сыграть значительную роль также и в деле приближения широких слоев молодой белорусской интеллигенции к участию в культурном строительстве БССР под руководством коммунистической партии.*

*2. Выросший из революционной борьбы рабочих и крестьян Белоруссии за свое социально-политическое и национальное освобождение, "Молодняк" впитал в себя не одинаковые по социальной природе элементы, спаянные субъективной революционностью и воодушевленные романтикой революционной борьбы. Такой неоднородный состав "Молодняка" заключал в себе потенциональные возможности дифференциации. Рост материального благосостояния и культурного уровня мал, увеличение их активности, неизбежное развитие классового расслоения как в городе, так и в деревне сыграли решающую роль в развитии и определении моментов дифференциации, результатом которой является заявление о выходе из "Молодняка" некоторых поэтов и писателей.*

*3. Социально-классовый анализ литературной продукции как вышедших писателей, так и оставшихся в "Молодняке", а также заявления вышедших товарищей указывают на развитие, правда, пока только слегка намечающихся в их творчестве двух тенденций:*

*а) часть писателей при всей субъективной искренности заявлений работать над укреплением дела пролетарской диктатуры и работать под руководством коммунистической партии обнаруживает на деле вместо претворения субъективной революционности в сознательную пролетарскую идеологию удаление от линии рабочего класса в литературе. Наиболее ярко это находит свое выражение в отказе товарищей связывать работу литературной группы с непосредственным участием в общественной работе партии и комсомола; как бы не обосновывался этот отказ необходимостью усиления воспитательной и самообразовательной работы, он знаменует некоторую тенденцию отхода от классовой линии, от задач пролетарской диктатуры. Также нужно отметить в отношении содержания произведений этих товарищей, наличия настроений упадочных;*

*б) другая основная часть писателей "Молодняка" обнаруживает в своих произведениях постепенное приближение к усвоению классово-пролетарской идеологии, элементы которой становятся все более четкими и глубокими в их творчестве. Работа этой части писателей идет и представляется совершенно естественной в связи с работой комсомола и партии в массах рабочих и крестьянства. Творчество этих писателей носит реалистический дух, близкий к пониманию масс.*

*4. Наиболее яркое выражение первая тенденция находит в творчестве вышедших писателей, что, однако, не говорит за идеологическую однородность и целостность всей вышедшей группы. Возможности дальнейшей дифференциации заложены как и в среде вышедших, так и в самом "Молодняке". Эта дифференциация, проходя параллельно с общей дифференциацией крестьянства и интеллигенции, в значительной мере определяясь ею, в свою очередь может влиять на последнюю в смысле ускорения ее и оформления. Точно также не исключена возможность влияния вышедшей группы в филиях "Молодняка".*

*5. Необходимо признать, что происшедший выход группы молодняковцев неизбежно обусловлен закономерно развивающейся в рядах "Молодняка" дифференциацией и в этом смысле является признаком роста "Молодняка", отражает общий переход всего культурного строительства и жизни БССР на более высокую ступень. Однако необходимо констатировать некоторую*

*ня ведаю ці спраўлюся на днях напісаць аб ім артыкул; ва ўсякім разе буду пісаць, — калі не пасьпею ў 5-ы нумар,дык у 6-ы напэўнага будзе к часу. Бачыш, справа з маімі літаратурнымі матар'яламі ішла-б лаўчэй, каб я ня быў ў першыя дні свайго прыезду заняты беганінай па розных дробных і ня дробных справах; мяне крыху непакоіць і тое, што калі я прыехаў дык яшчэ не было нічога пэўнага аб маім залічэнні ў [Ленінградзкі] універсітэт, і толькі аб выніках я даведаўся 21/X. Усяроўна як гара з плеч звалілася: залічылі бяз ніякіх умоўнасьцяў студэнтам 3-га курсу. Зараз я вырашаю, вядома сам з сабою, на якія пайсці мне цыкль ці на славянскі ці на германа-раманскі. Бязумоўна больш цікавы другі цыкль, бо на першым цыкле галоўная ўвага завернена на "изучение изящной ....... литературы", тады як другім на заходня-эўрапейскую і атычную; толькі справа вось у чым: трэба хоць з большага ведаць новыя эўрапейскія мовы, гэта для мяне зьяўляецца некаторай запінкай, але ўсё-ж думаю залічыцца на германа-раманяк: цыкль, цікава — як твой на гэта погляд.*

*Адносна супрацоўніцтва ў нашай часопісі я ўжо з тым сім гаманіў. Сержпутоўскі абяцаў напісаць артыкул аб беларускіх баячніках, у яго ж гэтаму пытанню матар'ялы падабраны; гаспадар мой магчыма,што небудзь напіша толькі з новага году; але ён абяцаў перагаварыцца з некаторымі сваімі знаёмымі адносна супрацоўніцтва ў нашым часопісі. У універсітэце на германа-раманскім цыклі чытае нямецкую літаратуру Жырмунскі і вядзе сэмінарый па нямецкай лірыцы, калі бліжэй я з ім пазнаёмлюся, дык думаю запрасіць і яго; па мойму добра было-б, каб ён што небудзь напісаў аб сучаснай заходня-эўропейскай поэзіі, з ухілам формальна-мастацкім.*

*Аб уражаньнях зараз пісаць мне цяжка, бо яшчэ можна сказаць нідзе ня быў, нічога ня бачыў і аб гэтым напішу ў чарговым лісьце. Вітай хлапцоў і сям'ю.*

*Шчыра чалуе цябе твой Язэп.*

*24/X — 27 г.*

***

*Дарагі Адам!*

*Перш за ўсё дазволь падзякаваць за чацьвёрты нумар часопісі. Ведаеш, крыху прыкра, што гэты нумар з — тэхнічнага боку выйшаў няхайным: шмат бітага шрыфту, ды й ня менш і*

*памылак. Цікава, ці ёсць надзея што ў чарговых нумарах гэтых хібаў ня будзе?*

*Раней, жывучы ў Менску, калі вызодзіў нумар часопісі, дык амаль штодзень даводзілася гаварыць аб ім; зараз-жа я пазбаўлен гэтай магчымасці. І рад-бы ў рай, як кажуць, ды грахі ня пушчаюць. Мушу скарыстаць хоць гэты ліст і коратка выказацца. Агульная частка на гэты раз мяне мала здаволіла, за выключэнням артыкулу Ул. Дубоўкі, у якім ён узьнімае, прынамсі, хоць актуальнае пытаньне; у артыкуле-ж Бярозкі за шмат непатрэбнай палемікі і занадта ўжо расьцягнены. Больш цікавая, вядома, мастацкая частка, прачытаўшы яе можна вырашыць некаторыя пытаньні ў жыцьці нашай поэзіі і прозы. Санэт Дубоўкі, мне здаецца, паказаў наяўнае тое, што ў сучасны момант для паэзіі ня можа паднісьці клясычная форма сонэту, калі і пісаць сонэтам, дык патрэбна яго неяк ажывіць, каб не павявала ад яго мярцьвячынай. (збытэчнай хмары для засмоглай душы). Сьвіцяцца поэты і ў романе Козьмы, сьвіціцца і Вольскі і Мігуцкі, — але трэба сказаць што Кузьме не ўдалося справіцца са сваімі поэтамі; за шмат ён іх узяў, уціснуўшы ў прымітыўнае сюжэтнае разгортваньне, — замала толькі сьпісаць чужыя словы, патрэбна іх належным чынам стылізаваць, выявіўшы пры гэтым і сваю творчасьць, а то выходзіць што заняўся чалавек у рамане плёткамі; па мойму куды лепей справіўся Бядуля з Вольскім, а Крапіва з Мігуцкім. Ня падабаецца мне фінальная частка ў "Салаўі", такая авантурнасьць Салаўя ніяк не вяжыцца з мастацкім ходам аповесьці, — яна шмат жуе твор; шкода што ў ёй Бядуля стаў такім тандэтным. Ну аб вершах асабліва няма чаго пісаць, — адным словам нягоршыя за прозу.*

*Пісаў я гэта табе ў ранейшых лістах, аб тым што Сержпутоўскі абяцаў напісаць артыкул і што каго небудзь запрашу ў супрацоўнікі. Чым-жа я магу пахваліцца? Асабліва няма чым. У Сержпутоўскага мне неяк не дазволіў час быць, даў згоду на супрацоўніцтва і напісаў-бы ў гэты нумар што небудзь, але перашкодзіў Талстоўскі юбілей к якому ён сьпешна піша шэраг навуковых прац, — вакол гэтага імя тут у Ленінградзе вельмі шмат гутарак; адным словам ён самы выдатны і папулярны з фармалістых, — каштоўнасць яго прац прызнае кожны.*

*К першаму сьнежню я не пасьпеў прыслаць матар'ялаў сваіх у шосты нумар, якраз тых, якія абяцаў. З гэтым лістом шлю ўсяго ўрывак з "песьні вайны". Я сам ня ведаю як быць з нумарацыяй разьдзелаў; паставіў то я IV, V і VI, у цэлай-жа поэме гэтых разьдзелаў нумарацыя будзе іншай, дык можа аб гэтым варта-б было зрабіць увагу. Хоць поэму ўжо заканчваю, — будзе каля тысячы радкоў, але думаю ўжо ёю больш часопісь не [не] пакоіць. Ведаеш, зараз думаю над назвай, магчыма "Марыя". У чарговы нумар прышлю вершы, — толькі, калі ласка напішы к якому чыслу. Узяўся-б канчаць цяпер артыкул пра Тувіма, толькі ня ведаю ці пасьпее ў гэты нумар.*

*Напішы, браце, як справа з падпіскай на часопісь, якія новыя зборнікі выдаеце ў кніжцы і наогул напішы аб літаратурных беларускіх навінах і над чым ты зараз працуеш. Пісаў ты мне, што Кляшторны падаў да нас заявы і кожны за тое, каб прыняць; вядома і я з свайго боку магу гэта толькі вітаць, бо Кляшторны здольны поэт. Уладзік пісаў аб проэкце нашай эмблемы, як і ўжо ва ўхвалілі, — я і тут нічога супраць ня маю, — толькі глядзіце каб ня было занадта банальна.*

*Цяпер маю адну просьбу: калі ёсьць у рэдакцыі грошы, дык вышліце мне авансу, колькі можаце і неўзабаве, бо стыпендыя яшчэ няскора, а грошы амаль вышлі і таксама дайце ўлік майго авансу дзесяць руб. Ізыдару.*

*Можа ўжо можна вітаць з сынам ці з чым другім, — напішы, браток, і аб гэтым, бо ўсё-ж мы людзі сямейныя і гэтае таксама ўходзіць у кола нашага зроку таксама як і літаратурная дзейнасьць. Галя ўжо пачынае хадзіць, поўны рот зубоў, — хутка будзе памагаць мне агрызацца. Стася таксама маецца нічагуткі, — толькі ўжо пачынае сумаваць і хочацца, кажа, у Менск.*

*Прывітанне ад усіх усім! Галя цалуе Лору*
*11/XII —27 г.*

***

*II/I — 28*

*Дарагі Адам!*

*Сягоньня а/дзесятай гадзіне раніцы ў мой пакой зьявіўся, зусім для мяне нечакана, лістаносец. Калі ён сказаў: — расьпішыцеся, — вам ліст... — мне адразу нешта й цюкнула. Я*

*пасьпешна разарваў канвэрт, не зважаючы на штампы і адрас, і толькі тут здагадаўся што ліст ад цябе, а вочы смагла расчытывалі словы, радкі.*

*Хоць я "Сав.Бел." і быў крыху праінфармаваны аб літаратурным хамстве колекцыянераў марак, бо іншай кваліфікацыі я гэтым артыкульшчыкам па іх учынках і артыкулах даць не магу, у іх навылят відаць эрудыцыя людзей, якія знаёмяцца з літаратурай наогул усяго па колекцыі марак. — усё-ж твой ліст, як з радкамі аб гэтых навінах, так і наогул быў для мяне надзвычай цікавым. Гэтак сама і я тут успрыняў паведамленьня полымскай групы, як і вы. Па мойму такога нелітаратурнага паведамленьня ма-бы яшчэ ня выдавала ніводная літаратурная група; з яго ўсяго відаць лысіна, на якой нязграбна натэцкана: пагроза, рыхтуемая ўгробліваць літаратуру, ды й то раней хоць азнаёмімся з колекцыяй новых марак, павучымся (бачыш, як параніўся наркомасветы з профэсарскім тытулам Піотуховічу). Ну ніводнага слова, якое б пераконвала, што людзі згуртаваліся для выкананьня сур'ёзных абавязкаў. Іх мала цікавіць тое, што літаратура жывы організм, якія з кожным днём уваходзіць у новыя фазы свайго разьвіцьця... ды й ня дзіўна пад плашчом двох сабраўся зброд выпадковых у літаратуры людзей. Па мойму ня варта пісаць аб гэтым і ў лістах; для мяне прынамсі ясна, што гэта людзі ў большасьці мёртвыя для далейшага росквіту беларускай пролетарскай літаратуры: нам і зараз трэба больш тэорытызаваць сваю літаратурную школу.*

*Кажаш, што некаторыя злараднічаюць над маімі вершамі, — ну што-ж тут ужо аўтару цяжка што небудзь сказаць, але ўсё-ж адно можна: куды з чысьцейшамі думкамі я гэтыя вершы тварыў, як гэта здаецца ім — людцам вечна з бруднай душой, якія дзеля аўтарытэту любяць ахінацца псэўдонімскім халатам. Да рэчы прышлося дык скажу: я пад халатам "Вар" бачу "Эконом-надстройку". Гэты наш нумар мне больш спадабаўся за чацьвёрты, — вельмі спадабаліся Дубоўкіны "Кругі" (параўнай "Сюжэт і прысвечаныя да "Кругоў" тэма адна), што-ж датычыць артыкульнайársткі і дык вельмі старая і тандэнтная рэч з блёк-ноту Сьнежкі; ён сказаў напрыклад аб французкім дазаізме, улапішізьме аб плынях аджыўшых, а аб сучаснай, наколькі мне вядома, сюр-рэалізме*

*ні слова і г.д. Твой артыкул хваліў мой гаспадар, як сур'ёзны і цікавы.*

*Вельмі і вельмі ўдзячны за заўвагі да поэмы, — я амаль з усімі згадзіўся і выправіў за выключэннем "глыб", "скопам" і "Юры Лірынін", выходзячы з такіх, хоць праўда ня зусім лінгвістычных, падстаў. У беларускай мове словам "глыб" называюцца глыбоцкае месца ў рацэ, праўду яшчэ кажуць і глыбіня, а калі вада круціць — вір, дык мне здаецца, што словам "глыб" можна называць, што небудзь масіўнае, здалёк нявыразнае. "Скоп" я прынамсі ў народзе чуў часьцей як "тлум" ці што ў гэтым родзе. "Юры Лірынін" мае ня зусім беларускі канчатак і з гукавога боку крыху шурпата, ня ведаю, магчыма... Толькі вось у чым рэч: другія гэроі поэмы маюць ізноў жа нязусім беларускі прозьвішчы, напрыклад музыка — Руцэрн і мастак — Антокаль, а поэма амаль кончана за выключэньнем доінальнае часткі, дык мне зараз зьмяніць назвы проста, немагчыма.*

*Вельмі радуе мяне тое, што першы нумар выйдзе ў лютым, гэта можа дасьць магчымасьць і ў далейшым часопісі выходзіць акуратна. Я матар'ялы выслаў-бы і з гэтым лістом, але ня ўсьпею перапісаць, — высылаю пасьлязаўтра. Толькі я мяркаваў пасланць ня тое, што пашлю; думаў пасланць поэму "Цень Консула", якую распачаў пісаць (табе пэўна вядома, што гэтую цень я год нашу ў сабе і толькі зараз узяўся за яе) але яна, як відаць, у першы нумар не пасьпее, а толькі ў другі, — пасылаю-ж радкоў прыблізна на 500 урывак з "Песьні вайны". Добра будзе, калі зробім з ім так, як і з гэтым урыўкам, бо вядома сякія-такія ляжаць будуць, — няма мне тут каму пачытаць, з кім парадзіцца.*

*У папярэднім лісты я пытаўся, што вы думаеце выдаваць зараз у кніжцы, ты-ж мне мабыць аб гэтым напісаць забыўся. Бачыш я гэта запытаньне рабіў таму, што наша кніжніца тэхнічна выходзіць неахайна, а гэта, як-ні-як, а недахоп. Бываў я тут у розных выдавецтвах, знаёміўся з калькуляцыяй. Вось мне здаецца, што магчыма-б было тут друкаваць зборнікі ну хоць-бы вершаў у выдавецтве Акадэміі Навук, аркуш будзе каштаваць 90р. але-ж не шрыфтам "Палесдруку". Я здолеў-бы дагледзіць за імі, таму што выдавецтва і друкарня поплеч з маёй кватэрай. Дырэктар да беларускіх выданьняў прыхільны, ён мяне пазнаёміў з тымі беларускімі выданьнямі,*

*якія зараз у іх маюцца, між іншых атляс інстытуту Г:Гарэцкага на трох мовах беларускай, рускай і ангельскай і інш; ён-жа назваў і цану за друк: без паперы аркуш 60 руб, з паперай 85-90 і даражэй можа быць у залежнасьці ад якасьці паперы. Адным словам абмяркуйце гэтае пытаньне.*

*Што датычыць заявы Труса аб уступленьні ў "Узвышша" дык я зараз проста ўстрымліваюся што небудзь сталае казаць, — мабыць з гэтага квасу піва ня зварыш, ужо-не раз падвёў, няйначы таму да нас зьвярнуўся, што ў "Полымя" не папаў. Ва ўсякім выпадку трэба мусіць пачакаць да другой гадавіны, у якую мы толькі паўнамоцна зацьвярджаць сяброў.*

*Вітай ад мяне Кузьму з яго шлюбам, жадаю яму ўсяго чаго ён хоча ад сямейнага жыцьця.*

*Як кожны ліст я канчаю якой небудзь просьбай дык так і гэты: Калі срокі пазваляюць выплачваць ганарар за шосты нумар, дык, калі ласка, браток, у лік яго выпішы мне "Зьвязду" на 3 м., бо яе хоць я і прасіў, а ўсё-ж ня выпісалі, — відаць я занадта патурбаваў Жылку, што посьле толькі перапіскі з братам, пачаў атрымліваць "Сав. Бел." з 15 сьнежня, а таксама вышліце крыху авансу, — проста няпрыемна, але ўсяго маю 10 руб. быў неэканомны, — схадзіў пару раз у тэатр сьвятамі і выпіў бутэльку віна на каляды.*

*Вітаньне ўсім хлапцам. Вітаньне ад мяне і сям'і табе з сям'ёй. Мы усе ўтраіх жадаем табе сына.*

*Шчыра цалую Язэп.*

*P. S. Можа быць я шмат прапусьціў памылак у сваёй паэме; няхай яшчэ хто-небудзь раз прачытае. Братка, забыўся адносна "нюхаў" праўда што можна і "слухаў", калі я і пісаў дык гэта слова вілялася перада мной, толькі я не ўзяў яго, глядзі сам к "ружью" няхай будзе й расейск[і] транскрыпт.*

***

*15/II — 28Любы Адаме!*

*Неяк мы прывыклі да літыкі ў лістох, —і на гэты раз я ад яе ня ў моцы адрачыся. Вітаем утраіх жонку з вашым сямейным сьвятам. Што дачка, дык Стася ўсю віну злажыла на языкі; кажа, каб не гаварылі наперад, што сын, дык і ўсё добра было-б...*

*Ня ведаю я і сам, як табе аддзякаваць за твае заўвагі і за твае вечныя турботы па перасылцы; на гэты раз амаль усё я*

*выправіў, што ты заўважыў, дый яшчэ і ад сябе дабавіў. Я думаю, што ня трэба ніякіх заўваг, а таксама — зьмяняць назву. Шосты нумар мяне вельмі і вельмі ўсьцешыў: папершае ўжо тым, што амаль увесь матар'ял узвышаўцаў, а па другое матар'ял высокай вартасьці, як у сваёй мастацкай частцы, так і артыкульнай. Змайчаю аб усім матар'яле і якраз не таму, што аб ім няма чаго сказаць, якраз наадварот, а скажу ўсяго некулькі слоў аб "Кругох". Наогул мне поэма падабаецца вельмі, падабаецца і тая бадзёрасьць настрою, якім яна прасякнута, я готоў у гэтым зайздросьціць. Але мне хочацца сказаць пару слоў аб "Кругох" таму што яны, як мне здаецца, для творчасьці Дубоўкі ёсьць і выразнае літаратурна-мастацкае credo. Ня ведаю, памыляюся я ці не, але ён у іх зьяўляецца прадстаўніком акмэтызму, адамізму. Ён у іх вельмі блізкі, хоць разам з тым, і зусім процілеглы ідэолёгічна Н. Гумілёву. Вядома, ня таму, што ў апошняй страфе прысьвечаньня прыводзіць з яго верша "Воспоминание" два радкі. Але ўсе гэтыя казачныя і рамантычныя дровы і кветкі неяк блізкія Гумілёўскай экзотыцы, яго "романтическим цветам"; або падарожжа ў цягніку, — ізноў-жа вельмі блізка да падарожжа ў "заблудзівшемся трамвае", — толькі я кажу, што Дубоўка зусім Гумілёву процілеглы: Калі Гумілёў на вакзале бачыць:*

> *В красной рубашке с лицом, как вымя,*
> *Голову срезал палач и мне,*
> *Она лежала вместе с другими*
> *Здесь в ящике скольском на самом дне.*

*дык Дубоўка ўсюды бачыць іншыя фарбы, ён бачыць пафос соцыялістычнага будаўніцтва,ён ахоплен запалам, што ўдзельнік гэтых часін; але-ж як таго, так і другога родніць мужнасьць, — толькі Гумілёва — мужнасьць аджыўшага веку, а Дубоўкі — мужнасьць нашых дзён. Ды мусіць Дубоўка знайшоў належную сьцежку, мажа па ёй і накіруецца творчасьць "Узвышша", бо-ж і само слова "узвышша", як мне, зьнячэўкі, заўважыў Жырмунскі, калі яго запрашаў у супрацоўнікі — акмеістычна. Ня ведаю на колькі яно гэтак, але ў кожным выпадку нешта ў гэтым родзе. Да рэчы пра Жырмунскага. Калі будзеце часамі зьмяшчаць дзе сьпіс супрацоўнікаў — уключайце і яго, ён на гэта ня толькі даў сваю згоду, але ён наш і пэўны супрацоўнік. Прасіў я яго, каб ён напісаў артыкул, аб сучаснай*

*нямецкай поэзіі, але ён сказаў, што яму зараз цяжка аб гэтым пісаць, бо ня мае пад рукамі належных матар'ялаў, але мне парэкомэндаваў Троцкую, яна ў унiверсытэце якраз чытае курс сучаснай нямецкай літаратуры, а сам згадзіўся напісаць артыкул па поэтыцы, калі артыкулы патрэбны будуць, дык можна будзе ўзяць з беларускіх твораў. Што ён артыкул напіша — напэўна, толькі цяжка сказаць да якога нумару. Магчыма да другога не пасьпее, бо ён вельмі заняты чалавек — ня толькі ў Універсытэце, але і на вышэйшых курсах мастацтвазнаўства і ў Інстытуце Гісторыі мастацтв, сказаў што да вялікадня напіша абавязкова. З Троцкай думаю пагаварыць заўтра,якраз буду на яе лекцыі.*

*Ты пішаш мне, каб схадзіў я да Клейшарта. Магчыма схаджу, вось трэба было-б зьездзіць і да Сержпутоўскага, бо ён неяк пытаўся ў Азбукіна, чаму я не заходжу, магчыма напісаў ужо дакляраваны артыкул. Больш навін у мяне няма, толькі часта бывае сумна, прызнацца, хочацца ў Менск. У другі нумар шлю ў пачатку сакавіка "Цень консула".*

*Вітаньне ўсім —*

*Цалуе шчыра Язэп*

***

Ліст Язэпа Пушчы ў ЦК КП(б)Б

*У "Зьвязьдзе" за II/I-28 г. № 9 зьмешчаны артыкул А. Сянкевіча "Социяльныя мотывы творчасьці, або сабачыя лісты поэты Язэпа Пушчы", у якім ён мяне абвінавачвае ў кулацкай, нэпманскай ідэолёгіі і контр-рэвалюцыі; з гэтай прычыны я лічу сваім абавязкам зьвярнуцца ў ЦК КП(б)Б з ніжэйпададзеным лістом.*

*Ня зьбіраюся апраўдаваць я свае вершы перад ЦК КП(б)Б у іхняй пролетарскай вытрыманасьці, а ўсяго зазначу на вульгарызацыю, як Пляханаўскай цытаты (адносна формальнай ацэнкі мастацкага твору), так і маіх вершаў: т. Сянкевічам і прылажу да пунктаў абвінавачваньня зусім шчырыя і адкрытыя аўтарскія комэнтарыі.*

*1. т. Сянкевіч у вадным з абзацаў свайго артыкулу піша: — Прасочваньне кулацкіх і нацыянал-дэмакратычных настрояў у творчасьці Пушчы, як я адзначаў, назіралася і раней. Паўстае пытаньне, ці сапраўды Пушча выяўляе ў сваёй*

*творчасьці і ідэолёгію заможніцкай,кулацкае часткі нашае вёскі? На гэта пытаньне мы адкажам, калі выявім, з якіх социяльных пластоў ідуць мотывы ўпадніцтва — ... Даведаўшы, што яны ідуць у горадзе ад нэпмана, у вёсцы ад кулака, заканчае абзац такім выразам: — Гэта ён больш за ўсё незадаволены, гэта ён крычыць, мятусіцца, не знаходзіць сабе месца, гэта перад ім стаіць здань.*

*Беларусь краіна — наймiцай астатняй*
*ў апранасе рванай днём і ноччу хмарнай.*

*Я гэтыя радкі пісаў не па адрэсу Савецкай Беларусі, а па адрэсу ўсёй Беларусі, бяручы яе ў гістарычным разрэзе. Калі я ў Ленінградзе пабываў у такіх музэях, як у "Эрмитажи", музэі "Художественной академии" ў "Русском музее" і інш., і калі я на кожным кроку пабачыў помнікі мастацтва: палацы, статуі і г. д. дак мне сапраўды зрабілася горка за Беларусь, якая апрача курганаў нічога ня мае, і якая ўсяго зараз і толькі ў Савецкай Беларусі мае магчымасьць стварыць культурныя каштоўнасьці, — няўжо-ж у гэтым маё прыфастрыганавае кулацтва і нэпманства? Што сапраўды азначае тлумачэньне выклікала ў мяне прыведзеныя вышэй радкі, выразна відаць ня толькі з цэлага вершу, а нават з тае страфы, якую т. Сянкевіч згвалціў, адкінуўшы першыя два радкі, прывеўшы ўсяго два другія і відаць яму трэба было нешта "давесьці", спагнаць злосьць над тым з поэтаў, які ня мае з вялікімі людзьмі сувязі, але які ня раз асьмеліўся сказаць т. Сянкевічу праўду ў вочы, аб яго літаратурным дзівачаньні; строфа поўнасьцю гучыць вось як:*

*Я-ж тулюся ў суме да самотных статуй,*
*і сьляза спадзе на граніт і мармур.*
*Беларусь краіна — наймiцай астатняй, —*
*ў апранасе рванай днём і ноччу хмарнай.*

*2. Далей т. Сянкевіч даводзіць (ужо зусім штучна, з пропускамі ў контэксьце, падтасаваўшы да свайго пратаколу), што я ў вершы "Словы, мае словы — песьні агнявыя" даў вобраз "гінучай Беларусі" і дабаўляе: — "Вы думаеце Пушча тут гаворыць аб Заходняй Беларусі, не. Пушча пяе аб нашай, Савецкай Беларусі". Я ня ведаю адкуль гэта т.Сянкевіч узяў,*

*што я пяю аб нашай Беларусі? Ці не з бакалу рускай горкай, падмяніўшы ім свае "марсыцкія постулаты"? У гэтым вершы ні аб якай Беларусі я не сьпяваю, а ўсяго даю малюнак восені, — толькі можа ня так, як гэта было ў другіх поэтаў; бясспрэчна, я не займаюся насьлядаваньнямі, я па свойму яе ўспрыняў, і ні ў якім выпадку не ў такім грубым і праступным сымболізьме, як гэта здалося т. Сянкевічу.*

*3. т. Сянкевіч пакрыўдзіўся, што я пасылаю сваю скаргу нікому іншаму, а толькі сабаку, і тут-жа піша такі абзац: — так, так там за мяжамі Ярэмічы, ксяндзы Станкевічы зласловяць і пляміць працоўную Беларусь, а тут ім ва ўнісон пяе хулу БССР поэта Язэп Пушча. У агульна-сусьветным паходзе на рэспубліку працоўных да іншых здрацкіх галасоў далучыўся яшчэ голас поэты. Але таго мала, што ён яе пляміць, Пушча лічыць гэта сваё заслугай, ён бачыць нейкую мужнасьць у тым, што нібы вяшчае сьвету якуюсь праўду. Пушча кажа:*

*Нашто-ж мне падхалімам быць, крывіцца*
*і ў хмары урэзвацца чырвоным буслам.*
*Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў,*
*І супраць ветру размахнуць крыламі.*
*Хто хоча кпіце над пясьнярскім лёсам*
*і бэсьце, лайце у гандлярскай краме...*

*Ах ты, вольны птах, з кулацкімі крыламі. Каго-ж ты лічаш падхалімам? Можа свайго сябра па "Узвышшу" Дубоўку, тут у гэтым-жа пятым нумары "Узвышша" прысьвяціў верш "Да дзесятага кастрычніка"? А што гэта за гандлярская крама, поэце? Дагаварвайцеся, стаўце кропкі. Ці ня тая гэта крама, што дае вам сямідзесяціпяцірублёвую месячную стыпендыю?*

*Сабака Жэк, які ўпамінаецца ў лістах, гэта сапраўды існуючы сабака, і якога жыцьцёвы лёс спачатку якраз такі, як я напісаў у лістох: быў бежанцам, потым застаўся ў майго бацькі, а цяпер [і] бацька яго прагнаў, пакінуў сабе ад яго сына — таксама такога-ж Жэка. Гэты трагічны лёс сабакі на мяне зрабіў надзвычайнае уражваньне. Я ня мог, каб не напісаць яму лістоў; толькі зусім быў з чыстым сумленьнем у іх да сваёй бацькаўшчыны Савецкай Беларусі; дарэмна т. Сянкевіч кажа, што я ёй сьпяваю хулу і далучаюся да голасу Ярэміча, кс.*

*Станкевіча і да іншых здрадніцкіх галасоў працоўных. Да галасоў гэтакіх суб'ектаў, як Ярэмчык і Станкевіч і інш. здраднікаў я ніколі ня прыслухоўваўся, не далучаўся, і ня буду прыслухоўвацца і далучацца. Гэтак сказаць у артыкуле на поэту, які нічога з імі супольнага ня мае, тое самае, каб я публічна сказаў на т. Сянкевіча: вы жулік, прахвост. У даным выпадку т. Сянкевіч з маімі вершамі зрабіў так, як замежныя фальшываманэтчыкі з савецкімі чырвонцамі.*

*Падхалімамі і гандлярскай крамай я назваў ня Дубоўку і ня тую ўстанову, якае мне дае стыпендыю, а я гэтымі словамі абазваў тую корпарацыю псэндонімаў-крытыкаў у нашай прэсе, якія, прыкрываючыся марксыцкім плашчом, а на самай рэчы нічым іншым як мяшчанскім халатам і бэсьцяць, лаяць поэтаў, не зазначаючы на сапраўныя вывіхі у іх творчасьці, і тым самым перашкаджаюць сапраўднаму росквіту белорускай пролетарскай літаратуры, — нікога іншага пад гэтымі словамі я не разумеў.*

*Дый на самай рэчы, ці-ж ня меў я моральнага права іх так абазваць нават у адносінах да сябе? Калі я выйшаў з "Маладняка" дык зараз-жа распусьцілі чуткі паасобныя таварышы, што Пушчу "угробілі"; на гэта, праўда, я напісаў верш "Прыяцелям поэтам", які друкаваўся ў першым нумары "Чырвонага сейбіту". Івось з восені 1926 г. і па сягоньняшні дзень у "Маладняку", "Полымя" і ва ўсіх літаратурных старонках нашых газэт, амаль у кожным нумары і праводзіцца гэтае ўгробліваньне; яно мяне давяло да таго, што я змушан быў пакінуць Менск і перавесьціся ў Ленінградзкі універсітэт, каб сапраўды заняцца сур'ёзна вучэннем і творчай працай, і каб ацьвярозіцца ад чорнага паветра не марксыцкай, а якраз менскай крытыкі. Але ўсяроўна пішуць і пішуць: артыкулы, фэльетоны, вершы і фіналам далакопства прагучэў памянёны артыкул Сянкевіча. Я гэты ліст усяго магу закончыць радкамі:*

*Мне часта зябка й холадна бывае,*
*А ўсё-ж ніхто ніразу не сагрэў.*

*Язэп Пушча*

*25/I-28 г. Ленінград В. Л. 9 лінія д. № 6, кв. 8*

## Лісты Уладзіміра Дубоўкі да Адама Бабарэкі

*2. 10. 1928*
*Масква*

*Адаме!*

*Калі ласка, пашлі зараз жа ў Ленінград на імя акад[эміка] Н. Я. Марра такія кнігі:*

*1. — белар[уска]-рус[кі] слоўнік Бай[кова] і Некраш[эвіча]. 2. Узвышша № 4, далучы да яго зьмест усіх №№ (калі надрукавалі). Адрас такі: Ленингарад, президенту Академии Материальной культуры Николаю Яковлевичу Марру.*

*Я з ім гаварыў, ён напіша можа з пару артыкулаў для нашай часопісі і гэтак нешта на мой проэкт.*

*Да слоўніку далучы разам № 2 Узвышша (леташні № 1) дзе ёсьць рэцэнзія на слоўнік і напішы невялікі ліст, у якім скажы, што высылаючы слоўнік лічым абавязкам сваім зьвярнуць увагу на ацэнку, зробленую ў часопісі. Між іншым — я казаў яму, што лепшы слоўнік — гэта Насовіча.*

*Мік[алай] Марозаў прыслаў ліст у якім піша: "если было что-нибудь, особенно порадовавшее меня за последнее время, то это, конечно, Ваше письмо подказало мне, что плоды моих долгих дум и трудов не пропали даром. Я так и ожидал, что первыми встанут на новую дорогу небольшие народы, как более подвижные и легче усваиваемые новые идеи. От всей души желаю Вам успеха в начатом Вами великом деле ["] і г. д. і г.д. Як ты паглядзіш на тое, калі я напішу яму ліст і папрашу яго ў аркушах 5-6 выкласьці сваю тэорыю для часопісі нашай (іншым словам даць кароткі пераказ 5 томаў)?*

*Чаму ты нічога ня пішаш? Трацім час, ня зробім літары. Я не паказваўся да майстра цэлы месяц. Якія мы ўсё-ж мала рухомыя! Гэта-ж можна было ўжо літары асіліць. Чаму Вы не дасьцё абвесткі ў газэту наконт часопісі № 4? Трэба за тыдзень-два даць па абвестцы, што выходзіць з друку, зьмест такі вось і такі. Прышлі адносьнік у словалітню. Уласьне кажучы, каб ты прыслаў мне 50 рублёў заплаціць майстру, дык я можа як небудзь заказаў бы літары без адносьніка. Не напісаў ты, што тармазіць грошы. Магчыма, што я што-небудзь зрабіў бы, каб прысьпяшыць атрыманне іх. Калі мы [абое авансу] не атрым. з мінулага бюдж[этнага] году, дык гэта скончылася*

*фін. Адпішы зараз-жа. Разам не забудзься напісаць, ці курыш ты. Лабзаю ўста. Цалую.*

*Падбіраецца цікавы матар'ял для новай працы, больш грунтоўнай.*

*Уладзік*

***

*3. 10. 1928 Масква*

*Братка Адам!*

*Атрымаў часопісь. Страшэнна многа памылак. Мабыць трэба разьвітацца з Гомелем і даць друкаваць у Менску. Абмяркуйце гэта пытаньне. Можа нават з № 5. Наконт № 4 трэба выдрукаваць невялічкі кавалачак напэры (уклейку) з заўважанымі памылкамі. Ня ведаю як у другіх, а ў мяне некаторыя памылкі зусім перайначваюць сэнс. Так — б. 150 — 15 радок зьнізу — "таленавіты пісьменьнік: чэсны чалавек". Трэба — "таленавіты пісьменьнік і чэсны чалавек". 10 радок зьнізу — на заработкі да Кноертаў — трэба "да Кноффаў". На б. 152 — усюды трэба Папст, Пажта, Папсту, а не Пайст, як гэта надрукавана. У артыкуле наконт літар — памылкі мае дзьве: кожнае дж [ ]. Калі ёсьць памылкі ў другіх артыкулах, дайце ўклейку ў №, надрукаваўшы ў Менску.*

---

*Дай загад, каб у Ленінград на імя Марозава паслалі № 4 часопісі. Ён учора быў у мяне дома, пагаманілі з ім гадзіну. Вельмі сымпатычны чалавек казаў, што ў сьнежні выйдзе з друку том V. Што датычыцца VI і VII, дык яны падрыхтаваны да друку. Абяцаў, што цераз месяц паўтары напіша для часопісі артыкул, у якім дасьць квітэсэнцыю сваёй тэорыі і сваіх усіх [...]. Адрас яго такі: Ленинград, Госуд.научный институт им. Лесгафта, пр. Маклина, 32 — Николаю Александровичу Морозову.*

---

*Пішы што добрага і дзе.*

*Вітаю нашых. Цалую цябе.*

*Уладзік.*

*26 — XI 28, Масква*

*У недалёкім часе канчаецца
вялікая гадавіна па Лесінгу.
Правер. Калі што ды ці сам
напішы арт., ці папрасі
напісаць Барычэўскага.
А мо не трэба?*

*Браце Адам!*

*Паслаў вось табе вершы нейкія, а зараз і шкадую: не трэба было пасылаць. Добра, што папрасіў быў цябе не чытаць нікому — бо дрэнна з мастацкага боку. Зараз прагледзіў іх яшчэ і прашу цябе не друкаваць іх зусім. Чаму? — Магчыма, што і ты прыйшоў да такога ж заключэння, але ўсё ж скажу. — Напісаны яны, выключаючы двух, даўно і аб'яднаны выпадкова жа назвай "Пярэсты букет". Ці з'яўляюцца яны ўзорнымі для мяне? — Не. Ці дадуць яны што небудзь нашым таварышам па згуртаваньню? — Не. Адно — толькі могуць быць скарыстаны супроць нас: "вось як пішуць! Кусі яго!". Дзеля гэтага, лепш не друкуй. Тым лепш, што я ў шосты № прышлю добры артыкул "Лацініка ці кірыліка". Бадай на друкаваны аркуш. Такім парадкам, будзе нешта зроблена на пачатку году (калі будзе выходзіць з друку наша часопісь) дам матар'ял пра Галляша Капіевіча (аўтара "гражданкі", якую ў Расіі доўга звалі "беларускай азбукай").*

*Наогул адносна вершаў — справа дрэнь. Не таму, што "выпісаўся" я — гэта глупства, бо якраз наадварот — пішу і чытаю шмат. Але нешта іншае, больш глыбокае. Бардак, у які пачынаюць ператвараць справу беларускае культуры розныя Дрэкі, Байковы and Ко. немагчымасьць змаганьня з гэтымі шкоднікамі на культурным фронце, вялікія перашкоды, якія стаяць увесь час перад намі — робяць сваю справу. Я пачынаю глядзець на ўсё гэта, як на нейкае паганае балота, ад якога хочацца быць далей. Мэліяраваць можна і варта толькі такія плошчы, якія знаходзяцца вышэй узроўня вады ў акіяне, а згаданая мною плошча значна ніжэй гэтага ўзроўню. Такім чынам, праца наша прападзе марна: няма як мэліяраваць, вада будзе цячы назад, а больш пэўна — нікуды і не пойдзе. Вось такія думкі пакуль што адбіваюць ахвоту ад вершаў. Сапраўды,*

*што пісаць і як пісаць? — Лірыку "голую" каб нехта ў тваё інтымнае пляваў і сморкайся? Грамадскія матывы? А хто яго зараз ведае, я цяпер ні з кім не гавару нават, не тое што пісаць пра грамадскія матывы: члены ЦК аказваюцца вінаватымі ў розных ухілах, што ж казаць пра нас грэшных? Пра што ж пісаць? Браць тэмы далёкія? Вось як капанешся ў далёкія тэмы, дык там і нацыяналізмы і містыка. Такім парадкам, я зусім лёгічна прыйшоў да выводу: вершы зараз нікому не патрэбны, бо, тым больш, яны на Беларусі наогул скампраметаваны. Напішу ў бліжэйшы час некалькі артыкулаў, а там будзе відаць, як яно далей будзе.*

*Вось мяне дзівіць ваша тэхніка: з Гомелю карэктуру нельга было атрымаць, бо далёка. А чаму ў Менску? Справа ў тым, што я пасылаў артыкул спяшаючыся, каб увайшоў у № 5. Аказваецца, што больш месяцу прайшло і я не спазьніўся б ящчэ. Як у вас друкаецца часопісь? Частка надрукавана, а рэшта не набрана?! Скажы, каб майго артыкулу не завёрствалі, а прыслалі толькі гранкі. Будуць вялікія папраўкі. А калі з Ленінграду з Акадэміі не прыслалі літар ( , , ) якія я ў іх прасіў, дык і зусім яго прыдзецца адставіць.*

*На ўсякі выпадак напішы Язэпаў адрас. Магчыма, што калі выбяруся ў Ленінград, будзе хоць дзе спаткацца.*

*Што вы робіце да 10-й гадавіны БССР? Калі не друкуеце адмысловага зборніку, дык адрас прывітальны трэба будзе напісаць загадзя і падаць. Яго ж можна выдрукаваць у № 5 — як раз паспее. От прыблізна — "Белар. літ. — маст. згурт. Узвышша горача і шчыра вітае Рабоча-Сялянскі урад Беларускае ССР у асобе т. А. Г. Чарвякова, М. М, Галадзеда з вялікім сьвятам беларускага пралетарыяту — дзесяцігодьдзем існавання Беларускае ССР. Мы літаратары ... (вось у такім кірунку) у канцы — Хай жыве Рабоча-Сялянскі Урад Беларускае ССР! Хай жыве Кампартыя! (подпіс — ад усяго згуртаваньня).*

*Абавязкова прадумайце гэта пытаньне, бо нехта зьвінаваціць нас у невытраманасьці. Добра было б, каб гэта даць у "Звяздзе", але могуць не выдрукаваць — скажуць, "друкуйце ў сябе". Рыхтуйцеся, а то такое вялікае свята, а вы ні мур-мур.*

*Пасылаю табе зборнік юнацкіх вершаў А. Блока і часопісь "Новыя Пропілеі" — як узор выданьняў. Глядзі на часопісь —*

*набор такога фармата, як у нас, а папера большая і выглядае лепш. Также і вокладка — наборам, а выгляд вельмі паважны. Наша выдаецца нейкай карыкатурай на мастацтва. Кумекайце і наконт гэтага. Ліха іх з мастакамі! Лепш паспрабаваць набіраць, можна падтасаваць зусім добра. Бяда толькі, што у краіне папяровы голад, як бы ён не ўдарыў ў першую чаргу па нашай часопісі. Усё можа быць! Тым больш, што ў праследаваньні мастацкіх згуртаваньняў, якім з'яўляецца Узвышша нелітаратурныя згурт. дасягнулі даўно ўжо даваеннага ўзроўню...*

*Пішы, што добрага наогул. Як гадуецца Аня з дзеткамі, як Кандрат з Ленай? Марылька кажа, ці не пакрыўдзілася на мяне Лена, калі мы ў гарадкі гулялі, ды я ўсё вышчараўся там нечага. Калі пакрыўдзілася — дык ты перапрасі яе ад мяне.*

*Вазьмі ты якую гранку, выбяры які верш чый небудзь дзе ёсць некалькі дж і дз, дай набраць з новымі літарамі корпуса і летытам (або ўрывак з Кузьмовага артыкулу) цісні на добрай паперы і прышлі які адзін-два паасобнікі мне. Усё ж цікава бачыш як яно палучаецца. Пішы. Цалую. Вітаю.*

*УЛАДЗІК*

*П. Л. Наколькі цікава для Беларусі можа быць такая канцэпцыя: 1. Эвалюцыя беларускага асьфабэту прывяла да акругленьня літар. 2. Беларусі Капіевіч канчаткова аформіў яе ў гражданку, узятую за Пятром Вялікім. 3. Рускія доўгі час звалі гэты шрыфт то "амстэрдамскімі" літарамі, то "беларускай азбукай". Пра ўсё пра гэта ёсць даволі матар'ялу. Як ты ўважаеш усё гэта? Ці мо сапраўды таўчэнне вады ў ступе? Пішы наогул.*

*УЛАДЗІК*

*Вітай Гарэцкага Гурыка ды і Максіма также, калі бачыш іх. Хто там пакрыўдзіў маладнякоўцаў у насценнай газеце? У чым справа? Зусім адарваны я ад вас, ад вашых навін. Выпадкова даведаўся, што нехта з нейкім сварыцца наконт тэатру, нехта некага пакрывае. Адным словам "вор у вора дубінку ўкраў"...*

***

*10-XII-28, Масква*

*Браток Адам!*

*На твой ліст адкажу пасля. Сёньня азнаёміўся з некаторымі матар'яламі адносна "беларускіх" пісьменьнікаў у універсітэце (нават у "Палескай праўдзе" ёсць цікавы артыкул).*

*Калі нашы хлопцы яшчэ не падалі свайго пратэсту — няхай пададуць. Калі падалі яны — варта адгукнуцца ўсім нам. Тутака справа стаіць значна шырэй, чымся гэта нам здаецца. Трэба падаваць пратэст як мага хутчэй, трэба рашуча адмяжавацца ад усяго гэтага барахла. Калі не выдрукуюць у газэце, дайце ўклейку ў № 5. Пратэст пабудуйце ў такім плане.*

*1. Справу з "беларускімі" пісьменьнікамі трэба разглядаць шырэй, чымся гэта робіцца, бо яна не замыкаецца ў рамках пед[?] ку, а цягнецца на працягу двох гадоў на Беларусі наогул.*

*2. Поўная група пісьменьнікаў на чале з Ц.Гартным часткова ці поўнасьцю заняўшы кіраўнічыя пасады ў "Савец.Бел.", "Полымі", Дзяржаўным Выдавецтве, Наркамасветы (Галоўмастацтва) атрымала магчымасьць рэгуляваць крытыку адносна сваіх твораў друкаваць іх, уціскаючы іншых пісьменьнікаў, чамусьці "няўгодных" прэзэсу гэтай групы. Так, на працягу ўсяго часу Бел.Дз. В-ва ўпарта не вылучала аркушаў бе.крытыку Адаму Бабарэку пазбавіла магчымасьці друкаваць свае творы там Максіма Гарэцкага, Дубоўку (апошні змушаны быў выдр.апошні свой зборнік у Маскве, у Центриздате). Гэта ж усё прымусіла Зм.Бядулю і К.Чорнага, прынятыя да друку творы якіх "марынаваліся", узняць рашучы пратэст. Тут жа справа з бюлетэнем "Сувязі з па-за межамі" і г.д.*

*3. Прывелеяванае становішча групы Ц.Гартнага давяло яе да таго, што яна асмелілася заяўляць, што толькі яна рэпрэзэнтуе беларускую літаратуру, што на Беларусі нікога больш не існуе, літаральна цкуюць няўгодных сабе.*

*4. Занятыя творча працай, мы не звярталі на гэта ўвагі. Зараз жа змушаны канстатаваць, што такая ўпрыеляванасць завяла іх вельмі далёка — да кампраметацыі беларускай літаратуры на Беларусі і па-за яе межамі. Так усім вядома*

*“выступленьне” Ц.Гартнага, Дудара, Зарэцкага і г.д. у Беларусі С.Г. Акадэміі, якое выклікала рэзкі пратэст тамтэйшага студэнцтва. Зараз паўтараецца нешта падобнае ў дачыненьні да Бел.Дзяр.Ун-ту. Гэта ўсё ўваходзіць у сістэму.*

*5. Далучаючыся цалкам да зусім справядлівых пратэстаў студэнцтва і кіраўніцтва БДУ, мы адначасна ўважаем патрэбным заявіць, што нармальныя суадносіны ў беларускім літар.жыцьці ўстановяцца толькі тады, калі будзе забеспечана незалежнае ад групы Ц.Гартнага кіраўніцтва Бел.ДЗ.В-ва, Галоўмастацтва і Сав.Бел., якія дадуць магчымасьць друкавацца ўсім пісьменьнікам і г.д.*

*Не пазнецеся! Калі будуць адмаўляць у дазволе на выдрукаваньне, ідзіце дэлёгацыяй да новага сэкратара. Міру з Цішкам у нас быць не можа — карыстайце выпадак. Калі б гэты ліст тэрмінова выдрукавалі — падлічыце свае сілы, рэальныя магчымасьці і гарантыі на поспех — і наладзьце вечар на педфаку, каб згладзіць уражаньне.*

*Маруднасьць загубіць усё. Не чакайце! Тэлеграфуй калі аддасцё ў друк, у кожным разе спешнай поштай вышлі ліст.*

---

*На твой ліст адкажу пасьля. Вельмі рады мы, што ты з Аняй прыедзеце сюды. Жонка толькі дні лічыць, калі гэта будзе. Цалую, вітаем.*

*Пішы.* *У Л А Д З І К.*

*Можа варта напісаць яшчо ліст у Кіраў[ніцтва] БДУ з выказваннем свайго жалю, запэўненнем у пашане беларускіх пісьменьнікаў да вышэйшай навуч. і навук. установы. Думайце.*

***

*З ліста ад 30-01-29г.*

*... Выйшаў зборнік артыкулаў Дрэка, бачыў адным вокам. Ёсць там і пра “літ. шкодн.”. Папрасі, можа ізноў Фэлька напісаў бы рэцэнзію ў № 2. Калі будзе пісаць ён (ці хто другі, а напісаць трэ‘ абавязкова) хай не адмовіцца адзначыць такія моманты наконт мяне:*

*1) У маіх артыкулах імя Коласа няма, яго прыдумаў Цішка. З тым жа правам можна сказаць, што гутарка ішла пра самога Цішку. Там узята было тыповае.*

*2) У артык. з "Арш[анскага] Мал[адняка]" згадваюцца два розныя пісьменьнікі без наз. імя, а Цішка ўсё зваліў на нявіннага Якуба Коласа які мае рацыю пакрыўдзіцца на такога прыяцеля, бо ніхто з чытачоў на Коласа і не думаў.*

*3) Кампанія супроць "старых" праводзілася ўсімі ме[тад]амі і нават больш тымі, якія зараз цалуюцца з Цішкам, а не толькі тымі, пра каго гаворыць Цішка, даволі прачытаць бюллетэні пленуму і з'езду Мал-ка, выступленьні Чарота, Вольнага.*

*4) Наогул увесь гэты яго артыкул сімптоматычны і фактычна завяршыўся ў яго апошніх выступленьнях супроць лініі партыі ў будав. беларускае культуры. Сапраўды, у пачатку Ц. Дрэк выступаў супроць Узвыш., вынавацячы іх у нацыянал-дэмакратызме, шавінізме і г.д. Калі ў гэтым Забалоцкім-Глыбоцкім і Ко на чалі з З. Жылуновічам у гэтым ніхто не паверыў, а як бачым цяпер і нельга было верыць, бо свае грашкі яны прыпісвалі другім, яны пачалі адваротную лінію — вінаваціць узв. у "оскорблении национальных святынь" — у выступленьні супроць старых. Як зазнана, кампанія гэта вялася ўсімі мал[адымі] пісьменьнікамі і дала, як зазначаў прадстаўнік ЦК т. Сянкевіч, станоўчыя вынікі. Узяць і цытату. Артыкул Сянкевіча паказаны ў нашым апошнім паведамленьні. Такім чынам, і тут нічога не ўдалося Ц. Г[артнаму].*

*5) Пасля ўсяго гэтага, Цішкава кампанія ўвайшла ў трэцюю, самую гнусную і, спадзяёмся, апошнюю фазу сваёй газавай атакі на будаўнікоў пролет.літаратуры — узвышаўцаў. — Выходзіць (ці ўжо выйшаў) зложаны пры ўдзеле Ц. зборнік у Чэхіі, без узв; артыкул Жылунов. у Літ. Энц. без узв; арт. Пятуховіча ў "Куль. і Рэв." без узв.*

*Жылуновіч — канд. у члены ЦК, а Пятуховіч дэкан Педф. Унів. і асоба, адказная за катэдру бел.літ. у Ун.*

*Спрашваецца, ці гэта ЦК Жыл.-у і Ун. Пят-чу далі заданьне выкрасліць цэлую арганіз. з інформац. артыкулу аб бел. літ., ці яны праводзяць самастойную лінію ў гэтым пытаньні?*

*У дадатак да рэц. трэба напісаць пратэст у ЦК на Жылунов[іча] а Ў Акадэмію на Пятухов[іча].*

*Абавязкова напішы пра свае ўраджаньні аб паэме.*

*Нумару першага прышлі мне 5 паасобнікаў. Прышлі № 6 2 паасобнікі (для Яз. Салодк.)*

*31-01-29 Вітаю. УЛАДЗІК*

***

*29-XII-29, Масква*

*Браток Адам!*

*Напісаў табе запісачку, якая прыдае з Фэлькавым лістом. Пішу яшчэ ліст. Справа не ў прызнаньні неіснуючых у нас памылак на агульный лініі. У тым уся бяда наша, што мы вялі вытрыманую, чоткую пралетарскую лінію ў літаратуры, а прадстаўнікі ЦК (розныя Пановічы Канакоціны ды інш.) балталіся як барановы муды між ног нацыянал-дэмакратаў (Цішкі etc.). У тым уся і бяда наша: "трэба было ўмазацца", як казаў пісар валасны. А мы не захацелі мазацца, а мы змагаліся супроць рознай антыпартыйнай, антыпралетарскай пошкудзі, якая цалкам збанкрутавала. Больш: няёмка нас зачыніць за ўсё гэта. Дык вось нам прапануюць: прызнайце, што ваша лінія памылковая. Як толькі мы прызнаем гэта, нам адразу, не чакаючы ні хвіліны, які Функ перадавіцу напіша: "даўно трэба было зачыніць гэту публіку, а да гэтага часу не вызнавала свае памылкі. Цяпер і зачыняем іх". Выключна для гэтага патрабуюць ад вас "прызнаньня" "памылак", бо ўсе ведаюць, што ніякіх такіх асаблівых памылак не было. А чаго ж апалчыліся на Фэльку? Гэта проста жах нейкі дайсці да такой подласьці, як дайшлі Цішкі да Алесі. Ад-чы з "лістамі". І Бядулю паківалі, каб далучыўся да іх. Што ж, няхай далучаецца. Вам не трэба ламаць сабе галаву. Самым афіцыйным парадкам пашліце ў ЦК тую рэзалюцыю, а копію дайце ў Галоўліт, каб дазволіў выдрукаваць у часопісе. Не папушчайцеся ні на [іоту], бо заўтра будзе рад. Узв. які небудзь Функ ці Жандарчук які. Няхай лепш зачыняюць. Памятай, што лепш зачыніць, чым глядзець пасля, як орган пралетарскай думкі будуць перарабляць у нацыянал-дэмакратычны орган. Больш цяжка будзе глядзець. Калі ўсё гэта не задаволіць, тады напішыце другую рэзалюцыю, у якой пастаўце вось што:*

---

ПАСТАНОВА

---

*1) Узвышша арганізавалася тады і тады, для такой вось мэты (з нашай дэкларацыі і статуту). Але, на вялікі жаль...*

***

*29-XII-29, Масква*

*Браце Адам!*

*Пытаньне яснае і бясспрэчнае: лідэры беларускага нац. дэмакр. будуць прыняты ў пратыю, як пра гэта сказаў у Маскве яшчэ з месяц таму назад Сянкевіч. Замест гэтага — адыграюцца на тых людзях, якія праводзілі вытрыманую клясава пралетарскую лінію ў літаратуры на ўзвышанцах. Там лягчэй будзе зрабіць, што нац. дэм. лідэры далі ўрачыстае абяцаньне змагацца... з нац. дэм. Вось яны і будуць помсціцца на тых, хто выкрываў іхнюю варожую партыі сутнасьць. Паскок на Фэльку вельмі паказальны. Напрыклад, як ён тлумачыць і як гаворыць здаровы сэнс, Фэлька назваў "жыдам" Зарэцкага, які ездзіў за межы, а Цішка з Ал. Адам. перакручваючы і пішуць у сваім артыкуле, што Куп[цэвіч] меў на ўвазе Бядулю, які і не пакратаўся з Менску. Або тое, што той меў за "рыжага" Пігулеўскага, сваяка Цішак, перакручваецца на Крыніцкага. Чаго далей ісьці: — Справа ясна! Збанкрутаваўшыя нацыянал-дэмакраты ідуць на ўсё. Мне здаецца, што з гэтага трэба зрабіць адзін вывад, толькі адзін вывад і больш ніякіх. Трэба распусціць арганізацыю, не трэба чакаць, пакуль нас па адным будуць кампраметаваць і дыскрэдытаваць раз'южаныя нацыянал-дэмакраты Цішкі — Х...*

*Перад гэтым трэба вам усім пайсці да новага каркомунутсправа са сваім статутам гаварыць пра ўсё гэта адкрыта і ясна. Справа не ў прызнаньні неіснуючых памылак. Справа ў той "сделке, якую заключылі з Цішкамі і якая павінна быць захавана ад нас дымавой завесай". Выдрукуйце — № 9-10, каб выканаць абавязак перад чытачамі, разашліце назад сялетнюю падпіску і годзе. Сумна, але нічога не зробіш. Дарэмна траціць час на хваляваньні, на сходы. Толькі абавязкова схадзеце на НКУС. Трэба выясьніць пытаньне менавіта з ім.*

---

*Наконт Фэлькі арганізацыйных крокаў, зразумела, ужываць не трэба. Няхай "адрасанты" скажуць свае прозьвішчы да і наогул гэта справа не наша.*

---

*Магчыма, перад прыняцьцем рашучых крокаў трэ' будзе дадаткова парадзіцца. Няхай хто прыедзе на пару дзён сюды, грошы пэўна на гэту паездку хопіць, а не — схадзеце папрасеце ў ЦК КП(б)Б.*

*Вітаю цябе. Цалую.*

*У Л А Д З І К*

## Ліст Фелікса Купцэвіча да Кузьмы Чорнага

*II/XII — 29г.*

*Дарагі Кузьма! Надзвычайныя акалічнасьці прымусілі мяне не чакаючы адказу на папярэдні ліст напісаць табе некалькі слоў прымаючы галоўным чынам над увагі нашыя агульныя справы па згуртаваньню. Рэч ведама гутарка ідзе пра апошнія падзеі літэратурнаго жыцьця — я маю на ўвазе пастанову сакратарыяту Белапу ад 6/XII і артыкул невядомого аўтара зьмешчаны ў “Зьвяздзе” 8/XII.*

*Адносна пастановы дык мне здаецца што Белапы посьпяшаўся і запалітыканіўся як заўсёды, іначай кажучываскачыў як Пілiп з канапель. Не дзівіць мяне агульная яго ідэйная ўбогасьць і наіўнасьць у паасобных меркаваньнях але заклікае на развагі той бадзёра-крыкліва-камандорскі тон і пэўна ўстаноўка на закалоканьне. Зусім зразумела што я да артыкулу А. Адамовіча магу мець прэтэнзіі з пункту гледжаньня медадалёгічнаго падыходу да матэр‘ялу, які мне здаецца не зусім удалым, ад чаго артыкул шмат траціць з навуковаго пункту гледжаньня, але я цалкам і безумоўна пратэстую супроць спроб Белапу прыпісаць яму тэндэнцыйнасьць і неаб‘ектыўнасьць. Я лічу што і ў іншых сяброў рэдкалегіі другіх думак не будзе, а калі будуць, дык прашу цябе агаласіць мой погляд. Я бы рабіў Вам адповедным чынам рэагаваць на пастанову Белапу (а па маему адгукнуцца трэба), пры чым у спакойных і павальных танох, захаўваючы сваю годнасьць і пашану да грамадзтва і саміх сабе. У адказе я бы лічыў патрэбным схіліць увагу на тым, што няма нічога дзіўнага і тым болей палітычна шкоднаго ці няправільнага ў тым, што тая ці іншая школа альбо навучальная ўстанова цалком захоўваючы свой клясавы зьмест рыхтуе для сваей клясы патрэбные ей кадры. Так напрыклад дваранскі ліцэй даў Пушкіна і інш., розначанная бурса —Дабралюбава Пісемскага і інш. Ну а пралетарскі БПТ* даў П. Труса і ад падобнай аналёгіі, ажытай аўтарам, мне здаецца ніякім палітычным скандалам нават і не пахне.*

*Па другое, усе абвінавачваньні ў “жульніцтве” (што за ганебная тэрміналёгія!) могуць быць Вамі адвергнуты*

*Беларускі педагагічны тэхнікум — *рэд.*

*звычайным парадкам — апублікаваньнем дадатковых матэр'ялаў, якія ў Вас маюцца і якія гавораць аб тым што П. Т[рус] імкнуўся ў арганізацыю і што толькі яго палітычная невытрыманасьць прымусіла нас устрымацца ад яго залічэньня ў сябры арганізацыі. І зрэшты трэба пратэставаць супраць таго што Белапп узяў на сябе, апраўданаю толькі яго легкадумнасьцю, сьмеласьць і калі хочаш нахабнасьць гаварыць ня толькі ад імя усей совецкай грамадзкасьці але і партыі! За гэта яму трэба даць па лапках — бо няхай не бярэ на сябе "груз непасільны". Мы за партыей і разам з партыей пад яе кіраўніцтвам, але не думаю, каб паміж партыяй і ўсім Белаппам з усімі яго вантробамі і прыяцелямі можна было паставіць знак роўнасьці. Паміж імі дыстанцыя большаго маштабу. Справа ідзе аб спаборніцтве за гегемонію ў пралетарскай літаратуры і тут можна гаварыць толькі фактамі творчасьці, але не палітыканствам. Вось гэтыя мае заўвагі прашу прыняць пад увагу калі будуць прымаць пастанову. І нарэшце апошняе пытаньне — гэта артыкул "Зьвязды". Яго інспірованасьць бязпрэчная, як роўна і ганебная трактоўка асобных сказаў. Ён па моему накіраваны выключна на тое каб раскалоць аб'яднаньне. На яго, я зважаю, зусім ня трэба адказываць публічна. Як роўна нам нічым і ні ў чым няма патрэбы "каяцца" і ад каго там ні было адмяжоўвацца. Бо тыя што "кляліся", першы ўдар атрымалі са старонак нашае часопісі і на гэтай я лічу зусім правільнай лініі нашага аб'яднаньня нам трэба заставацца і на далейшае. Аднак усю вострасьць пытаньня літаратурнаго жыцьця і яго своеасаблівасьцей трэба паставіць на абгавор згуртаваньня і калі ў каго што ёсьць, няхай сумленна скажа, каб потым не было жадных нараканьняў. Галоўнае не трацьце роўнавагі, будзьце спакойнымі, а гэтая лабуда перамелецца. Бяда ўся у тым што зараз у Менску няма такога аўтарытэтнаго чалавека, з якім можна было-б гаварыць, а таму яшчэ раз раю больш спакойствія, роўнавагі. Пераможа той хто мае мацнейшыя нэрвы. Ну бывай, пішы аб вашых задачах.*

*Твой Фэлікс.*

*P.S. Было б добра каб хто з Вас пад'ехаў у Маскву да нас. Мы бы абгаварылі ўсе пытаньні, бо нам выехаць і няма як і няма рацыі.*

*Дарагі братка Адам!*

*Сягоньня ў мяне такое ў пачуцьцях: вакол усё добра, усё на зямлі зроблена так як хацеў чалавек, жыцьцё чалавека на зямлі даведзена да максімума шчасьця. І ўсё ж нейкі смутак, які гранічыць з роспаччу, на зямлі. Ён можа не ў ва ўсіх, ён можа толькі ў некаторых індывідумах з чалавечай пароды, але ён ёсьць. Нават калі чалавек перамог сьмерць, калі ён зьнішчыў усю агіднасьць, усё безобразие ("мерцающие" чэрві, якія точаць мерцвяка) то й тады застанецца смутак, ён застанецца ў імя тых пакут, якія былі некалі на зямлі. А тым часам-жа на зямлі як і на ўсім сьвеце нішто не давядзе нічога да шчасьця. Не да шчасьця, гэта вельмі адноснае і мізэрнае слова, над якім заўсёды можна сьмяяцца, не да шчасьця, а да нейкага "упорядочения". У аснове-ж сьвету ляжыць прыгнечаньне — натуральны падбор — кветкі зацьвітаюць на глебе ўгноенай сьмерцю-трупамі ранейшых кветак. Самы кругазварот матэрыі ёсьць паяданьне аднаго другім, зьмена формаў ёсьць сьмерць формаў — формы матэрыі, але-ж гэтыя формы жывуць і адчуваюць! Адгэтуль вывад: пры такой аснове ў пабудове сьвету, нешчасьце формаў матэрыі ў тым, што вышэйшыя з іх адчуваюць — зьяўляючых жывымі, жывуць... Што страшна тут? Страшна ня сьмерць, страшна бясьсільле, немагушчасьць: я не хачу ўміраць і нічога не магу зрабіць, каб жыць. А жыць, гэта значыць есьці ўсё тое што жыве і хоча жыць. Гэта ўсёроўна як-бы ўвесь сьвет загарэўся і чалавек у межах гэтага сьвету пачаў шукаць збаўленьня ад агню (Буддзізм?!). Адгэтуль яшчэ адно вынікае: уяві ты сабе што топіцца карабель на моры. Гінуць тысячы людзей, тысячы пудоў золата, гінуць машыны; страшныя прылады для набыцьця сьмерці і для набыцьця жыцьця... Можам уявіць што тут гіне якая небудзь вялікасьць, усеабдымнасьць. І разам з усімі тут гіне, скажам, пачатак папярос "Сафо", схаваны ў кішэню аднаго з тых людзей, што гінуць. І от каб гэта хто небудзь з берагу, бачачы як гіне карабель, закрычаў:*

*— Браткі мае, папяросы Сафо гінуць!*

*Дык от калі параўнаць сьвет з караблём, што ці не зьяўляюцца ўсякія "войны і заваявання", усякія "войны і заваяваньня", усякія "великия переселения народов" папяросамі "Сафо"?*

*Нічым гэта я кіравацца і ня думаю, гэта я толькі зрабіў мерк[аванне] для таго, каб пазнаваць узасьць і шырыню. Усе вялікія паэты сьвету ведалі гэтую шырыню, у сваіх творах яны выяўлялі ўсё так, што творы іх застаўлялі і адчуваць і думаць, нашы паэты гэтага ня маюць. Я ўчора вечарам пераглядаў сучасных расейскіх вершапісцаў і мне стала весела: яны ня йдуць перад намі, у іх цяпер такая-ж убагасьць як і ў нас. (Пацешыўся!) Мне здаецца, што наша эпоха шэдэўраў ня дасьць — упадак думкі і пачуцьця і ўзвышэння фразаў. Загэтым і расьце цяпер у нас мастацтва прамоўцаў і фізкультура. "У здаровым целе здаровы дух" — нядаўна ў Цімкавічах была шамятуха — хлопцы расквасілі некалькі галоў і вакон. Цела ў іх здаровае як у бегемотаў. Не думаю я, каб у часе шаметукі дух іх заставаўся пасыўным.*

*Сягоньня на гэтым канчаю.*

*К. Пішы як нашы справы.*

*[15. 6. 26]*

***

*Братачка мой родны Адам!*

*Зьбіраюся ўжо скора выяжджаць у Менск. "Ужо сплывае бялявы іней і ўсходзіць сьвежае руно". Але ўсё-ж некая, ні то трывога, ні то некі непакой, бясформенны і незразумелы мяне гняце. Можа гэта проста такія адчуваньні жыцьця. Якраз цяпер працую над Буланым, маім верным другам. Ня ведаю, што скажуць пра яе тыя, што будуць чытаць, а мне здаецца, што тут у лірыцы, часамі ледзьве прыметнай, разгортваецца тонкі і зусім лёгкі гумар, а ў маленькім песімізме — вялікі аптымізм. Нічога. Пішучы й думаючы — можна жыць на гэтым сьвеце.*

*А тут яшчэ ліха на яго некае адуваньне, што там майго зборніка не пускаюць у друк — можа памыляюся, але неяк так здаецца. Не здаецца, а адчуваецца. Быў я, братка ты мой, у клініцы [з] Уладзем. Справы мае лепш як я думаў, а яго горш, як ён думаў. Але, наогул, усё добра.*

*Напісаў я тут стольکі колькі ў Менску за паўгода не пісаў — мяшае там праклятая газэта. Многа сабраў матар'ялаў, многа перадумаў. Больш расплюшчыў вочы на тэатр і думаю сур'ёзна заняцца ў гэтай галіне.*

*Напісаў я, каб ты ведаў, адно апавяданьне, дзе ёсьць такая сцэна: у піўной фэльетаніст чытае свае вершы, а рэпартэры,*

*маладыя пісьменьнікі, а найбольш журналісты, ацэньваюць іх, дык дзе мне было ўзяць для фэльетаніста вершаў? Я, што робяч, узяў ды сам "сачыніў":*

*Капусьціць порткі,*
*Прэцца ў чыстым полі.*
*Ды ўсё гукае, енчыць як сава.*
*То чаго ты: гэта-ж твая оля.*
*Эх дурная-ж ты, яйбогу галава*
*Калі ўжо так,*
*Калі ўжо так прышлося,*
*Калі ўжо мох ды верас стаў чужым —*
*Схваці за яйца ты тхара ці лося*
*Ды ім дваім пад хвост ты паглядзі*

*Пасьля ў другім месцы таксама трэба было, дык тут ужо памог Уладзя:*

*У дынамічна-бэтонную восень*
*Я порткі рукамі падціснуў*
*Песьню гармонік калосіць*
*Эх нырну? у сьвісьце.*
*У рыштках шалёныя арыі*
*Прозалаць ліпы слупамі*
*Сьпяць сутарэньні і тратуары,*
*Сьвецяць пупы-ліхтары.*

"
— —

*Дык от, весялей троха...*

---

*Усяроўна як гэта хто палажыў на тачыла маю душу ды вытачыў яе — так неяк усё востра пачало адчувацца.*

---

*Бачыў у труне Есеніна. Ці не заставіць гэта "многіх" задумацца аб нашым быце, пісьменьніку? Бо сапраўды, мы гэта як тая крынічная вада, што скупа прабіваецца праз зямную кару.*

---

*Братка, з самага цямна пішу, утаміўся і не канчаю, усяго не сказаўшы: хутка ўбачымся, а то яшчэ напішу.*

*Твой Кузьма*

*Другая гадзіна, а Уладзік сьпіць — цэлую ноч пісаў ён вершы.*
*Прывітаньне тваёй жонцы, Казі, Каці.*
*К.*
*21.1.26 г.*

***

*Братка Адам!*

*Цяпер, значыцца, (такое дзела, сусед выходзіць) пашла індустрыяльная барацьба супраць народнай цемры — шаптуны, усякія забабоны патроху выводзяцца. Дык я от цяпер сяджу ў такіх абставінах, што думаецца мне: замест старых шаптуноў — цёмных і несьвядомых саматужнікаў вырас і вырастае кадр новых, маладых індустрыяльных і цывілізаваных (кваліфікаваныя шаптуны).*

*Пішу гэта я з глухога хутару, вёрст 8 за Цімкавічамі. З вакон відаць вёску. Здаецца, што гэтыя старыя хаты яшчэ горш агарнуліся зямлёю і пазарасталі зельлем. І такая нудота там і такая ціхасьць, што думаецца: у душы гэтых людзей ніколі няма ніякага бунту. І от індустрыялізацыя гаспадаркі, жалезнасьць, а значыцца нейкая цьвёрдая веліч. Але бяда ўся ў тым, што ў нас машынізацыяй гэтых хат заняліся "поэты". Напіша ён, ліха яго матары, вершык, у якім заклікае машыну прыйсьці й агарнуць гэтыя хаты. Кліча-кліча — ня йдзе машына! тады ён каля песьні апіраецца. Гэта якраз як шаптуны заклікаюць здароўе да хворага.*

*Гэта я раніцою паднімаюся з пасьцелі і такія думкі прыйшлі.*

*У гэтай глушы вельмі было-б слаўне, каб не пасьля гораду. Такі смутак пакрывае палявыя прасторы, нават ён адбіваецца да людзей — у жанчыны, якая год ці два як пайшла замуж — твар здаецца старым, памятым... І ўсё вакол у жыцьці, як у таго шаўца на акне, у непарадку. Тут, у гэтага чалавека, што небудзь калі выплыве ў думках, дык мільгне і забудзецца, загэтым і няма "плянавай", а ўсё ўрыўкамі й кавалкамі. Няма калі і няма як думаць і тварыць гэтаму чалавеку. Мусіць загэтым і філёзофія кожнага народу заўсёды зьяўляецца сырым матар'ялам. А нашы паэты гэтага матар'ялу не бачаць, ды твораць свой сырэц.*

*Гаспадыня хутару нядаўна мне сказала:*

*— Ня вам кажучы мне вельмі сярэдзіна баліць. Хоць бы золата ляжала — трудна нагнуцца.*

*От якія адносіны да золата. Гэта значыцца адвечная беднасьць і пастаянныя жаданьні і мары стаць багатым.*

*Мусіць чалавек вечна шукаць будзе нейкае золата і ўсёроўна ніколі яго не знойдзе.*

*II. IX.26 г.*

***

*Браце Адам!*

*Антон у мяне пытаў, і нават добра пытаў, але-ж усё роўна нічога не памагло справе, бо Гомель вельмі — ліха на яго — далёка ад Менску і мне нязручна самому шукаць згубленых там рукапісаў. Я напісаў у Гомель каб яны адшукалі іх і пусьцілі ў гэты нумар. Антон якраз можа быць сьведкаю, з якім мы разам хадзілі да Ханіна. Якраз тады, калі я пісаў, ён сядзеў ад мяне зьлева і здаецца нават трымаў у руках маю палку(хоць за гэты апошні факт паручыцца не магу). А Ханін сядзеў ад мяне направа. Тады якраз пачынала зьмяркацца. Матар'ял у нумар сабраўся от які:*

*К. Калюга. Ні госьць ні гаспадар — 2 ар.*

*К. Чорны. Сястра (канец) — 1 ар.*

*К. Чорны. Верасьнёвыя ночы (апав.) — 1 ар.*

*А. Адамовіч. М. Гарэцкі — 2 ар.*

*Ю. Бярозка. Партрэт Бядулі — 1 ар.*

*У. Дубоўка. Пра новы раман К. Гамсуна — $1^{1/4}$ а*

*М. Равенскі. Гармонізацыя беларускіх народных песень маскоўскімі кампазітарамі.*

*Можа трохі менш. — 1 $^{1/4}$ а*

*Вазьнясенскі пра Коласа — 1 $^{1/4}$ а*

*Хлябцэвіч — 1 $^{1/4}$ а*

*Ластоўскі — Прычынам... — 1 $^{1/4}$ а*

*Егіш Чарэнц (армянск). Вось іду я да вас (верш) — 12 радк.*

*Яшчэ не рэдагаваны вершы, кагадзе прысланыя, С. Дарожнага, не прыслаў яшчэ аповесьці З. Бядуля, Пушча пад першае чысло прышле свае творы. "Культура мовы" складзена з вестак маіх, Калюгі і Ліхадзіеўскага.*

*У Гомель пасланы — Бярозка, Дубоўка, Ластоўскі, [Суніца]. Заўтра пашлю тое, што гатова ў галоўліце. Наконт-жа некаторых матар'ялаў прыдзецца параіцца, дзеля гэтага трэба будзе прыехаць пад нядзелю (калі атрымаю пэнсію). Антон канчае свой артыкул і адначасна перакладае Вазьнясенскага.*

*З водпускам мне не пашанцавала — увесь, можна сказаць, час было холадна і мокра. А Цяпер у горадзе нудна, нікога няма, няма куды дзецца, ды нешта не працуецца, цягне назад у вёску. Гэтымі днямі быў Язэп. Мы з ім разам прабаўталі шмат*

*часу, нават вечарам хадзілі на музкамедыю, але да канца не дасядзелі. Бядулі ў Менску ўжо не застаў.*

*Гаварылі з Язэпам аб рэарганізацыі часопісі. Ці ня лепш было-б яе зьменшыць, а частку твораў выдаваць асобнымі кніжкамі. Бо кніга і праз пакаленьні не страціць сваёй вартасьці. Прынамсі дзеля публікі — яе можна распаўсюдзіць. Але каб выдаваць часопісь меншую, але штомесячна. А можа часопісь заставіць так як ёсьць, але аркушы 2 урываць з кожнага нумару дзеля літаратурнай газэты? У ва ўсякім разе вельмі нядобра, што 2 месяцы пра нас кожны раз ні слуху ні духу. Дубоўка знаходзіцца ў Касьцюковіцкім раёне на Калініньшчыне, а Лужанін прыслаў Антосю сёньня ліст, у якім нейк блытана гаворыць што ажаніўся.*

*Прывітаньне жонцы, Кандрату і Кандрацісе. Цалую цябе.*

*Кузьма*
*24. VII. 28 г.*

*Мой адрас: Вуліца Чырвонага Сьцягу № 6 Раманоўскаму М.*

**Падрыхтавалі да друку Ганна Запартыка, Віялета Кунская.**
**Публікацыя Алесі Бабарэка.**

## Ліст Максіма Лужаніна да Пятра Глебкі

*24 чэрвеня. Прусы.*
*1926 г.*

*— "Опять я в деревне, хожу на охоту,*
*пишу мои вирши, живется легко..."*
*Некрасов*

*Здароў, братка ! І хацеў бы мінуць гэта замызганае слова "здароў" да няма другога, ну але аб гэтым хай падумае Байкоў. Як бачыш я дома ўжо другую нядзелю, а аб табе ні слуху, ні духу, "Разрешите дать вам выговор за то, что вы не сообщили мне "як паглядзела ЦК КПБ, а гэта важна. Я думаю, што ты паклапоцішся выправіцца і такога "кабана" больш не падложыш. Ну, усё гэтае "не суть важно". Цяпер аб уражаньнях. А стоіла б даць табе ўз'....ку.*

*Нарэшце я ў такой грамадзе, якая больш усяго мне па сэрцу. Каты колькасьцю 5 асоб, сабак трое, коні й клёны, вішні, бярозы, каласы, ну, знаеш мой густ. Людзі "пахнут рыхлыми драчёнами" ў ціішыні чутны божыя крокі, кроткі спас едзе спасаць зямлю на рыжай кабыле.*

*Арыгінальные камсамольцы верхам камсамольства лічаць наваляць найбольшую кучу на самым парадным царкоўным ганку, што й робяць акуратна кожны вечар. З гэтага боку яны карыстаюцца падтрымкаю і адобраньнем тутэйшага настаўніка, мабыць і ён памагае ім у "антырэлігійнай пропагандзе". Ня хачу расчароўваць іх, ды што дарэмна іх расчароўваць — усе мы на памылках вучымся.*

*Дарогаю я крыху прастыў і праваляўся днёў 3 у ложку. Але цяпер хаджу і, па выразу немца, "абсіраю окрестности". Кормяць мяне на ўбой, да восені буду падобны да Якімовіча. З настроямі, маракою, дрвінамі і іншым здаецца (толькі здаецца!) кажу, ніхто мяне не разумее, усе тут ідэалісты. За гэты час, як дома, сумеў прыцягнуць сабачыя, кацінья сымпатыі і цяпер ня маю ратунку. Кожную раніцу гадзін у 6 спачатку да ложку зьяўляюцца кураняты і пяюць такі дуэт (з мэтаю каб прачнуўся), што я выкідаю іх на двор. Праз паўгадзіны зьяўляюцца каты — адзін пахож на Пушчу — такі ласкавы, але гэта народ дэлікатны, з тонкімі галаскамі пры слове "псссік!" разьбягаюцца па ўсім куткам. А калі прыходзяць сабакі — уставай "chоc nie chcesz, musisz!" (хцэш, а мусіш!). Старыя стаяць і павольна махаюць хвастамі, а малады, як найбольш неўраўнаважаны ў сваіх "зялёных" пачуцьцях лезе на ложак, зьдзірае простыню і ліжа мяне ў самыя губы, потым ад паўнаты і чыстаты сэрца становіцца над вухам і пачынае брахаць сіплым басам на самае вуха. Калі я спускаю ногі, каб палкаю выправадзіць нязваных гасьцей, старэйшы з дэлегатаў кладзе лапы мне на грудзі і тройчы цалуецца, а рэшта заяўляе жаданьне зрабіць тое самае і толькі сьціху завывае. Відзіш, якая ідылія!*

*А ў дзень лугі ахвотна пасьцілаюцца пад маёю сьпіною і нічога ня кажуць мне аб здрадзе і іншых рэчах,якімі я дарэмна мучыў сам сябе. Неяк пішацца як па смале, няўдала, гумар сухі... Будзем казаць адкрыта — Валя! У гэты момант усё! А ты не напісаў нічога! Буду пра яе пісаць на другі баку, а то разам з сабакамі, яшчэ страціць хараство!*

*Почему ж это между строками*
*просочилась расою тоска,*
***словно девушка синеокая***
***не взглянув отошла от окна...***

*З гэтакім адчуваньнем выехаў я з Менску і жыву цяпер дома. Вышла так глупа, вечар — перашкодзіў брат, а потым ня было выпадку ні пагаварыць, ні разьвітацца. А так вось і стаіць перад вачыма у сваім шэранькім плацейку з памятымі косамі і нейкаю крыху сумнаю ўсьмешкай. ... І ў дзень, і ў начы... Вялікая штука каханьне, але ня меньш вялікая і цішыня. Яна найлепшы доктар ад усіх ран і вось тут у цішыні на волі я аналізую, сынтэзую і арганізую сваё пачуцьцё да Валі. Па-першае, ёсьць два роды каханьня (таксама, як падзел дзяўчат — мой індывідуальны погляд) мужчыны-хлапца і дзяўчыны. На аснове ўласнага вопыту, а таксама і з наглядальняў, мне здаецца, што хлапцу, каб пакахаць, ня трэба зьліваць гармонію духоўную з цялеснаю. Мы можам захапіцца дзяўчынаю (Алеся Ш.) толькі таму, што яе характво адбіваецца так ці іначай на нэрвах і дзяўчаты найбольш разрознены — ці хараство і пустата, ці "харя" з душою.*

*У гэтых адносінах Валя — акорд, акорд вялікага кампазытара, у якім зьлілася і прыгожая знадворная ахварбоўка гукаў і глыбокі ўнутраны сэнс.*

*Звычайна хлапец, нагнаўшы аскоміну на "бабёшках", ня можа ўглыбіцца настолькі, каб пакахаць і за цела, і за душу і выпадкі зьліцьця душы й цела ў хлапцоў сустракаюцца вельмі рэдка. Калі падумаць якое пачуцьцё ў мяне? На першы погляд духоўнае, але я ведаю, што не пакахаў бы Валі з інакшаю "наружностью", таму што яна абразіла б маё эстэтычнае пачуцьцё, пачуцьцё поэта не памірылася б з якою-небудзь "воўчаю харай". Можа ў інакшых умовах я б зрабіў бы падразьдзяленьне, але ў гэты момант яна для мяне тое ж, чым была Фаусту Маргарыта (Фауст захапіўся таксама не адным хараством), а я цяпер да некаторай ступені Фауст і таму, каб жыць, трэба мець спадарожнікам такі шчасьлівы акорд як Валя.*

*Возьмем Ларысу, у кожным слове — душа, дзяўчына разьвітая, чаго б больш, аднак маё эстэтычнае пачуцьцё бунтуе, і адабрае яе ня больш, як таварыша шчырага і разумнага, якім*

*зможа быць ня ўсякі хлапец. Тады як Ларыса — толькі адна нота, а Валя — акорд. Гэта прыклады.*

*Значыць і як выключэньні сустракаюцца хлапцы, што любяць за душу і цела, і дзяўчаты, у якіх гэтыя якасьці зьліты. У жанчыны гэтыя якасьці ня могуць быць разрознены. Напрыклад, дзяўчына захапляецца прыгожым злодзеям, але яна ведае, што зладзейства адмоўна, таму, каб пакахаць яго, яна пачынае яго ідэалізаваць, на нейкі час робіцца такою, як ён.*

*Мужчына завалодвае жанчынай не кахаючы яе духоўна, але калі аддаецца жанчына, то безумоўна яна спачатку будзе ідэалізаваць той бок, якога не дастае ў яе выбраньніка. Пры здрадзе мужчына раўнуе толькі часамі і мучыцца толькі духоўна, жанчына раўнуе заўсёды, не залежна ад таго, якая сволач бы ня здрадзіла ёй і мучыцца і духоўна, і цялесна.*

*Мне здаецца, што я высоўваю досыць правідловыя тэзісы і кажу, што каханьне жанчыны, — гэта сапраўднае каханьне. Яно шмат вышэй за мужчынскае, але вельмі і нямоцнае. Ты над гэтым падумай: напішы мне сваі думкі і соймаваньні.*

*Але я думаю, што табе надаела гэтая антымонія і я буду канчаць, толькі яшчэ некалькі слоў ужо агульных.*

*Адносна "соперников" ("сапёрднікі"): адзін сур'ёзны — Серада. Адступаць я цяпер, каб аддаць яе Серадзе, не магу і не хачу, бо брыдка складаць зброю, значыць, трэба адкрыты бой, а я больш усяго баюся погаласкі — яна, як курва, зганіць усё, што табе міла. Усё-такі трэба змагацца з Серадою.*

*Тут справа такая: Чацкі і Малчалін. Скарэй што перамога будзе за Малчаліным, бо пылкіх, прастадушных Чацкіх жанчыны баяцца, у той час як першыя бяруць надворным бокам.*

*Вот якая гісторыя...*

*Адамовіч... Ён быў лепшы хлопец, а цяпер ён нацягвае на сябе нейкае "ухарства", што яму ня йдзе, ён хоча быць такім, як і мы, у той час як у яго ў натуры заложана нешта такое, што пярэчыць гэтаму. Потым яго салідарнасьць нейкая няшчырая, я прыкмячаю, што гэта асоба партыі КВД[30] з кім ні гаворыць, дапасоўваецца да яго, а ў рэчавістасьці роўна ня любіць нас усіх, а мае нешта іншае.*

---

[30]Куды вецер дзьме, — расшыфроўка з словаў аўтара ліста ў гутарцы зь ім 28 сакавіка 1999 г. — *рэд.*

*Вазьмі, ён ніколі ня выкажа першы погляда на якую-небудзь рэч, чакае каб сказаў ты або я і далучаецца без'умоўна. Мне здаецца, няма чаго з ім быць так адкрыта. Разумееш?*

*А як мае дэрыктывы? Ці ты прарабіў што ў гэтай галіне? Глядзі, брат!*

*Канчаю поэму...*

*Забруйся, зьвініць пакос,*
*і гудуць камары на паляне,*
*ў чорным шоўку распушчаных кос*
*бачыў я Беларусь над палямі.*

*Нeяк вольна дыхаеш! Добра цэлы дзень на сонцы, усё смуглею і здаравею душою.*

*Чытаў кнігу каханьня цара Саламона ў арыгінале, пра тую самую Суламіф, што так удала абмалявaў Купрын у апавяданьні. Якім зноем, духатою першабытнага каханьня павявае ад гэтай кнігі. У ёй 8 глаў вельмі кароценькіх, але вельмі моцных эмоцыянальна.*

*Ёсьць такія радкі:* " любы побѣждает вся "
*—так "каханьне перамагае ўсё".*

Положи мя яко печать на сердцы твоем, яко печать на мышцѣ твоей:
зане крепка яко смерть любы, жестока яко адъ ревность:
крила ея крила огня (оуглiе огненно).

*Наогул уся біблія вельмі поэтычная кніжка, толькі тоўстая занадта, не наважышся прачытаць, а кнігу каханьня Саламона я пералажу ў беларускую мову. Наогул, брат, там столькі ўсяго ўсякага, што можна страціць галаву.*

*Ну, купіў ня купіў, патаргуем. Бывай здароў.*

*Не забывай адрас: Прусы, Чапялеўскі с/с, Старобінскі район, Слуцкая акруга.*

*/подпіс/*

***<u>Падрыхтавалі да друку Яніна Кісялёва і Марына Ліс</u>***

*Факсіміле з рукапісу М. Лужаніна

# Лісты Антона Адамовіча ўзвышанскага перыяду

У асабістым архіве беларускага пісьменніка, акадэміка АН Беларусі Пятра Глебкі /1905-1969/ захаваліся лісты беларускага літаратуразнаўца і гісторыка Антона Адамовіча /1909-1998/, адрасованыя Глебку.

Пад час сяброўскай перапіскі Адамовіча з Глебкам абодва яны былі яшчэ зусім юнакамі /Адамовіч нават крыху маладзейшы/, разам вучыліся ў Беларускім педтэхнікуме ў Мінску, былі членамі літаратурнага аб'яднання "Узвышша", разам некаторы час вучыліся ў БДУ. Пазней іх шляхі радыкальна разыдуцца. У час Вялікай Айчыннай вайны Пятро Глебка служыць у Чырвонай Арміі, працуе ў рэдакцыях франтавых газет. Пасля вайны — ён вядомы вучоны, акадэмік, прызнаны паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч.

Зусім па-іншаму склаўся лёс Антона Адамовіча. Арыштаваны ў 1930 годзе па абвінавачанні ў прыналежнасці да так званага "Саюза вызвалення Беларусі" /на самай справе такога ніколі не існавала/ , ён быў высланы і на працягу 8 гадоў "вандраваў" па неабсяжных прасторах Расіі. Толькі ў 1938 годзе ён змог вярнуцца ў Мінск з сумным вопытам перанесеных нягодаў. Гэта налажыла адбітак на ўсё яго астатняе жыццё. У час вайны Адамовіч супрацоўнічае з акупацыйнымі ўладамі, у прыватнасці ўваходзіць у кіраўніцтва "Беларускай народнай самапомачы", удзельнічае ў выпуску "Менскай газэты". Пасля вайны эмігрыраваў, жыў у Заходняй Германіі, працаваў у эміграцыйных беларускіх выданнях, быў адным са стваральнікаў Мюнхенскага інстытута вывучэння СССР. З 1960 года і да канца жыцця жыў у Злучаных Штатах Амерыкі. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі, культуры Беларусі, займаўся літаратуразнаўствам, у розныя часы спрабаваў пісаць аповесці, апавяданні. Памёр А.Адамовіч 12 чэрвеня 1998 года, амаль на трыццаць гадоў перажыўшы Глебку.

Усяго ў архіве П.Глебкі ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я.Коласа НАН Беларусі захавалася 7 лістоў А.Адамовіча, датаваных 1926-1929 гадамі.

Першыя два лісты напісаны Адамовічам у Мінску і адрасаваны Глебку ў яго родную вёску Вялікая Уса Уздзенскага раёна, дзе адрасат, відаць, праводзіў летні адпачынак. Ліст ад 30 студзеня 1927 г. напісаны з Масквы, куды Адамовіч з Дубоўкам клічуць прыехаць і Глебку, каб пахадзіць па тэатрах, музеях. Затым ліст ад 3 жніўня 1928 г. — зноў з Мінска. Апошнія тры лісты ўжо адрасаваны Глебку ў Мінск — два з вёскі Зямцы Смаленскай вобласці, дзе ў жніўні і пачатку верасня 1929 года знаходзіўся А. Адамовіч, і апошні, ад 23 верасня таго ж 1929 года — зноў з Масквы, дзе А. Адамовіч бавіў час да канца верасня. З лістоў паўстаюць перад намі поўныя энтузіязму таленавітыя маладыя людзі, заклапочаныя сваімі творчымі і жыццёвымі планамі, літаратурнай працай, выданнем часопіса "Узвышша", вучобай. Нельга не адзначыць вельмі ранняе станаўленне А. Адамовіча як літаратурнага крытыка, цаніцеля літаратуры, які даваў слушныя, кваліфікаваныя парады старэйшаму Глебку.

Лічым, што са зместам гэтых лістоў з цікавасцю пазнаёмяцца чытачы гадавіка "Скарыніч".

Лісты друкуюцца з захаваннем аўтарскай арфаграфіі. Расшыфраваць некаторыя імёны ў лістах ласкава дапамог Максім Лужанін, аднагодак і сябра А. Адамовіча па Белпедтэхнікуму і "Узвышшу".

***Яніна Кісялёва***

*Дарагі братка Пятрусь!*

***Выбачай, што ня толькі ня пісаў табе, а навет і з Менску правесьці ня здолеў. Бачыш, затрымалі мяне ў хаце, дык я пёр на вакзал, што той аўтобус, у вабрэз. Але перад самым вакзалам наскочыў на Чучку[31], а той, ведаеш, сухім ня выпусьціць. Хвілін дваццаць, кажа, да пасадкі яшчэ. Ну, я пабазыкаў крыху з ім, ды пусьціўся напорна далей, аж прыпіраю якраз перад другім званком. Ну й што тут параіш — дайце вы сьвет! Я толькі пажадаў вакзалу стацца трохпавярховаю будынінаю ды ўспамніў пры гэтым Чучкаву і /ня бойся, ты тут ні прычым/ сваю маці.***

[31] Алесь Чучка — аднакурснік па Белпедтэхнікуму. Пазней — дырэктар гэтага тэхнікума.

*Пасьля я доўга мучыўся гэтай здрадай перад табою і з дня на дзень зьбіраўся пісаць табе пакаянную. Але гультайства, а ня гэтулькі гультайства, як нявыяўнасьць і некаторая напруджанасьць і некаторая напруджанасьць майго палажэньня заміналі мне "ўцялесіць" гэта. Цяпер палажэньне канчаткова праясьнела, ты можаш мяне павіншаваць навет. Бачыш, я хачу табе "прочувственно пропеть", што НІ Ў ЯКІ ВУЗ Я СЁЛЕТА НЕ ПАСТУПАЮ І ЗАСТАЮСЯ СУЗДРОМ ВЕРНЫМ Б.П.Т.*[32]

*Я знарок пішу табе гэта вялікімі літарамі, чорным /ну, сінім/ па беламу, каб ты мог асазнаць і ўвесь прасякнуцца веліччу гэтай маёй перамогі на ўнутраным фронце. Апрача жартаў, хоць цяжка мне дасталася гэтая перамога, але пасьля яе — гара з плеч! Ну, ты разумееш. Супакой — алімпійскі, адно слова. Толькі што трывожыць цяпер мяне — гэта тое, што я "ў Менску гарбатыш". Трэба выпускацца куды-небудзь, а куды — тож пытаньне. Пішы, братка, як у цябе з Масквою? Пісаў Дубоўку ці не? — Стрыканулі б за кампанію!*

*У Менску ня жысьць, а жысьцянка. Мне ўсё "мерещится в далях за дымами над лугами веселый покос". Вот мадзею тута, басьцяюся, а ні да чаго ахвоты ня маю. Кожны гудок цягніка клічыць... Сыйшоўся быў з сваёй старой цёплай кампаніяй, для якой цяперака вялікі прастор дзейнасьці, ды пасьля двох скандалаў разыйшоўся, каб, мабыць, больш ужо ніколі ня сыйходзіцца.*

*Нуда!..*

*З нашых хлопцаў бачыў аднойчы ніколі "не унывающего"радыомана Міхайлу*[33]*, Пецьку*[34] *і "зелянакосую бярозку Валю"*[35]*, напароўся на яе якраз з 11-м № "Маладога Аратага". Серадовым вершам*[36] *яна была дужа незадаволена і выразіла гэта мне. Цяпер яна і яшчэ некаторыя дзяўчаты з нашага курсу нанялі на дзіцячую пляцоўку нейдзе ля Койданава.*

*Літаратурных і кніжных навін асаблівых няма. Калі ня чытаеш "Савецкае Беларусі" /мабыць, так і ёсьць?/, дык апішу табе ў наступным лісьце. Пакуль што адзначу "Прамень" —*

---

[32] Беларускаму педтэхнікуму.

[33] Міхась Ігнатоўскі, аднакурснік па Белпедтэхнікуму. Сын Усевалада Ігнатоўскага.

[34] Мабыць, Пятро Вярбіцкі, аднакурснік.

[35] Валянціна Платонава, аднакурсніца. Сястра народнага артыста Беларусі Барыса Платонава.

[36] Дарожнага Сяргея.

*студэнцкі часопіс з Чэхаславаччыны, дзе зьмешчана колькі вершаў У.Жылкі, як перакладных, гэтак і сваіх. Вершы ніштаватыя.*

*Адначасна з гэтым, за адным рыпам /але не стэорэтыпам/ пішу ліст да Алеся.[37] Ці пісаў ты яму? — я дык не, і баюся, каб мае навіны ня былі анахранізмамі. Ну, аза сім — канчаю. Пішы, братка, як жывеш-можыш, як творчасьць і г.д. /не забудзься й на Маскву загадаць/, і бывай здароў.*

*30/VI-26 г.   Твой сябра Антось*

*P.S. Мой адрас — Менск, Кажавенная, дом № 31, памяшканьне 1.*

***

*Братка Пятрусь!*

*Толькі адправіў табе ліста, не пасьпеў яшчэ й папалуднаваць, аж бачу — плішчыць пачтальён ліст ад цябе. Ну, думаю — дасягненьні навукі й тэхнікі! Недарма той Паўлюк[38] казаў, што "заўтра нашая Узда пагоніць пошту ерапляням". Споўнілася, думаю, ягонае прароцтва. Бо Слуцак наш, дык, мабыць, пачаў браць прыклад з свайго блізкага суседа Мозыра, і вось вязець, вязець на валох нам з табою Каратаевы[39] лісты, а ніяк давесьці ня можыць. Але, агледзеўшыся, што гэты ліст суздром самаважкі і дагістарычны, я й узяўся дзейнічаць. Што да "вянка", дык я справіўся ў "Літаратурнай энцыклёпэдыі" і вось што даведаўся: бываець вянок сонэтаў і трыолетаў. Вянок сонэтаў складаецца з 15-х /па ліку радкоў у сонэце/ сонэтаў,15-ты, апошні сонэт, або г[этак] зв[аны] магістрал, складаецца з паўтораў усіх першых радкоў усіх сонэтаў; апошні радок кожнага сонэту агульны з першым радком наступнага, так што 1-шы радок магістралу-1-му радку 1-га сонэту і апошняму радку 14-га сонэту, 2-гі р[адок] маг[істралу]-апошняму р[адку] 1-га сон[эту]і першаму р[адку] 2-га сон[эту], 3-і р[адок] маг[істралу]-апошняму радку 2-га сон[эту] і першаму р[адку] 3-га сон[эту] і г.д.; апошні радок магістралу-апошняму радку 13-га і першаму 14-га сонэтаў.*

---

[37] Максіма Лужаніна.

[38] Паўлюк Трус.

[39] М. Лужаніна.

*Вянок трыолетаў будуецца на тым жа прынцыпе, але не рэкамендуецца, бо атрымаецца загусты /шмат паўтораў як паасобных радкоў, гэтак і рыфмаў, бо трыолет сам па сабе форма з паўторамі/. На мой погляд, вянок сонэтаў будзець цяжкаватым, бо ён патрабуець добрага сюжэту, стройнасьці ў разьвіцьці яго, яснасьці думак і выбіральнасьці, ці што, ня кажучы ўжо аб добрай "набіўцы рукі" на пісаньні сонэтаў, але калі ты выканаеш усе гэтыя ўмовы, дык гэта будзіць для цябе вялікім дасягненьнем. Вянок жа трыолетаў, апрача вышэйпаказаных хібаў, маець той як бы дадатны бок, што ім ніхто /ці ўва ўсякім выпадку, мала хто/, здаецца, ні займаўся. Адно слова, усе досьледы, больш-менш закончаныя, у гэтым кірунку прысылай мне, я гэтым дужа цікаўлюся, а таксама, якія спраўкі што да форм могу табе навесьці.*

*З пасьведчаньнем — я быў у тэхнікуме, Радзеўскага — астранома няма, яго замяшчаець "сябро" Пяткевіч. Ён мне сказаў, што пасьведчаньне ў гэткай форме ён заверыць ня можаць, а можаць заверыць толькі ў другой, паводле якой бралі падобныя пасьведчаньні другія студэнты. Я напісаў поводле ягоных словаў і пасылаю табе, калі будзець мала ці што ня так — звані, для цябе патурбуюся з прыемнасьцю заўсёды. Наагул, "ня скісьняйся"!*

*Адносна Каратая, паўтараю яшчэ раз, што дагэтуль ён мне ані гу-гу. Я адправіў яму ліст разам з першым лістом да цябе, як і пісаў тамака /атрымаў ты той ліст ці не?/.*

*Думаю, што ты той ліст атрымаў, дык больш мне пісаць асабліва няма чаго. Літаратурных навін мала, хай "паднакопяцца" да наступнага ліста. З хлопцаў бачыў адно "злаполучнага" Чучку, ён прыладзіўся на службу на 45 р. нейдзе ў страхаваньні і цьвёрда думаець паступаць у ВУЗ.*

*У мяне з гэтым справа, ведама, без ніякіх зьмен /значыцца, не/.*

*Цяпер у мяне сядзіць Міхайла. А тут яшчэ бацьку скула села на плячах, трэба бегаць усюдых. Дык пакуль што бывай здароў, пішы!*

*Начальнік узброеных сіл Камчаткі /калі ты ўжо ўзьняў гэтую традыцыю/, паручык...*[40].

*Архібандзіт Міхайла*[41].

*P. S. Яшчэ забыўся! Зайздрую табе, ўто ты ў гэткай прыгажосьці цяпер, зайздрую, хоць ты й пішаш, што хандрыш. Мне ў тысячу разоў горш.*

*Прыедзеш — заходзь!*

---

[40] Далей неразборлівы подпіс.

[41] Гэта прыпіска іншым почыркам.

*Настойна думаю ціканоць з Менску на лета.*

*Пішы ж, што з лістом да Дубоўкі й Масквою!*

*Ці добра я табе адрас напісаў /баюся за "прыдыханьні"/? І канверт з цэлага лесу!*

*Ну, баюся, што гэты ліст заважыць і табе прыдзецца даплачваць. Дык бывай.*

*Твой сябра Антось*

*21/VII — Менск*

***

*30-І — 27 г.*

*Дарагі братка Пятрусь!*

*Прывітаньне табе з Масквы ад мяне і Уладзіка*[42]*. Ён дужа нездаволены, што ты ня прыехаў і раіць табе, калі маеш толькі магчымасьць даехаць да Масквы /грошы на білет/, направіць гэта. Тут нядаўна быў Кузьма*[43]*, гасьцяваў блізка тыдзень. Хутка выходзіць першы нумар. Вало*[44] *зрабіў даволі ўдалую марку /хутка будзець гатова ў цынкографіі тут/, ёсьць яшчэ сякія-такія навіны, але аб іх пісаць у паштоўцы ня выпадаець / наагул, прашу прабачэньня за паштоўку, на ліст духу не хапіла — напісаў аж 3/. Прыязджай, страшэнна хочацца бачыць цябе. Паглядзім тэатры, музэі — я ўсё "гляджу и дивлюся", як казаў Сосюра*[45]*. Мой адрас: Москва, 10, Большая Спасская, д. № 6, кв. 20. С. И. Решетову /для мяне/. Уладзькаў — Москва, 22, Малая Грузинская, д. № 34, кв. 13. Чакаю адказу зараз жа. Да пабачэньня, хочацца спадзявацца — хуткага.*

*Твой А. Ад.*

***

*Дарагі браце Пятрусь!*

*Перш за ўсё — моцна трасу тваю руку за твае вершы. Першае ўражаньне, якое яны зрабілі на мяне, — цалкам дадатнае, калі ўжо абмяжоўваць свае выказваньні, г[эта] зн[ачыць], калі не*

---

[42] Уладзіміра Дубоўкі.

[43] Чорны.

[44] Алексантэры Ахола-Вало, вядомы мастак. У 1919 — 1930 гг. жыў і працаваў у Беларусі.

[45] Уладзімір Сасюра, вядомы ўкраінскі паэт.

*сказаць больш. Сказаць больш не магу ўжо проста фізічна, бо, не чакаючы другога ўражаньня, я накіраваў іх у Галоўліт, каб пасьпелі да чацьвёртага нумару. Трэба сказаць, што твае вершы бадай што ратуюць агульнавершавое, так сказаць, палажэньне чацьвёртага нумару, бо ў яго пакуль што паступілі слабыя Сярожкавы*[46] *"Вячорныя песьні", якія ўжо, пэўна, забракаваны, таксама слабаваты Алесяў працяг "Рабінавага шчасьця", "Краіна нязнойдзеных вачэй", які, мабыць, таксама будзе забракаваны Адамам*[47]*, Пушчавы вершы — хоць і надзвычайна моцныя /працяг "Лістоў да сабакі" — "Апошні ліст" і "Стрэча" ды "Лісты да паэтаў"/, але наўрад ці пройдуць Галоўліт, і, такім чынам, застаецца адзін Дубоўкаў перакладны верш. І дужа Добра, што ты апраўдаў надзеі, якія нядаўна выказаў Дубоўка, што ты ў гэты нумар што-небудзь дасі годнае. Ну, але аба ўсім гэтым пасьля, калі не забудуся, а цяпер зьвернемся ізноў да тваіх вершаў*[48]*.*

*Ты просіш сказаць табе пра іх шчыра; я гэта, як бачыш, і зрабіў у пачатку ліста. Праўда, гэта, падкрэсьліваю яшчэ раз, першае ўражаньне, якое я, падобна як і ты, магу выразіць словам "падабаецца". Аднак ня думаю, каб паўторныя ўражаньні маглі грунтоўна яго пахіснуць. Ізноў-ткі, праўда, што і ў першым уражаньні адчуваюцца некаторыя шурпатасьці, "недаробленасьці", пра якія я й думаю пагаварыць з табою зараз, падаць свой погляд на запрапанаваныя табою папраўкі і, сваім парадкам, запрапанаваць табе некаторыя праекты з свайго боку.*

*Перш за ўсё — на дадзенай рэчы адчуваюцца некаторыя чужыя ўплывы. Канкрэтне, адчуваецца ўплыў Дубоўкі, асабліва ягоных "Пераканаваньняў"/верш другі, такія строфы, як "Я чую акорды...", "Стаю заваражаны"/, Брусава /у філёзофічных месцах/ , М. Багдановіча /верш трэйці — "і шапоча ласкава "засьнеце"/ , Рыльскага /там, дзе гаворыцца пра восень/, нават Някрасава / у матчыных песьнях і казках/ і нашага Алеся*[49]*/"Дасьпяваюць яблыкі..." — ягонае "Дома"/. Але пры ўсёй вялікай, як бачыш, колькасьці і рознастайнасьці гэтых уплываў яны адчуваюцца ў*

---

[46]Сяргея Дарожнага.

[47]Бабарэкам.

[48]Тут даецца аналіз падборкі вершаў П. Глебкі "Матчыны казкі", надрукаваных пазней у № 4 "Узвышша" за 1928 г.

*рэчы як пераможаныя табою, перапрацаваныя, моцна ўвязаныя, перакрыжаваныя, пераплеценыя з тваім уласным. Таму тут бяды вялікай няма, і што можна было б пажадаць табе ў гэтым кірунку — гэта крыху больш прыхаваць іх, так сказаць, фармальную выпукленасьць. Як гэта зрабіць — табе параіць не магу, мяркуй сам. Калі нават, паўтараю, пакінуць і гэтак, дык рэч нічога ня згубіць... Ты прапануеш у першым вершы паправіць "так" на "і". Я выказаўся б проці гэткай папраўкі. Справа ў тым, што ўжо ў папярэднім радку мы маем два анафорычныя памацняльныя "і", а з новым іх было б у двох радкох аж чатыры — дужа загуста і замоцна /"страшэнная моц" — сказаў бы Сяргей /, а, сам ведаеш, што пачнеш вельмі ўмацоўваць — парвецца.Наконт "дыялектыкі" я мяркую, што "дыялектыка" ўжыць ні ў якім разе нельга; я б мог прапанаваць з свайго боку лепшыя новатворы — "дыялектыс", або "ос". Яны больш стыльныя і "грэцкія", т/ак/ ск/азаць/, але й гэта дрэнна. Ці ня можна тут абыйсьці вобразна: "і нязьменны закон — "дыялектык жыцьця", або перабудаваўшы радок: "Дыялектыка жыцьця — нязьменны закон", тым больш, што рыфма /той радок "халасты"/ гэта дазваляе, а націск "жыцьця" мае поўнае грамадзянства ў нас яшчэ з нашаніўцаў. Ува ўсякім разе "неадменнасьць" ужо горш і процілежна па сэнсу; крыху лепш "нязьінaчнасьць", але таксама дрэнна. Мяркуй сам, як тут зрабіць.*

*У апошняй строфе першага вершу ты, што называецца, "спусьціў" сваю добрую строфічную кампозыцыю, даўшы заміж халастых рыфмаваныя два радкі /"і/ дум" — "ідуць"/, што яшчэ поўбяды, і што найгорш — здрадзіўшы прынцыпу таўтолёгічных рыфм, праведзеным у гэтым вершы: "калосьсяў" — "галосяць". Ці ня лепш было б апошні радок заміж, "а вятры шалясьцяць і галосяць", перабудаваць якнебудзь у духу "шалясьцяць між калосься" ці "у калосьсі"?*

*У другім вершы, па-мойму, лепш не "вялізарных крыл" і не "вялізазных", што па-расійску азначае "грандиозных" і зусім пасуе па сэнсу. У гэтым вершы мне не падабаецца русізм "падзеньні" і зварот "у мацеры сініх вачах", бо, па-першае, сама форма "мацеры" крыху непрыгожая і нагадуе вядомую лаянку, а па-другое, пры хуткім чытаньні атрымоўваецца як бы*

[19]М. Лужаніна.

*нейкі дзеяслоў "мацерыў"... Ці ня лепш было б "у матчыных сініх вачах"?*

*У вершы чацьвёртым я ўжо дазволю сабе выправіць русізм "не апаўшым лісьцем" на "не апалым", а ў пятым — не разумею, нашто бярэцца ў двухкосьсі слова "восем" у злучэньні: "перажытых год". Па-мойму, зусім непатрэбна.*

*У шостым, здаецца, вершы атрымоўваецца крыху заблытана і таму як бы нелёгічна:*

*У сялянскай закуранай хаце відней;*
*Дзеці ладзяць сваю ўрачыстасьць.*
*Лепяць бабу яны... і г.д.*

*Выходзіць, і можна так падумаць, быццам бы "бабу" дзеці лепяць у хаце.*

*У наступных вершах мне не падабаецца: канцоўка аднаго вершу "Калі вочы расплюшчыў — пагасьлі агні", у другім — вобраз "мяне дакранаюцца ветры", у трэцім — нейкі штучнаваты і нацягнены ў кантэксьце вобраз "сьцень ад ног".*

*Здаецца, у 10-м вершы ў цябе ёсьць радок:*

*"і маладзік у бяскрайнай высі..."*

*Я раіў бы зьмясьціць на "і месяц у бяскр/айнай/...", бо, папершае, маладзік тут наагул ня прычым і толькі і стварае антыэўфанічнае "ў", якога ў цябе ўва ўсёй рэчы бадай што няма, а па-другое, "месяц" больш будзе пасаваць і да наступнага радка:*

*"расплыўся ў казачную сінь".*

*У наступным за гэтым вершам няпрыемны дый ня зусім правільны зварот "ня хочацца яму і мухаў адганяць". Лепш і правільней — "мухі адганяць". Таксама няправільны і зварот далейшага вершу: "Дагарае на захадзе дзень, на ўсходзе трывожачы зорак" — трэба "зоры", але можа тут — апіска, трэба "золак" / "дзе — дзе" гэта паміж іншым/.*

*У вершы, дзе апісваецца навальніца, ёсьць слова "ліні ' "/з апострафам/. Калі гэта не апіска і скарочана ад "лініі", дык я раіў бы напісаць: "ліны".*

*У нейкім, ня помню якім, вершы маё недаўменьне выклікае ўжываньне слова "засаб" у такім кантэксьце:*

*"...Мары і казкі, і песьні*
*кінуты засаб нядбайна"*

Здаецца ж, "засаб" у нас значыць тое, што па-расійску "подряд", "всплошь"?

Нарэшце, у яшчэ нейкім вершы сустракаецца наступная непатрэбная дубальтовасьць: у канцы аднае строфы — "пад холадам сініх сьнягоў", а ўсяго праз радок, у пачатку наступнае — "над холадам вечнай тайгі". Можа, лепш было б замяніць у каторым-небудзь выпадку "холадам" на "сьцюжаю". У першым выпадку гэта лепш з гукавога боку /атрымаецца іграньне на "с"/, у другім — з сынтаксычнага /магчыма зьінačаньне сынтаксычнае пабудовы — "Над вечнаю сьцюжай тайгі"/, якое больш адцяняе і разрозьніць абодвы выпадкі. Вось і ўсе мае заўвагі. Што да тых тваіх, якіх я яшчэ не закрануў, скажу наступнае: па-першае, я ня бачу вялікае сэнсавае патрэбы ў зьмене "цёмнага" крыла на "цёплае", тым больш, што, як ты справядліва заўважаеш, тут церпіць тады й гукавы бок. Бачыш, пры першай рэдакцыі мы маем такі гукавы малюнак:

н - н - мн - мн - м - м

/то сон ахінуў мяне цёмным крылом/

— ігра на насавыя "м" і "н" — у духу фігур "эпіфоры" / паадзінокія гукі "н" і "м" / і зэўгмы /групы "мн"/ , а разам атрымоўваецца прыгожае рондо. Пры другой жа рэдакцыі ўсё гэта прападае, замяняючыся аднэю слабою эпіфораю сонорных — "лм — лм" / "цёплым крылом/. Па-другое, ня бачу патрэбы і ў замене "абліччы" на "абліку": сказаць то так і можна, але будзе больш непатрэбных асоцыяцый ды розных "падлікаў", "разьлікаў" і да г.п.

Вось тыя абеглыя заўвагі, якія я магу зрабіць пры першым уражаньні аб тваёй рэчы... Дадам яшчэ, што маё ўражаньне падзяляюць Пятрок Рагачэўскі[50] і Кузьма, якім я чытаў яе. Мабыць, падзеліць і Адам, калі пачытае ў карэктуры /ён каля 15-га ўжо будзе ў Менску, а пакуль мы з Кузьмою пастанавілі тваю рэч аддаць у Галоўліт і набор, да канчатковай Адамавай рэдакцыі/.

У Менску ўсё ціха /пра Цішку[51] — гукавая асоцыяцыя — ты, здаецца, ведаеш/. Нядаўна мы з Кузьмом езьдзілі да хлопцаў у Дараганава, дзе цяпер і Ўладзік з жонкаю /ціхая, але "з аганьком",

[50]Рагачэўскі Пётр, друкаваўся пад псеўданімамі Палявы, П., Палявы, Пят., Пялявы, Пят-Палявы ў 20-ыя гг. у "Беларускай вёсцы".

[51]Гартнага.

*прыгажосьці сярэдняе ці нават.../. Алесь піша мне адкрытыя й закрытыя паштоўкі /г[эта] зн[ачыць], лісты памерам паштовак/, Сяргей — паштоўкі, Кляшторны нядаўна прыслаў ліст, дзе ізноў жаліцца на ваеншчыну і на няшчасьце, якое яго там засьпела: падчас газаакурваньня ён "здуру", як сам піша, хапіў асколак снараду голымі рукамі, і, мабыць, будзе язва. Наша справа з БДУ ўжо ўладжана. Вось і ўсе менскія навіны.*

*Сам я сьпяшаюся закончыць свой працяг да гэтага нумару / цяпер засталося ўсяго 8 старонак якіх/*[52]*. Гэтымі днямі ўвесь час сяджу дома, пішу і адно вечарамі выпаўзаю падзівіцца на сьвет божы. Адно слова, жыву...*

*Ты пытаеш пра 4-ты нумар? У ім, апрача працягаў, будзе Кузьмова апавяданьне, а з артыкулаў — тыя, што ты ведаеш, плюс яшчэ надзвычайна цікавы Уладзікаў артыкул "Проэкт літар для згукаў "дз" і "дж", які мае нарабіць шуму. Максімавы /Алесевы/ вершы, пра якія я пісаў на пачатку ліста, слабаватыя — шмат уплываў Ясеніна, ас[абліва] "Черного человека", аж да цэлых радкоў, Дубоўкі і інш.; шмат позаваньня, вады, стыль гэтак сама зьбіты, з вэрлібру здараюцца пераходы на звычайны рыфмаваны верш. Пушчавы вершы дужа цікавыя, асабліва "Лісты да поэтаў", дзе ён добра, памфлетычна крые нашаніўцаў і маладнякоўцаў.*

*Вось і ўсё /цьфу ты, чорт, каторы раз! Калі ж нейкая разьбежнасьць у галаве — у сувязі з сваёю працаю і тваімі вершамі/. Пішы, братка, як гледзіш на ўсё выказанае ў гэтым лісьце, і пра сваё жыцьцё наагул. Калі прыедзеш? Як толькі атрымаю ліст — адпішу /дагэтуль ня пісаў — цябе чакаў/. Пакуль жа бывай здаровенькі. Твой Антось.*

*Жонцы кланяйся і наўчы па-беларуску перапісваць твае, бязумоўна, беларускія вершы /каб ня пісала "ночь", белый" і да т. п./.*

*3/VII — 28 г. Антось*

*Менск Беларускі*

*Чуць не забыўся быў пра грошы: Купцэвіча сягоньня ня злавіў, дык перадаў Кузьме; гэтымі днямі і сам патурбуюся. Але ўсё роўна гэта будзе ўжо пасьля 5-га, бо сёньня 3-е.*

---

[52]Гаворка аб працы А. Адамовіча "Максім Гарэцкі: /Спроба манаграфіі і аб творчасьці/", якая друкавалася ў часопісе "Узвышша" № 1-6 у 1928 г.

***

*Ці гэта ўсім вам замуравала, ці што? Я ім, як добранькім, усім па лісточку нашкрэбаў, а яны хоць бы мур-мур. Хочацца мне вылаяць вас усіх, а з тае прычыны, што я заўсёды люблю дакладна датрымоўваць законы тае мясцовасьці, дзе жыву, дык і лаю Вас самай страшнай лаянкай майго цяперашняга "месца жыцельства" — зьмеі вы, ... ідалы! Няўжо вам німа нічога напісаць мне? Няўжо "На Шипке все спокойно", калі разумець пад "оной" Шыпкай і літаратурны, і наогул усякі фронт? Што з часопісьсю? Як усе хлопцы маюцца? Навет /бачыш, які я джэнтэльмэн/ — як маецца твая жонка, глыбока паважаная і вельмі шаноўная Ніна /або, як ты клічаш — Ніка, што ў дакладным перакладзе азначае "перамога"/. Братка, напішы мне хоць што, абы скарэй толькі — сіл няма чакаць вашае ласкі. Прыгані і Алеся /ён, пэўне, ужо ў Менску/, і Петрака, калі мо' ўбачыш. Між іншым, аж два разы сьніў Труса — адзін раз — ідзе па дарозе, другі — Трус і калгас /выдатная карціна!/. Паклон яму і ўсім, усім. Між іншым, высьветлі як-небудзь літэрныя магчымасьці Дому /ці можна мне атрымаць хоць адзін 80%-тны?/. Пакуль вітаю і чакаю ліста скора-скора.*

*14 жніўня [1929 г.] Твой Антось*

*в. Зямцы*

***

*Дарагі братка Пятрусь!*

*Хацеў табе напісаць адкрытку з аплачаным адказам, але такіх не аказалася на пошце. Сягоньні ж атрымаў з дому ліст, дзе мне пішуць, што ты ў Ждановічах, і яшчэ — што нашага Паўлюка ня стала*[53]*... Так цяжка, так цяжка мне стала ад гэтай весткі... А тут яшчэ Алесь, што называецца, бузіць... Сам можаш адчуваць, які настрой... Ад яго толькі страшна ня хочацца ехаць у Менск... Братка мой, як у цябе справы з літэрамі? Калі ня выстараўся дагэтуль, дык ня варта ўжо і старацца — пакідаю Зямцы 10-11 верасьня. Калі ж літэры ў цябе ёсьць — вышлі іх зараз жа заказным мне /не забудзься, каб на літэрох былі пячаткі, подпісы і тэрмін да 1-га кастрычніка, а то будзець бяда!/. У вабодвух выпадках — і калі ёсьць літэры, і калі іх няма, прашу цябе даць мне тэлеграму: "Земцы Добровольской /а не Дабравольскаму: жанчынам хутчэй увагу даюць/. "Литера нет" або "Литера высланы". Зрабі гэта, братка,*

[53]Паўлюк Трус памёр ад тыфуса 30 жніўня 1929 г.

*як можаш хутчэй. Калі на пошце ня будуць ведаць, дзе Зямцы, ці наагул запруцца — можна дадаць — "Земцы Смоленской". Усе выдаткі аплачу, за ўсе турботы мо' адслужу як-небудзь... Прашу толькі, пастарайся як-небудзь — проста жудасьць бярэць у Менск цяпер ехаць. Нейкі містычны настрой у мяне апошнім часам — Паўлюк віною. Проста хочацца маліцца за ўсіх Вас здароўе.*

*Ну, бывай здароў. Твой Антось.*

*5 верасня [1929 г.]*

*в. Зямцы*

***

*Дарагі браточак Пятрусь!*

*Чаму ня пішаш? Ну, ведаю — залікі /памажы божа табе ў гэтым дзеле! А як Максім?/. Я ж, як бачыш, жыў і здароў / чаго і табе жадаю, жонцы Ніне, усім, усім навогул/, стаю ў Маскве, у паштовым аддзяленьні недалёка ад Вялікага тэатру /чувствуй! и проникайся уважением!/ і пэцкаю табе паштоўку з такім маральна-навучальным адваротам /гл[ядзі]/*[54]*. Шляюся па букіністах /і цяпер адтуль/, але пакуль што дурных няма, каб згадзіліся табе раздрабніць Граната*[55]*, так што, як сам бачыш, на правялікі жаль, твае просьбы выканаць пакуль не магу. Мо' што другое трэба — пісані, рад і "всегда готов"... Сабе накупляў сякое-такое дробязі /многа грошай няма/, галоўную ўвагу канцэнтрую на тэатрах /учора быў на "Вішнёвым садзе" — во хараство! Гэта ў Мастацкім тэатры. Наступным нумерам — "Клоп" Маякоўскага ў Мэерхольда/. Цэлымі днямі шляюся і слухаю гарадскі гул — і ўжо гэта адно мяне захапляе... Калі дакладна заняткі ў БДУ? Ці нічога ня будзе, што ня здаў францускае? Што зрабіў Мішка з фольклёрам? Пішы, браце, як можаш хутчэй — хоць паштоўку, але каб зараз жа /адрас ведаеш — Москва 10, Большая Спасская, д. № 6, кв. 22. К.Н. Добровольскому, для мяне/. Ну і бывай здароў. Цалую цябе. Твой Антось*

*Вітай жонку і ўсіх іншых. Пакуль намеркаваў выехаць 30-га верасьня.*

*23-IX-29 г.*

**<u>Публікацыя Яніны Кісялёвай</u>**

---

[54] Даём рэпрадукцыю паштоўкі.

[55] Энцыклапедычны слоўнік Граната. Выдаваўся ў Маскве братамі А. і Г. Гранатамі з 1892 г.

## Пільнаванне настрояў, ці лёс ліста Адама Бабарэкі да Уладзіміра Дубоўкі

Невядома, ці атрымаў адрасат (Уладзімір Дубоўка) ліст свайго сябра па пяру (Адама Бабарэкі), а калі атрымаў, то ці падазраваў, што ён ужо прачытаны ў ЦК КП(б)Б самім сакратаром Вільгельмам Кнорыным. Магчыма, ліст быў перададзены паштовым ведамствам, або цэнзарамі, што наглядалі за ліставаннем "падазроных" асоб. Як бы там ні было, але ліст наўрад ці "случайно" трапіў у ЦК: вывучаліся "настроения" ўзвышаўцаў. Паказальна, што копія ліста, — гэта пераклад з беларускай мовы, якая, відаць была надта цяжкай для разумення ў такім органе, як ЦК КП(б)Б.

Асноўны змест ліста — інфармацыя пра "Узвышша" № 3 за 1927 г. Цікавасць уяўляюць і погляды кіраўніка партыі па пытаннях культурнага развіцця, а таксама ўзаемаадносіны паміж літаратурнымі суполкамі.

Дакумент выяўлены ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь (ф 4, воп.21, спр.69).

*Копия документа*

*Адресат: Заказное. Владимиру Николаевичу Дубовка*
*Малая Грузинская, д. № 34, кв. 13, Москва*
*Отправитель: Минск, Кожевенная ул., 18, кв. 1.*
*А. Баборека*

***Алеся Гесь***
*Перевод с белорусского*

*Только лично. Сов. секретно*

*Тов. Кнорин*

*Это письмо случайно попало ко мне. Оно до некоторой степени характеризует настроения "узвышевцев". Посылаю для сведения.*

*(Подпіс нечытэльны)*

*30. VI. 27 г.*

*Дорогой Владимир!*

*Искренно благодарю за все присланное тобой. После первого письма я ждал еще статью о грузинской литературе и твоих художественных произведений. Как-то неловко выходит, что из художественной литературы твоего ничего нет. Я хочу дать пару стихов из тех, что ты был прислал в сборник "Наля", только не решаюсь это сделать без твоего на это согласия. Я думаю, что можно.*

*Третий номер почти что уже и готов. Часть материалов в печати, а часть еще в Главлите. Завтра, наверное, будут уже готовы и эти. Содержание номера такое. Из прозы: Кузьмы — продолжение романа[56], Змитрука — продолжение повести[57], Кондрата — два рассказа[58], М.[59] — один рассказ, Горавского — один рассказ[60], Гущи — глава из "В глуби Полесья". Из стихов — Глебки, Лужанина, Дорожного, Кляшторного, Бобрика, Звонака (последних двух еще под вопросом)[61], Жилки и две сказки[62] Крапивы (одна из них ответ критикам). Статьи: работы Замотина[63], твоя статья[64], Березки[65], Вознесенского про театр, Хлебцевича[66], Сааруни[67], Снежко про японскую литературу и Замбржицкого (хотя последний все еще под сомнением, хотя и сдали его в Главлит)[68], не хватает твоих стихов и Язепа[69]. Нет и моей статьи. Думаю ограничиться несколькими рецензиями и, если пропустят, статьей про "Сым. Муз."[70]. Нового ничего не написал. Твою статью я считаю чрезвычайно полезной*

---

[56] Маецца на ўвазе раман Кузьмы Чорнага "Сястра".

[57] Маецца на ўвазе аповесць Змітрака Бядулі "Салавей".

[58] Маюцца на ўвазе апавяданні Крапівы "Вайна" і "Пальчык".

[59] Андрэй Мрый "Няпросты чалавек".

[60] "Скрынка".

[61] У нумары былі апублікаваны вершы Янкі Бобрыка "Вазёры ў цемені драмалі" і Алеся Звонака "Бяспрытульнаму".

[62] У нумары былі дзве байкі Кандрата Крапівы "Чорт" і "Саманадзейны конь".

[63] Артыкул Івана Замоціна — "М. А. Багдановіч".

[64] Артыкул Уладзіміра Дубоўкі — "Рыфма ў беларускай народнай творчасці".

[65] Юры Бярозка "Праблемы прыгодніцкага раману".

[66] "Царскі суд над творамі Ф. Багушэвіча".

[67] "Кароткі нарыс армянскае літаратуры".

[68] Артыкул "Нацягванне чужога халата" быў у нумары.

[69] У нумары змешчаны ўрывак з паэмы Язэпа Пушчы "Песьня вайны".

[70] Артыкул Адама Бабарэкі "Паэма "Сымон Музыка" Якуба Коласа".

*работой и думаю, что ты не только не должен прекращать в этом направлении исследований, но расширять его и др. стороны народного творчества. К слову, мне кажется, что народные сказки, особенно т. н. методологические*[71] *могли бы дать много благородного материала в вопросе, поднятом статьей Березки. Мне кажется, в создании белорусского романа материалы этих сказок должны сыграть известную роль в смысле окраски этого жанра в национальный цвет со стороны формы. Между прочим, термин "авантюристический" мы везде заменим словом "прыгодніцкі", исходя из того, с понятием "авантурны" обыкновенно в обиходе связывают понимания, не совсем полезные для этого жанра, понимания предвзятые.*

*Список книг для 3 номера еще складывается. Хроники немного есть, но не столько, как надо. Получили из эсперант. источников. Не хватает по Союзу, Украине. Если имеешь что и можешь, то шли. Список книг будет не очень большой. Будут представлены сборники, что вышли за последнее время. Твой сборник "Наля" некоторых нервирует тем, что выдан в Москве. Язэпа и Змитрука сборники выходят в свет этими днями.*

*Кажется, что этот номер будет не хуже других. Вот только со стихами, кажется мне, что материалы не очень крепкие. Стихи не очень слабые, но хотелось бы, чтобы были более сильными.*

*4-й номер необходимо будет обязательно издать в августе, а то мы с 3 опаздываем. Что до будущего года, то чтобы не пришлось нам идти с кружками и собирать средства на сборник. Здесь ходят не очень приятные слухи о том, что расходы на культ. надобности будут намного уменьшены в сравнении с этим годом. Говорят, что будто бы на все литературные организации будет отпущено 10.000. Это пока слухи, но все же, как видно, рассчитывать на достаточную помощь в будущем году вряд ли придется. Необходимо заранее найти средства, необходимые для будущего года. Надо будет налечь на подписки. А также придется подумать и насчет кредитов.*

*16.VI мы (я, Дмитр., Кузьма и Язэп) были у тов. Кн[орина]. До этого Чарот и Жилунович наговорили на нас 3 смертные*

---

[71] Так у тэксце дакумента. Магчыма, "мифологические".

*грехи: 1) ориентацию на Запад, 2) упадничество и 3) эстетизм. Тов. Кн., сказав это, воздержался от высказывания своих взглядов. Говорил, что не успел еще познакомиться с произведениями. Обещал через 2-3 недели это сделать, а также сделать все возможное для того, чтобы создать соответствующие условия (нормальные) для литературной работы. Мы передали ему наши резолюции и кратко изложили ему историю нашей орг-ции с указанием на тяжесть условий работы.*

*Тов. Кнорин имел под рукой все белорусские печатные издания и первое, что он сказал, это то, что у него возник вопрос, выдержит ли белорусский читатель 3 органа печати; потом отметил буйный рост белорусской культуры и на необходимость обратить внимание на поднятие и перестройку экономики, как почвы для культурной революции. Та же культура, что теперь есть, по его мысли, возросла на старой экономике, а старая экономика гнилая... Высказал дальше мысль, что экономика отстает от культуры и если не обратить внимания на первую, то может возникнуть опасность перевытворчества интеллигенции, что есть упадничество в литературе и вообще может быть связано с рядом небезопасных явлений. Вот приблизительное основное из нашего разговора.*

*Из этого мы сделали следующие выводы: 1) наша линия по созданию белорусской пролетарской литературы правильная, 2) сейчас как никогда стоит надобность поднятия и расширения культуры во всех ее проявлениях, т. к. при наличии культурной отсталости, миллионах неграмотных и отсутствия материалов, как почвы, для уничтожения последнего, вряд ли возможно поднятие экономики.*

*Я думаю, что нам и дальше необходимо вести работу: 1) по собранию литературных сил вокруг журнала, 2) по критическому исследованию литературного наследства, 3) по выявлению источников, как нац., так и интернац., для создания бел. пролет. литературы. Мне кажется, это главное и то, что будет сделано, не выскребут никакие ножи.*

*Что касается того, что нас стараются всеми силами втянуть в дискуссию (Глыбоцкий[72] опять вылазит со своим тявканьем*

---

[72] Псеўданім Алеся Дудара. Маецца на ўвазе артыкул у № 4 "Полымя" "Пад шыльдай пралетарскай літаратуры", у якой робіцца агляд "Узвышша" № 1-2, 1927 г.

*уже на стр. "Полымя" и пробует бросить нам, что мы боимся дискуссии), то я считаю, что все наскоки и нападки со стороны мол <одняковцев> плюс Окуни и им подобных — имеют одну цель: тормозить культурный рост белорусской литературы и оторвать наше внимание от той творческой и критически-исследовательской работы, которая направлена нами для создания бел. прол. литературы. Они готовы совершенно отказаться от творчества и "повесить жалейку на дереве", как признался Дударь, заменив все это переводами и тем самым ограничив значение бел. литературы провинциальными рамками. Что это так, у меня есть некоторые данные из отрасли последних планов Ч<аро>та и печати насчет того, что "интернациональная" культура проглотит белорусскую вместо того, чтобы белорусской культуре стать одним из звеньев интернационально-пролетарской. Может быть, такими настроениями обусловлено и то, что молодняковцы в последнее время заняты усиленными попытками с выездами за город. Один из них предлагал на днях Кузьме на этой почве наладить с ними "смычку". Кузьма, конечно, с возмущением отказался от таких предложений. С кем же при таких условиях спорить? Не значит ли это пойти на удочку литературной провокации? Я думаю, что нам необходимо время от времени открывать перед обществом действительную сущность их работы.*

*Когда ты был здесь, я не познакомил тебя с тем докладом, который в свое время готовился для подачи в ЦК. В его план входило: 1) внимание к созданию "Узвышша", 2) современное положение белорусской литературной критики, и 3) выводы. Этот доклад, как тебе известно, не был своевременно окончен. Теперь для своей обработки и пополнения новыми фактами (в основе его исключительно фактический материал из литературной жизни последних лет) он требует неделей 2 работы. Стоит ли его окончить, обработать и подать его по назначению? Известно, что ждать, что через него будет получено что-нибудь особенное, не приходится. Однако я думаю, что он отыграл бы известную роль в упорядочении литературной атмосферы. Во всяком случае, если не доклад, то нам необходимо придумать определенные шаги в связи с наступлением будущего*

*года. Подали мы сметы две, как и в прошлом году, на общую сумму в 9 тысяч с чем-то. Подали в Отдел печати, но почему-то они попали к Жилуновичу, который не преминул того, чтобы не посмеяться над ними и нашим объединением. Пусть себе смеются. Но все же это пораждает печальные мысли, чтобы не случилось того, что в прошлом году.*

*Помещения и до сих пор достать не можем. Тов. Балицкий говорил, что можно будет Нарк<омпроссе> поместиться: освободится нижний этаж, но это зависит от Сенкевича. А Сенкевич говорит о какой-то комиссии. Словом, сказка про бычка. Издания же наши лежат в коридоре типографии. Прости, черт его знает, что делать. Хоть возьми и гвалт кричи. А еще всякая пакость гавкает про ориентации, упадничество, эстэтизм и проч. смертные грехи. Выходишь прямо из терпенья.*

*Как на смех, еще как-то Сенкевич, встретившись на улице, говорит, чтобы мы выделили одного человека для посылки за границу на 2 месяца. Там уже сносили берлинские шляпы, так обратно едут покупать целой компанией и здесь еще хотят подвести заграницей. Да пусть она сгорит эта заграница. Заграничных шляп нам не нужно, обойдемся и в советских шапках. Подумаешь, ласка какая, потом чтоб только попрекать ею. Тяжело, брат, делается, когда видишь, что люди ездят в Берлин "за капялюшами", да подливку пражскую, а не по науку. Как раз, как некоторые из российских кавалеров XVIII столетия.*

*Живем мы как горох при дороге. Хлопцы наши рассыпались теперь. Змитрок — использовывает свой отпуск в Тальке, Язэп — в Королищевичах, М. — в Даровке на практических работах. Остаемся я и Кондрат. У Кондрата что-то все хворает девочка, и он очень этим озабочен. Я, может быть, в августе выеду на каких-то пару недель в деревню. Хочется отдохнуть. А сейчас немного покашливаю. Думаю, что пройдет. Легче немного дышится. Как ты себя чувствуешь? Мне кажется по последнему твоему письму, что у тебя не особенно хорошее настроение. Поедешь ли на Кавказ? Если не поедешь туда, приезжай на время отпуска сюда, походим по деревням. Может быть, в Москве вышло что-либо интересное по литературе. Я*

*так все время это не следил и не читал ничего, за исключением Энгельгардта. Здесь вышли: Баричевского "Поэтика жанров", Каваля "Як вясну гукалі", Чернушевича "Дзіва". Имеешь ли их? Если нет, то вышлю. Каваль — это отголосок Кузьмы в этом сборнике. Целую тебя. Адам.*

***Публікацыя Алесі Гесь***

# Баронячыся "пралетарскасцю"

"Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксыцкай ідэалёгіяй" — пад такім загалоўкам друкаваўся артыкул былога ўзвышэнца, пазней класіка савецкай літаратуры і акадэміка Пятра Глебкі ў часопісе "Узвышша" (1931, №21. С. 110-124). Было гэта тады, калі пасля трох гадоў бальшавіцкай атакі на эліту беларускай нацыі часопіс папаў пад кантроль партыйных агентаў тыпу Бэндэ, а былыя лідэры літаратурнага аб'яднання "Узвышша" Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча і блізкія да іх пісьменнікі пасля астрогаў і допытаў бальшавіцкай інквізіцыі высланы для пачатку ў расійскую глыбінку без права на літаратурную працу. Артыкул Пятра Глебкі меў падзагаловак: Пра літаратуразнаўчую працу А. Бабарэкі. Працягвалася маральнае катаванне ахвяраў савецкай імперыі ва ўсіх сродках масавай інфармацыі ў БССР, у тым ліку ва "Узвышшы", прыніжанага да ўзроўню афіцыёзу. Старшыня аб'яднання "Узвышша" Кузьма Чорны і ягоны намеснік Кандрат Крапіва, рэшта іншых узвышэнцаў, не арыштаваных у 1930 г., паспрабавалі выратаваць літаратурную арганізацыю і часопіс савецкімі метадамі "крытыкі і самакрытыкі". Спачатку была "Пастанова беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша" аб палітычных памылках у літаратурна-публіцыстычнай творчасці" (12 студзеня 1930 г.) і рэдакцыйны артыкул "Пролетарскім шляхам", апублікаваныя ў першым нумары часопіса за 1930 год. Следам за афіцыйнай прапагандай у пастанове прызнаны "памылкі" артыкула Ул. Дубоўкі аб "Узвышшы" ў маскоўскай газеце "Гудок" (1927, № 114), дзе паэт пісаў: "Узвышша" не думае парываць з грамадска-асветнай працай у магчымым для сябе кірунку" (падкрэслена мною. — **Ул. К.**). Але балашавікі прызнавалі толькі безумоўную ўладу сваёй партыі над

літаратурай, іншымі відамі мастацтва, навукай і асветай. Крытыкаваўся рэдакцыйны артыкул "Узвышша" перад новым годам БССР" (1928, № 6, ананімны аўтар А. Бабарэка) за папраўку да "лініі партыі": замест сталінскай формулы "літаратура нацыянальная па форме і пралетарская па зместу" Бабарэка прапанаваў больш рэалістычную, як тады здавалася, фармуліроўку: "нацыянальная па форме і пралетарская па сваёй імкнёнасці". Кузьма Чорны прызнаваў сваю памылку ў артыкуле "Перад другім дзесяцігоддзем" — за фразу "змаганне за беларускія формы культуры". Язэпа Пушчу ўпікалі за страту "рэвалюцыйнай перспектывы", Антона Адамовіча — за публікацыю фрагментаў з лістоў Паўлюка Труса, Тодара Кляшторнага — за "ўпадніцтва", Максіма Лужаніна — за "перабольшванне адмоўных бакоў савецкай Случчыны".

Урэшце, рэдакцыя зацкаванага часопіса зрабіла "ліберальную" выснову: "Наогул ва "Узвышшы" нацыянал-дэмакратызму як пэўна прадуманай сістэмы і свядомай устаноўкі на яго не было", як не было яго ў паасобных сяброў згуртавання; але "асаблівы націск у артыкулах на нацыянальную форму культуры, не ўпамінаючы пра пралетарскі змест, роспач з прычыны нібыта культурнай і матэрыяльнай беднасці нашай краіны ды іншыя факты сведчаць аб тым, што для некаторых сяброў існуе небяспека з часам стаць на шлях нацыянал-дэмакратызму" (Узвышша, 1930, № 1. С. 3-8). Каб неяк змягчыць свой "лібералізм", узвышэнцы абяцалі "разгарнуць самакрытыку, аўладаць у галіне крытыкі марксыцкім метадам", а ў мастацкай творчасці "паклапаціцца аб тым, каб, не зніжаючы мастацкай якасці сваіх твораў, напоўніць кожны з іх пролетарскім зместам". Урэшце, было абяцанне "выкрываць усіх тых, хто не жадае прымаць удзел у соцыялістычным будаўніцтве".

Адам Бабарэка якраз тады, у пачатку 1930 года, пісаў свой артыкул (верагодна, як тэаратычны даклад на сходзе аб'яднання) "Паэзія як уяўленне" з падзагалоўкам "Некаторыя думкі пра пролетарскую школу поэзіі". Але "пралетарскі" халат не выратаваў узвышэнцаў, іншых пакутнікаў за Беларусь у сэсэсэраўскай імперыі. Пасля іх арышту і высылкі (часовай, да катаргі ў 1937 г.) рукапісы артыкулаў пісьменніка "Паэзія як уяўленне" і "Хто такі Пушча" захаваліся ў прыватным архіве яго жонкі Ганны і дачкі Алесі.

Сёння маладзейшая генерацыя пісьменнікаў без дастатковай аргументацыі занадта кантрасна выдзяляе ўзвышэнцаў з усёй "савецкай" літаратуры 1920-1930-х гадоў. Аднак жа рэчаіснасць тады была такая, што ўсім прыходзілася падстрахоўваць свае

выданні і літаратурныя арганізацыі марксісцкай ідэалогіяй, прысягаць на вернасць "партыі і пралетарскай клясе". У тым ліку "Узвышшу". Рэверансы ў бок гэтых міфалагемаў ёсць у першых дакументах аб'яднання: у "Камунікаце беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша" (Савецкая Беларусь, 1926, 15 снеж.) і ў тэзісах" "Ад беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання "Узвышша", апублікаваных у першым нумары часопіса (1927), калі яшчэ жыла савецкая"дэмакратыя" і палітыка беларусізацыі.Сёння патрэбна, гаварылася ў "Тэзісах", каб "увесь сьвет пачуў, што жыве Беларусь работніцка-сялянская і што яна разьвіваецца і расьцьвітае нявіданым кветам пад кіраўніцтвам кампартыі ў Саюзе ССР". А ў "Камунікаце" ўзвышэнцам прыйшлося нават пакляліся: "Мы ў сваёй літаратурнай дзейнасьці напорна ішлі і ідзём па пролетарскаму шляху разьвіцьця беларускай літаратуры, і з гэтага шляху ніякія злыдні нас не саб'юць. Іншага шляху мы ня ведалі і ня мысьлім".

Гэткі "пролетарскі" зарок ў сярэдзіне 1920-х гадоў быў не толькі палітычным рамантызмам таленавітай, але абязбожанай, пазбаўленай традыцыі крытычнага скептыцызму ў адносінах да ўсякага таталітарызму сялянскай інтэлігенцыі, але і сялянскай хітрасцю. Бо ў яе не было альтэрнатывы: альбо не без хітрасці супрацоўнічаць з бальшавікамі, альбо пакінуць свой народ і знікнуць з гістарычнай сцэны. Пасля гвалтоўнай індустрыялізацыі і яе аграрнага забеспячэння — яшчэ больш гвалтоўнай калектывізацыі (фактычна ліквідацыі сялянства) камуністычныя ілюзіі зніклі, заставалася адна надзея — абхітрыць бальшавікоў, спадзявацца на развал іхняй імперыі.

Вось у такіх абставінах пісаў Адам Бабарэка напярэдадні арышту свой даклад "Паэзія як уяўленне" і артыкул "Супраць ветру", замаскаваныя "марксыцкай ідэалёгіяй". Маскіроўка не дапамагла: бальшавіцкія злыдні былі дурныя, але ў хітрасці ім не адкажаш: умелі залезці не толькі ў свядомасць, але і выбіць падсвядомыя перажыванні.Як у народнай прымаўцы:"Упрасіліся злыдні на тры дні, а ў тры гады не выганеш". Гэтыя злыднявыя гады цягнуліся доўга.

Ахвярам бальшавізму выпала нешта большае, чым знявага, катаванні, пакуты і смерць без магільнага следу на далёкіх абшарах імперыі ад еўраазіяцкай разнавіднасці фашызму. Ім прыйшлося яшчэ перажыць публічную здраду сяброў і ганьбаванне запрагмаванага натоўпу. Адразу пасля першых арыштаў "нацдэмаў" (а сярод першых былі лідэры "Узвышша") была апублікавана ў

іхнім жа часопісе “Рэзалюцыя агульнага сходу “Узвышша” ад 30 лістапада 1930 года”. Пасля кароткай канстатацыі аб пранікненні “нацдэмакратызму” ў Наркамат земляробства, Акадэмію навук, выдавецтвы, у тым ліку ва “Узвышша” ў асобе “былых лідэраў Бабарэкі, Пушчы, Дубоўкі ды іх малодшых пабрацімаў” агульны сход пастанавіў: “Мы вітаем дбайнейшага вартаўніка рэвалюцыі АДПУ, які выкрыў контррэвалюцыйную нацдэмаўскую арганізацыю [...]. Патрабуем жорсткай кары агентам международнай буржуазіі ў Савецкай Беларусі — беларускім контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратам /Узвышша, 1931, № 9 - 10. С.167 - 168/. Рэзалюцыю падпісалі /прыводжу імёны ў парадку, надрукаваным у рэзалюцыі /: М. Лужанін, Т. Кляшторны, С. Дарожны, К. Чорны, Крапіва, А. Мрый, З. Бядуля, П. Глебка, Л. Калюга, Тодар Кляшторны, Сяргей Дарожны, А. Мрый (Андрэй Шашалевіч), Кузьма Чорны адпакутавалі свой грэх: адных забілі, другіх прыбілі ўсё тыя ж бальшавікі. Савецкую кар‘еру зрабілі Кандрат Крапіва і Пятро Глебка: іх вялі да званняў народнага пісменніка і акадэміка. Зразумела, не за так сабе. Плаціць прыйшлося адразу, па свежых слядах засуджаных без суда сваіх былых сяброў. Першым выступіў К. Крапіва: надрукаваў у часопісе “Узвышша” вялізны артыкул супраць узвышэнскай літаратуры, дзе, між іншым, абвінаваціў кіраўніцтва “Узвышша” на чале з К. Чорным у тым, што яно не крытыкуе артыкулы А. Бабарэкі -- “мешаніну “марксіцкай” фразы і ідэалістычнай сутнасьці, якія накіраваны галоўным чынам на тое, каб выхваляць самае ідэолёгічна шкоднае, што было ва “Узвышшы” — творчасьць У. Дубоўкі і Я. Пушчы” (Узвышша, 1931, № 1. С. 124).

Але “крапівінская” крытыка яшчэ па тых часах выглядала “ліберальнай”. Следам за Крапівой выступіў з ужо вядомым артыкулам П. Глебка спецыяльна для “выкрыцця” ідэалізму, фармалізму і нацдэмакратызму Адама Бабарэкі. Не будзем тут чапаць “філасофскіх” і “эстэтычных” аргументаў Глебкі: яны вядомыя па сталінскаму “Кароткаму курсу” і іншых вульгарызатарскіх пісаннях. Звернем увагу на адзін факт: тут і ў пазнейшых публікацыях П. Глебка ўгледзеў варожую ідэалогію Адама Бабарэкі, між іншым, і ў тым, што той пачынаў беларускую літаратуру “ад сярэдневяковага манаха Ф. Скарыны”. Усіх, хто верыў у Бога, бальшавіцкія атэісты дражнілі “манахам”.

Даўно пара было б выдаць літаратурную спадчыну пісьменнікаў-узвышэнцаў. І сярод першых — творы Адама Бабарэкі. Гэтае выданне

павінна быць навуковым, з аналітычнай уступнай манаграфіяй і каментарамі. Каб паддзяліць мастацкае і навуковае ўзвышэнства ад яго прыкрыцця — бальшавіцкай класавасці, якой была “замаскавана” беларуская праўда.

Урыўкі з артыкула А. Бабарэкі друкуюцца ўпершыню паводле фатакопіі рукапісу, які захоўваецца ў сямейным архіве Алесі Бабарэка. Захавана лексіка і арфаграфія арыгінала, выпраўлены толькі відавочныя апіскі. Спасылкі ў публікацыі мае Уладзімір Конан.

# Паэзія як уяўленне

[...]. Рэвалюцыя вызваліла поэзію дзеля таго, каб яна вольна выбрала сабе па сваіх сілах і здольнасьцях ролю ў вялікім перабудаваньні старога сьвету і будаваньні новага сьвету — соцыялістычнага. Практыка ўзвышэнскай творчасьці паказала, што іначай і нельга быць. Пролетарская поэзія павінна ўмець сябе абмяжоўваць граніцамі, каб стварыць выдатнае і каштоўнае для сваёй клясы, каб стаць яе акрасаю і гордасьцю.

На самым пачатку нашага развіцьця агульныя контуры мастацкага абмежаваньня для неабмежаванай творчасьці (а кірунак і ёсьць пэўнае абмежаваньне) давалі тэзы да пытаньня аб утварэньні "Узвышша". Там гаварылася, праз што мысьляць удзельнікі "Узвышша" дасягнуць узвышэньня пролетарскай поэзіі, праз што павінны адбыцца пераход беларускай пролетарскай поэзіі на вышэйшую ступень свайго разьвіцьця. І калі тады гэтыя вызначэньні даваліся на падставе негаваньня маладнякоўскай практыкі, то ў сучасны момант на падставе ўзвышэнскага дасьведчаньня павінны выразна сказаць, хто мы як пролетарскія мастакі, хто мы як школа пролетарской поэзіі, які канструкцыйны прынцып нашай творчасьці [...].

Што ж гэта за новае і які яго канструкцыўны прынцып? Гэта аквітызм пролетарскай поэзіі, што разьвіваецца ўнутры ўзвышэнскай творчасьці і што за канструкцыйны прынцып свой мае разуменьне паэзіі як уяўленьня.

Для ўзвышэнца і яго чытача слова аквітызм ня новае слова. Першы раз яно зьявілася ў памінальных ужо тэзах да пытаньня аб утварэньні "Узвышша", як адзін з тых пунктаў агульнага абмежаваньня, якім вызначаўся будучы кірунак поэзіі "Узвышша". Гэтым пунктам замыкалася первястковая ўзвышэнская мастацкая

праграма. Ён там азначаўся як тая імклівасьць, якою прасякаецца мастацкі твор у сваім ідэале і якая ажыўляе патрачаную ў змаганьні з пануючымі клясамі энергію працоўных на вялікую творчасьць новага жыцьця. Адтуль пачынаецца т[ак] ск[азаць] вонкавая гісторыя аквітызму. У гэтым сваім пачатку ён выступіў яшчэ надзвычай няпэўна азначаным. Што гэта за імклівасьць, якая павінна прасякаць твор у яго ідэале і ажыўляць энергію працоўных, тады яшчэ не вядома было. Тут, уласьне, аквітызм выступіў хутчэй як азначэньне адчуваньня недахвату ў тагачаснай поэзіі пэўнага конструкцыйнага прынцыпу, хутчэй як азначэньне яго патрэбы, ніж што кольвек позытыўнае.

Потым слова аквітызм ужываецца ў артыкуле "Аквітызм творчасьці Ул. Дубоўкі"[73] ўжо як азначэньне ажыўленскага характару гэтай творчасьці [...] Нарэшце, аквітызм знаходзіць сабе месца ў артыкуле "Узвышша" перад новым годам БССР"[74]як азначэньне таго мастацкага кірунку, які развівала сваёй практыкай "Узвышша". Праўда, у гэтым выпадку яно мае пры сабе эпітэт "конструкцыйны" ў сэнсе будавальны. Але гэта справы не мяняе. Характэрным ва ўсіх выпадках зьяўляецца тое, што аквітызм выступае як азначэньне, па-першае, праграмнага парадку, па-другое, як азначэньне пэўных зьяў літаратурна-мастацкага парадку. У сучасны момант перад ім стала задача ўзьняцца на ступень азначэньня сябе як мастацкай школы пролетарскай поэзіі, далейшай практыкаю ўзвышэнскай творчасьці. На гэтай ступені [...] ён (аквітызм) павінен перайсьці ў мастацкую катэгорыю нашай поэзіі. А гэта і вымагае ад нас усьведамленьня аквітызму ня толькі як наяўнай зьявы, але і як паняцьця нашай, т/ак/ ск/азаць/, нарматыўнай поэтыкі, іначай кажучы, да паняцьця нашай мастацкай арыентацыі. Вызначэньне аквітызму ў яго першым сэнсе я прабаваў даць у сваім дакладзе на трэцім гадавым сходзе, выдрукаваным пад тытулам "Узвышэнская поэзія" у № 6 "Узвышша"[75]. Спроба выявіць яго другі сэнс, як мастацкую катэгорыю пролетарскай поэзіі на сучасным этапе яе разьвіцця становіць прадмет нашага паведамленьня сёньня.

Перад тым, як перайсці да паведамленьня вынікаў нашай развагі наконт асноўнага прынцыпу аквітызму, я мушу спыніць вашу ўвагу на некаторых перадумоўных паняцьцях. Перадусім гэта кірунак. Пад

[73]Бабарэка А. Аквітызм у творчасьці Ул. Дубоўкі //Узвышша. 1928, № 2. С. 111-120.

[74]Артыкул "Узвышша перад новым годам БССР" друкаваўся як рэдакцыйны, без подпісу А. Бабарэкі //Узвышша. 1928., № 6. С. 104-106.

[75]Бабарэка А. Узвышэнская паэзія (Аналіз паняцця) //Узвышша. 1929. № 6. С. 75-95.

кірункам поэзіі я разумею асобае паняцьце поэзіі, якое прыносіць з сабою ў сьвет кожная новая соцыяльная група, уключаючы сябе ў гістарычны працэс. Гісторыя сьцьвярджае, што кожная соцыяльная група мае сваё разуменьне поэзіі [...]. Канечне, гэтыя разуменьні нельга сабе ўяўляць як статычныя. Яны цалкам зьява дынамічнага парадку. Яны маюць свой пачатак, свой росквіт і свой заняпад або ўпадак [...]. Што гэта так, нам сьведчыць гісторыя як нашай айчыннай поэзіі, так і гісторыя поэзіі іншых народаў. Праўда, кірунак нашай поэзіі яшчэ не ўсьвядомлены, бо разьвіцьцё крытычнае мысьлі ў нас значна адстае ад разьвіцьця самой поэзіі. На тое ёсьць, вядома, свае прычыны, але не пра іх тут ідзе ход [...].

Вось, калі ўсё гэта ўзяць пад увагу, то стане зразумелым і сэнс такіх літаратурных зьяў, як спрэчкі ўнутры пролетарскай літаратуры між "рамантызмам" і "рэалізмам". Гэтыя спрэчкі — вельмі добры паказчык тэй ступені разьвіцьця, на якой знаходзяцца гэтыя групы пролетарскай літаратуры. Абарона кожнай з гэтых школ азначае, што групы, якія іх рэпрэзэнтуюць, разьвіваючыся ўнутры буржуазнай поэзіі, да таго запераймаліся, што не бачаць іншага выйсьця, як перанесьці пад рознымі агаворкамі самыя школы такой поэзіі ў пролетарскую і мірна іх урошчваць у соцыялістычную поэзію. Гэта, уласьне кажучы, мёртвы капае жывога, не даючы яму выхаду на дарогу самастойнай творчасьці /.../.

"Узвышша" ў асноўным гэту стадыю свайго разьвіцьця прайшло ўжо. Гэта ня значыць, што ў нашым асяродку няма таварышоў, якія яшчэ не канчаткова вызваліліся ад пераймальніцтва. Ва "Узвышшы" ходзяць яшчэ гутаркі і пра "романтызм" і пра "рэалізм", ды і пра іншыя школы буржуазнай поэзіі. Але ў галоўным яны або перажыты, або перажываюцца як канчатковае ад іх вызваленьне. Так, "романтызм" і "рэалізм" перажыты яшчэ тады, калі "Узвышша" разьвівалася ўнутры "Маладняка". Досыць нагадаць як сьлед гэтых перажываньняў "Vita" Я. Пушчы[76] і тыя гутаркі, што яе папярэджвалі. Нарэшце варта прыгадаць тут прызнаньні Я. Пушчы, зробленыя ім у артыкуле "У абарону маладой поэзіі"[77] наконт перажываньняў розных школ у разьвіцьці Пушчавай поэзіі. Ды й апроч гэтага можна было б прывесьці не адзін прыклад згукаў у ўзвышэнскай поэзіі вывучкі ў клясыцызьме, романтызьме, натуралізьме,

[76] Пушча Язэп. Vita поэзіі. Мн., Выд. ЦБ "Маладняк"; 1926. 58 с.

[77] Пушча Я. У абарону маладой поэзіі //Савецкая Беларусь. 1929, 27 кастрычніка.

сымволізьме і інш. У гэтым дачыненьні “Узвышша” ўжо магло б пра сябе сказаць словамі М. Багдановіча, што з яго творчасьці можна ўжо скласьці кароткі паўторны курс бадай усіх кірункаў апошніх стагодзьдзяў. Але ў даным выпадку гэта пакуль што не патрэбна [..].

З вызваленьнем пралетарскай поэзіі з рамак буржуазнай негатыўнае пераймальніцтва пераходзіць у мастацкае адмаўленьне буржуазнай поэзіі. Гэтым самым пролетарская поэзія пераходзіць на вышэйшую ступень свайго разьвіцьця, яна пачынае кругабег самастойнай творчасьці. Гэты кругабег зьвязаны ўжо з новымі мастацкімі прынцыпамі творчасьці і характэрны як тэорэтычным змаганьнем за гэтыя прынцыпы, так і практычным іх ажыцьцяўленьнем у самастойнай творчасьці [...].

У беларускіх умовах на даным этапе разьвіцьця такой мастацкаю школаю становіцца аквітызм — гэта асобае разуменьне поэзіі, якое, разьвіваючыся практыкай узвышэнскай поэзіі, выявілася як найбольш моцнае і пладатворнае, найбольш самастойнае ў творчасьці. Сёньня яно зьяўляецца прадметам ня толькі тэорэтычнага ўсьведамленьня, але і практычна азначанае самой поэзіяй.

Што такое аквітызм? На гэта мы можам папярэдне адказаць так: аквітызм гэта пераход беларускай пролетарскай поэзіі на ступень мастацкага азначэньня сябе як соцыяльнага ўяўленьня. Сацыяльнае ўяўленьне як вынік разьвіцьця поэтычнага мастацтва і найвышэйшае дасягненьне літаратурнай мысьлі на гэтай ступені становіцца адзінай зброяй пролетарскай поэзіі адзіным яе прынцыпам і існасьцю. Пролетарская поэзія, разгляданая гістарычна, ёсьць найвышэйшы пункт разьвіцьця поэзіі як мастацтва. Пролетарская поэзія — гэта вяршына поэтычнага мастацтва, а гэта значыць, што яна творчасьць самастойная, сьвядомая і асаблівая. І такою яна становіцца як соцыяльнае ўяўленьне.

Пролетарская поэзія як мастацтва мае за сваімі плячыма нямалую гісторыю, пачынаючы ад народнай поэзіі. Ужо народная творчасьць як негатыў поэзіі панавальных клясаў становіць сабою ў патэнцыі сучасную поэзію. У сваім жа гістарычным разьвіцьці поэзія як мастацтва пережыла некалькі школ, абагаціўшыся іх дасьведчаньнем. Праз гэтыя школы яна разьвіла ўжо не адну сваю мастацкую магчымасьць, не адну сваю старану, каб станавіць сябе ўрэшце як сацыяльнае ўяўленьне [...]. Для нас, скажам, клясыцызм ёсьць зьнятая форма, або спосаб уяўленьня, але клясыка ня ёсьць сама існасьцю паэзіі. Для клясыка існасьць поэзіі было боскае натхненьне (нядарма

яны любяць параўноўваць паэта з прарокам)[78]; для нас жа ўвесь сакрэт натхненьня ва ўяўленьні як працэсеператварэньня матэрыяльнага ў ідэальнае, што адбываецца ў чалавечай галаве [...].

Такім чынам, аквітызм як мастацкая каштоўнасьць вызначаецца простаю думкаю аб тым, што поэзія ёсьць уяўленьне. Гэта думка ёсьць органічны вынік узвышэнскай творчай практыкі, праверанай на практыцы іншых поэзій [...]. Уяўленьне гэта тое, што становіць пролетарскую поэзію нашай эпохі поэзіяй пролетарскаю, гэта асноўная яе адзнака, гэта яе мастацкая асаблівасьць. Пролетарскую поэзію мы разглядаем перад усім як вынік гістарычнага разьвіцьця поэзіі, вышэйшую ступень разьвіцьця поэтычнай думкі, якая, вырастаючы з буржуазнай поэзіі, становіцца над ёю як яе адмаўленьне — сацыяльнае і мастацкае [...]. Поэзія на гэтай ступені — асаблівая творчасьць: Яна адрозніваецца ад буржуазнай ня толькі сваёй сацыяльнай існасьцю, яна адрозніваецца ад сваіх папярэдніх школ і сваёю мастацкаю культураю [...].

Тут вось і паўстае пытаньне, як жа аквітызм разглядае само ўяўленьне, якое ён бярэ за канструкцыйны прынцып пролетарскай поэзіі на сучасным этапе яе разьвіцьця. Перадусім аквітызм адрознівае тры моманты ў паняцьці ўяўленьня: 1) уяўленьне як псыхолёгічная катэгорыя, якая выражаецца здольнасьцю выбражэньня, фантазіі, лятуценьня; 2) уяўленьне як рэфлекталёгічны апарат сьвядомасьці, які складаецца з прадстаўленьняў, думак і наогул усяго таго, што ўваходзіць у склад аперцэпцыйнай масы нашай сьвядомасьці; нарэшце, 3) уяўленьне як соцыяльны процэс ператварэньня матэрыяльнага ў ідэальнае, што адбываецца ў грамадзкай сьвядомасьці. Без уяўленьня ў яго першым разуменьні ня можа быць наогул ніякай поэзіі; без уяўленьня ў яго другім сэнсе ня можа быць разуменьня ня толькі зьяў поэзіі, але наогул без яго не магчыма ўспрыйманьне і разуменьне рэчаў; без уяўленьня ў трэцім яго моманце, моманце найвышэйшым, ня можа быць пролетарскай поэзіі як поэзіі новай мастацкай культуры, культуры па сваёй істоце соцыялістычнай [...].

---

[78] Пад класіцызмам А. Бабарэка ў кантэксце свайго часу разумеў не класіцызм у спецыфічным значэньні гэтага паняцця як канкрэтна-гістарычны метад, кірунак і стыль мастацкай культуры XVIII — першай чвэрці XIX ст., а класічнае мастацтва, як яно выявілася ў Заходняй Еўропе, Польшчы і Расіі пераважна ў мастацкай літаратуры, жывапісу і музыцы XVII — XIX стст., а ў Беларусі — у першай чвэрці XX ст.

З паданага прыкладу[79] вынікае, што твор поэзіі гэта не механічны будынак і ня склеп, дзе зложаны розныя вобразы, матывы, эпітэты, параўнаньні і да т. п. сыр'ё, а гэта сам працэс разьвіцьця, гэта ўяўленьне ў яго зьнятасьці. З гэтага ж вынікае і тое, што кожны твор поэзіі, якая за свой мастацкі мэтад мае мэтад дэялектычны, мэтад матэрыялістычнай дыялектыкі, заключае ў сабе тры асноўныя моманты: 1) першаява твору, або тое зерне, з якога ўявіўся або разьвіўся твор; 2) вузлы ўяўленьня, або тыя ступені, на якіх адбываюцца пераходы ў процілегласьць і 3) супярэчнасьць, або тая рухаючая сіла, якою разьвіваецца або ўяўляецца твор. З паданага прыкладу7вынікае і яшчэ адна выснова — гэта тое, што мастацкі твор мае дзьве стараны: адна відомая, тая, у якой даецца твор у чытаньні, якая ажыцьцяўляецца ў кадравым ладзе твору; і другая істотная, якая даецца ў процілегласьці непасрэдных быцьця твору, а менавіта ва ўяўным ладзе твору [...].

***<u>Публікацыя Ул. Конана</u>***

[79] А. Бабарэка паспрабаваў праілюстраваць сваю тэорыю аквітызму як сацыяльна-творчага ўяўлення аналізам паэмы Уладзіміра Дубоўкі "І пурпуровых ветразей узвівы..." (1929), цыклу вершаў Язэпа Пушчы "Песьня вайны", "Цень консула" (1929), якія сталі повадам ідэалагічных нападкаў на пісьменнікаў, іх арышту і высланні ў Расію (1930), пазней (1937) доўгатэрміновага зняволення на катарзе.

# Узвышэнства на падсуднай лаве

На самай справе ні судовае лавы, ні фармальна судовага дзейства як такога не было. Карны прысуд узвышэнцам, іншым удзельнікам міфічнага Саюза вызваленьня Беларусі быў падрыхтаваны на падставе аператыўных дазнаньняў сьледчых ГПУ (методыка здабыцця "ўлік" цяпер, з большага, вядомая), паказаньняў — нярэдка ў форме вымушаных саманагавораў — падследных. Не апошнюю ролю адыгралі і паказаньні, калі іх так можна назваць, сьведкаў. Хутчэй гэта былі звыклыя палітыка-выкрывальніцкія даносы і разносы.

Матэрыял Лукі Бэндэ, зьмешчаны ніжэй, у гэтых адносінах даволі характэрны з гледзішча "навуковага" паслужніцтва, аказанага карнікам над нашым нацыянальным адраджэнствам. І ўсё ж каштоўнасць бэндэвых старонак у чымсь іншым. А іменна ў пэўных фактычных дэталях з творчае лабараторыі ўзвышэнцаў, іхняга разуменьня гісторыка-філасофскае логікі беларускае адраджэнчае традыцыі. І ненадрукаваны, для нашчадкаў мабыць страчаны назаўсёды артыкул Антона Адамовіча пра адраджэньне, нават у крайне тэндэнцыйным, заідэлагізаваным пераказе і каментары крытыка-даносчыка, здатны ў нейкай ступені пашырыць нашае ўяўленьне пра тэарэтычныя пошукі ўзвышэнскае думкі, падсечанай і растаптанай далакопамі Беларушчыны на самым пачатку свайго вольнага ўзьлёту.

Другім, цалкам іншым дакументам таго ж самага рэпрэсіўнага часу зьяўляюцца паказаньні Уладзіміра Дубоўкі. Сьведчаньне на свой лад не менш вымоўнае. Прынамсі з двух меркаваньняў: дзеля разуменьня сутнаснага характару эпохі, палітычнае сыстэмы (колькі б мы настальгічна не ўздыхалі па тагачаснай "беларусізацыі") з яе

тальна-плоскай ідалагічнасьцю "пралетарскай", а з другога боку — тае нутранае духоўнае турмы, якую мусіў валачы ў сабе ці не кожны творца намнога раней, пакуль не апынецца ў рэальнай турэмнай камеры. Уякой паэту, нібы цалкам адрынутаму Богам, адно й застаецца, паратунку дзеля, — шчыраваць у адданасьці кесару-злыдню.

Абодва тэксты захоўваюцца ў архіве КДБ РБ, справа 20951-С; першы з іх дапамог падрыхтаваць да друку Уладзімір Міхнюк, — яму ласкавы дзякуй.

*А. К.*

## ПОКАЗАНИЯ

Л. БЕНДЕ о содержании и характере статей Ан.АДАМОВИЧА и о его нац. демократической работе в литературных организациях

*Теория "адраджэньня" есть то теоретическое основание на котором держится вредительская, контр-революционная деятельность нац.демократизма. Идеи "возрожденизма" об'единяли всех нац.демократов и всех нац.оппортунистов в одно целое, в одно единое. Под знаменем "возрожденизма" белорусская контр-революция вела борьбу против пролетарской диктатуры, пролетарской культуры. Национал-демократизм, который по сущности есть не только политическое течение, не только определенные тактические приемы и оружие буржуазии, направленное для разрушения единого фронта пролетариата всех наций, чтобы подорвать союз пролетариата с основными массами всех наций, — нац. демократизм есть и определенное идеологическое течение, более того: определенное мировоззрение.*

*"Теория" "возрождения" занимает в этом мировоззрении почти первостепенное место.*

*Наиболее яркими, наиболее законченными представителями "теорий" возрожденизма на литературном фронте являются Д. ЖИЛУНОВИЧ, В. ИГНАТОВСКИЙ, М. ГОРЕЦКИЙ, а после их — Адам БАБАРЕКО и Антон АДАМОВИЧ.*

*Предшественниками в этой "теории", отцами этой "теории" необходимо считать Ивана ЛУЦКЕВИЧА и фашиста Антона ЛУЦКЕВИЧА. От этих "отцов", белоруского движения (З.БЯДУЛЯ) пошли дети — ЛЕСИКИ, НЕКРАШЕВИЧИ, ЖИЛУНОВИЧИ, ИГНАТОВСКИЕ, БАБАРЕКИ, АДАМОВИЧИ, ГОРЕЦКИЕ.*

*В наиболее выразительном, наиболее скондесированном виде эта "теория" нашла свое выявление в критических статьях А. БАБАРЕКИ, М.* ДУБОВКИ и Ан. АДАМОВИЧА.*

*Потому мы считаем необходимым остановиться сначала на определении этой "теории" в его статье "ДА ПЫТАНЬНЯ ПРА "АДРАДЖЭНЬНЕ У БЕЛ. ЛІТАРАТУРЫ", статья, которая по причине явно контр-революционного содержания, должно быть, по тактическим соображениям не была помещена в журнале "УЗВЫШША". Мы будем эту статью использовывать в ее подлиннике:*

*"Многие вопросы истории белорусской литературы, пишет АДАМОВИЧ, до сих пор остаются или совершенно не разрешенными, или не совсем ясными. К числу их прежде всего принадлежит кардинальный вопрос про "адраджэньне" в белорусской литературе, разрешение которого должно дать ключ к более-менее полному, цельному пониманию всей "новой" эпохи в нашей литературе. Вопросу возрожденизма Ан. АДАМОВИЧ придает значение "кардинального вопроса", значение "ключа" для полного, цельного понимания всей "новой" эпохи в нашей литературе. "Большое значение" возрожденизму придает и М. ГОРЕЦКИЙ в первых изданиях "Истории Белорусской Литературы". Почетное место отводит "возрожденизму" и А. БАБАРЕКО в своем докладе на первом с'езде "МОЛОДНЯКА" и критических статьях в "УЗВЫШША".*

*Термин "возрождение", за которым прячется реакционная, реставраторская сущность, и которую выявим после, об'ясняется А. АДАМОВИЧЕМ по аналогии с термином "ренессанс" следующим образом: "слово "адраджэньне", как и иностранное "ренессанс" буквально значит "вторичное рождение" "вновь рождение" и в применении к какому либо явлению предуславливает предшествующее наличие процесса". Таким образом, само понятие "ренессанс", "возрождение" имеет своим предусловием существование когда-то определенного процесса, который за время своего существования дошел до "умирания" и который вновь возрождается, "вновь рождается", как говорит АДАМОВИЧ.*

*Понятия "ренессанс" и "возрождение" по существу и отражают "вновь рождение" процесс. Но АДАМОВИЧ спешит оговориться, что "употребление этого слова в отношении к возрождению античности ("ренессанс") внесло в это*

*буквальное значение определенную поправку, а именно, за отправной исходной пункт при "возрождении", "вторичном рождении", стало пониматься не первое "рождение", а тот средний уровень, который данное явление достигло между первым "рождением" и "отмиранием".*

*Таким образом исторический процесс представляется АДАМОВИЧУ, как процесс рождения, существования, смерти определенного явления и нового "вторичного рождения" — среднего уровня ранее рожденного явления, но которое прошло стадию существования и смерти. Этот момент есть квитэссенция всей нац. демократической исторической концепции. Человеку, мало мальски знакомому с марксизмом, совершенно понятно, что эта теория ничего общего не имеет с исторической концепцией марксизма. Историческое развитие с точки зрения марксизма есть не повторение новым этапом среднего уровня предшествовавшего отмершего этапа, а поднятие на следующую ступень через победу, "снятие" предшествовавшего этапа. "История есть ни что иное, как последовательное изменение отдельных поколений" (МАРКС) в неудержимом движении вперед.*

*Но враждебная марксизму историческая концепция нац. демократизма нужна была, чтобы прикрыть ею реакционную реставраческую свою сущность.*

*В целях "теоритического обоснавания" реставраческой своей сущности, нац. демократизм искажал согласно своей концепции исторический процесс.*

*"И действительно, пишет АДАМОВИЧ, оформление античной культуры началось с восприятия этого среднего уровня, а не уровня первоначальных зародков античности".*

*Чтобы доказать закономерность реставрации буржуазного на Белоруссии, нац. демократический "теоретик" безсовестно насилует историю, не понимая ее, судя о сущности ее по ее одежде.*

*Был ли так наз. "ренессанс" действительным оформлением среднего уровня античной культуры?*

*Утверждать это может или неуч "теоретический евнух", или сознательный шарлатан, или заведамо сознательный враг пролетарской теории исторического развития. Считать так наз. эпоху "ренессанса" за возрожение среднего уровня античной культуры — это означало бы выбросить за борт весь период средневиковой истории Европы, в которой культурный процесс*

*происходил не меньшим темпом, чем во время Цезаря или Александра Македонского. Период между античностью и эпохой "ренессанса" имел свой успех и достижения и человечество совершенно не потеряло его напрасно. Да и при том сам "ренессанс" мог быть только, как результат экономического и культурного развития средневековья, благодаря развитию через противоречия в эту самую эпоху, какую АДАМОВИЧ сбрасывает со счета человечества.*

*[...] После этого посмотрим, как АДАМОВИЧ разрешает вопрос возрождения белорусской культуры. Эпоха "ренессанса" согласно Адамовича была "возрождением культуры вообще поднятием ее из того упадка, в котором она очутилась во времена средневековья..."*

*Эпоха-же возрождения украинской и белорусской этих наших двух восточно-славянских культур касается только их самих, "потому что во время отмирания античной культуры, пишет АДАМОВИЧ, в таком же положении находилась культура вообще, во время же отмирания наших культур, общая культура, наоборот, быстро развивалась".*

*Исходя из этой особенности процесса, упадка "восточно-славянских культур", который сопровождался "быстрым ростом культуры вообще", АДАМОВИЧ вносит поправку в обыкновенное понимание возрождения, как возрождения "старой белорусской культуры".*

*Та поправка, которую вносит АДАМОВИЧ в понимание "возрождение наших культур" целиком и полностью выявляет буржуазный характер возрожденизма и автора поправки.*

*"Когда, пишет АДАМОВИЧ, при возрождении античной культуры брался за отправной пункт... средний уровень этой культуры, то при возрождении наших культур, их прошлый средний уровень уже не мог являться таким отправным пунктом по причине больших успехов, которые сделала за это время общая культура".*

*Кроме этого, АДАМОВИЧ признает, что украинская и белоруская старые культуры перед возрождением имели почти исключительно церковный, религиозный характер, возрождать который уже совсем не пришлось, не оказалось нужным".*

*А раз так, то что же должно явиться отправным пунктом возрождения белорусской культуры?... Раньше чем ответить*

*на этот вопрос АДАМОВИЧ разграничивает цели "ренессанса" и цели "возрождения белоруской культуры".*

*Оставаясь последовательным своей, прежде рассмотренной нами, вульгарной концепции "ренессанса", АДАМОВИЧ пишет: "если для возрождения античной культуры целью являлось достижение наивысшего уровня, которого античная культура достигла за время своей прошлой жизни, то для наших культур, понятно, аналогичной цели не могло быть, так как их наивысший уровень не мог служить, теперь даже отправным пунктом".*

*Опять таки необходимо отметить, что "наш ученый муж" занимаясь вновь самым грубым образом искажает историю. Он показывает, что целью "ренессанса" было достижение наивысшего уровня античной культуры, в то время, как "ренессанс" был отрицанием предшествующих культур и началом господства буржуазной культуры, культуры "рыцарей первоначального капиталистического накопления".*

*"Бунт розума" не ставил себе цели возвращения к своим предкам, к той социально-экономической формации, которая порождала античную культуру, а его целью являлась помощь назреванию и росту, распространению к господству нового способа производства, который шел на смену феодальному.*

*А потому и с точки зрения целей "ренессанса", он не являлся возрождением ни среднего, ни высшего уровня античной культуры.*

*Что же должно являться отправным пунктом возрождения? На этот вопрос АДАМОВИЧ отвечает следующим образом: "Таким отправным пунктом нашим культурам в их возрождении могла послужить народная культура". Что при этом понимает АДАМОВИЧ под "народной культурой" остается темным и для его самого. Со своей стороны мы отметим, что понятие "народная культура" мало чем отличается от понятия "белоруская культура", о которой говорил прежде АДАМОВИЧ, что она "имела почти исключительно церковный, религиозный характер". Может быть АДАМОВИЧ под "народной культурой" понимает культуру крестьянских масс времен феодальной Белоруссии, времен Белорусско-Литовского княжества, которую* ***Бабареко*** *характеризует как империалистическую и чуть ли не атеистическую, и которая на деле несмотря на поповскую*

философию БАБАРЕКИ — все-же была насквозь религиозностью, патриархальщиной?

Надо думать, что именно это понимает АДАМОВИЧ под “народной культурой”. А исходя из этого АДАМОВИЧ считает, что “за окончательную цель (возрождения — Л. Б.) для их (культуры восточно-славянских народов — Л. Б.) могло быть только достижение того примерно среднего уровня, который они занимали по отношению к др<угим> культурам во время своей прежней жизни”. Что это за “примерно средний уровень” остается пока что темным местом, если принять во внимание прежнее утверждение АДАМОВИЧА, что “при возрождении наших культур их прежний средний уровень уже не мог явиться таким отправным пунктом по причине больших успехов, которые сделала за это время общая культура”.

[...] Продолжая дальше свои размышления про “средний уровень” и “окончательную цель” АДАМОВИЧ пишет: “исследования ихней жизни (восточно-славянских культур — Л. Б.) показывают, что этот средний уровень (второй вариант — Л. Б.) приблизительно совпадал с тогдашним обще-Европейским уровнем, достижение которого в наше время и является таким образом окончательной целью ихнего возрождения”.

Таким образом, окончательной целью реставраторов являлось достижение среднего уровня “народной культуры” периода к ее упадку.

А поскольку этот “средний уровень” совпадал с средним уровнем Европейской буржуазной культуры, то контр-революционный нац. демократизм для более успешного достижения своих “окончательных целей”. Просто ставил перед собой “окончательную цель” насаждение в Б. С. С. Р. буржуазной культуры. Чтоже касается путей и средств для этого достижения, то Вы про них знаете.

Что это так говорит и сам АДАМОВИЧ, который в начале своей статьи занимался этимологическими фокусами, чтобы прикрыть контр-революционный характер возрожденизма, чтобы отвлечь внимание от буржуазно-реставраторской его сущности.

Вот как заканчивает АДАМОВИЧ свои этимологические фокусы: “Значит, из всего вышесказанного мы можем вывести следующее означение термина “возрождение” в отношении

*белорусской и украинской культур: "возрождение — это есть "вторичное рождение" данных культур с окончательной целью возведения их на обще-Европейский средний уровень".*

*Исходя из такого понимания "возрождения", которое дано ему АДАМОВИЧЕМ, мы можем перейти к рассмотрению вопроса об продолжительности эпохи возрождения в освещении национал-демократизма. Разбор этого вопроса выяснит нам одновременно и часть контр-революционной вредительной роли, которую национал-демократизм отыгривал на литературном фронте.*

*Прежде всего о начале "возрождения". Когда "золотым веком" (порой) — наивысшим уровнем белорусской культуры возрожденцы считают период до Люблинской унии, если еще и "униатство" было "национальным вызнаньнем", после присоединения Белоруссии к России, как пишет Язэп ЛЕСИК в своем комментарии к "БЕЛОРУССКОЙ ЭНЕИДЕ НАОБОРОТ" (НАВЫВОРОТ), "После присоединения Белоруссии к России, — говорит ЛЕСИК, — сейчас же начались преследования против униатства, ставшего к тому времени национальным белорусским "вызнаньнем" (исповеданием), то насчет периода начала "возрожденческой поры" у национал-демократов существует также единство взглядов. Тот же Лесик, например, считает начало возрождения с начала прошлого столетия, со времени "ЭНЕИДЫ НАВЫВОРОТ". Вот его определение исходного пункта белорусского возрождения: "Это произведение (ЭНЕИДА — Л. Б.) в начале прошлого столетия положило основу нашего культурно-политического возрождения".*

*Про начало возрождения в начале XIX-го столетия свидетельствует и профессор ИГНАТОВСКИЙ: "с начала XIX-го столетия на Белоруссии и за ее границами начинает развиваться национально-белорусское движение". (История Белоруссии — стр. 85). Это же утверждает и М. ГОРЕЦКИЙ в своей "ИСТОРИИ ЛИТЕРАТУРЫ" (стр. 101 — изд.1) и профессор ПИОТУХОВИЧ в своих "ОЧЕРКАХ ПО ИСТОРИИ БЕЛОРУСКОЙ ЛИТЕРАТУРЫ" (стр. 18).*

*Не отрицает того, что начало белорусского движения приходится на начало XIX-го столетия и Ант. АДАМОВИЧ. Мы привели одинаковое указание о начале белоруского движения ряда нац. демократов и 18 подголосков в истории.*

*Надо считать, что в основном эти указания насчет*

*времени начала более или менее значительного движения правильны.*

*Но что же вкладывают нац. демакраты в смысл белорусского движения?*

*Уже само название национального движения, как движения возрождения свидетельствует, что нац. демократизм подменивает национальное белорусское движение, которое по сущности своей было прогрессивным, несмотря на классовую ограниченность его и в условиях царского национального угнетения революционным, в его мелко-буржуазной части.*

*Вот это движение, которое выявляло процесс формирования белорусской нации, национал-демократизм стремится показать как процесс возрождения, в его понимании, о котором говорилось выше.*

*Более того. Нац. демократизм подменивает не только об'ективно революционно национальное движение XIX-го и начала XX-го столетия реакционным идеологическим течением "возрождения", но и период пролетарской диктатуры квалифицирует, как продолжение процесса возрождения.*

*Про. етарская революция квалифицируется, как "разрушение", как то, "что мешало возрождению Белоруссии" (ЛЕСИК. Чырв. сьцяг).*

*В полном согласии с ЛЕСИКОМ, ЖИЛУНОВИЧЕМ, Антон АДАМОВИЧ пишет:*

*"До сих пор почему то эпоха возрождения считалась нашими историками литературы от начала XIX-го столетия до Октября, время же после Октября считалось за отдельную после-Октябрьскую эпоху. Такое разделение вытекает безусловно из неправильного понимания самого термина "возрождение".*

*И АДАМОВИЧ обосновывает свое утверждение, что процесс возрождения еще не кончился, а продолжается и по сегодняшний день со ссылки на то, что "беларуская литература еще окончательно не взошла на средне-Европейский уровень, хотя уже и вступила на него".*

*Последняя выдержка из статьи АДАМОВИЧА интересна тем, что она прямо показывает куда, на какой "уровень" ориентировалась правая часть белорусской литературы, периода 1917-30 г. г., которая уже вступила на "средний Европейский уровень".*

*Пролетарская революция, которая по мнению нац. демократов не вытекала из об'ективного хода истории Белоруссии, а была занесена "московскими наездниками" ("ЗВОН") "комиссарами западной области" ("ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ") не приостановила окончательного процесса возрождения, а наоборот об'ективно создала более благоприятные условия для него, хотя суб'ективные стремления пролетариата были направлены на приостановление процесса возрождения.*

*"Революция, пишет АДАМОВИЧ, которая фактически являлась разрушением, прекратила на некоторое время процесс возрождения, хотя, об'ективно, разрушая старое, давала ему большой толчек", а немного раньше тот же АДАМОВИЧ пишет: "что условия самого возрождения кардинально изменились в после-Октябрьскую пору — и значительно благоприятствуют его ускоренному окончанию".*

*Так вот "несмотря на то" (АДАМОВИЧ), что происходила пролетарская революция, процесс возрождения не прекратился, он продолжается и в наши дни.*

*Довод[ом] этому считает еще "такие характерные симптомы возрождения, как наша сегоднешняя борьба за культуру языка, за художественную культуру вообще".*

*Не останавливаясь на этих доводах АДАМОВИЧ идет дальше. "Наконец, доводом является и то, что в белорусской экономике, а также и в других областях белорусской культуры процессы возрождения еще не окончились".*

*А раз так, раз процессы возрождения "не закончены еще в области "базиса", не могут закончиться еще и в области литературы, в области "надбудовы".*

*Эти процессы возрождения в области культуры и литературы не окончились потому, что "можно сказать об отсутствии пока базы для какой либо иной, высшей за возрождение эпохи в нашей литературе".*

*Надо считать, что это последнее утверждение основывается на той земельной, Прищеповской политике, которая проводилась в 27-28 г. которая была политикой насаждения кулацких хозяйств.*

*А "все это вместе взятое, укрепляет наше утверждение о продолжении возрождения в нашей литературе от начала XIX-го столетия почти до наших дней включительно". (АДАМОВИЧ). Весь процесс национально-революционного движения на разных этапах его развития АДАМОВИЧ целиком и полностью*

ідэалагічна супярэчлівым часе. Шануючы Купалу, "узвышаўцы" ўсё ж аддалі перавагу Багдановічу, якога ў 20-я гады ўжо не было сярод жывых. Ён застаўся ў тым напярэднім, падзеленым мяжой рэвалюцыі часе, цалкам сцвердзіўшы сябе ў якасці нацыянальнага класіка, і быў самім лёсам пазбаўлены неабходнасці прытараноўвацца да пралетарскай рэвалюцыі. Аднак для прадстаўнікоў пралеткультаўскай дактрыны нават Багдановіч быў небяспечным "прадстаўніком буржуазіі" і выражаў інтарэсы "нацдэмаў". Адзін з дастаткова тонкіх і цікавых крытыкаў свайго часу, Сымон Куніцкі, тым не менш таксама не пазбегнуў вульгарызатарскай трактоўкі ідэйна-мастацкага аблічча "Узвышша", менавіта такім чынам ацаніўшы Багдановіча і яго ўплыў на платформу "Узвышша". Для прадстаўнікоў апошняга, на Куніцкаму, Багдановіч быў выразнікам настрояў "усвядомленае культурнае беларускае інтэлігенцыі", ... "праз мастацкае выяўленне вялікае культурнае вартасці інтэлектуальнага багацця Беларусі, багацця творчае думкі беларускай"[95]. У разуменні С.Куніцкага такое выражэнне настрояў было заганай. Складваецца ўражанне пэўна ідэалагічнае зададзенасці маладога крытыка пры аналізаванасці творчае платформы "Узвышша" як варожага інтарэсам пралетарскай літаратуры. Праўда, яго матэрыял "Літаратурна-мастацкае згуртаванне "Узвышша" не быў надрукаваным у тагачасных выданнях, а застаўся ў машынапіснай копіі ў архіўным фондзе Л.Бэндэ — мажлівага заказчыка гэтага крытычнага артыкула. Пры разглядзе гісторыі ўтварэння і асноўных праграмных момантаў "Узвышша, Куніцкі расстаўляе патрэбныя ідэалагічным наглядкам акцэнты, абвінаваціўшы новае аб'яднанне ў "адыходзе ад асноўнага "пралетарскага" — І.Б.) напрамку развіцця беларускай савецкай літаратуры"[96], у імкненні да буржуазна-нацдэмаўскага ідэалістычнага кірунку"[97]. Выхад "узвышаўцаў" з "Маладняка" крытык атаясамліваў з "разыходжаннем з лініяй партыі ў галіне мастацкай літаратуры"[98]; далей дакараў за тое, што ў іх "Камунікаце" "нічога не гаворыцца аб класавасці літаратуры як зброі класавай барацьбы, аб стварэнні літаратуры сацыялістычнай па змесце і нацыянальнай па форме", а галоўны ўпор робіцца на нацыянальным афармленні, беларускасці

[95]БДАМЛІМ. Ф. 66, в. 1, адз.з. 1403, арк. 10.
[96]Там сама, арк. 3.
[97]Там сама, арк. 4.
[98]Там сама, арк. 4.
[99]Там сама, арк. 7.

літаратурнага твора[99]. Цікава сачыць на падставе такіх дакументаў, як моцна і напорна адбываўся працэс дэфармацыі грамадскай свядомасці, спакушанай рэвалюцыйнай дагматыкай, калі тое, у чым абвінавачваліся пісьменнікі і іх згуртаванне, фактычна з'яўлялася неаспрэчнай мастацкай каштоўнасцю, а тое, ад чаго яны адмаўляліся, было пасутнасці чужым і непрымальным для сапраўдных іх творцаў. Так у штыкі ўспрымалася вяртанне "ўзвышаўцаў" ва ўлонне нацыянальных мастацкіх традыцый: "замест ідэі пралетарыяту — ідэя нацыянал-дэмакратызму"! Вернасць нацыянальным вытокам, прыярытэт нацыянальных культурных каштоўнасцей, або як выражаліся вульгарызатары "нацыянал-дэмакратызм", быў самым галоўным ідэйным "ворагам" пралеткультаўскай эстэтычнай канцэнцыі, з яе галоўнымі ідаламі — пралетарыятам і рэвалюцыяй, якім належала бяспрэчна пакланяцца і безаглядна слугаваць. Архаічнае, калі не крамольнае адценне ў афіцыёзных трактоўках набывалі паняцці і каштоўнасці кшталту бацькаўшчына, радзіма, спадчына ва ўсёй складанасці жывых сувязей з гістарычным мінулым, культурнымі традыцыямі, перспектывамі далейшага нацыянальнага развіцця. "У чым канкрэтна выражаецца нацыянал-дэмакратызм?" — не гэтулькі пытаўся, колькі віжаваў аўтар артыкула, працягваючы свае абвінавачванні "ўзвышаўцам", што тыя "шукалі ў спадчыне не дэмакратычных ідэялаў, а буржуазна-нацыянальных."[100] Пры відавочнай абсурднасці гэтых абвінавачванняў і безлічы падобных, сёння можна толькі здзіўляцца і ганарыцца тым, што такі ўзор нацыянальнай культуры, як "Узвышша" ў яго ідэйна-мастацкай цэласнасці, мог узнікнуць і пэўны час трываць у тагачасных умовах ідэйнае нецярпімасці і астракізму. Гэта быў яшчэ адзін гістарычны магутны ўсплёск нацыянальнай самасвядомасці пры абставінах фактычна таму супярэчных, нават варожых. Так прабівалася на волю імкненне да нацыянальнага самасцвярджэння, якое заганялі ў рамкі пралетарскай дактрыны. Куніцкі дакладна ахарактарызаваў ідэі і стыль "Узвышша", як імкненне да "беларускага стылю" і "беларускай нацыянальнай формы", называючы ў якасці ўзорных для "узвышаўцаў" імёны Алеся Гаруна і Максіма Багдановіча: Разгледжаны вышэй артыкул быў напісаны, відавочна, пасля 1931 г., бо ў ім згадваецца ў канцы і факт самаліквідацыі згуртавання, а гэта быў час, калі ўжо лідэры аб'яднання чакалі ссылкі або былі высланымі. Што датычыць багдановічаўскай традыцыі ва

[100]БДАМЛІМ. Ф. 66, в. 1, адз.з. 1403, арк. 9.

"Узвышшы", то аб ёй варта сказаць асобна з пункту гледжання сучаснага досведу.

Творчасць Максіма Багдановіча не толькі прышчэпвала і замацоўвала на беларускай мастацка-паэтычнай глебе еўрапейскія літаратурныя традыцыі антычнасці, асветніцтва, мадэрнісцкіх плыняў канца XIX – пачатку XX ст.ст., але і сама станавілася традыцыяй для літаратуры наступных дзесяцігоддзяў. Замацаванне багдановічаўскай традыцыі асабліва адчуваецца ў 20-я гады ў літаратурна-мастацкай тэорыі і практыцы "Узвышша", якое стала менавіта той масавай плынню, што падцвердзіла жыццяздольнасць і плённасць багдановічаўскай паэтыкі. Наследаванне культурнай спадчыне Багдановіча ў 20-я гады ўжо намнога пазней, на пачатку 60-х падкрэсліў і Язэп Пушча, былы актыўны "ўзвышавец". Адзначыўшы ўплыў Купалы і любоў да яго маладзейшых пісьменнікаў, паэт удакладніў: "І Максіма Багдановіча мы цанілі, і ніхто іншы як я напісаў аб ім артыкул "Кніга лірыкі як мастацкае цэлае". М.Багдановіч з'яўляецца прыкладам для нас, узорам таго, як трэба складаць кнігу лірыкі[101]". Ключавыя вобразы багдановічаўскіх твораў часта станавіліся топасамі выяўленчай палітры "ўзвышаўцаў". Апрача таго вобразная пераклічка суправаджалася і сімвалічнай пераклічкаю лёсаў.

Так, творчы лёс У.Дубоўкі складваўся падобна на лёс М.Багдановіча, вершы якога, як вядома, не адразу знайшлі зразуменьне сярод некаторых супрацоўнікаў "Нашай нівы" (Ядвігін Ш. і інш.). І толькі крыху пазней, дзякуючы падтрымцы С.Палуяна, В.Ластоўскага, яны былі прызнаныя тагачасным беларускім парнасам, пасля чаго і пачалося імклівае ўзыходжанне Багдановічавай паэтычнай зоркі. Вершы У.Дубоўкі, дасланыя ім у 1921 г. ў газету "Савецкая Беларусь", таксама спачатку былі вернуты аўтару з адмоўнай заўвагай "Уладысю Дубоўцы" аб тым, што надрукаваць вершы нельга, бо яны "не маюць рытму і вытрывалай думкі", з адначаснай парадай лепш "пісаць прозу"[102]. Аднак жа вершы Дубоўкі трапілі ў Вільню і там былі надрукаваны асобным зборнікам пад назваю "Строма". У гэтым раннім зборніку праяўляліся ўсе адметныя рысы будучага творчага аблічча Дубоўкі, якія потым разгалінуюцца ў магутнае цудоўнае, часам экзатычнае /як паэма "Там, дзе кіпарысы"/ дрэва яго паэзіі. Не выпадковым

[101]БДАМЛІМ. Ф. 78, в. 1, адз.з 94, арк. 81.

[102]Дробуш С. Пра мастацтва і Дубоўку // Аршанскі Маладняк, 1926, № 2. С. 10.

аказаўся гэты збег падобных акалічнасцяў з пачаткамі выданняў твораў абодвух паэтаў. Менавіта Дубоўка стаў прадаўжальнікам багдановічаўскай традыцыі ў беларускай літаратуры 20-х гадоў, а таксама яго сябры-паплечнікі Я.Пушча, У.Жылка, што склала і канцэптуальную аснову "Узвышша" ў цэлым. Не выпадкова таксама, што менавіта Дубоўка і яго сябры па "Узвышшы" і "Маладняку" ездзілі ў Ялту спецыяльна, каб адшукаць і ўшанаваць занядбаную на чужыне Багдановічаву магілу[103].

Эстэтычная канцэпцыя "Узвышша" (умоўна па тэрміналогіі саміх "узвышаўцаў" — "аквітызм") быў у поўным сэнсе працягам "паэзіі красы" М.Багдановіча не ў фармальным сэнсе пошуку адмысловых выяўленчых сродкаў, а ў глыбінным сэнсе разумення красы як мастацкага ідэалу. Паэтыка ўзвышаўскага "аквітызму" сапраўды ў істоце сваёй вяртала мастацкі твор у сферу ідэальнага светабачання, што ў канцы 20-х гадоў з'яўлялася не проста смелым грамадзянскім крокам літаратараў, У.Дубоўкі і яго паплечнікаў, але было ў нейкім сэнсе і выклікам афіцыйнаму курсу на палітызацыю мастацтва і прымітыўнае прывязванне яго да штодзённых праблем "сацыялістычнага будаўніцтва". У гэтым была сутнасць "аквітызму" і тэарытычная канцэптуальнасць "Узвышша", якая звязвала яго з хрысціянскім светаадчуваннем, ад чаго адмовіўся рэвалюцыйны паэтычны "авангард". "Жывая вада" як біблейскі сімвал нараджэння духоўна абноўленага чалавека быў творча пераняты "ўзвышаўцамі". Гэтая ідэя духоўнага абнаўлення пераносілася імі на мастацтва і сімвалізавала адкрыццё новага шляху праз вяртанне мастацтву яго эстэтычнай функцыі вобразнага адлюстравання рэчаіснасці. "Аквітызм" з яго сімволікай "жывой вады" вяртаў беларускую літаратуру на скрыжалі ўласных мастацкіх традыцый, замацоўваючы плён багдановічаўскай канцэпцыі "чыстай красы". Праз паэтыку "аквітызму", якая ўключала ў сябе сінтэз мастацкіх прыёмаў розных напрамкаў і школ, а таксама ўласную традыцыю, звязаную з апорай на нацыянальную адраджэнскую дамінанту, "узвышаўцы" здолелі сказаць у мастацкім слове вельмі многае аб сабе і сваім часе. Праз люстра "Узвышша", праз эзопаўскую мову і алегорыі паэтаў / У.Дубоўкі, Я.Пушчы/ адбілася ўсё няпростае і трагічнае жыццё другой паловы 20-х гадоў.

[103]Дубоўка У. На Багдановічавай магілцы // Узвышша, 1927, № 2.

Такім чынам, вытокам паэтыкі "Узвышша" можна назваць паэзію "чыстай красы" М.Багдановіча, якога крытык 20-х гадоў У.Дзяржынскі назваў "першым з паміж беларускіх паэтаў і ядыным, хто спецыяльна заняўся беларускім вершам, як гэткім, яго стылізацыяй, гэта знача выпусканнем тых паэтычных нормаў, якія ўласцівы і могуць быць застасаваны ў беларускім вершы"[104]. Калі мы звернемся да "Тэзісаў" "Узвышша", то ўбачым у аснове яго эстэтычнай канцэпцыі тую ж устаноўку на дасканалую форму твораў: "Мастацтва павінна быць узвышшам"[105]. "Магчымасць утварэння ўзвышша беларускай мастацкай літаратуры" бачылася ў наступных параметрах: "культура беларускай мовы; жыццёвая сымболіка мастацкага твора; яго канцэнтрацыйная вобразнасць; дынамічнасць кампазыцыі; беларуская жанравасць; адзінства творча-мастацкай ідэі; разнастайнасць фармальных рэальнасцей і — аквітызм, як тая імклівасць, якою прасякаецца мастацкі твор у сваім ідэале"[106]. Узвышаўцы сцвярджалі, што "Беларусі як крыніцы творчасці новых фрмаў культуры, яшчэ не ведаюць, а каб іх ствараць, неабходна "шмат ведаць і ўмець па-мастацку выражаць"[107]. Тут праглядаюцца два аспекты: па-першае, наяўнасць усвядомленай сувязі з нацыянальнай традыцыяй, перарванай "маладнякоўствам" /устаноўка на Беларусь як крыніцу творчасці/, а па-другое, арыентацыя на Багдановічаву запаветную ідэю стварэння "вершаў беларускага складу". Гэта быў ужо істотны момант, які ўдакладняў і пашыраў спектр багдановічаўскай традыцыі ў мастацкай практыцы "Узвышша": не толькі абноўленая канцэпцыя "чыстай красы" ў выглядзе "аквітызму" мела сваю актуальнасць, але і форматворчы нацыянальны эксперымент, што ўзнаўляў вопыт багдановічаўскіх фальклорных стылізацый у айчынным і замежным пісьменстве. У творчасці У.Дубоўкі гэта, напрыклад, выразна праявілася ў тым, што ён уключыў у кампазіцыю сваёй паэмы "І пурпуровых ветразей узвівы" некалькі вершаваных народных паданняў, уклаўшы ў іх шматзначны алегарычны сэнс. "Узвышаўцы" імкнуліся выявіць тую фармальна-мастацкую сутнасць /аквітызм/, якая заўсёды будзе вызначаць анталагічную

---

[104]Дзяржынскі У. Максім Багдановіч як стылізатар беларускага вершу. // Адраджэнне. Літаратурна-навуковы веснік Інстытуту беларускай культуры. Сш. 1. Мн. 1922. С.205.

[105]Тэзісы да пытання аб утварэнні "Узвышша" //Узвышша, 1927, № 1, С.168.

[106]Узвышша, 1927, № 1. С. 168.

[107]Таксама, С .169.

і эстэтычную спецыфіку менавіта беларускага верша і будзе абумоўліваць уключанасць яго нацыянальнай характарыстычнасці ў кола агульначалавечых каштоўнасцей. Мастацкі вопыт М.Багдановіча для "ўзвышаўцаў" тут быў неацэнным і неабходным.

Аб творчай школе М.Багдановіча канкрэтна гаворыць і паэзія прадстаўнікоў аб'яднання: У.Жылкі, Т.Кляшторнага, С.Дарожнага, самога У.Дубоўкі, Я.Пушчы. Апрача акалічнасцей выдання першых кніжак, Дубоўку з Багдановічам родніць у нейкай ступені і такі асабісты фактар, як фізічная аддаленасць ад бацькаўшчыны. Трагічныя матывы падабенства асабістага лёсу з Багдановічам ёсць у Жылкі. Я.Пушчу літаратурныя апаненты абвінавачвалі ва "ўпадніцтве" як ідэалагічнай хібе ўсяго "Узвышша"[108]: Згадаем, што вершы Багдановіча напачатку таксама называліся "дэкадэнцкімі". Сімвалічна, што сама назва паэтычнага зборніка Багдановіча "Вянок", дадзеная, як вядома, В.Ластоўскім, азначала ў поўным падтэксце "вянок на магілу С.Палуяна" — аднаго з першых прыхільнікаў і цаніцеляў паэзіі М.Багдановіча. Зборнік вершаў У.Дубоўкі "Строма" /Вільня, 1923/ быў таксама вянком-прысвячэннем сястры М.Гарэцкага: "Светлай памяці Ганулі Гарэцкай, як вяночак на магілку ў чужыне, — прысвячаю". Ганна Гарэцкая, як вядома, стала ўскоснай ахвярай рэпрэсіўнага апарату ў 1922 годзе: яна, студэнтка Зоатэхнічнага інстытута, была смяротна пакалечаная трамваем ў Маскве, калі спяшалася з перадачай у турму арыштаванаму ГПУ брату Гаўрылу[109]. Яе смерць страсянула ўсе нацыянальна свядомыя сілы беларускага грамадства, і У.Дубоўка ўшанаваў, яе памяць сваім прысвячэннем, тым самым дакладна вызначыўшы і свой уласны арыенцір у патрыятычным рэчышчы беларускай паэзіі.

Аб наследаванні У.Дубоўкам паэтыкі М.Багдановіча гаворыць і яго верш "Ты ляжыш на руцэ маёй, верас", дзе развіваецца матыў сціплай кветкі-верасу, як сімвала роднага краю. Адчуваецца выразная арыентацыя на багдановічаўскую топіку — на яго вобраз сціплага васілька з такой жа сімвалічнай семантыкай. Верш датаваны 1928 годам, прыводзіцца намі па архіўнаму ўласнаручнаму аўтарскаму асобніку:

***Ты ляжыш на руцэ маёй, верас,***
***Найдрабнейшая з кветак.***

108 Глыбоцкі Т. Літаратурнае балота. // Полымя, 1928, № 1, С. 187.

109 Гарэцкі Р. Ахвярую сваім "я".../Максім і Гаўрыла Гарэцкія/. Мн., 1998. С. 94 — 100.

*Я пытаўся, пытаю яшчэ раз:*
*Чым ты вабіш нас гэтак?*

*Ледзь прыкметны для нашага вока,*
*Быццам зернейка маку.*
*Ад зямлі не расцеш ты высока,*
*Цябе топчыць усякі.*

*А калі расцвітаеш на ўзлессі,*
*Закрасуеш у пушчы, —*
*Характвом ты тады апранешся*
*Сапраўды неўміручшым.*

*Найдрабнейшыя кветкі складаюць*
*Хараство у кілімы,*
*Наша доля хіба не такая?*
*Скажы, верас любімы!*

*Ты ляжыш у мяне на далоні,*
*Найдрабнейшая з кветак.*
*Я пытаю, пытаю сягоння:*
*Чым ты вабіш нас гэтак?*[110]

У паэтыцы М. Багдановіча, як мы ўжо згадалі, сціплы васілёк (верш "На чужыне", "Слуцкія ткачыхі") быў сімвалам радзімы; маленькая няяркая вясёлка ўкруг месяца -- сімвалам паэта. Багдановічаўская эстэтыка "найдрабнейшага", не істотнага і не заўважнага на першы погляд, але на самой справе як раз самага важнага, істотнага, вызначальнага, як бачым аказалася арганічнай і даспадобнай Дубоўку як прадстаўніку "Узвышша". Немагчыма лічыць выпадковым яго паэтычнае сцверджанне: "Найдрабнейшыя кветкі складаюць хараство у кілімы". Калі гэта не алюзія, то бясспрэчна, відавочная асацыяцыя з багдановічаўскай вобразнай мадэллю сціплай, не кідкай кветкі як найвышэйшай адзнакі красы, дасканаласці і выражэння сакральных сувязей чалавека са светам. Адзін праніклівы багдановічаўскі крытык назваў гэтую вызначальную рысу багдановічаўскай паэтыкі "чыстай красы" музычным тэрмінам: "Ён іграе на бемолях." Сапраўды, непераўзыдзеным было майстэрства М. Багдановіча адкрываць някідкія, няяркія праявы рэчаіснасці і духу і

---

[110]Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ. Ф. 14, в. 1, адз.з. 25, арк. 1 — 2.

ўзводзіць іх да найвышэйшай ступені мастацкага хараства. Ён адбіраў для вобразнага пераўвасаблення нібыта ўсё другараднае — тое, што іншыя проста не заўважалі, і ствараў цудоўную лірычную гармонію з паўтаноў, пераходаў і пераліваў адценняў у настроях, фарбах, гуках. Менавіта гэта меў на ўвазе А. Луцкевіч, пішучы пра "бемольнасць" яго вершаваных кампазіцый, і назваў паэта "будаўніком новай гармоніі, які ў аснову гэтай гармоніі паклаў лад мінорны"[111]. А. Луцкевічу належыць і наступная тонкая эстэтычная паралель: "Агульны тон паэзіі Багдановіча... напамінае сум і тугу несмяротных твораў Шапэна"[112]. Зрабіўшы такое вызначэнне, крытык, безумоўна, не думаў, што яно таксама будзе мець пэўнае дачыненне да паэтыкі "Узвышша" і мастацкіх густаў яго сяброў. А менавіта У.Дубоўку належыць артыкул, дзе ён дасведчана і грунтоўна даследуе беларускія мелодыі ў творах Ф. Шапэна. Дубоўка аналізуе тыя кірункі, ў якіх можна прасачыць беларускія ўплывы на творчасць Шапэна. Гэта такія кірункі: а) чыстая народная мелодыя паложана ў аснову цэлага твора, узята як тэма; б) народная мелодыя ўводзіцца як другарадны элемент, як аздоба; в) народная мелодыя з'яўляецца як бы асноведдзю, на якой творчы геній Шапэна тчэ ўласныя кампазіцыі"[113]. У гістарычным разуменні Шапэн быў суайчыннікам беларускіх паэтаў, таму агульнасць у выяўленні настрояў і традыцый не можа быць выпадковай. Кампазітар адлюстроўваў праз музыку склад народнай душы. Дубоўка абагульніў гэта пазней у сваіх інтуітыўна адчутых, дый лагічна выбудаваных довадах. Багдановіч у паэзіі, як Шапэн у музыцы, мэтанакіравана імкнуўся ствараць свае вершы беларускага складу. Такім чынам, успрыняцце творчасці Ф. Шапэна прыкладна праз стагоддзе беларускім крытыкам А. Луцкевічам і беларускім паэтам У. Дубоўкам у 20-я гады таксама сведчыла аб наяўнасці агульнага ўплыву творчасці М. Багдановіча на паэтыку "Узвышша", аб рэцэпцыі Багдановіча ў творчай практыцы "Узвышша".

Багдановічаўскую эстэтыку някідкага хараства ("бемольнасці") Дубоўка ў сваёй творчасці развівае нязмушана і паслядоўна, яна арганічная і шматзначная, шматабяцальная для яго. Але ён на грунце яе ўжо вырашае ўласныя творчыя задачы, шліфуе сваё майстэрства, стварае сваю вобразную сімволіку. З пункту гледжання акрэсленай

[111]Луцкевіч А. Максім Багдановіч: У чацвёртыя ўгодкі смерці яго // Наша думка. Вільня, 1921, 27 мая.

[112]Там жа.

[113]Дубоўка У. У звязку з пытаннем аб беларускіх мэлёдыях у творчасці Шапэна // Узвышша, 1927, № 1. С. 146.

традыцыі можна разглядаць і знакаміты дубоўкаўскі верш, дзе створаны вобраз шыпшыны, як сімвала радзімы:

*О Беларусь, мая шыпшына!*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
*Пялёсткамі тваімі стану,*
*На дзіды сэрца накалю...*[114]

Так. Менавіта сціплая кветка шыпшыны; — традыцыйнае красы ў гародчыку амаль кожнае беларускае сядзібы, — стала ў паэтыцы Дубоўкі сімвалам айчыны. Не пышная прыгожая ружа, а сціплая шыпшына з сэрцам адданага паэта, наколатым на яе дзіды, — як знак і прадбачанне ўласнага ахвярнага лёсу. У стылі гэтай жа "бемольнай" багдановічаўскай паэтыкі з'явіўся пазней і вобраз сціплага верасу з працытаванага раней верша.

Такім чынам, уплыў асобы і паэтыкі М. Багдановіча на мастацка-эстэтычную канцэпцыю "Узвышша" і творчасць яго прадстаўнікоў быў адчувальным, змястоўным і выніковым. Варта падкрэсліць яшчэ, што данінай пашаны М. Багдановічу, яскравым сведчаннем на карысць таго, што менавіта яго вылучаюць з усіх папярэдніх класікаў і бяруць сабе за "хроснага бацьку" "ўзвышаўцы", стаў такі красамоўны факт, як выданне другога нумара часопіса "Узвышша" цалкам прысвечанага Максіму Багдановічу. Менавіта ў гэтым нумары былі змешчаны яго вершы беларускага складу "Бяседная", "Лявоніха" і іншыя. Там жа друкавалася грунтоўная падборка матэрыялаў літаратуразнаўчага характару, сярод якіх крытыка-біяграфічны нарыс І. Замоціна "М. А. Багдановіч", агляд А. Бабарэкі "Максім Багдановіч у літаратурных ацэнках". Прысвячаўся паэту і верш П. Глебкі "Памяці М. Багдановіча", напісаны на дзесятыя ўгодкі яго смерці і напоўнены лірычным смуткам. Праз марыністычную сімволіку (мора і сініх хваляў), якая так блізка нагадвала аб апошнім прыстанку і сконе паэта, малады ўзвышаўскі пясняр сцвярджаў Багдановічаву неўміручасць:

*Хвалі на моры*
*Сумуюць, гавораць,*
*Коцяць жвір.*

[114]Дубоўка У. Credo. Вершы. Мн., 1926, С. 25.
[115]Узвышша, 1927, № 2, С. 101.

*Вэлюм на вочы...*
*Хвалі прарочаць:*
*Ён — жывы*[115].

М. Багдановіч і сапраўды быў жывы: яго думкі, яго голас, яго вобразы ажывалі ў творчасці паэтаў-узвышаўцаў, выводзячы беларускую паэзію да новых творчых даляглядаў.

Такім чынам, уплыў М. Багдановіча на паэтыку "Узвышша" адбываўся ў наступных, вызначаных намі кірунках: 1) канцэпцыя "аквітызму", або "жывой вады" мастацтва як новага духоўна абноўленага яго рэчышча, мела генетычную сувязь з канцэпцыяй "чыстай красы", якую распрацаваў у сваёй творчасці М. Багдановіч; 2) "ўзвышаўцам" імпанаваў ключавы вобраз някідкага хараства, якое ёсць сапраўдным выражэннем ісціннай красы, яе патаемнай сакральнай праяўленасці праз адпаведныя вобразы ў рэчаіснасці; у гэтым была сутнасць канцэпцыі "бемольнасці" Багдановічавай паэтыкі, вызначанай А. Луцкевічам; у гэтай сувязі "шыпшына" і "верас" У. Дубоўкі генетычна звязаны з "цвятком радзімы васілька" М. Багдановіча і ўтвараюць спецыфічнае мастацка-вобразнае выяўленне айчыны, становячыся характэрнымі вобразамі-топасамі; 3) "узвышаўцы" мэтаімкнёна вывучалі жыццё і творчасць паэта, выказваючы тэарэтычную і практычную ўвагу да творчай спадчыны паэта; у люстры яго творчасці яны бачылі і свой шлях да новага "ўзвышша" літаратуры. Багдановіч быў для іх, незадоўга перад гэтым адышоўшым з жыцця, паэтам-легендай, творчасць яго была для іх узорам мастацкай дасканаласці.

"Узвышша" — назва творчай літаратурнай арганізацыі, якая сама ў сабе ўжо заключала вобраз-сімвал — само стала міфам і легендай 20-х гадоў. Сімвал "узвышша" азначаў у 20-я гады ў сваёй істоце "сталае культурна-творчае" ўзняцце мастацкай літаратуры на вышыню лепшых узораў сусветнай класікі. Прычым вышыня ўспрымалася не толькі адносна ўласнага беларускага ўзроўню тагачаснай літаратуры пралеткультаўскага напрамку, але таксама адносна еўрапейскага ўзроўню, які "ўзвышаўцы" ўспрымалі ў коле ідэй Шпенглера з яго фаталістычнай канцэпцыяй "заняпаду Еўропы". Гэта яскрава бачна ў праграмных Тэзісах "Узвышша", што датычылі пытання, якім павінна быць новае сучаснае беларускае мастацтва, каб стаць "узвышшам": "Яно па сваёй культуры і глыбіні адбітку жыцця павінна стаць вышэй мастацтва як буржуазнага, так і сучаснага, якое часта выдае сябе за пралетарскае, гэтакім не з'яўляючыся. Яно павінна стаць адным з тых фактаў агульнай беларускай творчасці, які скажа ўсяму свету,

што могуць утварыць работнікі і сяляне калісь прыгнечанай нацыі, які скажа, што работнікі і сяляне гэтай нацыі маюць багатую фармальную культуру, якая з культурамі іншых, раней прыгнечаных нацый ідзе на змену "закатам" розных "вялікіх Эўропаў". Мастацтва павінна быць узвышшам"[116].

Тэзісы "Узвышша" змяшчалі ў сабе тэарэтычны погляд на мінулае развіццё беларускай літаратуры, прычым, як адзначалася, творчасць пісьменнікаў-папярэднікаў для культурна-нацыянальнага адраджэння Беларусі была магутным фактарам. "Маладнякоўская" плынь узнікла як альтэрнатыва "старым" адраджэнскім настроям, але таксама, адзначалася ў Тэзісах, неўзабаве вычарпала свае магчымасці, вырадзіўшыся ў асветніцкую плынь. Перспектыва літаратурна-мастацкага развіцця бачылася за "ўзвышшам", якое творыцца "не колькасцю паэтаў і пісьменнікаў, якія б асмеліліся абвясціць сабе каманднымі высотамі, а якасцю тэй літаратурна-мастацкай прадукцыі, якая прыносіцца ў скарбніцу беларускай мастацкай літаратуры з глыбінь сучаснасці, узброенай ведамі, воляю, шчырым жаданнем і энтузіязмам вялікай творчасці. Толькі так ўтворыцца тое ўзвышша беларускай пралетарскай літаратуры, якое ўгледзяць вякі і народы"[117].

Так аптымістычна заканчваўся праграмны дакумент новай літаратурнай арганізацыі, творы прадстаўнікоў якой сапраўды здолелі значна ўзвысіцца на сваіх ідэйна-мастацкіх якасцях у параўнанні з ператворанай пасля М. Чарота ўжо ў догму паэтыкай рэвалюцыйных хваласпеваў. Новая паэтыка "Узвышша", нягледзячы на аптымістычна бадзёры тон праграмных тэзісаў, па-сутнасці была напоўнена той самай багдановічаўскай "бемольнасцю", мінорнасцю інтанацый, была хутчэй у істоце сваёй паэтыкай смутку і сумненняў, чым паэтыкай пакарэння новых вышынь будучага. Сімволіка "ўзвышша" ў гэтым кантэксце праглядвалася ў розных аспектах: як сімволіка новага ўзроўню літаратуры, і як сімволіка ўзвышэння новых грамадскіх ідэалаў, здольных абнавіць краіну далучанасцю да сапраўдных высокіх духоўных і культурных нацыянальных каштоўнасцей. У гэтым была і неперарваная сувязь з традыцыяй, і шлях да новых далягляцаў. Так бачыцца вобраз — топас "узвышша" ў перспектыве, у той час як пры сваім узнікненні метафара творчага "ўзвышша" была семантычнай вобразнай альтэрнатывай маладнякоўскай "каманднай вышыні".

---

[116]Узвышша, 1927, № 1. 169.

[117]Тамсама. С. 170.

*Аляксей Каўка*

# Спаталенне жывой вадою,
## або шляхам Узвышэнства

Прыватны нататнік Адама Бабарэкі, ласкавы давераны Алесяй Адамаўнай для знаёмства даследчыку, схіляе да асаблівага засяроджання. Прыкладам, наступны запіс, прапануемы, праз нечытэльнасць некаторых слоў і скарачэнняў, у максімальна дакладным пераказе:

— Асноўны характар Беларусі ў тым, што яна вузел (падкрэслена ў А.Б.) Усходу і Захаду, Поўдня і Поўначы, цэнтр Еўропы, ***узвышша*** (курсіў тут і далей наш — А.К.), з якога разыходзяцца рэкі ўва ўсе бакі. Кругом ***узвышша***, а ў сярэдзіне балота (крыніцы), — гэтак высмактаныя прабежнымі рэкамі. ***Акавіта*** выцякла рэчкамі ў моры чалавецтва, у выключна чужыя культуры...

Ёмістае, многазначнае меркаванне, яно само ў сабе сынтэзуе суплёт недагавораных, нявыказаных думак пра штосьці вельмі сутнаснае ў Беларускай долі, ідэі, культуры. А найперш, даволі празрыста намякае, "дэшыфруе" сімвалічны і гісторыясафічны сэнс слыннае знакавае назвы, — прапанаванай грамадству заснавальнікамі вядомага літаратурнага аб'яднання і аднайменнага часопіса. Ітак, "Узвышша".

Пры відавочнай паліфанічнасці і магчыма розных інтэрпрэтацыях пераказанае вышэй Бабарэкавае метафарычнае формулы, яе філасафічны стрыжань дастаткова выразны, адназначны: глыбокая заклапочанасць аўтара культуратворчымі магчымасцямі, наогул цывілізацыйным лёсам свае Краіны на драматычных скрыжаваннях еўрапейскае геапалітыкі і гісторыі. Інакш — скіраванасць да таго самага ідэала разняволенае, незалежнае Маладой Беларусі, над якім

журботліва й прасветлена шчыравалі пісьменнікі "нашаніўцы", перадусім Купала, Багдановіч, следам філосаф І.Абдзіраловіч (Канчэўскі) і як і іх пераемнікі-"ўзвышэнцы" мадыфікуючы да цалкам іншых, беларуска-савецкіх рэалій учынілі мастацка-грамадзянскім імператывам сваіх творчых пошукаў. З тым што катэгорыя хараства, эстэтычная арыентацыя ў наступнікаў набываюць вызначальную, праграмна разгорнутую і асэнсаваную ролю ("Мастацтва павінна быць узвышшам."), да чаго іх папярэднікі з большым ці меншым поспехам падступаліся.

Гэта зусім не азначае, што ўзвышэнская паэтыка, дыстансаваная як ад мінулага "плачу аб старонцы", так і ад дэкларатыўнага, "маладнякоўскага" захаплення сучасным ёй ладам (ад "казённае службы радасці") стала на ўбочч͏у палітычнага жыцця, у чым "узвышэнцаў" дакаралі, а пад канец папросту шантажавалі іх апаненты з ліку ідэалагічных наглядчыкаў ды звычайных "літаратурных" даносчыкаў і правакатараў. Наадварот! Разам з усведамленнем нацыянальна-духовае вяршыні ў сваім пакліканні яны спасцігаюць і фарміруюць адапаведны тып, а сёння скажам пэўны эталон грамадзянскасці — цэласны й гарманійны спалучэннем вострае думкі і трапяткога пачуцця, строгай патрабавальнай этыкі і высокай эстэтыкі. Словам, знаёмая з часоў "нашаніўства" праблема самаіснае або чыстае, не абцяжанае плоскім матэрыу. І ў гэтым эстэтычным сэнсе яшчэ адно разважанне А.Бабарэкі ва ўспомненым на пачатку нататніку таксама, на свой лад, і паказальнае, і... прадказальнае:

"У наш век людзі энергічна ўзяліся за ўладжванне свайго матэрыяльнага дабрабыту. Проста, як глянеш на вока, дык ледзь не "стервенеешь". Усе думкі, усе помыслы зведзены на зямлю. Людзі адчаіліся ў небе і ў нябесных "мігдалах", якімі іх кармілі цэлыя тысячагоддзі. Не асталося ніводнага куточка, які б не быў развенчаны і не зняты на зямлю. І ў гэтай [...] плясцы людзі патапталі нагамі усё святое. І пачаў чалавек вучыцца і прылаўчацца, як найлепей уладзіцца на гэтай зямлі, пачаў думаць, як замацаваць сваё панаванне... на вырванным з зубоў другога месцы пачаў клапаціцца, каб забяспечыць гэтае месца сваім нашчадкам. І жыццё абярнулася ў "дзікую" гульню, якая завецца "бар(ацьбой) кл(асаў)". Адсюль і незайдросны стан сучаснага, палоненага вірам плоцевых інстынктаў мастацтва — на думку крытыка, занадта "зямнога", процістаўнага свайму першаснаму прызначэнню: "Ах, як табе патрэбна нябеснае мастацтва!".

Падобна ўзнёслым, амаль сакральным разуменнем і перажываннем мастацкага паклікання, яго працінальных імпульсаў, імкнёных з таемных нетраў чалавечае істоты, праз зямную нэндзу й шэрань, у бязмежна

вольныя высі хараства адзначаны прыватныя лісты нашых парнаснікаў з "Узвышша" (Дубоўка, Пушча, Бядуля, Чорны, Адамовіч, Лужанін) упершыню друкаваныя ў 4-м выпуску "Скарыніча". Не кажучы пра вядомыя шэдэўры ўзвышэнскае лірыкі. Як вось гэтыя радкі з Дубоўкавай (Вільня, 1923), чыя класічная вяршыня выразіста прыкмецілася на беларускім паэтычным абсягу ледзь не адразу, яшчэ за некалькі гадоў да фармальнага самавызначэння "ўзвышэнцаў":

***О, Беларусь! Я на цябе малюся,***
***Тваім шляхом прыду ў шырокі сьвет.***
***Паміж людзей, народаў разліюся,***
***Як ветраў сьлед у збожжавай красе...***
***Як моліцца ля возера трысьцё...***[118]

Можна такім чынам удакладніць агульную мастацкую парадыгму літаратурнага ўзвышэнства: высокая краса, адухоўленая гарачаю ласкаю да Бацькаўшчыны-Беларусі. Трапяткое, ня раз балеснае пранікненнеў загадку нацыянальнага космасу, паэтызацыя яго слодычы й горычы, відавочных і стоеных у ім антыномій складае адну з адметных рысаў, ідэйна-выяўленчую дамінанту ўзвышэнскага творчага шляху. Перачытайма абок Дубоўкавае эмацыянальна-выбуховае "Налі" пакутны Пушчаў да сабакі "Ліст", трагічна-светлы Жылкаў "Тэстамент", урэшце, вершы-летуценні Труса, па сутнасці таксама "ўзвышэнца" (публікацыя Г.Запартыкі ў "Скарынічы"4). Але не толькі паэзія.

Прыкладам раман Кузьмы Чорнага "Зямля" — яшчэ адна, пасля Коласавай, толькі ў прозе, паэма пра родную карміцельку-вёску — апірышча разумнага чалавечага ладу і духовае раўнавагі. Вёску, несамэвіты вобраз якой пранікліваe вока і чулае сэрца пісьменніка патрапілі увечніць у нашай нацыянальнай памяці перад самым яе сыходам з "яснай явы", а дакладней, перад сконам у калгасна-саўгасным бязладдзі. Ці не праз гэтую трагічную завершанасць лёсу беларускае сялянскае Атлантыды незавершанымі засталіся "Мядзведзічы" Кандрата Крапівы — другі прыкметны, дасюль адэкватна мабыць не прачытаны намі эпічны твор узвышэнскае прозы?

---

[118] Цыт. з машынапіснае копіі, захаванай у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, — ф.66, воп. 1, адз. 1280, арк. 8.

Сёння, з адлегласці прамінулага часу выразней і дакладней успрымаецца патомнымі вяршыня мастацкага ўзвышэнства — з тых світальна-трывожных дваццатых — вяршыня ўвогуле трагічная, з крыжом на самым піку. Вядома, не ўсе ўдзельнікі таго рамантычна-цярністага ўзыходжання ў гісторыі беларускае культуры дазналі нясцерпных пакут ускрыжавання. Хоць мажліва кожны з іх так ці іначай дасведчыў адвечную беларускую аксіёму: шлях да Бацькаўшчыны, да вольнае Беларусі, пакуль тут валадаром прышлы пан ці дамарослы хам, — толькі праз церні і ахвяры. А гаючая з недасяжных глыбіняў акавіта, жыццедайная вада, для сасмяглых вуснаў творцы ня раз можа абярнуцца атрутным воцатам з рук кесара або звыклае чэрні — за лыжку таннай поліўкі ўвішнай прагарланіць жудаснае "распні!".

Дарэчы, і самі яны разумелі і прадчувалі трагічную наканаванасць свайго выбару, не супыняючы аднак мужнае і гожае хады абраным шляхам Узвышэнства:

*Ў пазнанні тым салодкасць і пакута,*
*З якім пайду і павяду другіх.*
*А трэба будзе — вып'ю сам атруту,*
*Якую мне рыхтуюць берагі.*

*А перад тым завет адзін пакіну:*
*Шуканне вечнае вяло нас і вядзе.*
.......................................
*На Беларусі, ў роднае краіны*
*Ня знойдзеце вы берагу нідзе...*

Гэта зноў Уладзімір Дубоўка[119], чыя неабдымна-бязмежная, ушыр, паэтычная прастора поруч з іншым нібы аспрэчвае, прынамсі лагодзіць пэўную катэгарычнасць меркавання аб пераважна "вертыкальнай" скіраванасці беларускае паэзіі[120], што, здавалася б, пацверджвае і назва "Узвышша", калі ўспрымаць яе ў фармальна фізічным, а не сімвалічным вымеры. Хаця насамрэч у гэтай бунтоўна-ўскрыленай творчай стыхіі віруюць і разбягаюцца ў сусветнае бязмежжа ***многамерныя*** імпульсы-каардынаты мастацкае энергіі. Каб зноў вярнуцца туды ж, у родныя

[119] З паэтычнага ліста да П. Глебкі, 23.01.1929 г. //Крыніца, 1997, № 8//
[120] Людка Сильнова. Знаки времени//Нёман, 1999, № 5. С. 241 і інш //

гравітацыйныя абсягі, да свае спаконвечнае крыніцы — стартавае пляцоўкі ў бязмежныя далі і высі:

*Я ведаю — цяпер у вас там восень,*
*І ночы чорныя жуду калышуць.*
*Вятры лісты ажоўклыя разносяць*
*І намятаюць гурбамі ў зацішак.*
.........................................
*Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі...*
*Хтось рукі заламаў у далях сініх.*
*Вартуй, мой дружа, родны ганак, —*
*Пішу аб гэтым я табе з Расіі.*

*Язэп Пушча. Лісты да сабакі.*
*1927.*

Такая яна, высока-балесная краса Беларусі і ў пэўным значэнні — наш мастацка-грамадскі міф пад назвай Узвышэнства. У нацыянальнай спадчыне — яшчэ адзін зіхоткі, нятускны бурштын хараства і болю.

# Слова пра бацьку

## I
## Такім яго памятаю

1931-шы год. На маёй памяці бацька ўжо ссыльны. З намі яго няма. Мама збірае рэчы, каб ехаць усёй сям'ёй да бацькі "ў вяцкую губернію". Ярка палае агонь у печцы-галанцы, што ў вялікім пакоі нашае менскае кватэры. Паляцца непатрэбныя паперы, ляціць у печку і ламаццё з дзіцячых цацак. Я плачу, прашу захаваць гэтае ламаццё. Покуль бацька ў маёй памяці адсутнічае. Толькі з успамінаў маміных і лістоў да бацькі ягоных сяброў ведаю, якім напружаным, творча насычаным было бацькава жыццё ў менскі перыяд, у атачэньні яго бліжэйшых сяброў і калег — Дубоўкі, Пушчы, Жылкі, Кузьмы Чорнага, Зьмітрака Бядулі, Крапівы.

Шыкоўны мягкі вагон, мы адны ў купэ. Добра ўладкавацца ў дарогу дапамаглі маме яе прыяцелька-настаўніца Елена Гаўрылаўна Гарачун і яе муж, чыгуначнік. Уся наша менская мэбля "малым рухам" цягнецца ўслед за намі. Едзем к бацьку назаўсёды. Вязем скрыначку з яблыкамі татачку. Чамусьці запомнілася зіхоткая жоўтая падлога ў вагоне, як мядзяная. У Маскве нас сустракае, напэўна, Фэлікс Купцэвіч, у Вятцы — прыгожы дзядзька Максім Гарэцкі. Тлумачу яму, што едзем к татачку, частую яблыкам. Дапамагае нам перабрацца на мясцовы цягнік на Слабадзкі.

Добра памятую некаторыя рысы жыцця нашага з бацькамі ў Слабадзкім, невялічкім гарадку на рацэ Вятка. Жывем на прыватнай кватэры ў мясцовай жыхаркі Аніс'і Васільеўны, добрай жанчыны.

Драўляны дамок на два паверхі: наверсе гаспадыня, унізе — мы. У нашым карыстаньні невялічкая куханька з вялізнай рускай печчу і маленькі пакойчык. Столь такая невысокая, што нашая мэбля, звычайнага памеру шафа не становіцца ў хаце і чакае свайго часу пад гаспадарскай павецьцю. Тата з мамай на працы (тата працуе бухгальтэрам, мама выкладае рускую мову ў школе). Мы з сястрой Лорай дома адны: яна, пяцігадовая, мне, трохгадовай, за няньку. Цацак у нас — два трапішныя зайцы, ляляк няма; за ляляк йдуць алоўкі, якія мы апранаем у сукенкі з паперы і ўладкоўваем на жыццё ў "палацах" — посуд пад ручніком на стале, дзе стаіць і наша надзённая яда — на шклянцы малака і лусьце хлеба.Калі-нікалі сястра робіць "сухамесь" з талакна на вадзе. Смачна! Можна з яго яшчэ ляпіць якіясь цацкі, а потым і з'есьці іх.

А вечарам з татам, з мамай на зьмярканьні, не запальваючы лямпы (электрычнасьці ў хаце няма), месьцімся ўсе на канапе і сьпяваем беларускія песьні: татавы любімыя "Зорку Вянеру", "Прыляцелі гусі з далёкага краю", "А ў полі вярба", "Камарыка", "У месяцы верасні", "Чаму ж нам ня пець", "У бубны дахаў вецяр б'е". Мама сьпявае свае прыгожыя гродзеньскія, мы з бацькам уважліва слухаем. Потым бацька запевае "Не загаснуць зоркі ў небе". У яго вельмі прыгожы тэнар, мягкі аксамітавы тэмбр.

У Слабадзкім ёсць яшчэ ссыльныя беларусы: Багдановіч Генадзь Васільевіч з жонкай Любоў'ю Мікалаеўнай, Аніхоўскія, Маркевічы. Сем'ямі наведваем адзін аднога. Асабліва часта бываем у Багдановічай. У гэты час мы, дзеці, не адчуваем горкі стан бацькоў, не ведаем, калі бацька ходзіць "на адзнаку".

Неўзабаве пераязджаем на лепшую болей прасторную кватэру з двух пакойчыкаў, болей-меней ізаляваную ад суседзяў. Зімовы дзень. Усёй сям'ёй ідзём на рэчку. Тата нясе цяжкі кошык з памытай бялізнаю, мама будзе яе паласкаць на рэчцы (вадаправоду ў хаце няма). Вечарам з татам ідзём катацца на санках.

Тут аднойчы ідылія нашага існаваньня ў ссылцы была парушана. Здарылася правакацыя, сэнс якой тады так бацькі і не зразумелі. У бацькі знік партфэль з вялікімі грашыма, якія ён прынёс дамоў із банку (пад выхадны дзень, напэўна, спазьніліcь выдыць грошы ў банку), каб раздаць у працоўны дзень зарплату, што ўмянялася ў яго службовыя абавязкі. Партфель ляжаў на шафе, і вось яго няма. Пачалі збіраць па знаёмых грошы, каб тату не сесьці ў турму. І вось на якісь-та дзень партфель зноў з'явіўся на шафе, і ўсе грошы ў ім цэлыя. Пакоі свае, калі не былі дома, заўсёды трымалі замкнёнымі.

1934-ты год. Зноў няма з намі таты. Яго, а таксама Багдановічаў перавялі адбываць ссылку ў абласны горад Вятку. Атрымліваем ад бацькі паштоўкі, асабістыя і для нас з Лорай. Адказваем бацьку на

іх ужо самі. Аднойчы з дазволу адпаведных ўладаў бацька наведваецца да нас у Слабадзкі. Прывозіць нам па прыгожай лялькы, переавадныя малюнкі. Лора выбірае кветкі, мне дастаецца Масква ў малюнках. Пераязджаць да бацькі нам няма куды. Жыве ён у маленькім пакойчыку разам з Антосем Адамовічам, якога перавялі з Глазава ў Вятку крыху раней за бацьку. Бацька чакае сканчэньня тэрміну ссылкі, марыць перабрацца ў цёплы край, пісьмова дамаўляецца аб працы ў Анапе школьным настаўнікам. Але тэрмін ссылкі працягнуты яшчэ на два гады. Трэба ўладкоўвацца ў Вятцы.

Пераязджаем да бацькі. Антось дае ўсім нам прытулак. Сьпім упокат на падлозе. Бацькі шукаюць кватэру. Скончыўся тэрмін ссылкі Максіма Гарэцкага, ён з'ехаў на жыццё ў Смаленскую вобласць, неўзабаве да яго пераедзе ўся сям'я. Можна хадатайнічаць прад Уладамі аб дазволе заняць вызваленую плошчу з вялікімі цяжкасцямі, але так і — атрымалася. Зноў мы ўсе разам і маем сваё жытло — вялізны, у 30 метраў пакой у былом купецкім доме па вуліцы Свабоды, 109. Але час ужо другі, неўзабаве ў горадзе пачынаюцца арышты; мы, дзеці, ведаем, што бацька ходзіць "на адметку ў шэры дом", і хвалюемся разам з маці, калі яго там затрымоўваюць даўжэй ад звычайнага.

Ужо так вольна, як у Слабадзкім нам не спяваецца. Пераборкі ў хаце тонкія, кожнае слова чутно суседзям і ў сваю чаргу ад іх — нам. Але бацька знаходзіць для нас цікавыя заняткі. Чытае з намі вершы Купалы, Коласа, Багдановіча, аповесьці Бядулі, Чорнага. Беларускія кнігі, частка якіх падаравана бацьку аўтарамі, бацькавы рукапісы, часопісы "Узвышша" — практычна ўсе выпускі, якія ад рукапісаў да гранак і верстак прайшлі былі праз бацькавы, тагачаснага сакратара рэдакцыі рукі. Абок кніг нямала фотаздымкаў беларускіх пісьменнікаў — і ўзвышэнцаў , маладнякоўцаў, грамадзкіх дзеячоў. Усё гэта — кнігі памяткі мамінымі клопатамі было перавезяны з Менску ў Слабадзкі, а потым у Вятку. Такім чынам у нас захаваліся і набытыя ў Менску бацькам рарытэты — дарэвалюцыйныя выданьні Насовіча, Шэйна, Карскага.

Дык вось, вечарамі мы з сястрою нецярпліва чакалі бацькавага прыходу з працы, каб сесьці з ім за цікавыя заняткі. Памятаю, што пераводзіў нам "з ліста" казку Гётэ "Reineke Fuchs". Чытаў нам урыўкі з неадаптаванага выданьня "Дона Кіхота", апавяданьні Кіплінга, купленыя для нас. Вельмі любіў набываць сваім дзецям кнігі. На навагодняе свята вучыў майстраваць цацкі для ялінкі (тады толькі першы год дазволілі гэту справу, і крамныя цацкі былі ў дэфіцыце).

Як выглядаў у гэты час бацька? Апранацца любіў збольшага ў цёмную вопратку: чорнае паліто, мягкая шырокая чорная кепка, чорны

з іскраю гарнітур, цёмны гальштук. Валасы насіў даўгаватыя. На твары заўсёды добрая крыху засмучоная ўсьмешка. Памятаю, як да нас у нядзелю прыходзілі бацькавы службоўцы дзеля дапрацоўкі гадавое справаздачы. Нам здавалася, што ў яго прысутнасьці людзі неяк мягчэлі, што ён і на другіх кідаў водбліск свае дабрыні. Не памятаю, каб бацька калі-небудзь павышаў голас. Нават за нашыя дзіцячыя "шкоды" рабіў заўвагі вельмі мякка.

У сям'і і наогул у жыцьці на маёй памяці быў бацька сьціплым і не вельмі патрабавальным. Асабіста на сябе амаль-што нічога не траціў. А нам і маме любіў што-небудзь купляць. Маме — сукенкі прыгожыя і прасіў, каб яна іх ва ўсякі час у хаце насіла. А калі мама зьдзіўлялася, як у такой сукенцы ў печы паліць, ежу гатаваць — напсуецца, казаў: "Пойдзем, другую таку самую купім — адну ў хаце апранай, другую сабе шануй "на сьвята".

І паліто, і гарнітур бацькавыя гэта былі набытыя яшчэ ў Менску. Калі мама гаварыла бацьку, што час аднавіць гарнітур, спрачаўся: "І гэты яшчэ ня дрэнны." Аднойчы мама ўзяла ды і купіла самаволь ваўнянае матэрыі на новы гарнітур. Не панёс шыць: "Хай ляжыць, покуль гэты знашу".

Да ежы быў таксама неперабарлівы; не таму, што "смаку не разумеў"; вельмі падабаецца яму сялянская страва, што на Беларусі на сьвята гатуецца. Але шкадаваў мамінага часу, і калі яна запытае, што згатаваць, казаў: "Што прасьцей, што зварыш, тое й зьямо". А на выхадны дзень калі-некалі і скажа: "Не вазіся з гатоўкай, Аня, адпачні, пойдзем усе ў сталоўку". А нам, дзецям, цікава, і мы бацьку з ахвотай падтрымоўвалі. Сапраўды пойдзем... Вельмі мама бянтэжылася, калі ў яе на "кухні" якая няўдача, прыкладам, печыва раптам "на скарынку сядзе". Нават з горачы расплачацца. А бацька тады суцяшае маму: "Што ты, Аня, смачна!", і з'есць, далікатна жартуючы. Выхадным днём бацька заўсёды раненька ўстане, прымус распаліць, чайнік паставіць. У краму сходзіць, на сьнеданьне тое-сёе купіць. Нам прысмакі не забудзе. "Хлопцы, Аня, уставайце, снедаць час!" А калі мама раней за яго гэтым займецца будзіць нас: "Хлопцы, "на кулачкі!" Любіў нас жартам хлопцамі зваць, калі, асабліва, захоча "ў боксы" пагуляць. Не хапала яму хлопца ў сям'і...

У спякотныя летнія дні ў час адпачынку бацькоў звычайна накіроўваліся мы ўсёй сям'ёй за горад на другі бераг рэчкі Вяткі гуляць у прыгожым буйным лесе, а потым, як нагуляемся, вярталісь да рэчкі, йшлі на пляж загараць, купацца. Да гэтага часу належыць такі выпадак. Ужо была я большанькая і аднойчы, як былі на пляжы, упершыню заўважыла на бацькавай сьпіне якіясь дзве вялікія ўзрытыя

плямы. Формаю і выглядам яны мне нагадалі вялізарныя восьпіны, што прывіваюць дзецям (такія, але малюсенькія я бачыла ў сябе на руцэ). Дык і спытала ў бацькі, чаму яму прывілі воспу на сьпіне. Ён мне неяк разгублена адказаў, што так вось здарылася. Мама нічога да гэтага не дадала. Потым, ужо дарослая, я ад яе пачула, што на бацькавай сьпіне гэта засталіся сьляды ад катаваньня ў польскай турме, куды яго кінулі былі пілсудчыкі, злавіўшы ў 19, ці 20 годзе ў час бацькавага ўдзелу ў партызанскім антыакупацыйным руху. Значна пазьней даведалася, якія катаваньні вытрымаў бацька з боку пілсудчыкаў.

Да 75-годдзя да дня нараджэньня Адама Бабарэкі Станіслаў Пятровіч Шушкевіч прыслаў маёй маме нумар ЛіМ'а з успамінамі аб ім: "Мой літаратурны настаўнік" (ЛіМ № 42, 18 кастрычніка 1974 года), падпісаўшы "Ганне Іванаўне з глыбокай павагай Станіслаў Шушкевіч". Паміж іншымі ўспамінамі з тых часоў, калі С.П.Шушкевіч вучыўся ў Адама Бабарэкі ў школе працоўнай моладзі, занатаваны і такі выпадак. У паходзе А.Бабарэкі з вучнямі за горад хтосьці з іх заўважыў, што на плячох настаўніка праз белую паркалёвую кашулю прасвечваюць якіясь чырвоныя зоркі. На пытаньне вучня аб гэтым А.Бабарэка адказаў, што ў час палона ў белапалякаў пілсудчыкі яму выразалі на сьпіне зоркі. Потым прачытала аб тым самым у рукапісу У.М.Дубоўкі з успамінамі да 70-годдзя А.Бабарэкі, якія ў свой час не былі надрукаваныя. Вось вытрымка з іх:

***"Тут накаснулася новае ліха — легіёны пана Пілсудскага, якія шлі аднаўляць панскую ўладу на беларускай зямлі. У першых радах змагароў-партызанаў стаяў і Адам Бабарэка. Аднойчы яго і некалькі сяброў захапілі ў палон. Катавалі, білі, а пасля ўсяго выразалі на сьпіне дзьве пяцікановыя зоркі. Рэзалі не шкадуючы да самых касцей. Ды такія зоркі, што далонь свабодна мясцілася ў кожнай з іх, калі пасля праз гады, раны зарубцаваліся. Вось такія "орданы" атрымаў Адам Антонавіч за свае рэвалюцыйныя паходы. (Уладзімір Дубоўка "Многія лета жывым, вечная памяць нябожчыкамі!...". 1969 г. Масква. Неапублікаваны рукапіс, падараваны У.Дубоўкам сям'і Бабарэкаў).***

Як аддзякавала Савецкая Улада Адаму Бабарэку за ягоны ўдзел у вызваленьні Беларусі з-пад акупацыі ад палякаў, сведчыць ягоныя лісты з савецкіх турмаў і лагероў.

Не дзіва, што здароў'е бацькава ад усяго перажытога было нашчэнт згублена. Памятую з часу вяцкае ссылкі, што нават ад няцяжкай фізічнай працы, паскоранай хацьбы бацька вельмі стамляўся, на твары ягоным праступаў пот, з'яўлялася задышка. Мама шкадавала яго, таму

дзеля пілкі і рубкі дроў пры нарыхтоўцы іх на доўгую зіму наймала людзей. Калі таты не стала, у годы вайны памятую мы самі, падрослыя, з сястрою пілавалі бярвеньня, а Лора нават і секчы дровы навучылася.

Адказнасьць за сям'ю і абавязковасьць у характары бацькавым былі надзвычайныя. Са сціплага бюджэту ссыльнага ён ніколі не забываў пасдаць грошай маці, якая жыла з малодшым сынам Ігнасем у вёсцы Слабада-Кучанка на Случчыне. А калі ў Ігнася, старшыні калгаса, здарылася нястача, бацька дапамог брату грашыма пагасіць яе. Рысы ягонага характару вельмі добра высвятляюцца ў лістах да сям'і. Думаю, каб захаваліся бацькавы лісты да сяброў, гэта было б найлепшым летапісам ягонага жыцця. Але, на жаль, далёка не ўсё захавалася. Засталася ягоная перапіска з Язэпам Пушчам — у архіве Плашчынскіх і часткова ў мяне. А вось найцікавейшая перапіска з Дубоўкам, з адлюстраваннем дзейнасьці "Узвышша", прадстаўлена толькі з аднаго боку — лістамі Дубоўкі до бацькі. Лёс Бабарэкавых лістоў невядомы: у свой час, думаючы што так лепей захаваюцца, Марыля Дубоўка перадала іх матцы Антося Адамовіча на вёску. Дзе іх шукаць, невядома. Мабыць і знішчаны.

Якім быў апошні год бацькавага жыцця, што ён адчуваў сярод "жаху і мроку" свайго існаваньня ў зьняволеньні, сьведчаць ягоныя весткі да нас: два ліста з кіраўскай турмы (г. Вятку перайменаваны пасля забойства С. Кірава), два — з лагернай перасылкі і пятнаццаць лістоў з лагера.

25-га ліпеня 1937-га году прыйшлі за бацькам. Было не надта позна, мы з сястрою яшчэ знаходзіліся ў сяброўкі на другім паверсе нашага дому. За намі паслалі. У гэты дзень мы бачылі бацьку апошні раз, але не зналі, што развітаемся назаўсёды.

## II
## Горкая спадчына

Першую вестку ад бацькі атрымалі амаль што праз год у пачатку чэрвеня 1938 году. Праз увесь прамінулы ад арышту час ні перадач, ні ліставання яму не дазвалялі і толькі пасля "следства" і вынясення "прысуду", дазволілі спачатку перадаць рэчы, а потым — перапіску (два лісты ў месяц) і харчовыя перадачы. Паперы ў бацькі не было, і свой першы да нас ліст ён напісаў на пяці кавалачках расчэпленага картону памерам 7 на 10 см., слаі якога ён зняў з донца і верху пачочка ад зубнога парашку. Канверцік такога ж памеру зрабіў з пустога пачака з-пад махоркі. На гэтых кавалачках да кожнай з нас

былі паасобныя лісты, перапоўненыя ласкай да нас. Вельмі быў рады весткам пра нашыя поспехі ў вучобе. Шкадаваў маму, што нялёгка ёй. Зьвяртаўся да яе з просьбаю паслаць колькі можа грошай ягонай маці. Шостага чэрвеня мама панесла ў турму першую дазволеную перадачу. Ёй перадалі бацькаву распіску, што атрымаў усё, апрача выкрэсленага (не дазволілі перадаць паперу, канверты, паштоўкі), з подпісам ***"Адам Дзякую Антонавіч Бобореко"***.

Другі ліст ад бацькі з турмы (кожнай з нас паасобна), напісаны 10-15 чэрвеня, атрымалі 28-га чэрвеня, ужо пасля адпраўкі бацькі ў лагер. Лісты на маленькіх кавалачках паперы былі пасланы ў вывернутым канверце нашага да бацькі ліста, у які мама паклала была і чысты аркуш паперы. Вось які здзек: зняволенаму далі дазвол пісаць лісты, а перадаць яму паперу не дазваляюць. У гэтым лісьце бацька паведамляў нас аб тым, што 15 чэрвеня яго адпраўляюць у лагер, але ён яшчэ не ведае куды і які прысуд, і спадзяецца ўсё бадзёра перанесьці. З ліста да Лоры: ***"Вы для меня тое яснае сонейка, якое саграваe дни майго зневоленя таким дзіўным цяплом и асвятляе такім чудным светам, что я не только легко и бодро переношу зьневолене, не только никогда не падал и не падаю духом, а наоборот обновляюсь и душой и телом"***. З ліста да мяне: ***"... шануй свае здароў'е и береги свой галасок"***.

З ліста да мамы: ***"Як я счастлів, Анечка, что за сценами моего дома заключения есть то святое, чистое и непорушное в своей любви и отданности, чем являешся для меня ты с милыми нашыми детками! Это ведь единственное в своей близости, несмотря ни на какие преграды и отдаления, в родности и взаимном понимании, что является неиссякаемым источником для той узнятасьці духа,якая не покидает меня ни на один момент на протяжении всего майго заключения и дает мне силы стойко и бодро переносить это испытание...***

***... и духом и телом я застаўся непарушны и чисты, как и был им всегда.***

***... Анечка, может ли быть большее и прочнейшее счастье, чем счастье семьи, крепко сплоченной и просякнутой адзіным духом любви и стремления к совершенству! Я неизмеримо счастлив, что детки наши учатся отлично. Ведь это есть наилучшее выражение их любви к нам, их родителям, и их стремления к совершенству, достойному своей бацьковщины.***

***... Анечка, выбачай, что я так много пишу о детях и мало о себе, ведь в них я теперь живу больше, чем в самом себе. Они***

*идут вверх, а я подхожу к сороковым годам, это значит по наклону к закаду жыцьця. Я ж люблю восхождение и узвышэние..."*

Пра свой лёс даведаўся бацька на перасылцы ў Котласе і адтуль паведаміў нас аб прысуду 10-гадовага тэрміну. Настрой ягоны рэзка змяніўся. З Усть-Вымі піша: ***"Чем порадовать Вас с моей печальной дороги? Чем осветить мне долгие дни Вашего беспросветного ожидания моего возвращения домой?! Что мне сказать теперь Вам кроме того, что я еще здоров, изболевшись о Вас и той долголетней разлуке, какую вызначила мне судьбина! Дорогие мои, легче разразиться безутешными рыданиями, чем писать эти короткие строки о своем здоровии. Што и говорить, и мне и Вам цалком зразумелы увесь жах нашага цяперашняга стану. Аднаго только, любыя, не павинна быть в ваших переживаниях — это роспачи, будем надеяться, что мы еще доживем до счастливого дня нашего спатканьня и нашего супольного жытия... Любая Анечка, у тебя ёсць наша радасьць — нашы славные дачушки.Ці справіла ты им сьвята с причины отличного перехода их в следующие классы. Любыя детаньки, Вами я теперь живу более, чем самим собою."***

З турмы да 41-га лагернага пункту 3-га паўднёвага ўчастка будаўніцтва чугуначнай лежневай дарогі каля Княж-Пагосту (Комі АССР) вязлі бацьку з 15 чэрвеня да 1 ліпеня. 3-га ліпеня нам піша: ***"Позавчера вечером прибыли мы на место... В общем, устраиваемся на совершенно новом месте и строим железную дорогу... Славные мои дочушки, пишите вяликие листы свайму татачку, не забывайте яго, яму лягчэй будзе адбывать зьняволеньне... То ж Вы для мяне цяпер — гэта яснае сонейка. Знаць пра Вас, мець ад Вас часта лісты — гэта наибольшая для мяне радасць і шчасьце."*** 4-га ліпеня асабісты ліст нам, дзецям: ***"Не сумуйце, праз колькі год убачымся і будзем разам."***

Гэтай радасьці і шчасьця яго пазбавілі — болей да яго нашыя лісты не даходзілі. Мабыць з тае прычыны, што стан яго здароў'я пачаў рэзка пагаршацца.

**12. 07. 1938** г.: ***"... я шчэ жыў і з большага здарой... Трымаюся яшчэ... На работу яшчэ не хадзіў... Работа агульная, вырубка леса, земляныя работы, словам пракладка чыгуначнай трасы... Парадавать мне Вас няма чым. Пісаць аб сваіх перажываннях ня буду. Буду мець магчымасць калі-небудзь, дык раскажу. Кажу толькі, што збалелася сэрца па Вас. Разлучэньня з Вамі для***

*мяне гэта што раздваеньне на две часткі ўсяе мае істоты. Да болю самага сапраўднага, фізычнага, даходзіць сум і туга па Вас.”*

Да таго яшчэ перажываньні ад неабходнасьці просьб аб нашае дапамозе: *“Ах, які жах, тож кожны мой ліст не абмінае пасылкі. Ведаеце, любыя, як цяжка усё гэта пісаць, асабліва, калі уздумаеш пра свой доўгагадовы тэрмін затачэньня. Адна толькі уцеха і засталася — гэта Вы... Вы — што тое сонейка, якое асьвятляе мрок майго зьняволеньня. Анечка любая, ты шчаслівейшая за мяне — на тваю долю выпала выхаваньне нашых слаўных дзетак. То ж калі вярнуся да дому яны ужо будуць зусім дарослыя, а ня дзеці.”*

**31. 07. 38**: *“Который лист пишу Вам и не знаю, получаете Вы их или нет. От Вас до сих пор никаких весток... И як бы я шчасьлиў быў, кали-б атрымаў ад Вас лист. Я здоров, работаю на общих работах. Копаю канаву, снимаю мох, корчую пни, вожу тачки, словом работаю на трассе. Пока норму выполнял и зарабатывал по 1 килограмму хлеба в день... Малокровие тоже сказывается, начинают появляться фурункулы.”* Просіць пакласьці лекарства ў чарговую пасылку: піларын, сухія піўныя дрожжы, фіцін, вазелін (параненыя рукі), мыла (“тое ў мяне сеньня ноччу ўкрали”). Мама бачыць, што лісты не даходзяць, пасылае тэлеграму.

**7. 08. 38**: *“5 августа получил Вашу телеграмму и очень обрадовался этой вестке. Пожалел только, что Вы напрасно съездили в Котлас.”*

Мама с Любоў‘ю Мікалаеўнай і Агаф‘ей Аляксандраўнай Пушкінай, чыі мужы-беларусы адбывалі тэрмін разам з бацькам, ездзілі у Котлас з надзеяй на сустрэчу, але нічога не атрымалася.

Далей бацька піша: *“Я подал заявление на свидание, но ответа еще не получил... Наш лагерный пункт находится в нескольких километрах от Княж-Погоста в лесу. Если будет разрешение, напишу подробно, каким образом до него дойти.”* Бацьку хацелась убачыць і дзяцей, алс разумее: *“С детьми же ехать невозможно — и далеко и трудно... Я здоров... Правда чувствую общий упадок сил... Зарабляю по килаграму хлеба у дзень. Вельмі утамляюся і зморваюся... Больш што сказаць пра жыцьцё?! Жыву, таму што Вы, любыя, у мяне ёсць. А цяпер усе мае думы і пачуцьці — гэта Вы. Вамі і жыву... Гэта тое, што мне яшчэ надае сілы для перажываньня майго цяперашняга становішча...*

*Тут у мяне укралі двое штаноў (новыя і ад гарнітура), адзін чаравік, кальсоны."*

Стан бацькавага здароў'я ўсё пагоршваецца. Сілы яго пакідаюць.

**14. 08. 38**. *"Работаю на общих работах уже скоро месяц. Зморваюся страшэнна. ...По утрам бывает какое-то подозрительное отхаркивание с красноватыми крапинками. Думаю сходить к доктору. ...У меня определена третья категория, это значит, что норма выработки для меня снижается на 40%".*

**16. 08. 38**. *"Великое спасибо за посылку. Вчера ее получил. ...Любые мои, не надо таких роскошных посылок. Вчера получил твою вторую телеграмму... От Вас не получил еще ни одного письма."*

Лекі да бацькі не даходзілі і ён у кожным лісьце паўтарае просьбу аб іх дасылцы.

**17. 08. 38**. *"Анечка, я хотел бы подарок сделать детям за отличную учебу и просил бы тебя тот кусок шерстяной материи, который ты купила была мне на костюм, употребить для детей. Сшей костюм Лорочке, ведь она уже большая, а Лялечке купи от моего имени тоже костюмчик."*

**19. 08. 38**. Зноў просьба пра лекі, вазелін, піўныя дрожджы, часнок. *"Кровохаканьне зьменьшаецца... Фурункулы вот яшчэ не праходзяць... Любыя мае, не хвалюйцеся за мяне, перанашу усё бадзёра. Ад Вас лістоў яшчэ не атрымаў ніводнага."*

**25. 08. 38.** *"Да гэтага часу ад Вас не атрымаў яшчэ ніводнага ліста, ня ведаю у чым справа. Ня думаю, каб Вы не пісалі. Ці здаровы Вы? Ці здароў Ігнась і мама? Я здароў, пакрысе недамаганьні мае праходзяць. Кровахарканьне спынілася... Працую на агульных работах. Нормы выконваю. Спадзяюся як кончым пабудову дарогі, быць дома... Адказу на заяву аб пабачэньні з табою, Анечка, да гэтага часу няма. Прыдзецца чакаць да наступнага лета."*

**1. 09. 38.** *"Каторы ліст пішу Вам, а ад Вас не атрымаў яшчэ ніводнага. Не знаю, что за причина задержки Ваших*

*писем... Я здоров кажучы наогул. Сеньня крыху павысилась температура. Быў у доктара. На заўтра атрымаў вызваленьне ад работы. Грыпп... У меня проходят уже фурункулы."* Просьба аб прысылцы лімоннай кіслаты, экстракту з журавін, сухіх кіслых яблыкаў.

**15. 09. 38**. *"Вот уже третий день не хожу на работу. Болею. На почве расстройства сердечной деятельности получил отеки да опухоль по всему телу. Доктор назвал болезнь — асцит. Самочуствие скверное. Всего как-будто что-то разрывает. Ходить очень тяжело. Доктор запретил ходить. Лежу много. От лежания все болит. В груди все спирает, не хватает легких для дыхания — все тесно — такое ощущение... От Вас до сих пор не получил ни одного письма."*

Бацька цяжка хварэе. Хоча кіслага: просіць прыслаць лімоннай кіслаты, экстракту з журавін, масла, якой-небуць хатней ежы, сала, цыбулі, часнаку, вострых кансерваў. Як і ў кіраўскай турме пасля гадовага тэрміну на нішчымнай турэмнай страве, яму хочацца селянскай хатней кілбасы, беларускага хатняга белага сыру. Апошняе жаданьне згасаючага...

Як запавет для нас з сястрой: *"Слухайцесь, любыя, мамы. Яна Ваш адзіны цяпер друг и старшы таварыш и галоўнае славная мамуська, якой не сыскаць у сьвеце. Любите ее, паважайцце и шануйце... Вельми хацелася б пабачыцца з Вами усіми."*

**18. 09. 38.** *"Вчера получил Вашу телеграму, а позавчера вторую посылку... Я знаю, что Вы здоровы и этому бесконечно рад... У меня, на жаль, в последнее время оно подкачало. Сердце совсем расстроилось, а на этой почве все тело отекло и опухло. Сегодня доктор обещал положить в больницу. Надеюсь, что скоро поправлюсь. Ах, как хорошо быть здоровым. Шануйцеся и беражыцеся, любыя дзетаньки, штоб быть здоровыми и штоб отлично учиться."*

**20. 09. 38.** *"Горячо поздравляю тебя, Лорочка, с днем раждения... Дорогие мои, вчера получил от всех Вас по открытке, которые Вы писали 7-го августа. Хоть поздно, но я бесконечно рад им. Особенно славная написана открытка Лорочкой. Я все ваши вестки читаю со слезами на глазах.*

*Как хорошо бы Вас всех увидеть... Я уже писал Вам, что вторую посылку от вас получил... За всё, за все Ваши заботы и теплую память обо мне я бесконечно Вам благодарен. Вы для меня — тот Прометей, які не дае зусім мне згаснуць. Сягодня мяне направляют на 42-ой лагпункт, а оттуда в Княж-Погост, очевидно, в стационарную больницу. Пока совсем неважно у меня. Весь я отек и опух, ходить не могу, задыхаюсь. Но надеюсь, что все это временное явление и при хорошем лечении в больнице все быстро пройдет и я смогу снова работать."* (падкрэсьляна мной — **А. Б.**).

**1. 10. 38.** *"С 20 сентября нахожусь я в стационаре больнице 42 лагпункта на излечении от асцита (отек почти всего тела). Были моменты, когда думал, что не переживу этой болезни. Сейчас самочуствие значительно улучшилось... Ах, как хочется быстрее выздороветь... За время пребывания в стационаре получил денежный перевод на 50 р и третью посылку от 2. 9. 38... Глубоко благодарен за все ваши заботы, внимание и память. Я не в силах выразить эту благодарность иначе, чем словами, а это больно... А пока буду стараться быстро поправиться и сохранить свое здоровье. Это единственное, что может быть выражением конкретной моей любви и преданности ко всем Вам, мои дорогие."*

Гэта апошні бацькаў ліст.

Не стала бацькі 10 кастрычніка 1938. Ён не дажыў пяці дзён да свайго 39-годдзя.

# Роздум над фотаздымкамі

Некалькі год таму я знайшоў у сямейным архіве сястры майго бацькі Алены Філіповіч незвычайны фотаздымак. І дасель пачуцце нейкага жалю, самадакору вярэдзіць маё нутро: чаму ж у свой час не распытаць было ў сваіх бацькоў, сямейнікаў пра іхнюю маладосьць, пра падзеі, людзей у іхнім лёсе. Тым болей, калі гаворка йдзе пра факты і постаці гістарычныя. Аднак пра здымак (1). На ім увечнены працаўнікі Сакратарыяту Вярхоўнага Савета СССР — перакладчыкі на беларускую мову ўрадавых законаў і пастаноў. На першым плане магутны, гожы, пад Маякоўскага, дзяцюк — Уладзімір Мікалаевіч Дубоўка, ён жа і кіраўнік перакладчыцкай групы; насупроць яго Алена Ігнатаўна Філіповіч (з дому Вайцяховічаў), паміж імі.

А вось яшчэ фотакартка(2) — ужо з майго асабістага архіва. Таксама зроблена ў Маскве, у тым самым прыкладна часе — сярэдзіна дваццатых гадоў. Усе пяцёра з маладое купкі — беларусы з Глыбокага: бацька мой Алесь Антонавіч Сабалеўскі з сваёй абранніцай, маёй маці Вольгай Клеменцеўнай Дрозд разам з ужо згаданай Аленай Філіповіч, яе мужам Захарам, студэнтам Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі. За шафера ў маладых — а гэта шлюбны здымак маіх бацькоў — студэнт тае ж акадэміі, юнак з Дзісненшчыны Грабоўскі (імя, на жаль, не памятаю). Пра свайго бацьку, настаўніка, перад вайной дырэктара адной з вядучых, “элітных” школ у Менску (на рагу вуліц Чывонаармейскай і Кірава) мне ўжо даводзілася пісаць. Пра дзядзьку Захара варта таксама хоць колькі слоў сказаць. Хаця б аб тым, што пад час вучобы ў Маскве ён прыязніўся з Гаўрылам Гарэцкім, разам актыўна працавалі ў Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі (БКНА), ухуткасьці

зьліквідаванай наглядчымі службамі. Пазней, ужо на зыходзе 30-х удзел у БКНА і ўвогуле "нацдэмаўская" дзейнасьць абыдзецца Захару Філіповічу, пад той час дацэнту кафедры глебазнаўства сельгасакадэміі імя Цімiразева, паўтара года адсідкі ў маскоўскай "Бутырцы".

Цяпер многа пішуць пра нашае нацыянальнае адраджэньне, пра культурна-творчы ўздым, беларусізацыю ў 20-я гады. Але ж не ўсё трапляе ў кнігі, "на пяро" дасьледчыкаў. Пэўна нямала засталося сямейных памятак, паданняў пра нашае ажыўленне духовае, несупыннае шэсьце беларускае "Людзьмі звацца". Трэба шукаць, распытваць, "зьбіраць зярно к зярняці", як казаў Купала. Каб болей ведаць і аптымістычна глядзець у сваё заўтра.

# Адно ўдакладненне

*Васілю Гроднікаву, аўтару артыкула*
*"Асцярожна: "пятая калона"!"*

Дзякуй, калега, за публікацыю!
За мужнасць, за мудрасць, за ясную рацыю.
Выдатна пішаш у сваіх Мазалях
пра беларускі цярністы шлях.
Думаеш добра, пішаш плённа...
Значыць, "пятая калона"?
На жаль, такая існуе.
Але... Тут ёсць адно "але".
Тут трэба зрабіць удакладненне
наконт яе месяца і наймення.
Калі меркаваць, што наша "пятая" —
не класічная, агульнапрынятая,
у франкісцкім сэнсе яе, —
а мае адметнасці свае;
што наша сябе не канспіруе,
не маскіруе — адкрыта шчыруе,
уголас свой абвяшчае намер:
"Назад у імперскі СССР!"

Калі мець на ўвазе, што наша "пятая"
грыміць па тэле і па радыё,
тут манеўрує звідна да цямна,
то, мабыць, не пятая яна?
Калі мець на ўвазе яе дыспазіцыю,
яе амбіцыю і амуніцыю,
то, зноў жа, пытанне паўстае,
ці слушна "пятай" зваць яе?
Яна ў нас не пятая, а першая...
На гэтым мог бы і скончыць верш я.
Ды вось міжволі да нябёс
я з малітваю вочы узнёс:
"Памажы нам, Божа Прасветлы,
Справіцца з калонай гэтай.
Ну, а з астатнімі чатырма
справіцца, можа, краіна сама.
Справіцца, можа...
Памажы, Божа!"

# Сябра мой на Тамцы

## Развагі з нагоды юбілею

*Не маю аніякіх манапольных прэтэнзій на нашае сяброўства. Ведаю добра, што для многіх ён свой — гэты сымпатычны, з прытоенай, іранічнай усьмешкай на вуснах, з праніклівым, вастраватым паглядам, з маладою, "пад ёршыка" прычоскай і ўвогуле чалавек неадольнае прыцягальнасьці, наш Беларусін у Варшаве. Адным словам — неотразимый. Такім ласьне запомніўся мне з першага нашага знаёмства, гадоў за дваццаць таму — цёплым жнівеньскім вечарам на вуліцы Тамка. Гаманілася нам абодвум, помніцца, вельмі свабодна, раскована, а як на першую сустрэчу дык і надта шчыра, без обиняков. Пэўна й тэма — забранага Краю трывучасьць — адпачатку прадвызначыла тую непадробленую, спавядальную атмасферу, якая колькі ўжо часу спрыяе ўзаемнаму таварышаваньню двух суродзічаў на процілеглых кропках Усходу-Заходу, Масквы і Варшавы. Ды і жанкі нашыя, Соня і Зіна, прыязныя ўзаемна з таго ж першага спатканьня, на свой мілы, непаўторны лад цепляць, ахарошваюць гэтую повязь. Хаця кабеты — гэта ўжо лірыка і наогул лірычныя ўсхліпы не вельмі таранаваліся б да партрэта майго варшаўскага друга — чалавека выразна рацыяналістычнага, лагічнага, на зайздрасць, складу, стала й напружана засяроджанага над Справай, якой упарта і плённа слугуе. Аб характары й плёнах гэтага слугаваньня — Туронкавы жыцьцяпіс і бібліяграфія, друкуемыя ў нашым альманаху. "Па плёнах пазнаеце іх..." — назва аднае з яго публікацый. — Як жа сімвалічная і пэўна адэкватная дзеля цэласнага ўспрыйманьня творчага абліччa аўтара кніг пра адраджэнца Вацлава Івануўскага, пра беларускі супрацiў пад нямецкай акупацыяй, урэшце кніжачкі пра Браніслава Туронка, медыка, вядомага студэнцкага дзеяча ў Заходняй Беларусі, чыё імя абок іншага ўвечнена ў высокіх клопатах і шчодрых набытках для Краіны любай ягонага сына.*

*Колькі ж нашага брата (без лірыкі нельга аднак...) ступала на гасьцінны парог сьветлае аднапакаёўкі на пагурыстай*

варшаўскай вуліцы. І як жа даляглядна, хораша з вышыняў Туронкавага жытла глядзіцца неабсяжная панарама польскае сталіцы. І як смачна і гостра гамоніцца там госьцяванцам з гаспадаром — пра Беларусь, Беларушчыну, пра тую ўпартую Краіну, што скрозь ня хоча паміраць. Адрас варшаўскага Беларуса... Адраджэньне нашае ведае нямала падобных адрасоў — у адной асобе, пад адным дахам: беларуская і гісторыя, і культура, і навука, і універсітэт, і энцыклапедыя, урэшце, беларуская царква. Словам — "нашае ўсё", адкуль наталяемся, падмацоўваем аслабелыя сілы, чэрпаем веру й надзею ў глухія часы безнадзейнасьці. Кватэра Браніслава Эпімаха-Шыпілы ў Пецярбурзе, Івана Луцкевіча пакойчык на віленскай Пагулянцы, Зоські Верас хатка лясная ў ваколіцах Вільні, маскоўскі адрас Мікалая Улашчыка... Цяпер вось і вуліца Тамка ў Варшаве...

"Голас душы" — сьціпленькі беларускі малітоўнічак, які падараваў мне Юрка пад першую сустрэчу-разьвітаньне. Летась кніжачка, сярод іншых беларускіх кнігадрукаў, павандравала далей, ажно ў Сібір, да суродзічаў. Магчыма і Алег Рудакоў, малады і порсткі зямляча з Іркуцку, калісь таксама завітае на Туронкаў парог. Крэўныя душы ў бязьмежжы не губляюцца.

Аляксей Каўка

# Крыху пра сябе

Нарадзіўся я 26 красавіка 1929 г. у мястэчку Дукшты — тады Свянцянскага павета Віленскага ваяводства Польшчы, цяпер Ігналінскага раёна Літвы. Аднак, гэтае мястэчка не магу лічыць маёй радзімай: бацька, Браніслаў, паходзіў з Дзісеншчыны, а маці, Марыянна — з Беласточчыны. У Дукштах яны пасяліліся ў 1928г., дзе бацька атрымаў пасаду раённага лекара.

Навокал Дукшт пераважалі літоўскія вёскі, у некаторых жылі таксама рускія стараверы. У самім мястэчку каля паловы жыхароў складалі жыды, а астатнюю частку — хрысціяне розных нацыянальнасцей: літоўцы, палякі, рускія і вельмі няшмат беларусаў. Была яшчэ адна ці дзве татарскія сем'і. У мястэчку быў каталіцкі касцёл, жыдоўская бажніца, староверская маленна і, пабудаваная на пачатку XX ст. галоўным чынам для рускіх салдат і чыноўнікаў, праваслаўная царкоўка, якая за маёй памяці, заўсёды была закрытая. Былі тут і дзве жыдоўскія і адна польская школа. У гэтую школу я паступіў восеннню 1936 г.

Неўзабаве пачаліся падзеі, якія істотна паўплывалі на мой жыццёвы лёс. У верасні 1938 г. памёр бацька, а маці меркавала вярнуцца на сваю Беласточчыну. Перашкодзіла вайна і розныя новыя граніцы. Адначасова, раптоўна пачалі мяняцца палітычныя рэжымы: пасля развалу Польшчы, у верасні 1939 г. прыйшла Чырвоная Армія, у канцы кастрычніка Дукшты далучылі да Літвы, у чэрвені 1940 г. зноў прыйшла Чырвоная Армія і стварылася Літоўская ССР, праз год — немцы і ў ліпені 1944 г. Чырвоная Армія. Толькі тады маці з тройкай сыноў змагла вярнуцца на Беласточчыну. Такім чынам Народная Польшча была для мяне сёмым палітычным рэжымам, у якім давялося жыць у бурны перыяд 1939 — 1945 гг.

Гэтая акалічнасць мела істотныя паслядоўнасці. За хатнім парогам няспынна панавала беларуская атмасфера — мова, выхаванне дзяцей, кніжкі і часопісы, розныя візіты, затое характар "вуліцы" мяняўся ў залежнасці ад пануючай улады. Так, пасля некалькітыднёвага перапынку, у канцы кастрычніка або на пачатку лістапада 1939 г. зноў пачаліся заняткі ў школе, аднак гэта была ўжо не польская, а літоўская школа. Тады я перажыў немалы шок: калі вярнуўся ў свой чацвёрты клас, аказалася, што 3/4 маіх аднакласнікаў "забыла" польскую мову. Давялося вельмі хутка засвоіць літоўскую мову, чаму спрыяла паслядоўная літуанізацыя публічнага жыцця ў мястэчку.

Гэты эпізод быў толькі пачаткам вялікіх змен, якія ўплывалі на фарміраванне майго светапогляду. У школе вывешвалі ўсё новыя партрэты: замест Пілсудскага з'явіўся Смятона, потым Ленін, а за ім Гітлер. Таксама цікава было назіраць, як насельніцтва віталa кожную новую ўладу, дакладней — яе армію. Памятаю, як у верасні 1939 г. віталі Чырвоную Армію — з хлебам і соллю, з партрэтамі Леніна і нават праспяваным інтэрнацыяналам. Больш сціплае было вітанне літоўскіх салдат, затое сустрэча немцаў у чэрвені 1941г. была энтуз'ястычная. На тое была асаблівая прычына: якраз пачаліся дэпартацыі "ворагаў народу", з Дукшт адыйшлі ўжо два вялізныя эшалоны і быў падстаўлены на стацыю трэці, які "камплектаваўся". Аднак ад'ехаць ён ужо не паспеў, і зняволеных немцы самым сапраўдным чынам вызвалілі. А калі ў ліпені 1944 г. вярнулася Чырвоная Армія, шмат людзей вітала і яе. Памятаю, як адзін танкіст узняўся на бочку і расказваў нам пра нашыя жахлівыя цярпенні пад нямецкай акупацыяй, што выклікала іранічнае здзіўленне.

Кожная новая ўлада знаходзіла ахвотных яе падтрымаць і прыслужыцца, адсюль ніякая ўлада не адчувала нястачы даносчыкаў. Гэта ў выніку іх стараннасці людзі адпраўляліся ў Сібір ці расстрэльваліся савецкія актывісты. Памятаю арганізаваны нямецкай Айнзацкамандай на пачатку ліпеня 1941 г. публічны суд над некалькімі мясцовымі "камуністамі" і страстныя паказанні сведкаў аб іх злачыннай дзейнасці. Іх растралялі, а шкадавалі, мабыць, толькі сем'і.

Ужо тады я зразумеў значэнне апартунізму. Калі ж праз некалькі гадоў, ужо пасля вайны, мяне запыталі, чаму я не ў партыі, калі на дыпломе пяцёрка з марксізму-ленінізму, я адказаў, што калі б мой светапогляд фарміраваўся ў залежнасці ад таго, чаму мяне вучылі, мне давялося б на працягу пяці гадоў змяніць гэты светапогляд аж сем разоў.

На маё шчасце, такой неабходнасці не было. Школа была школай, незалежна ад партрэтаў, якія вывешваліся на яе сценах. У 1942 г. закончыў Дукштанскую пачатковую школу і з восені гэтага года тры гады вучыўся ў літоўскай Віленскай гімназіі № 1, а пазней у Беластоцкім ліцэі. Тут, аднойчы, настаўнік гісторыі загадаў мне расказаць пра Грунвальдскую бітву. Гэта я ведаў выдатна і адказваў так, як мяне вучылі ў Вільні. Там за гэты адказ, магчыма, атрымаў бы пяцёрку, а тут — у польскім ліцэі я "зарабіў" двойку пры акампанеменце гучнага смеху аднакласнікаў і настаўніка. Такім чынам да дукштанска-віленскіх назіранняў далучыўся яшчэ крытыцызм да гістарычных "ісцін", фабрыкаваных паклоннікамі палітычнай "праўды" на ўжытак бягучай прапаганды. Гэты крытыцызм застаўся мне на ўсё жыццё.

Мая вышэйшая адукацыя прайшла ў Шчэціне і Варшаве. У 1952 г. атрымаў дыплом магістра эканамічных навук, пасля чаго некалькі гадоў працаваў у імпартна-экспартным прадпрыемстве хімічных вырабаў і адначасова на кафедры эканамічнай геаграфіі Вышэйшай школы планавання і статыстыкі ў Варшаве. Аднак гэта было не тое, чаго хацелася: у першым выпадку — механічная чыноўніцкая праца і ў другім — казкі пра сталінскія планы пераўтварэння прыроды і таму падобнае. Мяне вабіла сур'ёзная даследчыцкая праца.

На пачатку 1956 г. пакінуў абедзве гэтыя ўстановы і стаў працаваць у Польскай Знешнегандлёвай Палаце, у рамках якой неўзабаве была створана рэдакцыя газеты "Зарубежныя Рынкі". У гэтай рэдакцыі працую звыш 30 год, вывучаю кан'юктуру рынку хімічных прадуктаў. За гэты час апублікаваў шмат спецыялістычных артыкулаў і распрацовак, у тым ліку кніжку "Польшча на міжнародным хімічным рынку" (1972). Шмат гадоў удзельнічаў, як дэлегат Польшчы, у працы Камітэта хімічнай прамысловасці Еўрапейскай Эканамічнай Камісіі ў Жэневе, а таксама ў арганізацыі польскіх гаспадарчых выставак у розных еўрапейскіх краінах, м. інш. у Беларусі.

Таксама на пачатку 1956 г. паўстала ў Польшчы Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Была гэта істотная падзея, якая вызначыла накірунак маёй грамадскай дзейнасці. Хутка ўключыўся ў БГКТ, быў саарганізатарам і шматгадовым старшынёй яго Варшаўскага аддзялення (1956-1966), удзельнічаў у працы Галоўнага праўлення таварыства ў Беластоку, м. інш. кіраваў

дзейнасцю яго Навуковага гуртка. У гэтым кантэксце акрэсліліся мае зацікаўленні вывучэннем гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне, як важнейшай сферы духоўнага жыцця беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Вынікам шматгадовых даследаванняў гэтага пытання былі наступныя распрацоўкі: "Нарыс развіцця школьніцтва на Беласточчыне ў 1773-1939 гг." (Навуковы зборнік, 1974), "Акупацыйная школьная палітыка ў Беластоцкай акрузе 1941-1944"(Пжэглонд гісторычно-науковы, 1976), артыкул пра беларускую школу ў Варшаве ў час нямецкай акупацыі — "Школа на Свентаерскай вуліцы" (Беларускі каляндар, 1976), брашура "Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд" (1976) і інш.

Прыкладна з паловы 70-х гадоў мае даследчыцкія зацікаўленні ўсё больш канцэнтраваліся на гісторыі беларускага адраджэнскага руху канца XIX — пачатку XX ст. На гэта ўплывала вялікае жаданне высветліць сапраўдную ролю ў гэтым руху Вацлава Іваноўскага, постаць якога замоўчвалася, прыніжалася і аплёўвалася беларускімі гісторыкамі і публіцыстамі — савецкімі і іншымі. Так узніклі мае распрацоўкі, прысвечаныя галоўным чынам дзейнасці Іваноўскага, апублікаваныя ў польскіх навуковых выданнях: "Да гісторыі беларускага выдавецкага руху 1902 — 1905" і "Дзейнасць беларускага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша аконца" (Студыя палона-славіка-арыенталія, 1985 і 1992), "Генезіс і аўтарства першага беларускага буквара" (Славія Арыенталіс, 1986), "ППС і беларускі рэвалюцыйны рух у 1902 — 1906 гг. (Студыя польско-літэвско-бялорускe, 1988) і "Беларускае пытанне ў палітыцы лонданскага лагера 1941 — 1944" (Студыя з дзеюв ЗСРР і Эўропы Сродковэй, 1983).

Гэтая апошняя распрацоўка зацікавіла прафесара Пятра Ласоўскага з Інстытута Гісторыі Польскай Акадэміі Навук, які ў 1981 г. запрапанаваў мне апрацаваць доктарскую дысертацыю аб становішчы Беларусі ў час нямецкай акупацыі. Паспяховая абарона дысертацыі адбылася ў снежні 1986 г. у Інстытуце Гісторыі ПАН. У 1989 г. яе выпусціла варшаўска-уроцлаўскае выдавецтва "Вэрс". Трыма гадамі пазьней польскія выдаўцы перавыдалі кнігу. Тады ж, у 1993 г. "Беларусь пад нямецкай акупацыяй" пабачыла сьвет у перакладзе на беларускую мову (выдавецтва "Беларусь"); у рускамоўным варыянце друкавалася ў часопісе "Нёман".

# Беларускі прарыў на “заходнім фронце”

У гістарычнай навуцы часам здараецца так, што праз адну кнігу аўтар робіцца класікам. Вось жа і гісторыку Юрыю Туронку, аўтару многіх каштоўных публікацый, сапраўдную вядомасць і аўтарытэт прынесла адна манаграфія.

На нашым “заходнім фронце” доўгі час не было аніякіх пераменаў. Усё напісанае і выдадзенае пра апошнюю вайну ў Беларусі ціснула цяжарам аднастайнай тэндэнцыі. Здавалася, навуковыя высілкі гісторыкаў вайны зводзіліся да адпаведнага паказу адно трох дазволеных тэм — савецкага партызанскага руху, камуністычнага падполля і фашысцкіх злачынстваў на тэрыторыі краіны. Невыпадкова па акупацыйнай гісторыі Беларусі савецкая гістарычная навука так і не стварыла цэльнага манаграфічнага даследавання. Вось жа першай такой манаграфіяй стала “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” — перакладзеная з польскай мовы на беларускую доктарская праца Юрыя Туронка, якая выйшла ў Мінску ў 1993 г.

З‘яўленне гэтай кнігі, як трапна зазначана ў невялічкай прадмове выдавецтва, “у другі час было б проста немагчымым”. Цяпер можна дадаць: і на якіх два гады пазней яно стала б нерэальным! Праца паспела выйсці ў той непрацяглы час, калі Беларусь была ўжо несавецкай, і яшчэ дэмакратычнай, не прэзідэнцкай. Так своечасова выдадзеная кніга стала для нас своеасаблівым адкрыццём паднямецкай Беларусі. У той жа час, яна адкрыла талент Туронка як гісторыка.

Туронак-вучоны валодае адметным стылем, які не можа не выклікаць сімпатый. Лаканічнасць і яснасць выкладання спалучаныя ў яго з акадэмічнай бесстароннасцю, а заразам — з адчувальнай заангажаванасцю ў кранутыя праблемы. У доктарскай працы, як

падкрэсліў сам даследчык, ён ставіў на мэце "дайсці да ўласных высноў, незалежных ад папярэдніх супярэчлівых ацэнак". Што асабліва істотна, аўтар не працаваў на загадзя вызначаныя, папярэдне прынятыя тэзісы, падбіраючы факты пад ідэю, як гэта звычайна робяць гісторыкі партыйныя або прыхільнікі найноўшых гістарыяграфічных плыняў. Наадварот, Туронак стараўся перш за ўсё праз аналіз дакументаў вызначыць дэталі падзеяў і толькі на іх аснове даваць гістарычныя ацэнкі і фармуляваць высновы.

На старонках манаграфіі без рамантычнай захопленасці і патрыятычнага пафасу, узважана і спакойна вытвараецца цэльная карціна трагічных дзён. У хаатычнай масе дакументальных сведчанняў аўтар знаходзіць заблытаныя лініі сувязяў і ўзаемазалежнасцяў. Працуючы над даследаваннем яшчэ ў 1980-х, Туронак добра ведаў ступень рызыкі: і ў савецкай Беларусі ён мог трапіць у адпаведныя спісы, і беларуская эміграцыя, схільная ідэалізаваць у мемуарах сваё ваеннае мінулае, наўрад ці ўхваліла б яго бесстароннія трактоўкі. Метад і прафесійная этыка былі, аднак, найвышэйшым імператывам аўтара.

Туронкава праца стала своеасаблівай рэвізіяй ваеннай савецкай гістарыяграфіі. Фактычна ўпершыню маналітнаму стэрэатыпу "Вялікай Айчыннай" і "ўсенароднай барацьбы" супрацьпастаўлены зусім іншы, шматмерны погляд на падзеі і асобы апошняй вайны. "Ворагі беларускага народу", "фашысцкія служакі" Радаслаў Астроўскі, Вацлаў Іваноўскі, Янка Станкевіч ды іншыя раптам паўсталі ў інакшай, як жа неадназначнай іпастасі. Туронак ці не першым на фактах паказаў, што "ўсенароднай" акурат не было: сітуацыя ў падняме цкай Беларусі "вельмі нагадвала грамадзянскую вайну" — настолькі палярызавалася ў сваёй палітычнай арыентацыі насельніцтва, што карныя акцыі фашыстаў былі найперш адказам на дзеянні партызан. Гісторык паставіў пад пытанне многія прынятыя раней лічбы і тэзісы савецкай літаратуры. У прыватнасці, ён пераглядзеў колькасць людскіх стратаў Беларусі за 1941 — 1944 гг., ацаніўшы афіцыйна прынятыя лічбы як яўна завышаныя. І беларускія ўзброеныя сілы, па Туронку, на пачатак 1944 г. налічвалі ўдвая болей, чым падавала савецкая гістарыяграфія.

Самае ж нечаканае — у інтэрпрэтацыі самой акупацыі. Гісторык паглядзеў на яе як на фазу нацыянальна-дзяржаўнага самастанаўлення беларусаў у жорсткіх умовах іншаземнай акупацыі. Параўнаўшы ўсходнюю палітыку Другога і Трэцяга Райхаў, ён знайшоў падабенства

ў стаўленні нямецкай адміністрацыі да беларускага пытання. Як сведчаць факты, яно было ня раз спрыяльным да беларускіх нацыянальных сілаў, наважаных скарыстаць ваенную сітуацыю як гістарычны шанс на замацаванне самастойнасці. У гады вайны нацыянальная актыўнасць беларусаў дасягнула найвышэйшага ўзроўню і нацыяналізм зрабіўся рэальнай альтэрнатывай і супрацьвагой савецкага руху. Ці не таму савецкія ўлады разгарнулі шалёную барацьбу супраць усяго нацыянальна беларускага.

У гэтым кантэксце гісторык нетрадыцыйна ацэньвае дзейнасць беларусаў, якія пад час вайны былі ў несавецкім лагеры (і з прычыны чаго дасюль уважаюцца ўладамі Беларусі за злачынцаў): яны спрабавалі мацаваць беларускія нацыянальныя пазіцыі і пры немцах таму, што выходзілі з вопыту даваеннай нацыянальнай палітыкі бальшавікоў і не бачылі перспектывы развіцця краю пад Саветамі. З пункту гледжання нацыянальных інтарэсаў гэтая тактыка была бадай слушнай. Савецкая палітыка татальнай русіфікацыі Беларусі пасля вайны адно пацвердзіла правільнасць выбару беларускіх нацыяналістаў.

Нямногія навуковыя даследаванні становяцца бестселерамі. Між тым, ужо праз год пасля выхаду кнігі Туронка ў анкеце “Нашай Нівы” чытачы ўключалі яе ў лік пяці лепшых выданняў па беларускай гісторыі наогул. “Беларусь пад нямецкай акупацыяй” заўважылі і ацанілі не толькі ў айчыне, але і за мяжой. Напрыклад, нямецкі даследчык вайны Бернгард К‘яры даў высокую ацэнку даследаванню Туронка і асабліва падкрэсліў, што беларускі гісторык “пайшоў у многіх аспектах новым шляхам”, дыстанцыяваўшыся ад стэрэатыпаў “Вялікай Айчыннай вайны”, так уласцівых ранейшай гістарыяграфіі...

Як прызнанага спецыяліста па гісторыі апошняй вайны Юрыя Туронка запрашаюць на міжнародныя навуковы форумы па праблемах II сусветнай. I цалкам заслужана: ён здзейсніў сапраўдны прарыў беларускай гістарыяграфіі на “заходнім фронце”.

# Бібліяграфія прац Ю. Туронка

## Выданні на беларускай і рускай мовах

### Кніжкі

Беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд, выданне Гарадской управы, Беласток 1976

Памяці Браніслава Туронка, выданне Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва, Ню Ёрк-Варшава 1990

Беларусь пад нямецкай акупацыяй, выдавецтва "Беларусь", Мінск 1993

### Зборнікі, перыёдыкі, інтэрв'ю

З дапамогай сяброў, "Літаратура і Мастацтва", Мінск 14 У 1958

Нацыянальныя меншасці ў Польшчы, "Беларускі каляндар на 1959 г.", выд. БГКТ, Беласток

Народная гаспадарка Савецкай Беларусі, "Беларускі каляндар на 1964 г." выд. БГКТ, Беласток

Нарыс развіцця школьніцтва на Беласточчыне 1773-1939, "Навуковы зборнік", выд. БГКТ і Беластоцкага Навуковага Таварыства, Беласток 1974

Даведнік фальклорных тэкстаў з Беласточчыны, апублікаваных ў тыднёвіку "Ніва" /1956-1970/ і ў "Беларускіх календарах" /1961-1971/, "Навуковы зборнік", як вышэй

Рэцэнзія кнігі С. Маўэрсберга, "Пачатковае школьніцтва для нацыянальных меншасцей у Польшчы у 1918-1939 гг.", Варшава 1968

Беласточчына на варштаце даследчыкаў, “Беларускі каляндар на 1976 г.”, выд. БГКТ, Беласток

Школа на Свентаерскай вуліцы /дат. беларускай школы ў Варшаве падчас нямецкай акупацыі/, “Беларускі каляндар на 1978 г., выд. БГКТ, Беласток

Жыццё для асяроддзя /дат. настаўніка Міколы Лебядзінскага са Страшава/, “Беларускі каляндар на 1979 г.”, выд. БГКТ, Беласток

Пра Гальяша Леўчыка, “Беларускі каляндар на 1980 г.”, выд. БГКТ, Беласток

Рэдакцыйная апрацоўка ўспамінаў Пятра Ластаўкі, Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве, “Беларускі каляндар на 1980 г.”, як вышэй

Рэдакцыйная апрацоўка ўспамінаў Зоські Верас, Гродзенскі гурток беларускай моладзі, “Беларускі каляндар на 1981 г.”, як вышэй

Уступ і рэдакцыйная апрацоўка зборніка вершаў Надзеі Артымовіч, Роздумы, выд. БГКТ, Беласток 1981

Абіхт Рудольф, сааўтарства, Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі, Мінск 1984, I том

Нарыс гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне, “Сустрэчы”, Варшава, 1988-1989, №№ 10-12

“Кожны чацвёрты” і Курапаты, “Кантакт”, Польшча, 1989, № 1

“Кожны чацвёрты” і Курапаты, пераклад на латышскую мову С. Кузняцова, “Падом‘ю яунатве”, Рыга, 1 IX 1989

Нежаданая рэспубліка, “Кантакт”, Польшча, 1989-1990, №№ 2-3

/пад псеўд. А.Жук/, Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы, “Кантакт” Польшча, 1990, № 3

/пад псеўд. Віленчук/, Віленшчына — вяртанне да традыцыі, “Кантакт”, Польшча, 1989, № 2

Загадка смерці Францішка Аляхновіча, “Кантакт”, Польшча, 1990 № 4

Непакорная Вера /пра Маслоўскую/, “Беларускі каляндар на 1990 г.”, выд. БГКТ, Беласток

Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы, “Скарыніч”, Мінск 1991

Да гісторыі Друйскага манастыра Марыянаў, “Браслаўская звязда”, 23 і 27 IV 1991

Навучаючы Закону Божаму /Да гісторыі Друйскага Марыянскага манастыра/ “Голас душы”, Мёры, красавік 1991, №4

Да гісторыі Друйскага Марыянскага манастыра, “Браслаўскія чытанні”, Браслаў 1991

Беларускія Марыяны ў Друі, "Спадчына", 1991, № 5

Ці быў справядлівы ў Садоме?, "Навіны Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", 1991, №№ 4-6

Беларусь пад нямецкай акупацыяй, "Чырвоная Змена", 1991, №№ 33-43

Беларусь во время немецкой оккупации. Страницы из книги / с польского/ "Нёман", Мінск, 1991, № 10

"Загляне сонца..." і Вацлаў Іваноўскі, "Спадчына", 1992, № 2

Міжваенная унія ў Заходняй Беларусі, "Спадчына", 1992, № 5

Інтэрв'ю У. Панады, Дзяржава павінна трымаць курс, "Чырвоная Змена", 3-9 VIII 1992

Інтэрв'ю У. Панады, Іваноўскі быў нацыянальным дзеячам, "ЛІМ", 16 X 1992

Ваша национальность? /дат. Іваноўскага/, "Нёман", 1992, №12

Становішча беларускага школьніцтва на Беласточчыне, Беларусіка, кн. 1 выд. "Навука і тэхніка", Мінск 1993

Наша дзяржаўнасць: рэальная і ўяўная, "Звязда", Мінск 30 IV 1993

В.Іваноўскі і адраджэнне Беларусі, "Маладосць" 1994, № 8 і 9 /часопісны варыянт/

Баявая Ускалось, Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі, т.І, Мінск 1993

В. Іваноўскі, " " " т.ІІІ, 1996

В.Іваноўскі, Беларусь Энцыклапедычны даведнік, Мінск 1995

Беларускі Камітэт у Польшчы, Беларуская Энцыклапедыя, т.ІІ, 1997

Фармаваньне сеткі рыма-каталіцкіх парафіяў у Беларусі /1387-1781/,"Беларускі Гістарычны Агляд", /Мінск/ 1995, т.ІІ, сшытак 2

Фармаваньне сеткі рыма-каталіцкіх парафій на Беларусі ў 1387-1781 гадах, "Наша Вера", 1995, № 1, Мінск

Язэп Германовіч — сьвятар і пісьменнік, "Наша Вера", 1996, №1/2

Да гісторыі беларускага каталіцкага душпастырства ў Мінску. Трагізм і загадкавасьць лёсаў, "Наша Вера", 1996, № 1/2

Беларускае пытанне ў палітыцы лонданскага лагеру /1941- 1944/, "Спадчына", 1997, № 3

Вацлаў Іваноўскі ў Пецярбургу (1899-1913), "Белорусский сборник" (Петербург), 1998

Канфесійныя трансфармацыі на Беларусі, "Наша вера", 1998, №2 (5)

Тое ж, перадрук, "Беларуская думка XX ст.", Варшава 1998

## Выданні на польскай і нямецкай мове

Кніжкі

Polska na międzynarodowym rynku chemicznym, Państwowe Wydawnictwo Ekonomiczne, Warszawa 1972

Białorus pod okupacją niemiecką, Wydawnictwo "WERS", Warszawa – Wrocław 1989

Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi, wyd. Warszawska Oficyna "Gryf" i Instytut Historii Polskiej Akademii Nauk, Warszawa 1992

Białoruś pod okupacją niemiecką, Wydawnictwo Książka i Wiedza, Warszawa 1993

Артыкулы ў навуковых часопісах

Okupacyjna polityka szkolna w Okręgu Białostockim 1941 – 1944, "Przegląd Historyczno-Oświatowy", 1976, nr. 3/73/

Udział Mariana Falskiego w białoruskiej działalności wydawniczej, "Przegląd Historyczno-Oświatowy", 1982, nr 3-4 /97 – 98/

Kwestia białoruska w polityce obozu londyńskiego 1941 – 1944, "Studia z dziejów ZSRR i Europy Srodkowej", 1983, tom XIX

Wokól genezy "Dziadźki Antona", "Slavia Orientalis", 1983, nr 3

Status Białorusi w Komisariacie Rzeszy Ostland, "Studia z dziejów ZSRR i Europy Srodkowej", 1984, tom XX

Geneza i działalność Białoruskiej Centralnej Rady /grudzien 1943 – czerwiec 1944/, "Studia z dziejów ZSRR i Europy Srodkowej", 1985, tom XXI

Z dziejów białoruskiego ruchu wydawniczego w latach 1902 – 1905, "Studia polono-slavica-orientalia Acta Literaria", 1985, tom IX

Geneza i autorstwo pierwszego elementarza białoruskiego, "Slavia Orientalis", 1986, nr 3

PPS wobec białoruskiego ruchu rewolucyjnego w latach 1902 – 1906, "Studia polsko-litewsko-białoruskie", Warszawa 1988, wyd. Białostockiego Towarzystwa Naukowego

Stosunki polsko-białoruskie w okresie II wojny światowej, "Colloqiu narodów", Łódź 1991, /Materialy z sympozjum "Litwini, Białorusini, Ukraińcy, Połacy – przesłanki pojednania", Łódź pazdźiernik 1987/

Działalność białoruskiego wydawnictwa "Zahlanie sonca i u nasza akonca" w Petersburgu /1906 – 1914/, "Studia polono-slavica-orientalia Acta litteraria", 1992, tom XIII

Rozmowa o braciach Iwanowskich, "Znak" 1987, nr. 1-7

Czy sprawidliwy w Sodomie? , "Znak", 1989, nr. 2-3

Stosunki polsko-białoruskie w okresie drugiej wojny światowej, "Znak" 1989, nr. 6

Katolicyzm na Białorusi – skala problemu, "Res Publica", 1990 nr XI, i nr XII /tamże polemika/

Białoruski ruch narodowy, "Oboz", wiosna 1992

Białoruski katolicyzm wczoraj i dziś, "Ład", 13 XII 1992

Katolicyzm na Białorusi – skala problemu /w:/ Belarus Lithuania Poland Ukraine. The foundations of historical and cultural traditions in East Central Europe, Lublin-Rome 1994

Weissruthenien: Zweifrontenkrieg der Ideologien /w:/ Anpassung, Kollaboration, Widerstand. Kollektive Reaktionen auf die Okkupation, Berlin 1996

Kształtowanie się sieci parafii rzymskokatolickich na Białorusi w latach 1387 – 1781 /w:/ Katolicyzm w Rosji i Prawosławie w Polsce /XI – XX w./, Warszawa 1997

Próby odrodzenia Kościoła unickiego na Białorusi w XX wieku, "Warszawskie Zeszyty Ukrainoznawcze", 1997, Nr. 4-5

Stosunki gospodarcze Polski z Litwą, Białorusią i Ukrainą po rozpadzie ZSRR /w:/ Kultura zbliża narody i regiony /Polska a Europa Wschodnia/, Ciechanów 1997

Czy naród białoruski ochroni swą tożsamość etnicną i kulturową? Тамсама

Prorosyjska opcja Białorusi, "Obóz", 1998, nr 35.

# “Хрыстос ўваскрос!...”

З “Маіх успамінаў”

Тры дні йшла цяжкая барацьба. Спачатку ніхто й не гадаў, што пытаньне аб самым прынцыпі — выдзеляць чы не выдзеляць беларусаў з агульнай расейскай арміі ў нацыянальныя адзінкі сустрэне варагаў сярод самых жэ беларусаў. Сам жа вайсковы міністэр Расейскай Рэспублікі (гэнерал Вярхоўскі) у Радзе Рэспублікі ў Петраградзе выразна зазначыў, што толькі ў перэсартаваньні арміі па нацыянальнай адзнацы ён бачыць збаўленьне войска ад распаду.

Міністэр абыйшоў моўчкі “рэформу” самога Керэнскага, які ўжо раней дазволіў палякам фармаваць свае часткі, выбіраючы людзей з вайска па адзнацы, якую яны, самы польскія верхаводы, устанаўлівалі. Украінцы, як ведама, не чэкаючы “дазволу” сталі гуртавацца пад Петлюрой...

Грузінаў падтрымліваў “белы” Пецярбург, даручыўшы начальства над грузінскім войскам князю Мачабелі.

Адны беларусы, як слабейшыя і найменей арганізаваныя, яшчэ, “бэз дазволу” не маглі ўзяць сваю долю ва ўласныя рукі.

Да таго, маскоўцы, загарэваўшы аб “адзінай і недзелімай матушцы”, як з крайняга правага, так і з бальшавіцкага боку, далажылі ўсіх сілаў, каб стрымаць пашыраючыся шырока-шырока нацыянальны рух сярод беларусаў расейскага войска.

Тры дні йшла барацьба на 1-ым Вайсковым Беларускім Зьездзі ў Менску ў кастрычніку 1917 г. З абедзвёх старон пачарадзе трыбуну займалі то “сьвядомыя”, то “несьвядомыя. Змабілізаваны былі лепшыя сілы. Проці нацыянальнай стараны Зьезду аб‘едналіся былыя чарнасотенцы з камуністамі. Для іх не было нічога страшнейшага, як беларускія нацыянальныя войскі. Дзеячам адраджэнчаскага руху рабіліся самыя паскудныя закіды.

І вось настаў доўгачаканны момэнт вырашэньня галасамі вялікай загадкі эпохі, заданьня жыцьця і сьмерці беларускага руху.

А для таго, каб гэта вырашэньне было, як найсправядлівейшым, каб кожны чалавек мог адкрыта і не вагаючыся сказаць, хто ён для свайго народу, чым жыве ў ім яшчэ кроў гаротных яго бацькоў, правадыры Зьезду пастанавілі справу вырэшыць "выхадам у правыя і левыя дзьверы".

Зьезд адбываўся ў вялікім будынку па-губэрнатарскага дому, пазьней Дому Беларускай Рады — на Пляцу Волі.

З заміраньнем сэрца глядзелі прысутные госьці на гэты выхад сяброў Зьезду, у правыя (за!) і левыя (проці!) дзьверы. Бэзканечныя дэбаты вайсковага сходу, на які прыбыло болей 150 чалавек самага, здавалася, абеларушчэннага Заходняга Фронту, да самага апошняга момэнту не выразілі твару Зьезду.

Страх агарнуў людзей... Якісь-ці незразумелы, нутраны, халодны страх: і тых, каму належалася прыступіць да гэтай першай за колькі сот гадоў споведзі і за сябе, і за продкаў, і тых, хто меў шчасьце быць сьведкам гэтага момэнту.

Ціха, моўчкі, як бы пры вялікім сакрамэнці пачалі падымацца людзі і кіравацца.

— Туды, чы сюды!...

І пайшлі.

Нікім не падганяныя, нікім не прымушэныя. Дэбаты былі скончаны за колькі гадзін да вырэшэньня.

І не пасьпелі яшчэ пісары Зьезду прыбрацца падлічваць людзей: госьці Зьезду паднялі ужо галосныя прывітаньня далеко пераважываючай большасьці — вялікай чарадзе людзей, якія не йшлі, а ўжо беглі ў ..... беларускія дзьверы.

Беглі, ні-бы то, каб іх не змагла вярнуць чужацкая, падняволіўшая народ сіла.

Прывітаньня былі тым галаснейшыя, калі на беларускую сторану пацягнуліся ланцугом дзесяткі і тых, да таго варожых да беларускасьці людзей, аб якіх, здавалася, ня было ўжо ніякой надзеі, што яны "вернуцца да мацеры сваёй".

Пісары жвава падлічылі галасы ў левым пакоі. Гэта было вельмі лёгка зрабіць. Абвесьцілі лічбу, спатканую бэзумоўкнымі воплескамі, крыкамі "слава", і сярод гэтага сьвята, зьвіліся ў залі нашыя пісьменьнікі і дзеячы — Алесь Гарун, Андрэй Зязюля, Антон Лявіцкі....

За німі ціснуліся вагромністай грамадой людзі з надворка, моладзь... Стала шумна, цесна; скульсьці зьявіўся нацыянальны штандар.

— Браты, родныя! Хрыстос Ўваскрос!... — Так, сярод радаснага

гоману і сьвяткаваньня голасна, узлезшы на стары губэрнатарскі фотэль, загаварыў стары палітычны беларускі работнік і паэта, правадыр сацыялістаў Алесь Гарун...

І ўсё загаманіла яшчэ галасней.

— Ваістіну Ўваскрос!... — Адпавядала заля, як адзін чалавек, і больш не можна было ўжо разабраць ні воднага слова.

Гарун стаяў на сваім мейсцы, падняўшы рукі. Па твары яго беглі сьлёзы. Панясьліся голосныя чыстыя гукі беларускага народнага гімну... Адсунуўшы ад сябе артыста Ждановіча, які захацеў кіраваць пеяўшымі, шырока і высока пачаў махаць у такт рукамі Лявіцкі. Вочы блішчэлі ад неспадзеванай радасьці. Зязюля — ксёндз цалаваўся, як праваслаўныя на Вялікдзень, тройчы.

Сьвята перакінулася ва ўсе беларускія ўстановы.

У гэты дзень больш нічога рабіць не хацелася...

Падваліны вялікага гмаху былі заложаны:

Беларусы — вайсковыя сталі на старане сваёй народнай справы..

газета

*"Беларус-вайсковы", (Коўна). 1922. 16 крас.*

# Гісторыя беларускай культуры

## Праграма курсу, чытанага ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў 1925/26 акадэмічным годзе

*Невялікая праграма курсу, складзенага Язэпам Ляưановічам Дылам /1880-1973/, фактычна прадстаўляе курс гісторыі Беларусі, які чытаўся для студэнтаў універсітэту.*

*Аналіз гэтай праграмы паказвае, што яна з'яўлялася тэзісамі распрацаванага навукова, старанна падрыхтаванага і цэласнага выкладання ўпершыню ўведзенага курсу гісторыі Беларусі, а не толькі гісторыі беларускай культуры. Гэта адразу відаць па самаму зьместу. Курс лекцый па гісторыі Беларусі ўлічваў навуковыя веды на аснове дасягненняў тагачаснай гістарычнай навукі універсітэцкага ўзроўню. Ужо былі падрыхтаваны і выдадзеныя ў першай чвэрці XX ст. гістарычныя нарысы па гісторыі Беларусі, якія ўпершыню вызначылі гісторыю нашай бацькаўшчыны як асобны прадмет, чаго раней ніколі не было. Гэта "Кароткая гісторыя Беларусі" Вацлава Ластоўскага / Вільня, 1910/, "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" Усевалада Ігнатоўскага /Менск,1919/ "Гісторыя Беларусі" /частка 1/ Уладзіміра Пічэты ў 1924 г. Усё гэта дало магчымасць скласці праграму курсу гісторыі Беларусі.*

*Аднак у гэтай праграме ўлічаны і шматлікія манаграфіі і іншыя навуковыя працы, што можна ўбачыць па гістарыяграфічных раздзелах праграмы, па пераліку гісторыкаў, якія вывучалі тыя ці іншыя пытанні гісторыі Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Так што можна адзначыць аб'ектыўнасць навуковага падыходу выкладчыка да гісторыі. Разам з тым на выпрацоўку праграмы адбіўся ўплыў навуковых прац першага рэктара Беларускага універсітэту Уладзіміра Пічэты, што можна пабачыць нават у самай яе структуры.*

*Неабходна адзначыць, што аб'ектыўнасць складальніка праграмы выразна праявілася і ў храналагічным размеркаванні*

*тэксту яе: на апошнія падзеі XX стагоддзя ў гісторыі Беларусі, уключаючы і Кастрычніцкую рэвалюцыю, адведзена адпаведна некалькі радкоў на апошняй 5-й старонцы. Такім чынам, шматвяковай гісторыі беларускага народа адведзена адпаведнае месца ў гэтай праграме.*

*У параўнанні з гэтай праграмай, якая аб'ектыўна разглядае феадальны перыяд гісторыі беларускага грамадства, сучасная праграма універсітэцкага курсу гісторыі Беларусі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце нават у цяперашні перабудоўчы перыяд недалёка адыйшла ад праграмы, складзенай у сталінскі перыяд і ў сталінскім стылі /канчаткова ў 1948 г., што была ўхвалена ЦК КПБ і надрукавана ў часопісе "Бальшавік Беларусі", 1948, № 6/. І цяперашняя праграма курсу гісторыі Беларусі, з перакосамі ў савецкі перыяд гісторыі Беларусі ў колькасных і якасных адносінах, заснавана па-ранейшаму на нігілістычным падыходзе нацыянальнай гісторыі, на выкладанні курсу гісторыі Беларусі з цэнтралісцкага пункту гледжання, скрозь прызму маскоўскай, а потым расійскай імперскай гісторыі /ды яшчэ пераважна на рускай мове, бо выкладчыкі не ведаюць роднай мовы/.*

*На жаль, гэтая цяперашняя універсітэцкая праграма прынята амаль ва ўсіх навучальных установах рэспублікі і зацверджана Міністэрствам народнай адукацыі. І хоць праграма курсу 1925-1926 акадэмічнага году была складзена, натуральна, у перыяд зараджэння беларускай гістарычнай навукі, яна ў параўнанні з цяперашняй не заснавана на скажэнні гістарычных фактаў, часам падмане чытача і проста хлусні, якая ўвайшла ў сталінскія часы ў выглядзе міфаў і легенд, якія заснаваны часам на псеўданавуковых даследаваннях сацыяльнага заказу з боку высокіх чыноўнікаў ідэалагічнай службы.*

*1990 г.* *Анатоль Грыцкевіч*

*Друкуецца з захаваннем правапісу арыгінала.*

*Тэкст праграмы — 5 старонак машынапісу — захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, ф. 93, воп. 1, адз. зах. 144 б, арк. 1-5.*

Крыніцы гісторыі Беларускай культуры. Агульна рускія летапісы. Літоўска-беларускія летапісы. Нямецкія хронікі. Польскія хронікі.

Прывілеі. Абласныя прывілеі. Помнікі магдэбурскага права.

Помнікі права: руская праўда, смаленская "тарговая праўда". Судзебнік Казіміра, "Статуты" 1529, 66, 1588 гг. дзяржаўны архіў — Літоўская матрыха, прыватныя архівы.

Выданьні крыніц. Польскія выданьні. Рускія выданьні Пецерсбурскай Археографічнай камісіі, Віленскай Археографічнай камісіі, Віцябскага Цэнтральнага Архіву.

Выданьні асобых вучоных: Грыгоровіча, Сапунова, Маліноўскага, Бершадскага, Доўнар-Запольскага, Леонтовіча і інш.

Распрацоўка гісторыі Беларусі: Ярашэвіч, Нарбут, Даніловіч, Антановіч, Даніловіч, Галубоўскі, Владзімірскі-Буданаў, Ясінскі, Доўнар-Запольскі, Грушэўскі, Владзімірскі, Васілеўскі, Любаўскі, Максіменка, Пічэта, Лаппа, Маліноўскі і інш.

Тэрыторыя Беларусі ў сучасны момант ў этнографічных межах. Характар першабытнай тэрыторыі Беларусі. Першабытная культура і яе помнікі на Беларусі. Першабытныя насельнікі Беларусі.

Славяне і іх прародзіна. Культурны стан славян да перасялення. Рухі славянаў. Засяленьне імі тэрыторыі Беларусі. Крывічы, дрэговічы і радзімічы. Народная гаспадарка беларусаў у IX-XII ст. Шляхі на Беларусі. Вялікі водны шлях. Гандаль і яго характар. Соцыяльны склад грамадзянства. Палітычная пабудова. Гістарычны нарыс Полацкай, Смоленскай і Тураўскай зямель. Ліцьвіны. Іх культурны стан. Узаемаадносіны паміж ліцьвінамі і беларусамі. Феадальнае аб'яднанне. Утварэньне літоўска-беларускай дзяржавы і паступовы яе рост у XIII-XV вв. Феодальна-федэрацыйны характар пабудаванай дзяржавы. Констытуцыі краін: Віцябскай, Жомоіцкой, Смаленскай, Кіеўскай і Волынскай.

Слабасьць дзяржавы. Яе імкненьне да распаду. Барацьба князёў. Вунія з Польшчай 1385 г. Яе значэньне дзеля ўмацаваньня вялікакняжацкай улады. Барацьба супрыць вуніі. Астроужская згода 1392 г. Вунія 1410 і 1418 гг. Іх умовы і значэньне. Разрыў вуніі.

Палітычная барацьба 1430-1439 гг. як феадальная рэакцыя. Сэпаратыстычныя імкненьні краін у 1440 г. Адносіны да Польшчы ў другой палове XV ст.

Народная гаспадарка феодальнай эпохі. Земляробства і яго характар. Прамысловая гаспадарка. Гандаль. Паступовыя пашырэньня грашовай гаспадаркі, начынаючы з заходніх частак Літоўска-Беларускай

дзяржавы з канца XV да канца XVI ст. Характэрныя адзнакі грашовай гаспадаркі на Беларусі: надворны і ўнутральньні гандаль, перамена натуральных падаткаў на грашовыя, паяўленьне і пашырэньне абрабляючай прамысловасьці, рост гарадоў і дараваньне ім Магдэбурскага права і інш.

Соцыяльны склад грамадзянства.

Чэлядзь невольная. Крыніцы рабства. Становішча чэлядзі ў феодальную эпоху. Перамена ў палажэньні чэлядзі з умацаваньнем грашовай гаспадаркі. Зліяньне з селянамі.

Селяне; іх назвы. Селяне даньнікі; іх даніны. Грамадзянская організацыя селян даньнікаў. Гаспадарскія і панскія селяне. Нормы іх землекарыстаньня до аграрнай рэформы. Аграрныя рэформы Жыгімонта Аўгуста. Цяглыя селяне і селяне спецыяльных служб. Пахожыя і непахожыя селяне. Павіннасьці селян. Юрыдычнае палажэньне селян.

Слугі — панцырныя, путныя, татныя.

Беларускія горады. Горады з Магдэбурскім правам. Арганізацыя самакіраваньня. Права мешчан. Цэхі, іх арганізацыя.

Шляхецтва. Землеўладаньне баяр-шляхты пад гаспадаром. Сувязь баяр з селянствам. Вайсковая служба-адзнака баяр-шляхты. Выдзяленьня баяр-шляхты і адмежаваньне яго ад другіх станаў. Уставы аб выхадзе шляхецтва 1522 г. і Статут 1529 г. Маёмасныя і персанальныя правы шляхты на аснове прывілеяў 1413, 1434, 1447гг. Замацаваньне шляхоцкіх праў Статутом 1529 г. Палітычныя правы шляхты. Пашырэньне палітычнай дзейнасьці шляхты ў палове XVI ст. Барацьба іх з феодаламі-панамі. Параўнаньне ў правах з панамі ў 1566 г. Пашырэньне назвы паноў на шляхту. Статуты 1566 і 1588 гад. Замацованыя правы шляхты. Экономічныя прывілеі шляхты.

Паны. Склад паноў-феодалаў: і паны.. Землеўладаньне паноў, правы паноў: права уланаў "хорунжыі", суды у гаспадара, політычныя правы. Значэньне паноў у Літоўска-Беларускай дзяржаве. Барацьба паноў-феодалаў паміж сабою.

Політычная пабудка Літоўска-Беларускай дзяржавы. Вялікі князь, яго ўлада. Упраўленьне дзяржавы: улада, намеснікі-старасты і воеводы; каштэляны. Цэнтральныя ўрады: земскія і дворныя: маршалак земскі і маршалак дворны, канцлер і падканцлер, падскарбі земскі і падскарбі дворны, гэтман найвысшы і гэтман польны альбо дворны. Урады дворныя: охмістар, крайчы, стольнік, кухмістр, конючны і інш.

Адміністрацыйная рэформа 1565-6 гадоў. Новы надзел Беларусі на ваяводствы і паветы.

Рады княства, яе склад і кампэтэнцыі. Прывілеі 1492 г. юрыдычна замацаваны правы рады.

Вялікі вальны склад. Яго склад. Арыстакратычны характар сэйму. Удзел шляхты. Утварэньне павятовых сойнікаў у 1566 г. Прадстаўніцтва шляхты. Удзел мяшчан г. Вільны з 1568 г. Компэтэнцыі сэйму. Літоўска-Беларускія правы. Руская праўда. Прывілеі. Судзебнік Казіміра, Статут 1529, 1566 і 1588 гг. Способы утварэньня Статут. Характар літоўска-беларускага права.

Суд. Суд дзяржаўны, воевод і гаспадара. Судовая рэформа 1565-6 гадоў. Утварэньне замскага, градскага і падкаморнага судоў. Суд гаспадаркі — вышэйшая інстанцыя. Літоўскі трыбунал, сьвецкі і духоўны. Дзве кадэнцыі яго. А сарскі суд.

Надворныя адносіны да Маскоўскай дзяржавы. Войны Івана III і Васіля III. Вуніі з Польшчай 1499 і 1501 гадоў. Лівонская вайна. Фінансовае становішча дзяржаўнага скарбу ў пэрыод вайны. Ухіленьне шляхэцтва ад вайсковай службы. Барацьба шляхты з панамі за палітычную ўладу. Імкненьне шляхты да вуніі з Польшчай.

Тэндэнцыі магнатаў. Любінская вунія. Умовы вуніі. Становішча Беларусі ў складзе Рэчы Посполітай. Фэдэрацыйны характар злучэньня з Польшчай. Трэці Літоўскі Статут як карэктыў Люблінскай вуніі.

Хрісціянства на Беларусі. Пашырэньне хрісціянства ў Полацкім і Смаленскім княствах. Хрісціянства і царква і царква ў Літоўска-Беларускі пэрыод. Паяўленьне каталіцтва на Літве і Беларусі. Умацаваньне каталіцтва як дзяржаўнай рэлігіі. Папыткі царкоўнай вуніі ў часы Вітоўта і Казіміра. Феадальны характар царквы. Пашырэньне рэформацыйных вучэньняў. Акт аб верацерпімасьці 1568 г. Варнаўская конфэрэнцыя 1572 г., замацаваньне Статутам 1588 г. /Раздз III, арт. 5/. Адраджэньне каталіцтва. Ордэн езуітаў. Яго дзейнасьць. Заняпад праваслаўнай царквы. Царкоўныя брацтвы. Берасцэйская царкоўная вунія. Абастрэньне рэлігійнай барацьбы.

Асьвета ў X-XIII ст. Яе характар. Беларускае адраджэньне ў XVI ст. Друкарні і выданьні. Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі і Сымон Будны. Школы брацкія, езуіцкія, протэстанскія і вуніцкія. Віленская езуіцкая акадэмія. Польскі культурны ўплыў.

Палітычная пабудова Рэчы Посполітай. Сойм, соймік і галоўны з'езд або соймік княства. Палітычная дыктатура шляхецтва. Экономічнае і соцыяльнае палажэньне шляхецтва. Неапраўнасьць гарадоў. Уціск селянства. Селянскія рухі на усходняй Беларусі. Казацтва. Войны з Масквой у XVII ст. Руйнаваньне беларускіх

акраін. Палітычны і культурны застой у XVII і XVIII ст. Дысадэнскае пытаньне. Умешацельства суседзяў у пашырэньні правы. Папыткі рэформ. Падзел Рэчы Посполітай і Беларусь у складзе Расійскай імпэрыі пры Кацярыне. Павелічаньне польскіх уплываў пры Паўле і Аляксандры І. Віленскі унівэрсітэт. Русіфікацыя з часоў Мікалая І. Адмена Статуту. Ліквідацыя вуніяцкай царквы. Значэньне Віленскага унівэрсітэту. Селянскае пытаньне. Адмена прыгону. Паўстаньне 1863 году. Руская палітыка на Беларусі ў часы рэакцыі. Рэвалюцыя 1905 г. Беларускі рух. Беларуская Соцыялістычная Громада. "Наша доля" і "Наша Ніва". Імпэрыялістычная вайна. Рэвалюцыя 1917 г. Кастрычнікавая рэвалюцыя. Нямецкая і польская акупацыі. Утварэньне Літвы. Б.С.С.Р. Пашырэньне Беларусі. Культурнае адраджэньне Беларусі з Кастрычнікавай Рэвалюцыяй.

# Думкі пра мінулае і сучаснае

(З рукапіснай спадчыны)

Мінулае наша даўняе — ад Бердыжу, Елісеевіч і іншых першабытных паселішчаў нешта 20 тысяч гадоў. Зразумела, што так далёка залазіць не трэба. З чаго ж у такім разе пачаць, з чаго пачынаецца наша мінулае? Трэба думаць з таго — калі ўзнікла думка, што мы народ, што ня гледзячы на колькасць сваякоў і блізкіх, якія так клапоцяцца пра нас, мы асобны народ, які стварыў сваю культуру і мае сваю гісторыю.

Калі ўзнікла гэта думка і хто яе выказаў першым?

Аўтар "Энеіды"? Не. Гэта была таленавітая забаўка. Пісьменнікі сярэдзіны XIX ст.? Не. Для іх, калі гэта ня было забаўкаю, то і ня змяшчала ў сабе ідэі ўзняць свядомасць народу, што ён есць народ. Каліноўскі? Фігура надзвычайная, дзіўная. Яго нельга нават параўнаць з кім небудзь з сучасьнікаў, але з яго спадчыны (тае, якую я ведаю) ня відаць каб ім валодала думка аб неабходнасці уздыму нацыянальнай свядомасці народу; у яго асноўнае — барацьба з "маскалямі", вызваленне ад "Масквы".

Першым узняў гэту думку Багушэвіч. Яго прадмова так сама дзіва, але ж гэта кніга, выдадзеная ў невялікай колькасці і да масы тых, хто гаварыў на мове, якую бараніў Багушэвіч амаль не даходзіла. Яшчэ ў канцы XIX ст. у народзе, у масе насельніцтва, нацыянальнай сьвядомасьці ня было нават у пачатковай форме. Покуль гэта "тутэйшыя". Прадмова Багушэвіча калі і ўздымала гэту праблему, то толькі ўскосна.

Чым была Беларусь у часы Багушэвіча? Нават у самым канцы XIX ст. ведалі пра Беларусь надта мала. Найперш ня было пэўнага ўяўлення аб тэрыторыі, на якой народ (проста народ, мужыкі і дробная шляхта) гавораць "па просту", бо і самому гэтаму народу назва "беларусы" была невядома. Занядбанне дайшло да такой ступені

безнадзейнасці, да поўнай страты ідэі. Была мова, была свая культура, было сваё мінулае, але сам народ пра гэта ня ведаў. Нашы суседзі ведалі, што побач з імі жыве нейкі іншы народ, але які — было невядома. Таму ўкраінцы звалі яго ліцьвінамі, рускія палякамі, палякі рускімі, а літоўцы гудасамі. Самі беларусы, калі гэта было патрэбна, звалі сябе то рускімі (праваслаўныя), то палякамі (каталікі), але і рускія і палякі адносіліся да іх з пагардаю: якія ж вы рускія (палякі), калі і гаварыць па руску (па польску) ня ўмееце.

Гэту сцяну цемры першым прабіў Я.Карскі. Пачынаючы сваю шматтомную працу "Беларусы", ён ня мог, праўда, нават у далёкай перспектыве прадбачыць, што з гэтага будзе, ва ўсякім разе ён ніколі ня зьбіраўся выводзіць гэта "племя" ў людзі. Што ў такім разе прымусіла Карскага ўзяцца за гэту тэму. Прычыны маглі быць розныя і тут, зразумела, можна толькі выказаць якія небудзь разважанні, тым больш, што часам (або і ня часам) даследчык, пачынаючы якую небудзь працу, не заўсёды разумее чаму ён узяў гэту тэму, а ня іншую. Можна нават думаць, што тэма "Беларусы" і ў прыватнасці беларуская мова, была такая занядбаная і што ўзяўшы гэту занядбаную тэму, можна будзе здабыць сабе імя ў навуцы.Ня магу сцвердзіць, што было якраз так, але што сваімі працамі Карскі ня збіраўся ўзняць свядомасць народу, гэта пэўна.

Паходзячы з папоўскага дому з пад Горадні, Карскі павінен быў з дзяцінства чуць скрозь навокал сябе беларускую мову (дома ў бацькоў, бясспрэчна, гаварылі па руску), і беларускае гучанне ён ухапляў лёгка і дакладна. (Яго дачка, жонка В. І. Баркоўскага, калі я загаварыў з Баркоўскім, ня ведаючы нічога пра мяне, адразу заўважыла маё вымаўленне, а яго засталося мала. Дарэчы, сам Баркоўскі, спытаўшы адкуль я, неяк так, нібы гэта само сабою зразумела, сказаў:"У вас дома, ведама, гаварылі па руску" і ўспрыняў адмоўнае як нешта недарэчнае).

Карскі да самай смерці ня згаджаўся з тым, што беларусы гэта народ і што ў іх свая мова. Для яго мы былі племенем са сваёю гаворкаю (наречием); у пачатку сваёй дзейнасці, Карскі нават ня быў пэўны — "наречие" гэта ці "поднаречие". Папраўляючы такія "памылкі" Карскага, калі перавыдавалі яго працы па мове, то да кніг далі загаловак ня "наречие", але "язык".

Карта беларускага "племени" Карскага, якая паказвае межы пашырэння беларускай мовы, складзена ім добрасумленна, прычым гэтыя межы на поўначы і на ўсходзе далёка выходзяць за межы сучаснай Беларускай ССР, разам з тым поўдзень Беларусі (на

Горадзеншчыне і Міншчыне) Карскі аднёс да "Малороссии", што мае сваю рацыю: мова там палеская.

Хто чытаў творы Карскага (у гэтым сэнсе найбольшае значэнне меў том першы) і хто прабаваў асэнсаваць яго карту ў той час, калі яна выйшла ў свет? Думаю, што надта мала хто, адзінкі. Дарога ад кнігі да чытача, больш да масавага, гэта значыцца небагатага на грошы, была доўгая і з усякімі перашкодамі. Пры поўнай амаль адсутнасці бібліятэк, чытач павінен быў купіць кнігу, а каштавала яна нямала. Траціць немалыя грошы на кнігу, ня ведаючы пра што там напісана, селянін і ня думаў, ды і проста пісьменных у той час было малавата, а каб чытаць творы Карскага трэба было ня проста быць пісьменным, але мець нейкі павышаны ўзровень, хаця б у памеры чатырохкласнага гарадзкога вучылішча. Значыцца, тыя заключэнні, да якіх прыйшоў Карскі, маглі быць успрыняты толькі невялічкаю колькасцю людзей. Самымі адукаванымі людзьмі на Беларусі таго часу былі людзі з вышэйшаю асветаю – настаўнікі сярэдніх школ, дактары, ніжэй іх былі настаўнікі пачатковых школ. Улічваючы, што здабыць кнігі Карскага (гаворыцца перш за ўсё пра том першы "Беларусаў") было цяжка, трэба думаць, што гэты том быў найбольш пашыраны якраз сярод настаўнікаў ніжэйшых школ. Ва ўсякім разе ў 20-я гады я калі спатыкаў гэту кнігу, то толькі ў настаўнікаў ніжэйшых школ.

У нашай сям'і надта любілі і шанавалі кнігі. Уяўляю сабе як бы прачыталі кнігу Карскага, каб яна трапіла да бацькі ці старэйшага брата. І каб гэта здарылася нават ня ў 1903, але ў 1913 годзе, калі ідэя адраджэння ў значнай ступені пашырылася. Кніга гэта, бясспрэчна была б прачытана наогул пра беларусаў, пра нейкіх беларусаў, але не пра сябе.

У 1912 г. я прышоў з мамаю ў госці да дзеда ў нейкае свята, пэўна на сёмуху. За сталом у дзеда сядзеў нейкі чалавек і чытаў кнігу, напісаную "па просту", амаль так, як гаварылі ў нас, але той чалавек чытаў утрыруючы мову, стараючыся паказаць, што ён разумее якая "простая" гэта кніга (ён чытаў "забруў", "паднюў", а ў нас гэта лічылася горш чым вымаўленне грычанцаў, жыхароў суседняй вёскі, якія аднак казалі "заброў", "паднёў" і г. д.). Мама, паслухаўшы такое чытанне, спытала ў чалавека: ці ён гэта такі просты сам ці гэта так напісана. Адхіляючы ад сябе званне простага, той чалавек адказаў, што гэта так напісана.

Пачынаць дзейнасць трэба было з выдання і пашырэння такіх кніг, дзе б у самай папулярнай форме гаварылася, што мы народ,

што жыве вось на такой тэрыторыі, што ў нас была свая гісторыя, але пісаць такое ня было каму. Спярва павінны былі выпасці той, хто будзе пісаць падобныя кнігі. Кнігі Даўнар-Запольскага (Очерки по истории Кривичской и Дреговичской земель) і Галубовіча пра Полацкую зямлю мелі для тагачаснага чытача значэнне нейкай абстракцыі. Гэта былі кнігі пра крывічоў і дрыгавічоў, але якое дачыненне яны мелі да сучасных беларусаў? Пазьней спробу напісаць такую кнігу зрабіў Ластоўскі (кароткая гісторыя Беларусі), але гэта ўжо была другая пара.

У жыцці народу вялізнае значэнне мае мастацкая літаратура, у якой апісаны падзеі з жыцця народу. Нават прымітыўня, яны ўзрушылі чытача, бо гэта было "пра нас". І ў гэтым сэнсе Беларусь была надта занядбана. Вялізарная большасць народу, калі ўмела чытаць, то толькі па руску, а ў рускай літаратуры Беларусі ня было, ня было ня толькі ў XIX стагоддзі, але і да самай другой вайны. Наколькі мне вядома, у першай палове XIX ст. у рускай літаратуры быў толькі адзін мастацкі твор на беларускую тэму: "Пан падстоліч" Міхневіча (?), ды і пра гэта я даведаўся толькі з твораў Бялінскага. Твор гэты быў, пэўна, такі слабы, што пра яго ведаюць хіба спецыялісты па гэтаму часу.

Зразумела, быў "Пан Тадэуш" і іншыя творы Міцкевіча, быў Ян Баршчэўскі, былі творы Ходзькі, але напісаныя па польску, яны з афіцыйнага пункту погляду былі ня проста замежнымі, але паколькі зьяўляліся польскімі, то і варожымі. За XX стагоддзе такі погляд змяніўся мала. Мастацкая літаратура для ідэі адраджэння ня магла даць нічога.

"Пачынальнікі" пачыналі літаральна на голым месцы і патрэбна была надзвычайная мужнасць, упэўненасць у неабходнасці такой дзейнасці, патрэбна была маладасць, каб распачаць такую дзейнасць.

У пачатку гэта была зусім невялічкая кучка, якія можа самі не прадбачылі наколькі цяжкай будзе гэта дзейнасць.

Тут трэба паспрабаваць уявіць сабе сілы, якія ў той час дзейнічалі на Беларусі, — хто быў бясспрэчна процi, каму гэта ідэя не магла ня быць варожаю, хто мог хістацца і ўрэшце — на каго пакладалі надзею "пачынальнікі".

Бясспрэчна варожым быў урад, ад міністраў да ўраднікаў, бо нацыянальная свядомасць народаў, што жылі ў Расіі, падрывала ўстойлівасць у дзяржаве. Проці было праваслаўнае духавенства, якое мела немалы ўплыў на насельніцтва (дарэчы, яно за ўвесь час не дало ніводнага дзеяча ж "за" ў адзнаку з каталіцкім. Бясспрэчна

проці была вялізная большасць інтэлігенцыі, у прыватнасці настаўнікаў сярэдняй школы, якіх і пазней, у 20-я гады надта абурала магчымасць пераходу на мужыцкую мову. Гэта была сіла.

З тае інтэлігенцыі (якая мелася ў надта невялічкай колькасці) мелася ў пачатку XX ст. вызначаліся вясковыя настаўнікі. Паходзячы з сялянства "з мужыкоў" яны раней за другіх успрымалі ідэю адраджэння. У другой палове XIX ст. зьявілася новая катэгорыя інтэлігентаў і к пачатку XX ст. пачала значна ўзрастаць — тэлеграфісты. У большасці яны паходзілі з заможных сялян, якія скончалі чатырохкласные гарадзкіе вучылішчы. Дарэчы, настаўнікі гарадзкіх вучылішчаў, якія канчалі настаўніцкія інстытуты трымаліся так, як і сярэдніх школах (гімназіях, рэальных вучылішчах і духоўных семінарыях), яны катэгарычна былі проці. Выразнаю фігураю ў гэтым сэнсе быў І. А. Сербаў. Паходзячы, здаецца, з сялян з пад Быхава, вядомы як этнограф (археолаг ён быў кепскі) у такой ступені быў проці, што нават пасля рэвалюцыі, калі яму, невядома за што, далі чын прафэсара, ніколі не згаджаўся хоць што небудзь, хоць адзін сказ, сказаць па беларуску, бо гэта была прафанацыя навукі ці культуры наогул. Калі нават С. З. Кацэнбоген, бабруйскі яўрэй, прарэктар універсітэту, час ад часу канчаў прамову фразаю, сказаную па-беларуску, Сербаў на гэта ня ішоў ніколі. Пра філосафа Вальфсона, зразумела, гаварыць ня трэба: у гэтым ён быў цалкам згодзен з Сербавым.

Найбольш прыхільнікаў ідэя ў самым пачатку сустрэла сярод дробнай шляхты, каталіцкага вызнання: Купала, Буйніцкі, Ждановіч, але ў самым пачатку стаяць браты Луцкевічы. Ластоўскі паходзіў з (у мінулым) з уніятаў, але быў ён праваслаўным ці каталікам ня ведаю. У далейшым, калі б рух набываў моц, на першае месца павінна было высунуцца сялянства, але гэта пры ўмове, што праграма беларускіх дзеячоў будзе радыкальнаю, у першую чаргу мелася на ўвазе зямельная праблема: зямля павінна стаць "мужыцкаю".

Адносіны паноў, незалежна ад веравызнання, былі вельмі выразныя: яны былі проці. Спаланізаваныя яшчэ ў семнаццатым сталецці яны не хацелі ні зракацца "панскай веры", ні "панскай" мовы, ні "панскай" культуры наогул. Ужо перад самаю вайною 1914 — 1918 гг. княгіня Радзівіл дала "Нашай ніве" 20 тысяч (грошы па тым часе вялізныя), але гэта быў выпадак, з якога ніякіх законаў вывесці нельга. Ластоўскі казаў, што з рэдакцыяю "Нашай нівы" вёў перамаўленні некаторы з Тышкевічаў, абяцаючы даць дзве стыпендыі ў адзін з універсітэтаў, каб там навучаліся студэнты па

рэкамендацыі “Нашай нівы”. Тышкевічы былі можа самыя хцівыя з беларускіх паноў, справы ў якіх ішлі надта добра: якраз яны купілі ў Радзівілаў амаль усе маёнткі ў Літве. Прапанова аб стыпендыях паказвае прадбачнасць гэтых паноў, але ўсё гэта ў будучым. Наогул, паны проці ідэі, а паколькі ў іх былі сродкі, то варожасць мела рэальную сілу (праз друк і рознымі эканамічнымі ўздзеяннямі для тых, хто быў за ідэю).

Яўрэйства. Зьявілася ў нас у канцы XIV ці пачатку XV ст. Спярва было надта мала, але з самага пачатку яны дзейнічалі ў галіне грашовай і ў гандлі. У XVI ст. іх было ўсё яшчэ мала, але прыжываліся ўсё больш каля магнатаў, ведаючы ў іх грашовымі справамі. У XVI — сярэдзіне XVII ст. гандаль быў у асноўным яшчэ ў руках беларускіх купцоў, але іх надта энергічна выціскалі яўрэі, чаму дапамагалі тыя самыя магнаты, але на ўсходзе Беларусі да самага далучэння да Расіі, пераважвалі беларусы. У XIX ст. колькасць яўрэйскага насельніцтва ўзрасла надта моцна і ў канцы стагоддзя яны склалі 18% насельніцтва, перад першаю вайною працэнт яшчэ ўзрос. У гарадох яўрэі складалі каля паловы жыхароў, у мястэчках каля 80%. Банкі і гандаль сталі цалкам яўрэйскімі. Пры высокай спецыялізацыі ў галіне гандлю, пры арганізаванасці, пры дасканальным веданні эканамічнага стану нават асобных сямей вясковага і гарадзкога беларускага насельніцтва, яўрэйскія гандляры, карчмары магли лёгка адхіліць спробы некаторых неяўрэяў узяцца за гандаль.

У неяўрэяў засталася толькі адна галіна гандлю: сьвінямі. Трэба думаць, што з цягам часу, калі рэлігійные забабоны ўсё больш трацілі сілу, і гэта б галіна стала пераходзіць да яўрэяў, але покуль, да самай рэвалюцыі, там панавалі “сальнікі” — гандляры хрысціянскага веравызнання.

Яўрэйская моладзь, асабліва ў вялікіх гарадох, чым далей, тым больш адыходзіла ад старасвецкіх правілаў, усё больш схілялася ў бок рускай культуры, беларуская ідэя ім была ў лепшым сэнсе непатрэбна, у горшым яны былі проці, прычым, зважаючы на іх энергію і грашовые сродкі, варожасць мела важкую значымасць. Местачковые і вясковые блізкіе да сялянскай масы, звычайна двухмоўные, пэўна проста ня прымалі ўсяго гэтага пад увагу. Наяўнасць Бядулі было толькі вельмі далёкім водгукам на абставіны.

Калі зараз паспрабаваць уясніць умовы на пачатак XX ст., на ўмовы, калі пачаўся арганізаваны рух, то ўбачым, што гэтыя ўмовы

былі надта цяжкія: за справу ўзялася лічаная колькасць моладзі. У гэтых людзей (у некаторых) сродкі былі толькі каб пражыць, а ня на тое, каб распачаць справу, якая вымагала грошай. Тые масы народу, да якіх зварочаліся "пачынальнікі", была несвядомая, да не трэба было зварачацца з тым, каб яна ўразумела ідэю, а на гэта патрэбны былі грошы (папера, друкарня, паштовыя выдаткі, а ўрэшце штонебудзь было патрэбна каб дзеячы проста не памерлі б з голаду).

На ўсё гэта былі патрэбны апантанасць і маладосць.

Што ўяўляла сабою маса беларусаў у канцы XIX — пачатку XX ст ст. Гэта былі сяляне, вяскоўцы, якія жылі земляробствам і вельмі нязначная частка рамёствамі; рабочых, гандляроў была нікчэмная колькасць; амаль ня было і інтэлігентаў. Такіх, як Е. Р. Раманаў ці А. Я. Багдановіч былі адзінкі.

Пасля 1863 году найбольш частымі надзеламі сялян былі 12 — 20 дзесяцін, у канцы стагоддзя такіх надзелаў засталося мала, вырасла колькасць такіх, у якіх мелася па 5 — 6 дзесяцін, на якіх пражыць было цяжка. З усходняй Беларусі шмат народу ішло ў Данбас на заработкі, значны быў рух у Сібір, якому ўрад, аднак, пярэчыў (урад стараўся забяспечыць паноў таннаю рабочаю сілаю). Прамысловасць Беларусі была занадта слабою, каб туды маглі пайсці "лішнія" ў вёсцы работнікі, найбольшые магчымасці складаліся на чыгунцы, куды ня бралі яўрэяў, а найбольш ахвотна праваслаўных. Асабліва ўзрос попыт на работнікаў, калі будаваліся дэпо. Туды былі патрэбны ў першую чаргу сьлесары, сталяры, а таксама старажы, стрэлачнікі, кандуктары, ня кажучы пра такіх арыстакратаў як машыністы, іх памочнікі, качагары. Дзеці "дэпоўскіх" мелі значна большую магчымасць пайсці ў школу, чым вяскоўцы.

Пачынальнікі маглі зварачацца са сваёю ідэяю толькі б да гэтых вяскоўцаў і нешматлікіх рабочых. Пры адсутнасці перыядычных выданняў і пры ўмове, што пачынальнікаў была невялічкая купка, эфектыўнасць іх дзейнасці магла быць толькі вельмі слабой.

Іншые ўмовы склаліся пасля рэвалюцыі 1905 году, калі ўзнікла магчымасць выдаваць газету. Маленькага фармату "Наша доля" прачытвалася пэўна сотняю (сотнямі) людзей, а у іх пераказах пра газету і пра тое, што яна пісала, ведалі тысячы. Таму ўсякі ўрад так баіцца вольнага слова, што яно надта скора разыходзіцца і ўспрымаецца надта вялікаю колькасцю. Папулярнасць "Нашай долі" была ў яе радыкалізме, але гэта ж было і прычынаю яе дачаснай смерці. "Наша ніва" жыла таму, што была больш памяркоўнай. Нашы адукаваныя...*

Апрача "мужыкоў" якія жылі ў вёсках, былі яшчэ і такія, хто жыў у гарадох і мястэчках. Гэта былі або мяшчане, або тыя самыя "мужыкі". Можна пэўна сказаць амаль упэўнена, што яны, хаця б і зусім нядаўна вышлі з вёскі, і хаця б жылі зусім не па-панску, глядзелі нават на сваіх родных вяскоўцаў зверху ўніз. У вёсцы сярод "простых" хадзіла і была вельмі папулярнай такая аповесьць пра адну "паню", якая зусім нядаўна вышла замуж у Мінск (Мінск, зразумела лічыўся вялікаю сталіцаю). Прышоўшы раз на базар новая пані ўбачыла брата, які прадаваў парасят. Убачыўшы гэта "пані" спытала брата: "Гаруша (разумей Гаўрыла), — што гэта ў цябе за звяркі? "Гаўруша" на гэта адказаў зусім не па-рыцарску: "Ах ты, падла. Гэта тые парасята, якіх ты нядаўна карміла".

Як у гарадох, та і ў мястэчках знайходзіліся прыхільнікі "новай веры", але іх было мала, большасць жа, асцерагаючыся ізноў трапіць у "мужыкі" лічылі гэту веру няўдалаю выдумкаю.

Згодна з тэорыяю галоўнаю сілаю нацыянальна-вызваленчага руху павінны былі стаць заможные сяляне "дробная буржуазія", але яны (заможныя) і іх дзеці, намагаючыся як мага скарэй выйці "у людзі" не маглі ўразумець — як гэта вучоные (бо пісаць могуць толькі вучоные) заміж таго каб вучыць людзей гаварыць "хараша", пішуць і гавораць так, як гавораць самыя "простыя". У народзе была ўпэўненасць, што гаварыць па-руску можна толькі навучыўшыся. Тое, што ёсць недзе краіна, дзе ўсе ад нараджэння, нават і самые "простые" гавораць, а самыя простыя гавораць па-руску, здавалася нейкім дзівам , пры тым ня надта верагодным: просты чалавек, а гаворыць так хараша па-руску.

Вясковымі жыхарамі, земляробамі была і значная частка шляхты. З рускай літаратуры было з даўна вядома, што шляхта гэта хвалькі і лгуны. Можа і сапраўды сярод шляхты лгуноў і хвалькоў было больш чым сярод нешляхты, але гэта так сабе. Наогул, шляхта ставіла сябе вышай "мужыкоў" лічыла сябе палякамі, была каталіцкага веравызнання (слуцкая праваслаўная шляхта была занадта невялікаю па колькасці)...

[1986] ***Публікацыя А. М. Улашчыка***

*У тэксце пропуск.

# Падзей затоеная цень...

За шэсць дзён да чарнобыльскага выбуху, пад час правядзення выстаўкі аднаго дня, у Траецкім прадмесці горада Менска адбыўся выбух духоўнага чарнобыля...

Арганізаваны атрад былых воінаў, што служылі ў Афганістане, накінуўся на школьнікаў, якія на ўзбярэжжы Свіслачы спявалі беларускія песні, ладзілі вясновы карагод, гукалі Вясну. Дзяцей зневажалі і білі за іх родную мову. Гэты гвалт над песняй, над мовай, культурай народа глыбока ўсхваляваў беларускую грамадскасць. Бюракраты і чыноўнікі ад культуры і ідэалогіі пасля апраўдваліся і афіцыйна тлумачылі, што атраду былых афганскіх ваеннаслужбоўцаў здалося нібыта школьнікі святкавалі дзень нараджэння Гітлера /!?/. З пракуратуры і міліцыі горада Менска даводзілі, што “неэстэтычная атрыбутыка” — самаробныя вясновыя птушкі, выразаныя з паперы, каляровыя шары — глыбока зняважыла “высокаэстэтычны” густ воінаў-інтэрнацыяналістаў, і яны не маглі стрымацца: кінуліся ў бойку.

Час мінуў... Шмат хто з арганізатараў гэтага шавіністычнага гвалту і па-сёння ходзіць без пакаяння. Некаторыя з іх пераселі ў больш мяккія крэслы, атрымалі высокія пасады. Прайшоўшы камсамольскую і партыйную вывучку, яны сваёй шэраю масай аселі ў беларускай культуры, сталі больш абачлівымі і ціхімі, як бы незаўважнымі. Толькі колер іх шэрасці будзе заўсёды відаць.

***

*Падзей затоеная цень...*
*І ўжо душа мая не змесціць*
*Той роспачы, распяты дзень*
*І стогн Траецкага прадмесця.*

*Што адбылося?.. Чутак рой,*
*Смакуе плёткі здрайцаў зграя,*
*За праўду хтось стаіць гарой,*
*А нехта рукі паціраe.*

*Хлусні разлітая рака.*
*Хлусня з маною карагодзяць,*
*І дырыжорская рука*
*Па лабірынтах цьмяных водзіць.*

*Ах, дырыжоры-махляры,*
*"Бугры" казённага карыта,*
*У вашай цёплае нары*
*Да праўды доступ перакрыты.*

*У тайных словах як знайсці*
*Дарогу, што адкрые вочы,*
*Як мне ўпоцемках ісці*
*Без ліхтара насупраць ночы?*

*Ды толькі сцежачка вяла*
*Наверх... Праз вузкія каналы.*
*Навалу поскудзь навяла*
*З маўклівай згоды Кардынала.*

***

*Сяло маё — ты ў два канцы:*
*Адзін балюе, другі ў скрусе.*
*Іван ды Мар'я,*[121] *падкажы,*
*Хто шчыры сын Для Беларусі?*

*Чаму як злыдню — то ўсяго:*
*Літаўраў медзь, узнагароды*
*Яму на гладкае чало,*
*А нам — каменне ў агароды.*

*А нам за ўсё адзін адказ:*
*— Ты злезеш там, дзе мусіў сесці...*
*Ды ўсё ж убачанае раз*
*Праўдзівей чутак аб прадмесці.*

[121] Іван ды Мар'я — былыя работнікі аддзела культуры ЦК КПБ, функцыянеры-апаратчыкі: Іван Іванавіч Антановіч, Марыя Андрэеўна Крыловіч.

***

*Ішлі дні сонечнай красы,*
*З нас кожны ладзіў сваю ліру*
*Мастацтва свята і вясны,*
*Прысвечаную Году міру.*

*Не ведаў я ў гэты год,*
*Якія нас чакаюць страты,*
*А на прадмесце йшоў народ*
*На зло чыноўнікам-кастратам.*

*І мы ішлі на Тыдзень свой,*
*І не з прычыны нейкай “даты”*
*Мастацтва ладзілі сувой,*
*Быў кожны сейбіт і араты.*

*Там, ля Траецкае гары,*
*Максіма слаўнага калыскі*
*На золку ранішняй зары*
*Адчуў трывогу сэрцам блізка.*

*За мову, песню, свой народ,*
*За лёс сыноў маёй Айчыны,*
*Калі над ім глуміўся зброд*
*Пад “перст” гаркамаўскага чыну.*

*Адчуў балюча: як змаглі*
*Таптаць чужынцы нашы гоні?*
*А мы ж з надзеяй туды йшлі*
*Пад звон Максімавай Пагоні.*

*Гукалі як даўней Вясну —*
*Яе прыходу кожны рады —*
*Паклоны слалі Перуну.*
*То звычай даўняга абраду.*

*То повязь сённяшняга дня*
*З мінулым, прашчура замова,*
*Струмень крынічнага святла*
*Яго душы, ягонай мовы.*

*Ды толькі хто пра тое знаў,*
*Што не Пярун... Без яго грому*
*Гаркам атрады рыхтаваў*
*Манкуртаў жорсткага пагрому.*

*Гатовы нас на дзіды ўзняць,*
*Ды што ім памяць! Усіх за краты!*
*Сябе ж героямі назваць*
*Кабула, Балха і Герата.*

*Хто бачыў — тое не забыць.*
*Сляды разбою не замесці.*
*Відаць, хацелі зарабіць*
*Медаль "За взятие Предместья".*

*О, ветэранаў юных раць.*
*З якога племені вы, роду,*
*Што вас так проста нацкаваць*
*Супроць дзяцей свайго ж народу.*

*Якой атруты налілі?*
*На вас якое ўзбілась рэха?*
*Каб у песні "... ручнікі плылі"*
*Адчуць злавесны подых "Рэйха".*

*Фантазіі не пазычаць.*
*Памяты крылы ў птушкі Лёлі,*
*Па-беларуску размаўляць*
*Для вас страшней, чым крыж ў полі.*

*Куды ідзем, каго спытаць?*
*Як дажылі да такой явы,*
*Што намі стала кіраваць*
*Я. Б. Юферава-Халява.*[122]

*І позна лозунгі крычаць,*
*лушыць нас стрэльбай халастою,*

[122] Я. Б. Юферава-Халява, — Ядвіга Браніславаўна Юферава, дзявочае прозьвішча Халява. Былая супрацоўніца Менскага Гаркама КПБ. У тыя дні ўсё рабіла, каб абяліць злачынцаў.

*Што ёсць, нікому не схаваць —*
*Вось плён струхнелага застою!*

*І я прыму за ўсё адказ,*
*Бо сам у гэтым вінаваты,*
*Хоць прысягаў сабе не раз,*
*Што смецце вымету я з хаты.*

*Як шмат чаго я не збярог.*
*Чаму ж гляджу ў спакойнай дрэме,*
*Калі паскудзіць мой парог*
*Тых злыдняў цэлае бярэма.*

*Я бачыў іх не за гарой,*
*Яны крышылі мае храмы.*
*Пасля вяроўкаю даўгой*
*Пітво чакалі каля крамы.*

*Даваў прытулак ім і дах.*
*Чаму вучыў? Спытай асвету.*
*З падрэзаным крылом — не птах.*
*Калекам шоргацца па свету.*

*І дзе... Каго тут запытаць,*
*Дзе мудрых навукоўцаў кола?*
*Каб нам сумела адказаць,*
*Куды знікае наша школа.*

*Ад мовы роднай вызваляць*
*Нас пачалі як ад палону,*
*І на руінах узнімаць*
*Шавіністычную калону.*

*На ёй ты можаш распазнаць*
*Імёнаў — поўна галерэя,*
*Забранзавелай плоймы раць*
*Ад Мураўёва да Круглея.*[123]

[123]Круглей — М. М. Круглей — былы чыноўнік Міністэрства асветы.

*Якія важныя чыны!*
*Якія важкія заслугі!*
*А мы — як пасынкі-сыны —*
*У сваёй роднай хаце — слугі.*

*Па нашай памяці лязом*
*Бульдозеры, стальныя краны.*
*З зацятым злом маё на злом...*
*О, як смыляць балюча раны.*

*Дзе ты, Няміга? Спіць яна.*
*Тэатр наш першы,*[124] *Адгукніся.*
*Крычу ў пустэчу — цішыня.*
*Ніхто не чуе, як ні пніся.*

*Нібы пранёсся ўраган*
*Праз засеў наш і нашы пожні.*
*Ўтрапёна кружыцца груган*
*І плён вяшчуе мне парожні.*

*Зацьміла сонца вараннё,*
*Заслала з захаду, усходу.*
*За што ж такое насланнё,*
*Што не дае жыццё мне, ходу?!*

*Я змайстраваў на іх сіло,*
*Шалёны крыж мяне не страшыць!*
*Устань, збудзісь, маё сяло,*
*Дай на падмогу вояў-стражаў.*

***

*Багаты спадчыны вузляк,*
*Хай некаму яна старына,*
*Ды мне не страціць ані як*
*Таго, што ў рукі даў Скарына.*

---

[124]Тэатр наш першы — па распараджэнні гарадскіх уладаў на вуліцы Інтэрнацыянальнай горада Менска ў тыя гады быў знішчаны будынак першага беларускага тэатра, дзе ставілася п‘еса Дуніна-Марцінкевіча “Сялянка”.

*Я лекі ў яго знайшоў,*
*Тых слоў, што сілу, моц трымаюць:*
*“Дзе ўзросся хто, адкуль пайшоў,*
*Да таго месца ласку маець”.*

*Сляды няпройдзеных дарог*
*Гукаюць нас у сінеч далі*
*Матулін не забыць парог*
*І мудрасці дзядоў, скрыжалі.*

*Вяртае памяць зноў і зноў:*
*Накаванае — пранесці.*
*І не забыць праз будзень слоў*
*Як папярэджанне — Прадмесце.*

*Дзень напярэдадні бяды,*
*Той першы выбух у старонцы*
*Яшчэ не ведалі “яны”,*
*Што будзе потым... Цэзій, стронцый.*

*Яшчэ не ўцям. А ўжо ўсім нам*
*З гары партыйнага амвона*
*Рэспублікам і гарадам*
*Фармуюць рыцараў “ОМОНА”.*

*Да волі цяжкая хада*
*І невыносна наша плата.*
*І падымаецца рука,*
*Блішчыць сапёрная лапата.*

*Ды ўсё ж праз нематy трывог,*
*Праз безнадзейнасць дзён цяжару*
*Прашу я: о, магутны Бог,*
*Не заслані нам сонца хмарай.*

*Не праміні чужы, наш боль.*
*Устрывожана людское мора,*
*І асвяці нам хлеб і соль.*
*Хай мінуць пошасці і гора.*

***1986 — 1991 гг.***

## *В А М*

*Вы атрымалі,*
*што хацелі:*
*Жывеце спраўна,*
*спраўны ў целе...*
*І спрасаваных дзён*
*штаны*
*Не ссунеш з месца*
*а ні-ні,*
*Ды па рубцах*
*івецца сесла,*[125]
*Трашчыць пад мяккім*
*месцам крэсла,*
*І мытам гоніць*
*на скразняк*
*Павеваў сённяшняга знак.*

*1987 г.*

[125]Сесла — слова магілёўскае. Гэта тое, што па-расейску “ширинка”.



1. Усё наперадзе яшчэ... Уладзімір Дубоўка, Алена Філіповіч.
*Масква, сярэдзіна 20-х гадоў.*
*З сямейнага архіва А. Сабалеўскага.*




2. Беларусы з Глыбоччыны і Дзісеншчыны ў Маскве.
*20-я гады.*
*З сямейнага архіва А. Сабалеўскага.*



3. Янка Купала, Ян Райніс сярод “узвышаўцаў” — З. Бядулі,
К. Крапівы, Я. Пушчы, А. Бабарэкі, Ул. Дубоўкі,
П. Глебкі, К. Чорнага.
*Менск. 19 лістапада 1926 г.*




4. Каларыт эпохі... Паштоўка Ант. Адамовіча з Масквы да П. Глебкі.
*1929 г.*



5. Максім Лужанін.
Абліччы часу.







ПОЧТОВАЯ КАРТОЧКА
CARTE POSTALE





Куда гор. Киров областной
Наименование места, где находится почта, и области или края, а для станций — наименование железной дороги.
Район, село или деревня.
ул. Свободы д. № 149 кв 2
Улица, № дома и квартиры.
Кому
Подробное наименование адресата
Анне Ивановне Бабарека
Адрес отправителя: Коми АССР п/о Княж-Погост 3-ий южн. уч. 42-ой лагпункт отр. жел. дор. Адам Антонович Бабарека

1.X.1938 г. Бесконечно дорогие и любимые мои Анечка, Лёдочка и Лялечка! С 20 сентября нахожусь я в стационаре (больнице) 42 лагпункта на излечении от асцита (отеки почти всего тела). Были моменты, когда думалось, что не перенесу этой болезни. Сейчас, самочувствие значительно улучшилось. Положение понемножку улучшается. Надеюсь, да и доктор это утверждает, что все пройдет благополучно и что я вновь буду здоров. Ах, как хочется быть [illegible]. 20 сентября я писал вам, что получил ваши три открытки, письмо 7.VIII. За время пребывания в стационаре получил денежный перевод на 50 р. и третью посылку от 2.IX.38 г. Глубоко благодарен за ваши заботы, внимание и память, я не в силах выразить эту благодарность иначе, чем как только словами, а это больно. Хотелось бы обнять Вас и крепко крепко расцеловать всех, любые, и отблагодарить любовью и преданностью до конца дней своих. А пока, буду стараться быстрей поправиться и сохранить свое здоровье. Это единственное, что может быть выражением искренней моей любви и преданности ко всем Вам, мои дорогие. Будьте здоровы. Мысленно целую Вас. Ваш Бабарека Адам.

6. Апошняя вестка
на волю...
Аўтограф ліста
А. Бабарэкі да сям'і,
адпраўленага з "зоны".
*1938 г.*
*З сямейнага архіва*
*Алесі Бабарэкі*



7. З фоталетапісу Юркі Туронка.
Юрка і Зіна ( з дому Бурылаў. Беласточчына).
*1960 г.*
Беларускі навагодні баль у Варшаве.
Спадарства Туронкі, укладальнік "Скарыніча", Васіль Талстой.
*1980 г.*



# Змест

## ПОСТАЦІ



## НЕЗАБЫТЫЯ ТЭКСТЫ



**Матэрыялы друкуюцца з захаваннем арфаграфіі аўтарскіх арыгіналаў.**

